# Маладосць

Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс

(715) ЧЭРВЕНЬ, 2013

Выдаецца з 1953 года

# 6

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
г. Мінск**

**У НУМАРЫ:**



*Васіль Быкаў ля хаты. Гэты здымак быў зроблены некалі фатографам «Маладосці» Валянцінам Ждановічам і сёлета з дазволу Валерыі Ждановіч увайшоў у юбілейную кнігу «Скрозь «Маладосць»: імя пісьменніка фігуруе ў кожным яе раздзеле. Чэрвень — месяц нараджэння і смерці Васіля Быкава, то бок з'яўлення на зямлі і нараджэння ў Вечнасці. З гэтай нагоды ў рубрыцы «Крытыка» можна прачытаць артыкул пра Быкава і яго адзіноту.*



Айцец ЯЎСТАФІЙ
(ХАЛІМАНКОЎ)

# I

Зноўку паглядаю ў сваё сэрца — часам са страхам, часам з агідай, але звычайна — з маладушнасцю дый безнадзейнасцю. «Усе мы, хрышчаныя ў Ісуса Хрыста, у смерць Ягоную хрысціліся»[1], — кажа апостал Павел. Што значыць хрысціцца ў смерць Хрыстову? Гэта значыць ісці за Ім «туды, куды б Ён ні пайшоў»[2]. А куды вядуць Яго ступні ўсіх нас? Да смерці. Так, да смерці, таму што без яе няма і не можа быць ўваскрасення. «Я кожны дзень паміраю»[3], — зноў словы апостала Паўла.

А я... вы ж бачыце, я больш не магу, праўда… як рыба на кручку, пускаю крывавыя бурбалкі і толькі тады (калі ўжо няма чым спяваць пахабныя песні «зямлі чуждзей»[4]) магу прызнацца сарваным голасам: кожны дзень я здраджваю Табе, Госпадзі; прадаю за абыяк, па дзешавіне… І што ж — пасля ўсяго гэтага прыношу свае галантныя выбачэнні (па ўсіх правілах) на споведзь і разыгрываю драму з усяго самага святога. Гэта і ёсць маё так званае «духоўнае жыццё»?

Кожны з нас займае нейкую сваю нішу ў гэтым «духоўным свеце» — «у свеце духаў»: ставіць ложак, сцеле абрус з кветачкамі, расстаўляе ў чырвоным куточку іконачкі, уключае «комп» з рафінаваным праваслаўным «інэтам»... І пачынаецца мона-спектакль даўжынёю ў жыццё. Мона — таму што ўсё круціцца, у асноўным, вакол аднаго чалавека: мяне самога. Астатнія людзі — жывыя дэкарацыі, на фоне якіх часам камфортна сябе адчуваеш, часам не вельмі, — усё залежыць ад прасторы занятай нішы, ад перспектывы, якая адкрываецца з гэтай нішы.

Кожны год мы раскланьваемся адзін перад адным у прабачэннях і «ўрачыста ўступаем у попрышча Вялікага паста»; выпрошваем у духоўнікаў паразуменне нашым немачам, адкрываем для сябе і сваіх блізкіх вышэйшыя кулінарныя курсы посных вынаходстваў, «гавеем»[5], падыходзім да Чашы і... усё па новай.

---

[1] Рым. 6, 3.

[2] Гл.: Лк. 9, 57.

[3] Гл.: 1 Кар. 15, 31.

[4] Гл. Пс. 136, 4: «*Ка́ко воспое́мъ песнь Господ́ню на земли́ чужде́й?*» (слав.).

[5] *Говеніе* (слав.) — так ў праваслаўнай традыцыі называецца працэс падрыхтоўкі вернікаў да прычасця Святых Хрыстовых Таін.

**_Кожны з нас займае нейкую сваю нішу ў гэтым «духоўным свеце» — «у свеце духаў»: ставіць ложак, сцеле абрус з кветачкамі, расстаўляе ў чырвоным куточку іконачкі, уключае «комп» з рафінаваным праваслаўным «інэтам»... І пачынаецца мона-спектакль даўжынёю ў жыццё_**

Вось што самае страшнае — нічога не мяняецца! Смерці як быццам няма. Мы добра вучымся ў «гнілога Захаду». Зрэшты, не толькі ў Захаду. Гэта сапраўды вытанчанае вераломства — высакародная візантыйская хвароба, у якой мы ладна спрактыкаваліся. Гэта ж трэба — так шмат гаварыць пра смерць і жыць, быццам яе не існуе. Як быццам іграем стары заезджаны спектакль, у якім усё ўжо — да драбнюткай дэталі — вядома. Нічога няма больш прадказальнага, чым наша лялечнае пакаянне: раз паклончык, два паклончык — выйшаў посны огурочак... І вось у адзін з такіх трывіяльных спектакляў мыператварылі наш шлях да ўваскрасення Хрыстова.

А памятаеш, душа, як было? Не магла яшчэ забыцца... Гасподзь уварваўся ў тваё жыццё, змёў увесь хлам, якім ты даражыла калісьці, без якога, здавалася б, не магла існаваць. І вось старое жыццё аказалася сухім пергаментам, на якім красаваўся столькі гадоў ачаг з каморкі татачкі Карла. Столькі гадоў бессэнсоўнага натхнення вакол разводаў па вадзе!.. Эх ты, душа, — змузаная, змучаная грахом марыянетка, памятаеш, як ужо на шляху да памыйніцы, ты раптам удыхнула на поўныя грудзі, адкрыла вочы, узмахнула рукамі, адарвалася ад зямлі — ажыла! — прызналася ў любові да ўсяго свету... Памятаеш, як было? Куды ж гэта ўсё падзелася?! «Як зрабілася блудадзейкаю верная сталіца, поўная правасудздзя. Праўда жыла ў ёй, а цяпер забойцы[1]». Успомні, як ты клялася перад алтаром Божым у вернасці, і вянком праведнасці як была каранаваная — успомні! А цяпер, праўда, ператварылася ў штотыднёвую самаадчытку на споведзі, ды і ўся праведнасць наша, па словах таго ж прарока, «як порт нячыстыя...»[2].

А пачалося ўсё з таго, што ты затрымалася, змяшалася з натоўпам, што радасна кульгае на «свята жыцця» — ідзе шырокімі варотамі[3]. А ўсяго і трэба было, — кінуць якар і хоць бы выстаяць на месцы, а потым, можа быць, з усіх сіл дробнымі шажочкамі — і супраць плыні! Не-е, ты пабаялася чагосьці сур'ёзнага, чагосьці сапраўднага ў сваім жыцці. Ты пабаялася зрабіць яшчэ адзін крок насустрач Госпаду. Таму што ведала — за гэтым крокам пацягнецца крывавы шлейф, даўжынёй на ўсё астатняе жыццё... І вось замітусілася, зацяўкала, заенчыла нешта пра свае таленты, пра свае магчымасці, стала падстаўляць румяныя шчочкі, вушкі пад дробныя «пашчочынкі», стала скардзіцца, як ты пакутуеш з любові да людзей, як ты нясеш свой крыж… Ты наракала ўвесь час — аж покуль дарэшты не пазбавіла сябе розуму, апынуўшыся ў палоне разбэшчанай дворні стэрэатыпаў...

Я часта думаю пра тое, як пакутаваў апостал Пётр у тую самую страшную і адзіную ноч — ноч здрады. Пра што ён думаў, бегаючы па высахлых гарачых вулках узрушанага Горада — у той час, калі Настаўніка дапытвалі, здзекаваліся з Яго, плявалі на Яго…

---

[1] Іс. 1, 21

[2] Гл.: Іс. 64, 6: «*Сего́ ра́ди заблуди́хомъ и бы́хомъ я́ко нечи́сти вси́ мы,* ***я́коже по́ртъ нечи́стыя*** *вся́ пра́вда на́ша, и отпадо́хомъ я́ко ли́ствіе беззако́ній ра́ди на́шихъ: та́ко ветръ восхи́титъ на́съ*» (слав.).

[3] «*Уваходзьце праз вузкія вароты; бо шырокія вароты і прасторная дарога вядуць у пагібель, і многія ідуць імі. Бо вузкія вароты і цесная дарога вядуць у жыццё, і нямногія знаходзяць іх*» (Мф. 7, 13—14).

***А памятаеш, душа, як было? Не магла яшчэ забыцца... Гасподзь уварваўся ў тваё жыццё, змёў увесь хлам, якім ты даражыла калісьці, без якога, здавалася б, не магла існаваць. І вось старое жыццё аказалася сухім пергаментам, на якім красаваўся столькі гадоў ачаг з каморкі татачкі Карла***

Ці здольны ён быў на тое, каб яшчэ пра нешта думаць? Ці яго проста гналі, гналі кудысьці на край сусвету гэтыя некалькі слоў адрачэння... Ён бег і не мог ўцячы ад самога сябе — таўро здрадніка пякельным полымем джаліла яго, выпальвала ў ім усё, што толькі магло гарэць. О, як кідаўся няшчасны апостал па гэтых бясконцых вуліцах, не знаходзячы сабе ў цэлым свеце месца, таму што калі **Ён** прайграў, то...

Ці былі сумненні ў апостала? Прынамсі, у тую ноч? Бо Пётр гэтаксама — толькі чалавек... Сэрца разрывалася ў ім — удары сэрца гналі стомленыя ногі, удары сэрца звонам разгортвалі яго на 180 градусаў супраць сябе, супраць усяго чалавечага, усяго цялеснага, плоскага... Ён пайшоў вайной на ўвесь свет яшчэ да таго, як гэты свет абвясціў вайну яму. О, святы апостал, як блізкая мне твая боль і як далёкая ад мяне твая любоў, твая гарачнасць!..

Яшчэ толькі раз у жыцці Пятра так ірвалася сэрца, калі ён, не памятаючы ног, бег — ляцеў! — насустрач уваскрасенню Настаўніка. Сэрца сарвалася з разьбы — грукатала, аглушала ўрачыстым звонам пасхальнага дабравесця!.. Усё забылася — таму што непераможная надзея ўваскрэсла ў яго змучанай душы...

А потым было возера, і рыба, і таямнічы сілуэт удалечыні, і голас: «Дзеці!..»

І ўздых Іаана на ўсю вечнасць: «Гэта Гасподзь!..»[1]

Госпадзі, дык што ж мне рабіць — абіваць парогі кімсьці вызначанай для мяне нішы. Вось і труна ўжо рыхтуецца з усімі выгодамі, еўрарамонтам: выбеленая, напамаджаная, фарбаваная, усё як мае быць. Паплыве па плыні — трэскай у акіян бяссэнсіцы, а далей... «Нешматлікія знаходзяць праўдзівы шлях». Але як жа не знайсці, калі вось ён, зусім побач, толькі падыміся над сабой, выпархні, як душа з акваланга, бяжы па вадзе, плыві над вадой, ляці!.. Ляці, калі не можаш ісці супраць плыні. Толькі адарвіся! Гасподзь падхопіць. Бо размагніціліся ж, адарваліся ад зямлі пластылінавыя ногі ў апостала, і ён, не навучыўшыся яшчэ хадзіць, раптам паляцеў!.. Нельга ісці, нельга жыць — можна толькі паміраць, як сказаў архімандрыт Сафроній (Сахараў): «Жыць па-хрысціянску немагчыма, па-хрысціянску можна толькі паміраць». Колькі ж можна не заўважаць Евангелля, перакручваць яго, боўтаць, разводзіць да поўнай бессаромнасці!

Усё. Вось я вешаю на іржавы гвозд свой такі абжыты строй, дару на памяць швейцару размоўнік у свеце «кішэннага праваслаўя» — яшчэ на тысячу гадоў наперад, — пакідаю свой дом пустым: хай там паставяць іншы помнік. Госпадзі, я дам у пысу граху і прыму 39 удараў без аднаго; хай ірвуць на мне кашулю...

Як бы мне хацелася, каб усё гэта аказалася аднойчы явай — вось я выязджаю на сустрэчную паласу, дзе пануе грэх; я іду насустрач смерці, а значыць, наперадзе — Тваё Уваскрасенне. «Бо калі мы паядналыя з Ім падабенствам смерці Ягонай, то павінны быць паяднаныя і падабенствам уваскрэсеньня, ведаючы тое, што даўні наш чалавек крыжаваны з ім, каб знішчылася цела грэшнае, каб нам не быць ужо рабамі грэху; бо, хто памёр, вызваліўся ад граху»[2].

---

[1] Гл. Ін. 21, 5—7.

[2] Рым. 6, 5—7.




**Зазірнуць у мінулае Нясвіжа?** Няма праблемы: столькі ўжо напісана пра нашу старажытную некаранаваную сталіцу і яе колішніх гаспадароў! Ды «белых плям», нявывучаных фактаў і сапраўдных таямніц у гісторыі слыннага горада хапае — тым і прываблівае яна як прафесійных даследчыкаў, так і апантаных аматараў даўніны. Нядаўна скарбонка беларускай акадэмічнай навукі папоўнілася новымі ведамі: пра культуру паўсядзённасці князёў Радзівілаў тры стагоддзі таму; пра мастацкія і гістарычныя каштоўнасці Нясвіжскага замка ў XVIII стагоддзі ды яго мастацкую калекцыю пры апошніх ардынатах (1880—1930 гады); пра мастацкія тканіны ў радзівілаўскіх зборах. Работы адзінаццаці вучоных на гэтыя ды іншыя тэмы ўвайшлі ў навукова-папулярны зборнік «Шляхам пошукаў і адкрыццяў», выдадзены Нацыянальным акадэмічным канцэртным аркестрам Беларусі пры падтрымцы Мінскага абласнога і Нясвіжскага раённага выканкамаў. Укладальнікам і адным з аўтараў з'яўляецца знаная прадстаўніца Беларускага саюза музычных дзеячаў, доктар мастацтвазнаўства, прафесар Вольга Дадзіёмава. Кніга ўключае матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі, што адбылася ў межах майскага фэсту «Музы Нясвіжа-2013».

**«Шаляпін супраць Эйфелевай вежы»:** як гэта разумець? Адразу і не патлумачыш, адкуль узялася назва манаграфіі, якую мы анансавалі ў першым нумары «Маладосці», а цяпер ужо можам патрымаць у руках і парадавацца новаму выбітнаму выданню. Кніга-бестселер прысвечана жыццю, творчаму шляху, мастацкаму светапогляду і прафесійным пастулатам генія опернай сцэны, рускага баса Фёдара Шаляпіна. Аўтар — знаны сербскі спявак Браніслаў Яціч. Менавіта ў нашай краіне яго кніга ўпершыню выйшла ў перакладзе на рускую мову, стаўшыся ўвасабленнем сумеснага праекта Беларускага саюза музычных дзеячаў і выдавецтва «Чатыры чвэрці». Браніслаў Яціч адрасуе сваю ёмістую і захапляльную працу оперным спевакам, найперш маладым. А таксама дырыжорам, рэжысёрам, сцэнографам, артыстам аркестра, канцэртмайстрам. І людзям, далёкім ад «оперных» прафесій, але ўлюбёным у тэатральны свет, зацікаўленым творчасцю, прывучаным да змястоўнай, пазнавальнай літаратуры.






---

**ЗОРНЫЯ НАВІНЫ**

Калі няма чым заняць вечар суботы (так бывае) і хочацца нечага больш высокага, чым звычайна, можна ўзняць галаву і паглядзець на зорнае неба. Такі адпачынак забяспечвае наш Планетарый. Цыкл найцікавейшых лекцый «Зорныя навіны» чытаецца па суботах а сёмай вечара. Падрабязнасці — па тэлефоне (017) 294-33-64.

**ПРА ВЫСОЦКАГА**

Уладзімір Сямёнавіч, асоба і талент, бунтар і змагар. Пра каго гэта? Іх было два. І памерлі яны ў адзін дзень з розніцай у чатыры гады. «Маладосць» калі-небудзь прысвеціць матэрыял ім абодвум, адзін на дваіх, пад назвай «Сямёнавічы». Бо надта шмат супадзенняў. А пакуль аднаму з іх, Высоцкаму, прысвячаецца выстава ў Нацыянальнай бібліятэцы. Дзве сотні экспанатаў — кнігі і брашуры, бібліяграфічныя даведнікі, буклеты, фотаздымкі, паштоўкі, грампласцінкі, дыскі і рознае іншае! «Владимир Высоцкий. Спасибо!».



Генадзь АЎЛАСЕНКА

# Кніга маёй мары

***Лічу, што дарослыя, захопленыя фантастыкай, у дзяцінстве павінны былі любіць казкі. Бо што такое казка, як не дзіцячая фантастыка? І што такое фантастыка, як не казка, але ўжо для дарослых?***

♦ Вось Ролінг паспрабавала злучыць у адзінае элементы казкі і фантастыкі — і атрымаўся бестселер. Дзеці ўсяго свету прынялі кнігі Ролінг на «ура!». Вялікую ролю ў такой неверагоднай папулярнасці адыграла, вядома ж, і ўдалая экранізацыя, але адным гэтым нельга растлумачыць феномен «патэрыяны». Я ўважліва прачытаў усе сем раманаў і гэтак жа ўважліва прагледзеў усе восем фільмаў. Як заўсёды бывае ў такіх выпадках, чытаць цікавей, чым глядзець. Гэтай англійскай пісьменніцы трэба аддаць належнае: яна сапраўды стварыла штосьці такое, што стала запатрабаваным дзецьмі ўсяго свету. І хоць бум праходзіць (калі не прайшоў), гэта не значыць, што сучасныя дзеці не чытаюць Гары Потэра. Чытаюць і перачытваюць, але толькі тыя з іх, якім гэта сапраўды цікава. Тады як у часы бума многія чыталі толькі таму, што гэта модна…

♦ Радуе, што ў нас з’явілася шмат маладых пісьменнікаў і паэтаў, якія спрабуюць пісаць для дзіцячай аўдыторыі. Праўда, не ва ўсіх гэта добра атрымліваецца. Казкам сучасных пісьменнікаў бракуе арыгінальнасці. Чытаеш казкі розных аўтараў, а здаецца, што напісаны яны адным: і стылі падобныя, і сюжэты амаль аднолькавыя. А галоўнае, толькі пачынаеш чытаць — і ўжо ведаеш, чым усё скончыцца. З другога боку, знайсці новы, арыгінальны сюжэт ці паварот сюжэта ў казцы даволі складана. Па сабе ведаю…

♦ Часам як бывае? Захоча той ці іншы навуковец выпусціць пазнавальную кнігу для дзяцей — і столькі навукова-пазнавальнага туды ўцісне, што нават дарослому скрозь не прабіцца. Ці наадварот: аўтар-казачнік піша навукова-пазнавальную дзіцячую кнігу, а сам ні ў зуб нагой. І столькі выдае разнастайных памылак, што за галаву хапаешся. Вось чаму мне падабаюцца кніжкі біялагічнага зместу Алеся Бадака з серыі «Усім пра ўсё» і краязнаўчыя казкі Алеся Карлюкевіча. Гэтыя аўтары змаглі знайсці «сярэдзіну»: і чытаецца лёгка, і навуковых звестак дастаткова…

♦ Ці лагічна сёння перавыдаваць Янку Маўра, Віталя Вольскага, Васіля Вітку? Не толькі лагічна, але і неабходна! Але толькі тое з іх творчасці, што прайшло выпрабаванне часам. «Палескія рабінзоны», напрыклад, і сёння вельмі запатрабаваны юнымі чытачамі. Але наўрад ці сучасныя дзеці з гэткай жа цікаўнасцю будуць чытаць «Фантамабіль прафесара Цылякоўскага» ці «Аповесць будучых дзён». Ды і «ТВТ» безнадзейна састарэла. Зразумейце мяне правільна: гэта не значыць, што не павінны выходзіць поўныя зборы твораў Маўра ці Вольскага, але да дзіцячай літаратуры такія выданні не маюць ніякіх адносін.

♦ Я аптыміст. Мару напісаць для дзяцей яшчэ шмат казачных гісторый. Што датычыцца кнігі маёй мары… Вось бы напісаць такую дзіцячую кнігу, якая б імгненна стала бестселерам. Але ж марыць пра гэта, здаецца, кожны з пісьменнікаў. Іншая справа, што мы марым, а жыццё ўсё робіць па-свойму.

Але ж марыць усё роўна трэба!

***Запісаў Леанід ЦВІРКА***



Леанід ЛАЎРЭШ

# Праўду ў яміну не закапаеш

**_У адным сваім артыкуле (Леанід Лаўрэш. Праўду ў яміну не закапаеш, або Шукайце і знойдзеце // Маладосць. — 2012. — № 2. — С. 96—100) я пісаў пра сваю «сустрэчу» з вынікам дзейнасці «чорнага капальніка» на месцы былога фальварака ў былым населеным пункце Востраў пад Лідай, дзе раней быў двор (дварэц), у якім адбылося падпісанне Востраўскага пагаднення 1392 года паміж Вітаўтам і Ягайлам. Мясцовыя людзі расказвалі мне, што…_**

*«...яшчэ ў 2006 годзе на месцы фальварка цэлы тыдзень “чорны археолаг” шукаў металашукальнікам скарбы. Але нічога для сябе каштоўнага не знайшоў. Для непасведчанага “чорнага археолага” гэты безназоўны фальварак, знойдзены, верагодна, па польскай карце 1929 года. Тым не менш, з ягонай працы скарысталіся і мы. На месцы маёнтка ён накапаў вялізную колькасць ям і шурфоў. На іх паверхні ляжаць металічныя часткі гаспадарчых прылад, цвікі, фрагменты цэглы, керамікі і нават два патроны. Безумоўна, у зямлі застаўся вялізны культурны пласт. І хто ведае, магчыма, недзе на глыбіні захаваліся падмуркі ...»*

Яшчэ доўга ў маёй кішэні ляжалі абівачныя цвікі XIX стагоддзя, падабраныя пасля «чорнага капальніка».

Але гэтым гісторыя не скончылася. Мае артыкулы пра знаходку месца падпісання дамовы 1392 года публікаваліся ў беларускіх сродках масавай інфармацыі і навуковых зборніках. І праз нейкі час, праз «трэція рукі» да мяне дайшла інфармацыя, што «чорныя капальнікі» зноў пабывалі на тым месцы і на гэты раз знайшлі рэчы XIV стагоддзя…

Мне стала вельмі сумна. Вынікам маіх інтэнсіўных пошукаў сталася рабаўніцтва каштоўнасцей вельмі непаважанымі мною людзьмі.

***У адным з бліжэйшых сваіх нумароў «Маладосць» збіраецца ўзняць тэму «чорнага капальніцтва» як след. Ты, паважаны чытач, можаш далучыцца да яе — артыкулам, уласным назіраннем ці слушным меркаваннем. Дасылай любыя думкі на vdsd@tut.by.***

# Ад рукі

Уладзімір Ліпскі

У маім акне —
квадрат сіняга неба.
Пазіраю на вясну
і думку думаю:
дзеці, унукі прадоўжаць род,
дрэвы пасадзіў,
хатку збудаваў,
кніжкі напісаў,
на працы шчырую,
сябрам не здраджваю,
крыўдліўцам не помшчу.
Чаго хочацца?
Што вымаліць у Бога?
Здаецца, ведаю:
хачу ўбачыць Маму,
хачу, каб унукі сталі людзьмі,
хачу, каб ніхто не браўся за чубы,
хачу, каб Неба і Зямля паміріліся,
хачу, каб вечна жыла
мая Беларусь!
28 мая 2013 г.



Наташа БАСАЛАЙ

# Гульня ў класікаў

***Плануючы свой новы дзень у Парыжы, мы ўспомнілі Жана Вальжана і Луі Батыста, «Прывід оперы» і «Гульню ў класікі», Бальзака, Заля ды Дэна Браўна. І вось мы ўжо хапаем адно аднаго за рукі і бяжым на спатканне з горадам, каб ісці маршрутамі, што апісаны ў класікаў, і піць каву ў літаратурных кавярнях.***

Свой шпацыр мы рашылі пачаць з квартала Сэн-Жэрмен-дэ-Прэ, у якім некаторы час жылі Хемінгуэй, Сартр, Камю, Шагал і Мадзільяні і якi, несумненна, можна лічыць цэнтрам Парыжа мушкецёрскага, апісанага Дзюма. Менавіта тут стаіць царква Святога Сульпіцыя (Сэн-Сюльпіс), будаўніцтва якой доўжылася 130 гадоў. Менавіта сюды па слядах мушкецёраў нас вядзе стужка Сервандані, былой вуліцы Магільнікаў, дзе ў дом пад нумарам 11 Дзюма засяліў Д'Артаньяна. Дайшоўшы ў пошуках дома з двума ўваходамі, апісанымі ў Дзюма, да гэтага месца, мы заспелі тыповы для сённяшняга Парыжа пяціпавярховік.

Прайшоўшы яшчэ трохі наперад, апынаемся на самай доўгай вуліцы французскай сталіцы — Важырар, уздоўж якой цягнецца цудоўны Люксембургскі сад. У сувязі з тым, што ў часы мушкецёраў сад гэты не мог пахваліцца такой насычанай інфраструктурай, як сёння, Дзюма перанёс сюды дуэль, у якой Д'Артаньян ратуе жыццё Атосу. Што да вуліцы Важырар, то тут у доме нумар 25, прыкладна ў пяці хвілінах пешкі ад дома Д'Артаньяна, жыў яго сябра Араміс. Кляштар, у двары якога дамаўляліся сустрэцца дуэлянты, трэба шукаць у раёне 70-х дамоў.

Перпендыкулярна Важырар спускаецца да царквы Сэн-Сюльпіс вузкая вулка Феру. Тут «у двух кроках ад Люксембурга» жыў Атос. Нягледзячы на тое, што асабняка Дэ Трэвіля і дома яго суседа Партоса на сучаснай вуліцы Старой галубятні мы не знайшлі, паветра квартала, які сваю былую планіроўку ў большасці захаваў, да гэтага часу прапітана духам прыгод і рамантыкі: разглядаем забудову XIX стагоддзя, пазнейшую, — і пераконваемся, што ледзь не кожны дом тут можа пасаваць Партосу, што займаў, бадай, самую вялікую і ў параўнанні з сялібамі сяброў шыкоўную кватэру…

***Літаратурнае падарожжа ў Парыж Наташы Басалай — поўную версію з ілюстрацыямі — можна знайсці ў спецыяльным праекце «Каляровая «Маладосць» на сайце www.maladost.lim.by.***

***АБ'ЯЎЛЯЕЦЦА КОНКУРС!***

*Калі табе, паважаны чытач, трошкі крыўдна вандраваць па Парыжы Дзюма замест таго каб спатыкацца аб камяні, аб якія ў Навагрудку спатыкаўся Міцкевіч, у цябе ёсць магчымасць гэтаксама прыгожа апісаць і Навагрfalseадак, і Гародню, і Ліду, і якое заўгодна іншае месца на роднай карце. «Маладосць» прымае да публікацыі самыя цікавыя і захапляльныя артыкулы-літпадарожжы па Беларусі ў неабмежаванай колькасці з фотаздымкамі ў абмен на падарункі.*

*Наталля ЛОГВІН*

# СЕЗОН ДАЖДЖОЎ

**ПАСПЕЛА ЗБОЖЖА**

Шчыра смуткуе лета,
Жнівень па полі ходзіць,
Промнем пяшчотным, светлым
Серп залаты свой точыць.
Спелае збожжа рада —
Сцеле калоссе нізка.
Сыплецца зерне градам —
Шчодрая восень блізка.

**СЕЗОН ДАЖДЖОЎ**

Асенні шлях.
Ля прыстані чакае
Драўляны човен
На сезон дажджоў.
Апошнім самалётам
Адлятае
Дадому
Адгалосак журавоў.
Завяла лісце —
Восені аздоба,
Ляжыць яно
У скверах каля ног.
Шукае выйсце творчая асоба,
Імкнецца да нязведаных дарог.
Асенні шлях.
На прыстані чакае
Драўляны човен
На сезон дажджоў.
Дзяўчына ў белым
Ля вады блукае,
Чытае вершы тым, хто не прыйшоў.



***Наталля Логвін нарадзілася 24 лютага 1984 года ў пасёлку Болтава Чачэрскага раёна. Працуе карэктарам у рэдакцыі гарадской газеты «Віцьбічы». Піша вершы на беларускай і рускай мовах. Паэзія для Наталлі — гэта адлюстраванне асабістага ўнутранага свету праз слова.***

## ПАЙШОЎ

Свой залацісты небасхіл
Ты беражэш не ад суроку.
Ён пад аховай тваіх крыл —
Я іх убачыла здалёку.
Свае пачуцці — ў сакваяж.
Свае хваробы — пад канапу.
Замест сапраўднага — муляж.
І ўсё жыццё як па канату.
У падарожжы кожны крок,
І кожны год, як нараджэнне.
Прыйшоў. Пацалаваў замок.
Пайшоў. І не прыняў хрышчэння.

* * *

Надламаным сярпом
Каласы перарэжу жытнёвыя.
З перабітым крылом
Адлятаю на гоні новыя.

Захінуся дажджом
І пайду за сапраўднаю вераю.
Надламаным сярпом
Шлях наперад сабе адмераю.

Не чакайце вясной —
Я не птушка, якая вяртаецца.
Над сіроцкай трунoй
Каласы нерухома хістаюцца…

## АСЕННІ ТРЫПЦІХ

Восень слепа падрэзала крылы,
У самоце абрэзала косы,
Абняла сцюдзяністыя росы
І сярпом панадрэзала жылы.

Зачарнелі крывава асіны,
Спахмурнела свінцовае неба.
А на полі — ні зернейка хлеба,
Толькі ў гронках — гаркота рабіны.

Не мастак абарве твае гронкі,
Не музыку спяваць твае песні.
Уваскрэсне твой сон напрадвесні —
Заспяваюць сіваваронкі.



Сяргей ЕГАРЭЙЧАНКА

# У МАЛАНКАХ НАРАДЖАЕЦЦА РАНІЦА

*Апавяданне*



***Сяргей Егарэйчанка нарадзіўся 17 кастрычніка 1988 года ў Мінску. Скончыў гістарычны факультэт БДУ. Працуе ў Нацыянальным гісторыка-культурным музеі-запаведніку «Нясвіж». Пачаў пісаць мастацкія творы яшчэ студэнтам. Аўтар зборніка прозы «Лебедзі паміраюць разам».***

— ...асцярожна, дзверы зачыняюцца.

Я расплюшчыў вочы. Так хацелася спаць... Я не спаў ўжо другі дзень. Не паспяваў. Справаздачныя дакументы павінны праз тыдзень апынуцца на іншым баку планеты, у Сіэтле. Божа, як далёка...

Пра Сіэтл я ведаў няшмат. Толькі тое, што гэта буйны горад «вечназялёнага» штата Вашынгтон. Усё. Мне больш пакуль не трэба нічога ведаць. Усё роўна з дакументамі ляцеў не я, а Сам — падпісваць дамову найбольш значнага праекта па культурніцкім супрацоўніцтве.

Дакументы пакуль не гатовы. Кантракт я перапісваў, пэўна, ужо дзясяты раз. І яшчэ буду перапісваць. Не сёння. Заўтра. Сёння мне б дабрацца да ложка, упасці на яго і памерці. Хоць на некалькі гадзін памерці.

Дзверы вагона павольна адчыніліся. Натоўп ірвануўся, нібыта ў адзіным спазме, выціскаючы сам сябе з металічнай скрыні.

Збоку мяне адчувальна штурханулі. Нейкая таўстуха змагалася з вузкім праходам і нечаканай перашкодай у маёй асобе. Я ўзняў вочы, выйшаўшы з задумлівага стану, зразумеў, што ледзь не прапусціў свой прыпынак. Таўстуха злосна зыркнула на мяне вадзяністымі бельмамі і забурчала штосьці сабе пад нос.

Я хацеў выбачыцца перад ёй, але перадумаў. Не люблю людзей, якім Бог даў язык толькі дзеля таго, каб бурчаць, а не ветліва папрасіць. Ды і ў слоў прабачэння шмат агульнага са словамі кахання. Чым часцей іх кажаш, тым больш яны абясцэньваюцца.

Я павярнуўся і выслізнуў у дзверы. Таўстуха дробна тупала за маёй спінай, не спыняючы свайго буркатання. Але мне гэта было ўжо нецікава.

На платформе азірнуўся. У які мне бок? Недарэка, я ж усё жыццё пражыў у гэтым горадзе, але ўсё адно блытаюся, куды мне выходзіць з метро.

Мая машына чакала на паркінгу наверсе. Ніхто з сяброў не разумеў, чаму я езджу ў метро. Я сто разоў тлумачыў ім, што ненавіджу марнаваць час, стоячы на праспекце ў гадзіны пік.

Пастаяў крыху на лесвіцы. Глядзеў пад ногі. Можа, не варта цяпер машынай кіраваць? Як жа хочацца спаць...

З неба біла сонца: яркае, цёплае сонца. Красавік.

Я ўзняў галаву на адно імгненне.

Адчуў патыліцай нечы позір. Азірнуўся.

Яна глядзела на мяне. Цяпер ужо вочы ў вочы. І ледзь заўважна паружавеў ейны твар. Ледзь бачна пачырванелі збялелыя вусны. Сабраліся ва ўсмешцы амаль нябачныя зморшчынкі ў кутках шэрых вачэй. Зморшчынкі? Не веру! Ты ж абяцала заставацца заўсёды маладой!

Потым усё знікла. Яна прабегла міма, не спыніўшыся. А я застаўся стаяць, праводзячы Яе позіркам. Я не быў упэўнены, што гэта Яна. Прамінула шмат гадоў. Я не быў упэўнены ні ў чым.

У машыну я сядаў усхваляваны і расчараваны адначасова. Бо ніхто больш не ўмее так глядзець і хаваць усмешку ў кутках вачэй. Ніхто так…

Гэта была не Яна. Гэта не магла быць Яна.

Яна знікла дзесьці ў падсвядомасці, а памяць паслужліва выкрэсліла Яе з жыцця. Архівы гараць прыгожа, архівы памяці — тым больш. Толькі гэтае полымя не кожны ўмее бачыць. А я бачыў пажар... Яна знікла, і я не мог нават успомніць пах Яе валасоў. Я памятаў толькі, што Яе валасы пахлі так дзівосна, так неверагодна і пяшчотна (хто сказаў, што пахі не могуць быць пяшчотнымі?), што я забываўся дыхаць звычайным паветрам пасля ейнага паху. Цяпер, праз пяць гадоў, я ўжо не памятаў адценняў тых пахаў. Памятаў толькі, як пакутліва вучыўся дыхаць пасля.

Я выехаў з паркінга. Направа, святлафор, потым скрыжаванні, яшчэ разрыў у двайной суцэльнай. Але я не думаў пра гэта ўсё.

Я пераконваў сябе, што гэта не магла быць Яна.

Не магла. Не Яна. Не быць.

Міма пранеслася агромістая пажарная машына, выючы пранізліва сірэнай. За ёй праляцела яшчэ адна. І яшчэ. За пажарнымі сiганулі «Хуткія». Божа, што ж так палае?

А над галавой нечаму радавалася вечаровае неба…

* * *

— Не стой у вадзе. Застудзішся.

— Вада цёплая…

— Застудзішся, кажу.

— Не сёння. Не ў гэтым жыцці.

Плёхкаўся аб бераг Нёман. Ён размаўляў са мной і лашчыўся да маіх ног, нібыта агромісты тыгр: страшны і мякка-ласкавы адначасова.

Такім далёкім быў досвітак. І такім блізкім было неба. Над галавою, на адлегласці працягнутай рукі, пакуль яшчэ цьмяна мігцелі першыя зоркі. Іх можна было згрэбсці ў далонь, пальцамі паварушыць і зноўку павесіць на месца, каб хтосьці іншы, пасля мяне, мог зрабіць тое ж самае. Такое магчыма толькі раз у жыцці. І гэта быў той самы вечар.

На траве было шмат расы. Пасля цёплай вады яна здавалася амаль ледзяной і непрыемна апякала холадам ногі. На пятах я дабег да вогнішча, абуў сланцы. Сеў на бервяно побач з агнём.

Людзі навокал нягучна размаўлялі. Ніхто не хацеў непакоіць ціхі вечар, суладдзе лесу з ракой і ледзьве чутны зоркавы шэпт у небе. Такое здараецца рэдка.

З рук у рукі ішла гітара, хтосьці перабіраў струны, але я не слухаў мелодыі.

Абапершыся спінай на яе плячо, я сядзеў, закінуўшы галаву назад, адчуваючы патыліцай яе скроню. Упершыню я не быў для яе чужым. І больш мне нічога не было трэба.

Я бачыў, як на небе з'яўляюцца новыя срэбныя кропкі. Лічыў пра сябе кожную з іх. Часам забываўся і пачынаў наноў шаптаць, а ты толькі кідала на мяне кароткія позіркі і ўсміхалася.

А яшчэ я, часам, заплюшчыўшы вочы, правальваўся ў дрымоту. Калі ж прачынаўся, то адчуваў, як твая далонь ляжыць на маіх валасах, а пальцы блукаюць па маёй галаве, асцярожна зарываючыся ў пасмы, пяшчотна і ціха, каб не патрывожыць мой сон. Як толькі я падымаў павекі, ты адразу прыбірала руку, але не адводзіла позірк.

— Ноч…

І ноч сапраўды апусцілася на зямлю.

Вогнішча палала, ад яго не разыходзіліся самыя стойкія. Тыя, хто ніяк не мог наталіцца гоманам лесу пад акампанімент старой гітары.

— Гэта тое, пра што ты марыў?

— Не, гэта лепш, чым тое, пра што марыў.

— Мне так добра, так горача.

— Горача? А я падумала, што ты змерз.

— Ты не ведаеш, як мне было зябка дагэтуль. А цяпер з мяне выходзіць холад. І разам з ім — страх.

— Страх? Чаго ты баішся?

— Цябе.

Першыя кроплі дажджу, які пачынаецца так імкліва.

Залева над Нёманам. Залева ў сэрдцы. Цёплая залева. Шчаслівая.

Рука ў руцэ. Ноч і пах валасоў. Самы шчаслівы пах майго жыцця. Вечнасць нішто ў параўнанні з імгненнем.

— Ты чуеш?

— Што?

— Музыку?

— Я думаў, што ніхто больш не чуе.

— Чую я.

Іле дождж. Разам з грозным рыкам грому перакотвае хвалі незадаволены Нёман.

— Толькі ты не знікай, я прашу

— Я застануся.

Гром. Дождж, Нёман і два сэрцы. Гром.

У маланках нараджаецца раніца.

* * *

На стале раскіданы аркушы паперы. Я сядзеў, абхапіўшы рукамі галаву. Нічога не хацелася. Паслязаўтра першы раз на працу пасля двухтыднёвага адпачынку. Праўда, хіба гэта можна назваць адпачынкам?

Дакументы даўно былі ў слаўным горадзе Сіэтл. Іх падпісалі, Галоўны мусіў сёння вылятаць назад: аэрапорт Сіэтла — Джы Эф Кей — Лондан — Мінск. Клёвы маршрут. Я і сам бы такім з задавальненнем палятаў.

Забудзь. Доўга яшчэ не палятаеш.

Два тыдні адпачынку зжэрла працэдура паскоранага афармлення дакументаў. Вось яны перада мной, запхнутыя ў асобны файл.

Заўтра вырашацца апошнія фармальнасці.

Усё ясна. Усё зразумела. Я больш не быў адзін.

Мне раптам не хапае паветра. Таго ляснога паветра, якое я тады без шкадавання разбаўляў цыгарэтным дымам. І пах ейных валасоў я ўжо не ўзгадаю ніколі.

Затрымцеў мабільнік. Я паглядзеў на яго з непаразуменнем, нібыта на імгненне забыўся, што гэта за штука і навошта людзі яго вынайшлі. Выкінуць у акно? Не, нельга. Цяпер дакладна нельга. Раней я распараджаўся толькі сабой. Цяпер — не.

— Слухаю.

— Як ты? — пачуўся мяккі дзявочы голас.

— А што мне? Жыць буду.

— Усё яшчэ не можаш стрымаць сябе?

— Навошта мне сябе стрымліваць?

— Віталік, гэта было пяць гадоў таму! Няўжо дагэтуль нельга…

— Нельга. Ты патэлефанавала каб лекаваць мяне?

— Я хачу сказаць, што працэдура афармлення матэрыяльнай дапамогі скончана. Праз месяц атрымаеш першую. Навошта табе гэтыя капейкі? Ты ж няблага зарабляеш.

— Мне? Не мне. На картку. Можа, гадоў праз дзесяць штосьці назбіраецца.

— Абясцэняцца…

— Гэта мае праблемы. Яшчэ навіны ёсць?

— Не.

— Дзякуй за дапамогу, Вераніка. Я б сам з усім не справіўся.

— Можа, ты…

— Не. Больш не. Хопіць.

— Зайдзіце хоць разам.

— Калі-небудзь. Да пабачэння, Вераніка.

— Пачакай!

— Угу.

Я стаў нейкай цынічнай скацінай. Раней ніколі б не дазволіў сабе кідаць слухаўку, тым больш размаўляючы з чалавекам, які дапамог мне. Тое было раней. Мінулага не засталося. Зусім. Яго знішчылі. Па кавалку. Па кропельцы. Па валаску, які пах лепш за ўсё на гэтым свеце.

Там, за спінай, застаўся нехта іншы, а не я.

Астылую каву, што стаяла на сурвэтцы, я выліў у страўнік адным глытком. Потым схапіў асадку, падпісаў адну паперу, потым яшчэ адну. Вось так. Цяпер усё ў норме. Можна адпачыць. Можна адкінуцца на спінку фатэля, забыцца, заплюшчыць вочы. Дыхаць глыбока-глыбока, каб надыхацца на ўсё жыццё, якое мне пакінуў яшчэ лёс.

Толькі б не заснуць. Нельга спаць!

Дзверы ў мой пакой адчыніліся са звярыным рыпам. Тэрмінова змазаць! Заўтра ж, з раніцы. Абавязкова.

На парозе стаяў бялявы чатырохгадовы хлопчык. Для свайго ўзросту ён быў занадта высокім, злёгку паўнаватым, але гэта хутка пройдзе. Ён глядзеў на мяне шэрымі вачыма і стараўся не міргаць, нібыта я магу ад гэтага знікнуць.

Ён быў зусім не падобны да мяне. І мяне гэта цешыла.

— Дзядзька Віталік! Дзядька Віталік!

— Што, мой харошы? Хочаш чагосьці?

— Дзе мама?

Што мне адказаць табе, мой маленькі шэравокі анёлак? Ніхто так і не сказаў табе, дзе яна, твая мама. Ніхто так і не прыдумаў, што можна табе сказаць…

— Мама вернецца, Арцёмка. Абавязкова вернецца.

— Калі? — настойліва патрабаваў адказу хлопчык.

— Я… я не ведаю. Але ты не бойся, мама не кіне цябе. Я абяцаю. Хадзем.

А ў ложку ён распавядаў мне, як яны плавалі з мамай у возеры. Як мама трымала яго на руках, а потым апускала на ваду і ён плыў да берага сам, амаль як дарослы. Што яго трымаў толькі лёгкі дотык мамінай рукі і нічога больш, як ён плыў, плыў, пакуль не дабраўся да жоўтага мяккага пяску на беразе вялікага возера, назвы якога ён, канешне ж, не ведаў.

А возера звалася Свіцяззю. І нідзе больш вы не маглі быць, мой мілы анёлак. Твая мама так любіла гэтае возера…

Калі ён заплюшчыў шэрыя вочкі і ціхенька засапеў, я накрыў яго коўдрай, зачыніў дзверы і ціха дайшоў да ваннага пакоя…

Там я ўпаў на халодную кафлю падлогі. Я плакаў і ванітаваў адначасова.

Паўгадзіны мяне даймалі страшныя спазмы, а потым мне падалося, што я памёр.

Што я мог адказаць табе, маленькі хлопчык Арцёмка? А мо патрэбна было сказаць праўду, што мама больш не вернецца?

Праўду пра тое, што тады, два месяцы таму, на прыступках станцыі метро ў цэнтры горада я сустрэў Яе. Я не памыліўся. Гэта была твая мама, мой маленькі.

А можа, распавесці табе пра тое, як праз хвіліну пасля майго ад’езду з паркінга, раптам запахла селітрай і з-пад зямлі пацягнула белым дымам?

Што менавіта туды імчалі пажарныя машыны і «Хуткія»? Што яшчэ праз хвіліну мне патэлефанаваў мой лепшы сябра і дрыготкім голасам спытаўся:

— Ты ўжо не ў метро?

Не, мой дарагі сябра, я ўжо не быў там.

Там былі іншыя. Там была Яна.

Я ніколі не распавяду табе, што ўбачыў там, пасля таго, як прымчаўся назад…

Арцёмка не быў маім сынам. Я так і не даведаўся, хто ж ягоны бацька. Яна сама, відаць, марыла забыць яго. У яе не было нікога, акрамя дзіцяці, і ніхто больш не быў ёй патрэбны.

Я ведаю гэта пачуццё, калі жывеш толькі дзеля аднаго чалавека. У мяне не было права на роздум. Я зрабіў тое, што мусіў зрабіць.

Гледзячы на малога, я суцяшаў уласную душу.

Яна не памерла. Яна жыла ў глыбіні ягоных шэрых вочак — такіх самых, як у ягонай мамы. Яна пасміхалася мне, зусім як тады, пяць гадоў таму.

…У маланках зноў нараджалася раніца.



Рагнед МАЛАХОЎСКІ

# ТЫСЯЧЫ ПРЫЧЫН ВЕРНАСЦІ



***Рагнед Малахоўскі нарадзіўся 5 верасня 1984 года ў пасёлку Сяймчан Магаданскай вобласці. З 1987 года жыве ў Беларусі. Па адукацыі — фінансіст, па пакліканні — паэт. Аўтар зборнікаў «Беражніца» і «У дзённай мітусні». Любіць ездзіць на скутары, займаецца фатаграфіяй, піша электронную музыку.***

* * *

замятае снег
сляды марцовых катоў
не мурлыкае котка
на падваконні
распушыла хвост
з надзеяй
перазімаваць вясну

* * *

цяпло тваіх вачэй
адчуюць
на вейках
чэпкія сняжынкі
каханнем нашым
грэецца зіма

* * *

у хату рыбака
прыйшло гора
луской на шчоках
слёзы маладой удавы
за вёскай
да вады
схілілася вярба

* * *

іскры ў агоніі
прагнуць вышыні
дым ад кастра
нарадзіў
мёртвае воблака

* * *

хісткім ценем
легла на шпалеры
імпрэсія
спакуслівага танца
за фіранкай
скрыжаванне ўсіх вятроў
азяблы горад
у неонавай сукенцы

* * *

ці то ад холаду
ці то ад ветру
ці то за душы
што адышлі ў іншы свет
дрыжаць у лесе
як у храме
свечкі асінавых лістоў

* * *

жаўток сонца
над старажытнай вёскай
прывітаў нараджэнне
новай душы
яечняй і карыцай
пахнуць
рукі бабулі

* * *

стракатыя кветкі
нашых сустрэч
на імгненне
ўпрыгожылі вечнасць
пялёсткі пацалункаў
абарваў
расстання вецер

* * *

у начной цішыні
бадзяецца думка
няма ёй спакою
пульсуе
кожным імгненнем
час задумацца

* * *

паскараюцца хуткасці
карацеюць імгненні
сціскаецца прастора
здолець бы
убачыць Галоўнае
у гэтай
штодзённай мітусні

* * *

над вёскай вятры
спудзілі
чорныя хмары варання
звіняць сабачыя ланцугі
рыпяць іржавыя брамкі
не пахіснецца
прыдарожны крыж-ахоўнік

* * *

стаю ў храме
як прывід
уласнай адзіноты
адчуваю і ведаю
не вечны
выйду з храма
сустрэну твой закаханы позірк
падумаю пра будучага сына

* * *

стыхія ўзбунтавалася
ратуюся на беразе ракі
ў альтанцы
замерла сэрца
набліжаюцца
цяжкія крокі дажджу
па вадзе

* * *

вецер лугавы
прынёс бляянне
сытых авечак
сонца схавалася
у шэрую воўну
аблокаў

* * *

човен кахання
кранаецца водмелі
давай пакінем
нашы недарэчныя спрэчкі
дзесьці ў блакітнай прасторы
беспадстаўныя хваляванні
у цяжкай пазалоце
нарачанскіх хваляў

* * *

маўклівыя зоры
пакідаюць свае сузор'і
дрэваў галіны
аддаляюцца ад каранёў
моху цураюцца валуны
людзі — зоры
людзі — дрэвы
камяні

* * *

ля крынічкі
кропелькі нябёсаў
пралескі
назіраюць за нашым каханнем
люблю твае рукі
што пахнуць вясною

* * *

шчасце быць закаханым
не азначае
быць свабодным
імгненне з табой
нараджае
тысячы прычын
маёй вернасці
табе

* * *

у чорных глыбінях ночы
на прасторах
зорнага Нарочча
на чоўне натхнення
вяслую па Млечным Шляху



*Яўгенія РУЛЬ*

# ПА ТОЙ БОК ШЫБЫ

*Аповесць*




***Яўгенія Руль (Шумейка) нарадзілася 17 студзеня 1991 года ў Навагрудку. Студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ. Друкавалася ў рэспубліканскіх газетах і часопісах. Адна з аўтараў калектыўнага зборніка «Услышь мой голос на заре...» У «Маладосці» дэбютавала ў мінулым годзе.***

## Частка І

Калі б хто спытаў, чаму я так змянілася, — не знайшла б што адказаць.

Ніхто не верыць, а я сапраўды памятаю сябе з двухгадовага ўзросту. Памятаю ўсё: і добрае, і дрэннае; імёны, нумары, даты, твары, падзеі — кожную дробязь. Часта думаю: «Навошта яно мне патрэбна?» А забыць не магу. Аніяк! Праносяцца роем думкі, забіваюць галаву непатрэбшчынай, даводзяць да вар'яцтва…

І калі ж я змянілася? Была здаровым, цярплівым, вынослівым дзіцём. Падобным да хлопчыка: збівала калені і локці, гуляла з машынкамі. Замест сукенак апранала шорты. Часта пры знаёмстве дзеці пыталіся, хто я: хлопчык ці дзяўчынка. Толькі імя і выратоўвала. Яно было дзявочае — Ева. На той час яно мне дужа не падабалася. І чаму маці не назвала мяне Кацяй ці Таняй? Выбрала чамусьці рэдкае ды ў дадатак біблейскае імя.

Не памятаю дакладна, калі пагоршылася здароўе. А як сорамна цяпер за тое, што кпіла з сястры, клічучы яе «очкарик». Сорамна, што не верыла ў яе хваробы, — лічыла сястру прытворшчыцай ды прагульшчыцай. Гэта цяпер разумею, што і сама ў школу хадзіць не хацела, а, седзячы дома, вучыцца падабалася. Дзякуй Богу, што давалася мне ўсё лёгка. Але, на дзіва, адзнакі былі аднолькавыя: што ў мяне, што ў сястры. Вось толькі я на ўрокі траціла не больш дзвюх гадзін, а Стася — увесь вечар і палову ночы. Дык чаму тады яна здаровая і разумная сёння, а я хворая і, шчыра кажучы, дурнаватая?

Калі ж я стала такой? Ранняе дзяцінства пакінем. Там не варта капацца, бо на той час я правільна разумець усё, што адбываецца ў акаляючым свеце, не магла. Пачнём з юнацтва. Вось там прычын здурнець нямала набярэцца: непаразуменні з бацькамі, настаўнікамі і аднакласнікамі, першае каханне, а яшчэ тое, што цяпер ужо дакладна магу назваць зыходнай кропляй на шляху да майго вар'яцтва.

У мяне не было дому і бацькоў. Не, яны, канешне, былі і сёння ёсць, ды яшчэ доўга будуць, калі дасць Бог. Але мне заўсёды было ніякавата-сорамна і нечага не

хапала. Саромелася я беднасці і бескультуршчыны, у жорсткіх лапах якіх расла, крыўдзілася на сквапнасць і эгаізм бабулі. А не хапала мне любові і паразумення, звычайнага клопату з боку бацькоў.

Бацька піў. Часта і па-чорнаму. Мама працавала за сябе і за яго, глядзела нас, дзяцей, а для сябе нічога не хацела змяняць. Сама яна ніколі не бачыла бацькі, не зведала той сапраўднай, непадробнай любові, якая бывае толькі ў бацькоў да дзяцей. Мабыць, таму так самаадданa імкнулася захаваць сям'ю, каб не пазбавіць нас аднаго з самых дарагіх людзей. А ці лепш яно так: кожны дзень слухаць сваркі, а кожную ноч прачынацца ад гучных праклёнаў бабулі, якія сыпаліся на бацьку, які ў чарговы раз перавярнуў усе яе настоі з-за няймення чагосьці больш «гарачага»? А ці ж гэта добра, калі дзеці апраўдваюцца перад суседзямі за паводзіны сваіх бацькоў, калі, затыкаючы вушы, спрабуюць нешта вучыць? Цяжка цяпер некага вінаваціць. Але я змянілася…

* * *

У дзясятым, здаецца, класе зрабіла адзін крок, які мог змяніць мой характар. Даслала ў газету ліст з аповедам пра свае праблемы, праз якія сутыкнулася з непаразуменнем з боку аднакласніц. Але, самае жудаснае, — я падпісалася сапраўдным прозвішчам. От, і панесліся тады чуткі па школе, дайшло да дырэктара. Выклікала Надзея Мікалаеўна мяне на «дыван» і абвінаваціла ў тым, што я паклёпнічала на аднакласніц. Але ж то быў не паклёп! Мяне прымусілі прасіць прабачэння перад усім класам. За што? А яшчэ да псіхолага давялося ісці. Як Святлана Іванаўна ні прымушала прызнаць сваю віну — я ні ў якую. Цяжка было тады, адной супраць усіх. Усіх, акрамя сястры. Яна адзіная падтрымала мяне ў той сітуацыі, сказала: «Малайчына, сястрычка! Трэба мець характар!» Стася трошкі нават зайздросціла мне: у яе вачах я выглядала бунтаркай, якая не пабаялася асуджэння; мой учынак здаваўся ёй сур'ёзнай заяўкай на славу і знакамітасць у будучым. І я ёй тады амаль паверыла. Я хацела стаць такой. Ды мая дурнота перамагла. Па праўдзе кажучы, я слабая, бо рана ці позна насамрэч адчувала сябе вінаватай там, дзе не шкодзіла. Характар амаль не магчыма змяніць.

Але меліся ў мяне задаткі на моц і сілу духу, толькі ж я змянілася. Не характарам, а нутром.

## Частка II

За два тыдні да Новага года я апынулася ў месцы, якое завецца вар'ятня. Кажучы шчыра, спачатку не ўсведамляла гэтага, не лічыла сябе хворай на галаву. Мне проста было цікава. Гэта як яшчэ адзін абавязковы курс жыцця для тых, хто хоча гэтае жыццё зразумець і навучыцца любіць. Потым зрабілася страшна, а пасля — весела. Але пра гэта пазней.

Трэба адзначыць, што я неяк давучылася да трэцяга курса інстытута і толькі тады дакладна зразумела: я згубіла жаданне вучыцца і жыць далей, згубіла саму сябе. Псіхатэрапеўты такі стан характарызуюць аднаслоўна — дэпрэсія. Мне так не падабаецца гэтае слова, што кожны раз, калі чую яго ці вымаўляю, то ўздрыгваю. Калі клалі ў лякарню, не паставілі, на шчасце, такі дыягназ. Запісалі іншы, але сэнс, па сутнасці, не змяніўся.

Перад тым памятным днём я востра адчула патрэбу ў дапамозе дактароў. Не важна было, у якую лякарню ісці, толькі б узялі. І яны ўзялі. Тыя, хто заўсёды ўсміхаецца і падбадзёрвае загнаных у кут людзей.

* * *

Калі першы раз пераступіла ганак установы пад назвай «Псіха-неўралагічны дыспансер», па маёй скуры пабеглі мурашы: ці то ад хвалявання, ці то ад радасці. Мясцовасць падалася дастаткова прывабнай: трохпавярховы будынак акаляў яловы лес, злева — стадыён з турнікамі, угору цягнулася вузкая сцежка, напэўна, пратаптаная пацыентамі. А людзі, якія лічыліся хворымі, выглядалі цалкам нармальнымі, толькі крыху засмучанымі і палахлівымі.

Колькі крокаў — і трапляю ў аддзяленне памежных станаў. Знаходжу пакой загадчыка. Нерашуча ўваходжу. За сталом сядзела жанчына гадоў сарака, з шэрымі вачыма і светлымі валасамі. На ейным твары не было ні грама касметыкі, пазногці акуратна састрыжаны і не пафарбаны лакам. На твары заўважалася стомленасць і прафесійная ветлівасць. Наталля Сяргееўна пазірала на мяне як на бездапаможнае кацяня, якое не ведае, ці радавацца яму, што трапіла ў людскія рукі, ці баяцца, бо, магчыма, гэтыя рукі пачнуць здзекавацца з яго. Думаю, у тую хвіліну я менавіта так і выглядала, таму што сапраўды розныя думкі перабівалі адна адну. Доктарка ўсміхалася і гаварыла такім прыцішаным голасам, нібыта асцерагаючыся, каб хто не падслухаў. Пранеслася думка: «Яна, пэўна, з усімі так размаўляе, бо не ведае, чаго можна чакаць ад пацыентаў, бываюць жа і неадэкватныя».

І вось я сяджу насупраць, вельмі блізка, адказваю на пытанні. Адчуваю сябе амаль шчаслівай, што знайшла чалавека, які выслухае мяне, зразумее ці хаця б паспрабуе зразумець. Гэтая жанчына, у якой, канешне, таксама былі праблемы, як у кожнага нармальнага чалавека, падалася тады самай лепшай, самай праўдзівай і натуральнай, выратоўніцай, як быццам занятак выслухоўваць кожнага быў для яе пакліканнем, а не штодзённай працай. Толькі ў той марозны зімовы дзень я зразумела, як далёка загнала саму сябе, заблыталася ў ненажэрнай пашчы абставін, якія, аб'яднаўшыся, настойліва вялі да вар'яцтва. І, пэўна, давялі б, калі б я не трапіла ў гэты цудоўны аранжавы дом. То быў адзіны момант у жыцці, калі я не саромелася сваіх слёз. Здаецца, Наталля Сяргееўна сказала тады, што гэта нармальна — плакаць. Так лягчэй. І мая дурная звычка — калі пачынаю плакаць з-за аднаго, то ўспамінаю і старыя крыўды — сыграла станоўчую ролю: я прааналізавала ўсё сваё кароткае, але багатае на пакуты жыццё. Мне было не сорамна спавядацца чужому чалавеку. Толькі саму сябе зрабілася шкада. Першы раз па-сапраўднаму шкада.

Размова скончана. Галоўнае высветлена. Я магла гадзінамі распавядаць пра свой лёс, але за мной прыйшла медсястра. Мяне размеркавалі ў палату нумар 12 *(Гэта добра ці не?)*. Спачатку трошкі фармальнасцей: пасядзець на медпосце, пакуль запоўняць нейкія бланкі. Памятаю, медсястра запытала, ці замужняя я, ды с такім спачуваннем, быццам толькі муж і мог мяне пакрыўдзіць, давесці да вар'ятні. «Не, мне яшчэ вучыцца доўга», — адказваю амаль спакойна.

Дык вось якая яна — палата. Восем ложкаў, адзін, не заняты, чакае мяне. Каля сцяны шафа. Насупраць дзвярэй стол. Каля кожнага ложка свой табурэт і тумбачка. На верхняй частцы дзвярэй, там дзе шкло, — снегавік, намаляваны фарбамі, і трошкі featured рознакаляровага дождж... 

Вітаюся з усімі. Хтосьці ляжыць пад коўдрай, іншых няма на месцы. Раскладаю рэчы, майструю сваю «бярлогу». Яшчэ не разумею, што мяне чакае. Саджуся паверх коўдры, гляджу ў акно. Ну вось, усё былое засталося па той бок шыбы…

* * *

У палаце і жанчыны, і дзяўчынкі. Узрост самы розны. Размаўляюць між сабой. Раптам пытаюцца:

— Як цябе зваць і колькі табе?

— Ева. Праз месяц споўніцца дваццаць.

— А з чым ты?

— …у мяне шмат усяго.

— У нас ва ўсіх шмат усяго. Дык з чым?

— Я не спала пяць сутак, часта губляю прытомнасць, галава баліць, артэрыяльны ціск скача, а яшчэ галюцынацыі…

— О, у нас ёсць такія, з галюцынацыямі. Ну нічога, сёння ўжо будзеш спаць.

— Спадзяюся…

Зноў паклікалі да доктара. Наталля Сяргееўна прызначыла лекі.

— Пакуль што будзеце прымаць хлорпраціксен, нейралептык, адну таблетку на ноч, і рэксэцін, антыдэпрысант, адну таблетку пасля абеду. Два разы на дзень будзем мераць артэрыяльны ціск. Апетыт у вас добры?

— Не вельмі.

— Тады вазьміце вось гэту таблетку. Праз паўгадзіны зойдзеце і скажаце, ці добра сябе адчуваеце. Калі ўсё ў парадку — будзеце яе прымаць кожную раніцу перад снеданнем. За лекамі трэба падыходзіць да медсясцёр з кубкам. Ваду можна браць там альбо са сваёй прыходзіць. Ваша картка будзе на медпосце. Адпачывайце.

Пайшла за лыжкай і бялізнай. Яшчэ і халацік далі — прыгожы, у кветачкі, па таліі. Я рэчаў з сабою няшмат узяла, і камяндантша падумала, што я зусім бедная, калі нават лыжку ейную папрасіла. Некалькі хвілін на нелюбімы занятак — засцілаць бялізну. Гляджу на гадзіннік: адзінаццаць толькі, а пад лыжачкай ужо смокча. А ў палаце ўсе нешта грызуць. Вось падышла адна жанчына, дала яблык. Другая булку з каўбасой. Дзякую. Павольна ем. Настаў час з усімі знаёміцца.

Паколькі нас тут размяшчаюць строга па ложках, то, думаю, не пакрыўдзяцца мае былыя сёстры па няшчасці, калі я іх прадстаўляць буду, пачынаючы з першага ложка. А ложкі, дарэчы, стаялі ў два рады, па чатыры ў кожным. Пачнём з левага рада.

Каля сцяны спала Анжэла, тая, што пачаставала мяне бутэрбродам са словамі: «Еш, а то будзеш галодная». Адразу кінулася ў вочы яе знешнасць. Каля вуснаў красаваўся след ад зубоў сабакі (гэту гісторыю я пачула пазней). Валасы цёмныя з добрымі праблiскамі сівізны. На выгляд жанчыне было трошкі за сорак. Фігура стройная, толькі голас пракураны (тут мяне не падманеш). Яна была надзвычай балбатлівая, але дзе-дзе, а ў лякарні гэта весяліць. Часта расказвала, як ляжала ў пятай гарадской у такім жа аддзяленні, пра тамашнія ўмовы. Цікава тое, што Анжэла заняла спачатку мой ложак, а потым перамясцілася на гэты, бо там, каля акна, дзьмула моцна.

Далей — ложак Каці, маёй аднагодкі. Калі яна забегла ў палату, вочы астатніх неяк загарэліся. Дзяўчынка зусім не была падобна да хворай, наадварот, яна ўсіх падбадзёрвала. Казала пра нейкую (ці нейкага) Касцяшку. Потым я даведалася, што Касцяшка — гэта хлопец, якога, здаецца, клічуць Ігар, ён ляжыць у нашым аддзя-

ленні ў мужскім крыле і «круціць» каханне з нашай Кацярынай. Каця мела доўгія кучаравыя валасы, пафарбаваныя ў рыжы колер. У яе носе тырчала завушніца. Як высветлілася, дзяўчына спявае ў рок-гурце, вучыцца на трэцім курсе БДЭУ, добра ведае англійскую мову, на якой, дарэчы, піша тэксты песень, а жыве ў інтэрнаце, бо з'яўляецца ўраджэнкай невялікага гарадка.

Галіна Міхайлаўна была адзінай з нас, каго мы называлі на Вы. Усе мы яе моцна любілі, яна была як маці Тэрэза для нас: старэйшая і мудрэйшая. Ёй пераваліла за пяцьдзясят, але выглядала яна добра: заўсёды з прыгожым манікюрам, акуратна прычасанымі валасамі. Дзівачка, лічыла сябе тоўстай *(Эх, каб усе так выглядалі ў яе гады!)*. Гаварыла яна на трасянцы. Хоць шмат гадоў пражыла ў Мінску, а вясковыя звычкі не пакідалі яе. Мне гэта вельмі падабалася. Звычкі вылучалі яе сярод іншых. Але самае незабыўнае ў яе вобліку — вочы. Яны такія ярка-блакітныя, што з першага позірку хочацца пасябраваць з гэтай жанчынай, такой яна здавалася добрай і светлай.

На ложку каля акна спала яшчэ адна жанчына ў гадах, імя якой я так і не запомніла. Усе яе называлі манашкай. Яна была надзвычай правільная, а яшчэ, па чутках, быццам належала да нейкай секты. Манашка мела электронны танометр і часта цішком мерала ціск. Так смешна было назіраць, як яна хаваецца ад медсясцёр, а часам кагосьці з нас падгаворвае, каб пастаялі на варце. Яна праляжала ў лякарні больш адведзенага тэрміну — месяц мінуў (дазвалялася ад 21 да 28 дзён, 29 — у выключнай сітуацыі). Манашка была з тых людзей, якім заўсёды штосьці падаецца: то сэрца ў яе б'ецца занадта хутка, то хтосьці ёй нешта дрэннае зрабіў спецыяльна.

Першы ложак у правым радзе належаў Алене. Жанчыне гадоў трыццаці з хвосцікам. Яна дала мне яблык і была ці не самай цікавай асобай для мяне. Вясёлая і пазітыўная, яна зусім не падобна да чалавека, які яшчэ нядаўна не ўмеў знаёміцца і наладжваць адносіны з людзьмі. Алена ўвесь час нешта запісвала і выкрэслівала. Потым і я патрымала ў руках тыя нататкі. Гэта быў спіс самых розных сімптомаў, праз якія пакутавала раней жанчына. Большасць закрэслена. Я памятаю ўсмешку на Алениных вуснах, калі яна працягнула мне гэтую паперку. Жанчына ганарылася сабой. Шмат жахлівых рэчаў пераадолела ды, больш таго, не пабаялася паказаць свае слабасці іншым.

Насця — дваццацігадовая бландзінка, студэнтка-трэцякурсніца. Яе вельмі цікавіла ўласная знешнасць, бо хацела падабацца ўсім хлопцам. Бедавала праз свой векікаваты жывот, маўляў, пакуль у бальніцы хуткай дапамогі ляжала (яе збіла машына), спортам не займалася, а адтуль адразу сюды трапіла, і тут таксама не схуднееш. Твар у яе быў прывабны: блакітныя вочы, усмешка з роўных белых зубоў. А валасы доўгія — гэта не можа не прыцягнуць увагу. Дзяўчына лічыла сябе вельмі разумнай, шмат гаварыла пра палітыку і хуткія выбары. Насця мела моцны прыгожы голас. Як выявілася, яна раней грала на скрыпцы і спявала на канцэртах. У яе была геніяльная здольнасць варушыць вушамі ці ноздрамі, а рукі яе былі неверагодна гнуткімі.

Вольга — мая суседка злева, трыццацідвухгадовая жанчына, якая месяц таму страціла маці. Яна шмат плакала і часцей за ўсё ляжала пад коўдрай. Але, калі мела добры настрой, то распавядала што-небудзь вясёлае такім дзіцячым голасам, што старэйшай за мяне яе ніхто б не назваў. Яна часта камечыла ў руках мяккага мядзведзіка, якога ласкава называла «бесхрыбетны» з-за мяккасці цацкі. Вольга была фанаткай розных пахаў, купляла ўсё, што абдавала яе прыемным водарам. Пацешна кожны дзень ела лімоны, крывячыся, але з разуменнем, што гэта неабходна, каб не застудзіцца ў дадатак да асноўнай хваробы. Вользе не шанцавала

з мужчынамі, яна да гэтай пары была халасцячкай, адносіны з бацькам таксама склаліся не самыя лепшыя. Галіна Міхайлаўна больш за ўсіх яе шкадавала, быццам маці.

І нарэшце мой ложак. Ушчыльную прыстаўлены да акна. Можа, і задуваў адтуль вецер, але я, каб хто і прапанаваў, не згадзілася б на абмен. Надта ж мяне вабілі высокія елкі за акном.

Па той бок шыбы церусіў снег. Я яшчэ не ведала, ці дазволяць мне выходзіць на вуліцу, але я палюбіла менавіта гэты краявід, які бачыла праз шыбу. Гэты, што вакол лячэбнага корпуса: з лесам, з часовымі жыхарамі, з марозам ды снегам і з блізкім Новым годам.

* * *

Дачакалася абеду. Страва была, канешне, не з рэстарацыі, але значна лепшай, чым у той лякарні, дзе ляжала раней. Бывала, штосьці смачнае давалі, напрыклад, маю любімую аўсяную кашу. Часта налівалі кісель. Гэты было сапраўднае свята, бо Анжэла заўсёды аддавала мне свой кубак.

Вечарам Анжэла пацягнула мяне на вуліцу. Мы ішлі праз лес па даўно пратаптанай сцежцы, якую я заўважыла раніцай. Выйшлі пад універсам «Беларусь». Анжэла, як заўсёды, байкі травіла (пажартавала, напрыклад, што, калі з намі нехта пазнаёміцца і захоча правесці дадому, то адразу ўцячэ, калі завядзём на Бехцерава, 5). Курыла, а я слухала моўчкі, не паспяваючы пераварыць немалы аб’ём інфармацыі за дзень. Купілі салодкага, пайшлі назад *(Крута, калі так будзе заўсёды, дык гэта санаторый, а не вар'ятня!)*.

Пасля вячэрняй «дозы» можна і ў душ. Зноў тая ж Анжэла напрасілася ісці са мной. А што можна рабіць у душы, дзе побач з табой яшчэ некалькі голых жанчын? Канешне, спяваць. «О, яшчэ адна спявачка з нашай палаты!», — канстатавала Анжэла. Пазней гэта стала звычкай — спяваць у душы і забаўляць бабулек з суседніх палат.

Вярнуўшыся ў палату, я наважылася пагаварыць з Кацяй, з якой, як мне здавалася, трэба сябраваць з-за аднолькавага ўзросту. Каця прыходзіла ад Касцяшкі позна, да апошняга абдымалася з каханым. Гутарка завязалася, але дужа пацягнула да сну.

Першы раз у жыцці я так хутка і моцна заснула.

* * *

Сем гадзін раніцы. Чую сваё прозвішча: клічуць на медпост *(Як можна добра сябе адчуваць, калі так рэзка падымаюць?)*. Ногі не ідуць, у вачах цёмна. Ціск 90/60. Сказалі, што гэта нармальна, лекі зніжаюць ціск *(Я ж прыйшла да вас, каб вы пазбавілі мяне гэтай млявасці, а вы што робіце?)*. Узялі кроў з пальца і з вены, зрабілі электракардыяграму, далі таблетку для апетыту і паклікалі снедаць.

Пасля снедання прыехалі бацькі *(Ева, трымайся, хутка пачнецца...)*. Каб сустрэць іх, давялося спусціцца ў вестыбюль. Павіталіся, падняліся ў аддзяленне. Селі на канапу ў калідоры, бо ў палату нельга. Бацькі ўбачылі пакой загадчыка, схапіліся зайсці ды пагаварыць пра мой безнадзейны стан *(Ну, канешне, мне самой вы цяпер не паверыце)*. Пайшлі, а я панесла ў палату прывезеныя з дому рэчы і пачастункі.

— Ну, дайгралася? — пытаецца бацька з характэрным спалучэннем злосці і шкадавання ў голасе.

Маўчу, толькі перабіраю рукой пальцы на другой руцэ. Мама абдымае мяне.

— Хопіць ужо перабіраць гэтыя пальчыкі худзенькія! Гэта ж нервы, ад нерваў не можаш пасядзець спакойна. Казаў жа табе не хвалявацца за ўсё, хаця што казаць, калі сам такі — кожную драбязу абдумваю. А памятаеш, я табе пра замкнёнае кола казаў? Успамінай пра яго, калі дрэнныя думкі ў галаву лезуць.

— Добрая доктарка ў цябе. Сказала як ёсць: кардыяграма кепская, стан крытычны, хвароба зацягнута. Але паспрабуюць дапамагчы, табе тут тры тыдні ляжаць, — растлумачыла мама.

— Мне сёння новую кардыяграму зрабілі.

— Можа, лепшая будзе. Усё наладзіцца. Трымай хвост пісталетам! Мы яшчэ прыедзем перад Новым годам.

— Прыязджайце, а мне трэба на гіпноз ісці. Яшчэ не ведаю, што гэта такое. Потым раскажу.

Паехалі — неяк адлягло ад сэрца. Сорамна мне перад бацькамі, сорамна. Вінаватая, сама ж сабе хваробу нажыла. А яны перажываюць разам са мной. Асабліва бацька. Але навошта сябе яшчэ больш накручваць? Што было — тое прайшло. Я ўжо тут, і цяпер трэба думаць, як ачуняць. Ужо другі дзень назіраю за людзьмі і магу зрабіць выснову: яны, патрапіўшы сюды, дужымі робяцца, а з тых, хто так і не імкнецца паправіцца, насміхаюцца, па-добраму, канешне, ды парады даюць. Вунь Юлька з адзінаццатай палаты ўжо з тыдзень ходзіць ніякая, не верыць у магчымасць вярнуцца да былога стану: калі вучылася і ўсміхалася, калі нечым займалася. Яна, мусіць, да ўсіх падыходзіла, каб знайсці падтрымку. Ды пакуль не знайшла — усе толькі вучаць яе. Апошняй яе надзеяй была я. Падышла Юлька да мяне і кажа:

— Ева, а ты таксама не адчуваеш паляпшэння? Табе дрэнна, так?

— Я толькі другі дзень тут, не магу сказаць адназначна. Але я радуюся жыццю, з людзьмі знаёмлюся. Цяпер на гіпноз пайду, ты не ідзеш?

— Мне там не падабаецца… — з такімі словамі дзяўчына адвярнулася і зноў скіравала хадзіць сюды-туды ў пошуках паразумення, а можа, ужо безнадзейна…

* * *

Сеансы гіпнозу праводзіліся ў другой частцы лякарні, і патрапіць туды без дапамогі я наўрад ці змагла б. Пашчасціла, што час сеансу быў самы папулярны: некалькі знаёмых рухаліся ў патрэбным мне кірунку. Я прыладкавалася за імі. Калі зайшлі ў пакой з шыльдай «Гіпнатарый», то ўсе знялі абутак. Потым псіхолаг правёў нас у іншы пакой, дзе стаяла шмат крэслаў, з цёплымі коўдрамі. Спінкі крэслаў былі такія высокія, што мы хутчэй ляжалі, чым сядзелі ў іх. Абгарнуўшы ногі коўдрай і прыняўшы ўтульную позу, мы заплюшчылі вочы і пачалі слухаць. Гэта былі гукі прыроды: булькатанне вады, спевы птушак, павевы ветру.

Псіхолаг увесь час нешта гаворыць. Як па мне, дык нейкую бязглуздзіцу: «уявіце, што вы там, дзе даўно хацелі пабываць, вам добра і ўтульна, вы знаходзіцеся сярод прыроды, ветрык абдзімае вас з ног да галавы, і па вашым целе разыходзіцца цеплыня…» Не бачачы нічога, адчуваю, што псіхолаг бясшумна падыходзіць да нас па чарзе і звяртаецца да кожнага па-рознаму. Колькі секунд — і раздаўся храп. Злева ад мяне сядзелі бабулькі *(Няўжо гіпноз мае сілу?)*. Сяджу і думаю, што мне няўтульна стала ў гэтым крэсле, не кажу ўжо пра транс. Так хочацца расплюшчыць вочы, а нельга, бо псіхолаг разупэўніцца ў сваёй сіле. Павольна-павольна цягнецца

час. Праз гадзіну бабулькі выйшлі з трансу *(Мусіць, на вас і сапраўды нешта ўздзейнічае… ці вы якраз выспаліся?)*. Ёсць магчымасць запісацца на персанальны сеанс. Згаджаюся *(Падаруйце мне надзею, што хоць штосьці/хтосьці зможа адарваць мяне ад рою думак)*.

Іду на прыём да фізіятэрапеўта. Нешта павінны назначыць. Абавязкова бяру кіслародны localhostкактэйль на дзесяць дзён, плачу грошы. Масаж не прызначаюць. Можна выбраць дзве бясплатныя працэдуры: адну ад асноўнай праблемы, другую — па жаданні ад хранічных хвароб. Спачатку бяру электрасон. Даўно чула пра гэту працэдуру, хацела паспрабаваць, каб паправіць свой сон. Сутнасць яе ў наступным: кладуся на ложак, на вочы надзяваюць гумавыя акуляры, якія ўздзейнічаюць на нервовую сістэму праз электрычныя вібрацыі; ляжыш так хвілін трыццаць, пакуль зноў не ўбачыш свет. Хтосьці, што характэрна, заўсёды ўмудрыцца заснуць, хаця лічыцца, што гэта працэдура дапамагае арганізму размяжоўваць фазы сну (ноччу) і бадзёрасці (днём). А што яшчэ выбраць? Доктарка просіць пералічыць захворванні. Пачынаю з галавы: нейра-цыркуляторная дыстанія з частымі сінкапальнымі станамі; далей вочы: міяпія сярэдняй ступені; вобласць шыі: хранічны аўтаімунны тырэоідыт у ступені гіпатырэозу, хранічны танзіліт; грудная частка: парушэнне вентыляцыі лёгкіх, кардыядыстрафія з тахікардыяй і пралабсам; брушная поласць: хранічны гіпертрафічны гастрыт і дуадэніт, інтаксікацыя печані; пераходзім на ногі: артроз. Прызначылі пракграванне суставаў.

Пасля вячэры прыходзілі аднагрупніцы. Пыталіся, на колькі дзён я тут. Казалі, што зрэнкі ў мяне пашыраныя, як у наркамана. «А што, на “колах” сяджу», — пажартавала.

Гэтым вечарам далі дзве таблеткі перад сном, для большай надзейнасці. Сон адолеў хутка, але прачнулася ад невыноснага болю ў грудзях *(Быццам набрынялі малаком. Адкуль я гэта ведаю, калі цяжарнай ніколі не была?!)*. Цярпела цэлы дзень, медсястра толькі пасмяялася з мяне. Нарэшце адважылася пайсці да доктаркі, хоць тая і папярэдзіла, што дні наведванняў — панядзелак і чацвер. Вырашыла адмяніць ранішнія лекі, якія для апетыту піла *(Як хвалявацца не трэба, то і апетыт — дай Божа кожнаму!)*, гэта яны мне не пайшлі. Паступова боль адступіў.

Пранеслася думка: «Наперадзе выходныя, працэдур няма, настаў час з усімі пазнаёміцца шырэй». На ціхай гадзіне ўсе палеглі. Слухаю ў навушніках Таццяну Беланогую *(Каб толькі плэер вытрываў…)*. Па той бок шыбы зацерусіў снег. Елкі ўжо настолькі пагнулі галіны, што новыя сняжынкі не маглі затрымацца надоўга, абсыпаліся. Вось яна — сапраўдная зімовая прыгажосць! Нельга вочы адвесці. Пішу некалькі няўдалых вершаў, але хутка кідаю гэтую справу: у вачах плыве, ціск увесь час нізкі.

* * *

Праз дзень гатовы аналізы. Вызвалі да ўрача. Наталля Сяргееўна сказала, што ўсе паказчыкі, у тым ліку сардэчныя, у норме, таму пакуль нічога новага прызначаць не варта. Потым, як заўсёды, спытала пра мой настрой, як сплю і як сябе ўвогуле адчуваю. Гаварыць не хацелася, бо ў пакоі мы знаходзіліся ўтрох: доктар, я і студэнт-практыкант. Апошні сядзеў і ўважліва слухаў усё, што я казала, а потым нешта запісваў у сшытак. Практыкантаў тут было некалькі, кожны дзень яны змянялі ўрачэбны пакой (акрамя Наталлі Сяргееўны ў нашым аддзяленні працуе знакаміты доктар Сарокін).

Іду да неўролага. Пастукалі па каленях і локцях, папрасілі паказаць зубы і язык, спыталі, ці ёсць жальбы — усё, як звычайна. Пакінулі запіс у картцы — напэўна, што здаровая. Добра, іду далей.

Адчыняю дзверы ў кабінет псіхолага. *(Вось гэты чалавек мяне паслухае!)*. Аляксей Андрэевіч сапраўды выслухаў уважліва, толькі па хуткай праграме, бо за мною яшчэ чарга пацыентаў. Ён неяк адразу пачаў паважаць мяне, калі расказала пра свае творчыя схільнасці. Прапанаваў прайсці некалькі тэстаў, зачытаў вынікі. Яны былі неадназначныя, супярэчлівыя *(Можа, так і трэба, бо мы ўсе бываем розныя ў залежнасці ад умоў і сітуацый)*. Штосьці супадала з рысамі майго характару. Але самае цікавае — псіхолаг сказаў, што, па дадзеных тэстаў, мая дэпрэсія на сярэднім узроўні. Потым даў анкету з чатырохстамі пытаннямі і запрасіў на «групу» *(А гэта што? Трэба спытаць у сваіх)*.

* * *

Наступныя дні пранесліся так хутка, што мне нават крыўдна зрабілася. Хацелася затрымацца тут як мага даўжэй, і на тое мелася шмат прычын: я добра спала, пазнаёмілася з цікавымі людзьмі, кожны дзень мяне наведвалі сябры, пра мяне клапаціліся не толькі медсёстры і доктар, але і суседкі па палаце. Калі ж гаварыць шчыра, то мяне апаноўваў страх перад новым, «вылечаным» жыццём. Ці змагу я апраўдаць надзеі? Трэба ж будзе экзамены здаваць, я не магу пайсці ў акадэмку і выкінуць з жыцця яшчэ паўгода.

Сябры прыходзілі кожны дзень. Так часта толькі мяне адну наведвалі, нават медсёстры па-добраму зайздросцілі, як шмат мне кветак і цацак нанеслі. А колькі пачастункаў! Іх прыходзілася раздаваць усёй палаце, есці па начах, калі не спалася. Памятаю, Вольга прачнулася аднойчы і кажа: «Ева, у цябе, я ведаю, зефір у шакаладзе ёсць, дай, калі ласка!» Упоцемку нешта навобмацак дастала, дала. То ж печыва ў шакаладзе было, але добра пахрумсцелі і доўга ўспаміналі.

Сорамна прызнацца, але мне нецікава было з сябрамі. Я хацела, каб яны прыходзілі, а калі прыходзілі, думала, каб хутчэй пайшлі. Прывыкла да лекаў і цяпер наадварот увесь час была ўзрушанай, на месцы пасядзець не магла. Цягнула да новых сяброў, тых, што знайшла тут, тых, каго бяда злавіла ў свае лапы, як і мяне.

* * *

Недзе праз тыдзень пасля мяне ў лякарню прыйшла хударлявая дзяўчынка, відаць, студэнтка. Вочы яе былі падведзены чорным алоўкам, ад чаго позірк рабіўся трошкі жахлівым. Яна заўсёды пазірала на мяне, калі праходзіла міма. Я любіла пісаць вершы, седзячы ў калідоры, — там можна было заўважыць новых людзей. Дарэчы, некаторых жанчын клалі ў мужчынскае крыло, таму што жаночае перапоўнена. Ляжаць сярод мужчын было нязручна: прыбіральня адна на крыло, таму жанчынам усё роўна трэба хадзіць да нас, у супрацьлеглы бок паверха. Тэлевізар таксама адзін, і, калі жанчыны хацелі паглядзець цікавыя для іх праграмы, зноў ішлі да нас, у іншым выпадку прыходзілася змагацца з мужчынскай цягаю да футбола ці хакея. Так я і «вылічыла» новую пацыентку.

Два разы на тыдзень Аляксей Андрэевіч, наш псіхолаг, праводзіў для нас сеансы групавой псіхатэрапіі (гэта і была «група»). Прыйшла туды і новая дзяўчынка. Убачыўшы мяне, села побач. Дакрануўшыся да маёй рукі ледзь чутна спытала, як

маё імя. Яе ж звалі Янай. Трошкі паразмаўляўшы з ёй, я зразумела, што тая жахлівасць у вачах насамрэч была сарамлівасцю і глядзела яна на мяне з надзеяй, што пасябруем. І мы пасябравалі. Яна, сямнаццацігадовая, толькі-толькі паступіла ў медыцынскі і не здолела вытрываць нагрузкі. Апынулася ў нашым аранжавым доме з самым распаўсюджаным дыягназам, які завецца маім нелюбімым словам.

Прыйшоў Саша. З Сашам мы пазнаёміліся ў сталоўцы, калі выпадкова селі за адзін стол. Гэта быў высокі бландзін з блакітнымі вачыма, у акулярах. Як і я, вучыўся на трэцім курсе, але па тэхнічнай спецыяльнасці — будучы праграміст. Гісторыя Сашы падалася мне цікавай не менш за ўласную. Па словах хлопца, ён сумяшчаў вучобу з працай, не спаў начамі, а аднойчы заснуў надоўга, колькі праспаў — сам не памятае. Потым звярнуўся да Аксаны Яўгенаўны, нашага агульнага псіхатэрапеўта са студэнцкай паліклінікі. Так апынуўся ў лякарні. З Сашам у нас з першага дня завязаліся даверлівыя адносіны, мы кожную вольную хвіліну сустракаліся і шмат размаўлялі, быццам пілі энергію і запал адзін ад аднаго. Мы гулялі па Серабранцы, наталяліся свабодай і радаваліся жыццю. Саша нават сказаў аднойчы, што кахае мяне, але своечасова зразумеў, што рабіць такія хуткія высновы небяспечна. Наш, здавалася, непарушны саюз разарваўся адным вечарам. Мы, як гэта часта здаралася, пайшлі на стадыён ляпіць снегавіка. Снежныя камякі так слушна пераўтвараліся ў руках хлопца ў нейкую істоту, што я не адважвалася падступіцца да іх.

— А чаму ты лепіш снежную бабу? Мы ж дамаўляліся, што гэты будзе снегавік… — з непаразуменнем спытала я.

— Ты хочаш снегавіка? Будзе табе снегавік! — з такімі словамі Саша пачаў разбіваць нагамі бабу.

У той момант хлопец нагадваў нейкага звера: з неймавернай злосцю ён махаў нагамі і выкрыкваў непрыстойныя словы *(Ці туды яго паклалі, куды трэба?)*. Не жадаючы яшчэ больш вывесці хлопца з сябе, я павольна пайшла да лякарні. Паваліў мокры снег. Мы доўга сядзелі ўсёй нашай моладзевай кампаніяй і чакалі Сашу. Ён не вяртаўся. Нават нашыя армейскія хлопцы (тыя, хто касіў ад войска ў лякарні) пачалі хвалявацца. Дзверы аддзялення зачыняліся ў дзевяць, а Сашы ўсё не было. Медсёстры пайшлі на пошукі, пагражалі, што за такі ўчынак могуць выклікаць 33-ю брыгаду (з Навінак).

Калі Саша вярнуўся, яго нельга было пазнаць: вымаклы да ніткі, без акуляраў. Ён ішоў, трымаючы ў руках сшытак і ручку. Мацюкі сыпануліся на адрас медсястры, якая хацела растлумачыць хлопцу, на што ён нарываецца. Выклікалі ўрача. Ён яшчэ больш імкнуўся напалохаць Сашу, але апошняга хвалявалі толькі згубленыя акуляры.

Неяк абышлося. Толькі я больш ніколі не гаварылі з Сашам па душах.

* * *

Праз колькі хвілін да нас далучыўся Дзіма, той хлопчык, які са мной і з Янай стварыў траісты саюз. Гэта быў васямнаццацігадовы юнак каля двух метраў росту з густымі валасамі, якія, адрастаючы, нагадвалі грыву. Ён, як і Яна, не адолеў першую сесію ў інстытуце, але калі тая з-за празмернай працавітасці, то гэты праз асабістую ляноту. Ён прыйшоў у лякарню наўмысна, дзеля даведкі, каб можна было афіцыйна ўзяць акадэмічны водпуск. Дзіма стаў для мяне любімым сябрам з тых, што знайшла тут. Ён заўсёды весяліў нас з Янай, выдумляў дзіцячыя гульні. З ім не страшна

было вечарамі збегаць на каток ці ў кінатэатр (на самай справе ўсе нашыя вылазкі, канешне, забараняліся). Дзіма ажыццявіў маю самую запаветную ў тую зіму мару: зляпіў снегавіка пад акном маёй палаты. А якім чынам ляпіў, ніколі не забуду: у якасці рота выкарыстаў мандарын, замест звыклай морквы на месца носа прыладкаваў агурок, а вачамі паслужылі кветкі (дзе ён іх узяў — не ведаю, але калі адразаў нажом сцяблiны, то парэзаў палец і крывёю пафарбаваў шчокі снегавіка). Дзіма выпісаўся за дзень да Новага года, але пра нас з Янай не забыў: прынёс кожнай па падарунку і феерверкі, якія мы запускалі ў лесе за лякарняй.

Нарэшце з'явіўся Аляксей Андрэевіч. Прапанаваў сагрэцца, як заўсёды. Мы ляскалі ў далоні, на хуткасць перакідвалі адну нагу на другую, хадзілі па крузе, церлі спіны сваіх суседзяў, выкрыквалі толькі нам зразумелыя гукі… — чаго мы толькі не рабілі, але нам было так весела, як ніколі. Многія, паправіўшыся і вярнуўшыся да нармальнага жыцця, наведвалі «групу» яшчэ на працягу некалькіх тыдняў, бо падчас такіх сеансаў кожны знаходзіў сябе, разбіраўся ў прычынах сваёй праблемы, адчуваў сябе не больш няшчасным за астатніх, а часцей — шчаслівым. Сюды прыходзілі і з трэцяга паверха — адтуль, дзе трымалі людзей з відавочнымі адхіленнямі псіхікі. Псіхолаг кожны раз выдумляў на хаду новыя тэсты, якія намі ўспрымаліся як цікавыя гульні. Мы разыгрывалі сцэнкі з жыцця. Па новаму перажыўшы сітуацыі з-за якіх траплялі сюды, мы цяпер інакш ставіліся да іх. Канешне, было цяжка, але, прыйшоўшы аднойчы, мы вярталіся ў «групу» зноў і зноў, кожны раз з лепшым настроем. Сам псіхолаг таксама весяліўся разам з намі, прысядаў і скакаў, нягледзячы на сваю дрэнна зрошчаную пасля пераломy нагу. Часта паўтараў, што пацыенты-неўротыкі самыя цікавыя, і расказваў, як склаўся лёс некаторых з іх.

Памятаю, як плакала Марына ў свой першы дзень. Яна страціла мужа сямнаццаць гадоў таму. Цяпер мела ўласны касметычны кабінет, кватэру, грошы, дзвюх дачок і ўнукаў. Ды не мела галоўнага — надзейнага пляча. Яна ўвесь час адчувала адзіноту. Грошы даўно перасталі яе цікавіць, хацелася быць патрэбнай для людзей. Асабіста мне гэтая жанчына імпанавала цалкам. Пазней і яе неяк пацягнула да мяне. Аднойчы Марына прыйшла ў нашу палату прасіць салёных агуркоў (чамусьці мы ўсе елі іх бязмерна, можа, з-за лекаў). Мяне не было на месцы, але Анжэла ведала, што ў мяне захаваўся літровы слоік са смачнейшымі агуркамі. Адкрылі без мяне. Потым Марына прасіла прабачэння за сваю нахабнасць. Я ж толькі радавалася яе так званай «нахабнасці». Мне было прыемна адчуць сябе карыснай для жанчыны, якая можа дазволіць сабе ўсё. Так і сталі хадзіць адна да адной з маленькімі просьбамі.

* * *

Дні няўглядна мінаeлі, а я ўсё мацней хацела застацца ў лякарні як мага даўжэй. Нават некалькі разоў прыходзіла да Наталлі Сяргееўны з новымі сімптомамі: то мае рукі сверб апанаваў, то сэрца зноў хутка б'ецца, то дэпрэсія пачынаецца *(Хоць цярпець не магу гэтае слова, але што не зробіш дзеля задавальнення ўласных патрэб)*. Канешне, доктарка мне не верыла, сказаўшы: «Ева, у каго-каго, а ў вас дэпрэсіі не было і цяпер дакладна быць не можа. Вы ж самая вясёлая ў нашым аддзяленні. Пасля Новага года прывяду дзяўчынку ў палату пад ваш нагляд».

Крыўдна: я іду на папраўку *(А можа і хваробы ў мяне ніякай не было, толькі хацелася больш размаўляць і быць патрэбнай…)*, мне не прызначаюць цудадзейных уколаў, ад якіх нашыя дэпрэсуючыя хутка ідуць у скокі. Як і раней, грэю ногі, хаджу

на электрасон, а гіпнатарый больш не наведваю. Індывідуальны сеанс — гэта амаль тое самае з адной толькі розніцай, што трэба ляжаць, а не сядзець. Мяне закрылі ў малым пакойчыку, дзе я ляжала ў ложку, добра накрыўшыся, і ўключылі музычны цэнтр з той самай музыкай, якую чула на першым сеансе. Транс зноў не атрымаўся, а спаць днём я не магу дзякуючы электрасну. Цешылася затое кіслародным кактэйлем. Яго настойвалі на карэннях травы «салодкі», з-за чаго ён быў адпаведна смачны, але з яўным прысмакам мяты, што не ўсім пацыентам прыйшлося даспадобы. Таму я заўсёды брала па два кубкі па кошце аднаго.

Перад Новым годам выпісалі шмат нашых: Анжэлу, Кацю, Галіну Міхайлаўну, манашку, Вольгу і Алену. З першапачатковага складу палаты засталіся толькі мы з Насцяй.

На месца манашкі прыйшла яшчэ адна Насця, жанчына трыццаціпяці гадоў, з карымі вачыма і чорнымі валасамі, паўнаватага целаскладу. Насця была замужам, мела сямігадовую дачку. У лякарню прыйшла другі раз і зноў перад Новым годам. Ведаю, што віною таму — яе праца і адносіны з калегамі. Насця паспела пасябраваць з Анжэлай, таму апошняя наведвала нас пасля выпіскі і мы ўтрох хадзілі ў горад.

Чым бліжэй да Новага года, тым ярчэй я адчувала радасць, што сустракаць яго буду тут, разам з новымі сябрамі. Адно жаданне спраўдзілася: я буду ў Мінску ў навагоднюю ноч. А дзе менавіта — не мае значэння. Мы з Янай купілі торт і шыпучы «сідар», збіраліся святкаваць сваёй кампаніяй, але не атрымалася так, як задумалі. Дзімы з намі ўжо не было, Саша рана пайшоў спаць, ды і ўвогуле нашыя адносіны засталіся ў катэгорыі «нуль».

Насця (якой дваццаць) прыбралася ў прыгожую святочную сукенку, планавала пасядзець з армейцамі. Другая Насця вырашыла паспаць, як звычайнай ноччу. А мы з Янай глядзелі тэлевізар, быццам не збіраючыся нічога рабіць. Адміністрацыя дазволіла нам ссунуць сталы ў сталоўцы і пасядзець усім аддзяленнем, але нядоўга. Так і зрабілі, прынеслі хто што меў, накрылі на стол, трошкі перакусілі. Піць жорстка забаранілі, таму што алкаголь уперамешку з таблеткамі можа прывесці да найгоршага выніку. Па гэтай прычыне большасць мужчын палегла спаць яшчэ да курантаў, а моладзь (нас засталося няшмат) пасля сталоўкі пасядзела каля тэлевізара. У гадзіны дзве нас разагнала медсястра.

### Частка III

Першага студзеня ніхто не будзіў. Я прачнулася ў восем раніцы і адчула, што добра адпачыла. Больш не трэба. Патэлефанавала бацькам, тыя ледзь зенкі прадзерлі, сталі збірацца да мяне. Узнялася завіруха, ехалі павольна. Можа, у дванаццаць дабраліся, напісалі заяву, каб мяне забраць на ўвесь дзень, павіншавалі загадчыцу, каб адпусціла.

Першы дзень Новага года быў незабыўным: упершыню ў жыцці я каталася на каньках з бацькам. Ведала, што ён, маладым, добра гуляў у хакей. Сапраўды, паказаў мне «клас». Пакуль я асцярожна, каб не закружылася галава, пракатвала адзін круг, ён праносіўся міма быццам чэмпіён. Мама назірала за намі і шчыра ўсміхалася.

Наступным пунктам у нашым маршруце быў мастацкі музей. Раней і падумаць не магла, што бацьку можа так зацікавіць жывапіс, — ён уважліва разглядаў кожную карціну, выказваючы свае меркаванні наконт стылю мастака і выкарыстаных фарбаў.

Час праляцеў хутка, але расставацца з бацькамі не шкадавала. Мяне ўжо цягнула ў палату, да ложка, дзе па той бок шыбы стаялі заснежаныя елкі і арыгінальны снегавік.

* * *

Пасля Сашынага ўчынку-псіхозу яго перавялі ў адзіночны пакой. Мы з Янай хлопца наведвалі, пакуль медсясцёр не было на месцы. Яна вучыла Сашу танцаваць, і хутка мы зразумелі, што між імі «прабегла іскра», натуральная, а не тая, выдуманая, што быццам была між мной і Сашам.

Доўга Саша не затрымаўся на новым месцы, яго перавялі да армейцаў. Цяжка яму было сярод здаровых хлопцаў, якія ўвесь час толькі і думалі, каб пакурыць ці збегчы куды. Не хапала ім і дзяўчат.

Ваенкамат накіроўваў хлопцаў у лякарню на меншы тэрмін, чым той, што адведзены для нас, — на два тыдні, толькі дзеля абследавання. Лёша, напрыклад, у дзяцінстве сонным хадзіў па начах, што стала сур'ёзнай перашкодай на шляху да войска. Яшчэ адзін Саша, здаецца, проста лынды біў. Але мы, дзяўчаты, сябравалі з імі, хадзілі гуляць у карты, — трэба ж неяк бавіць час.

* * *

Пасля свята пачалі прыбываць новыя людзі. Іх твары былі не такія засмучаныя, як у тых, хто прыйшоў сюды да Новага года. Падалося, што іхні стан не крытычны, паколькі адважыліся спачатку адсвяткаваць, а потым прыйсці па дапамогу.

Мой настрой пагоршыўся. Я не магла кантраляваць свае пачуцці. Адчула на сабе колішнія Каціны словы, калі тая ні з таго ні з сяго расплакалася на «групе»: «Нешта на мяне сёння накаціла…» Мабыць, лекі настолькі з'ядналіся з арганізмам, што перасталі ўздзейнічаць на яго. Першы раз за два тыдні з маіх вачэй раўчуком ліліся слёзы. Шкада зрабілася страчанага часу, шкада, што не магу ўбачыць Стасю і нават патэлефанаваць, каб пачуць родны голас.

Паўтара года мінула з той пары, калі сястра ўпершыню паляцела ў Амерыку. Спачатку злавала на яе, што кінула мяне і бацькоў. А цяпер толькі сумую. Правільна яна зрабіла, што вырвалася з нашага асяродку. Жыве цяпер, прыпяваючы, і галава ні пра што не баліць.

Доўга я плакала, успамінаючы былыя гады, калі спалі з сястрой у адным ложку, гаварылі пра ўсё на свеце начамі, часам аж да ранку; як сядзелі на лаве пад зорным небам і пілі гарбату з малінамі; як вырашалі, што трэба абавязкова ўзяць з сабою ў дзіцячы летні лагер, што каля возера Свіцязь, і шмат-шмат чаго яшчэ.

Першы раз я заснула на «ціхай гадзіне», а прачнуўшыся, пашкадавала, што вярнулася ў рэальнасць, дзе зноў пачну сумаваць. Не цешылі мяне Дзімавы забавы, не прыносілі радасці наведванні сяброў. Нічога не хацелася. Зусім нічога. Цяпер веру, што так бывае!

А сняжынкі ўсё падалі, праз шыбу яны здаваліся прыгажэйшымі, не тое што калі сам знаходзішся на вуліцы і ловіш іх рукавічкамі. Шыба аддзяляла той, людскі свет, ад гэтага, бальнічнага. Тут усё было інакш: ніхто нікуды не спяшаўся, ніхто ні з кім не сварыўся, кожны гатовы быў дапамагчы іншаму ў цяжкую хвіліну, тут не было шуму аўто і цягнікоў, не было адвечнай людской гонкі…

* * *

Шмат пацыентаў траплялі сюды з дыягназам «панічныя атакі». Гэта значыць, што людзі не маглі знаходзіцца там, дзе існуе патэнцыйная небяспека. Іх сэрцы пачыналі біцца так хутка, быццам хацелі пакінуць целы, дыхаць рабілася цяжка, тады і з'яўлялася боязь страціць прытомнасць там, дзе іх ніхто не заўважыць і не дапаможа. Як толькі такія пацыенты аказваліся ў сценах лякарні — паніку як рукой здымала, людзі пачыналі жыць.

Штосьці падобнае адчувала я раней, да прыходу сюды, і цяпер, калі надышоў час вяртацца ў звычайнае асяроддзе. Што чакае там, за ўлюбёным лесам? Ніхто не мог даць адказу на гэтае пытанне. Але тыя, хто завітваў пасля выпіскі, казалі, што здзейснілі задуманае, а цягі да новых адкрыццяў у іх — хоць адбаўляй. Такія навіны падбадзёрвалі, але не давалі ніякіх гарантый.

На месца Анжэлы прыйшла да нас новая дзяўчынка. Выглядала яна на гадоў дваццаць, таму я ўзрадавалася, што магу займець новую сяброўку. Надзеі мае спраўдзіліся, нягледзячы на тое, што Машы на самай справе было дваццаць пяць. Гэтая дзяўчына атрымала творчую адукацыю і добра малявала, што не магло мяне не зацікавіць. Жыла яна з мамай, таму грошы зарабляла рознымі шляхамі, апошнім з якіх было казіно. Маша, чарнавалосая і стройная, апраналася як падлетак, а не дарослая жанчына.

Першыя дні Машы было цяжка. На ўсю моц адчула яна на сабе ўздзеянне лекаў: ледзь не страціла прытомнасць, з'ехаўшы па сцяне з бялюткім тварам. Шмат дактароў тады бегала каля яе, а яна думала, што дарма звярнулася да іх, — згубяць яны яе. Можа, дзён пяць мінула, пакуль палепшала. Тады і пасябравалі мы. Маша была з тых людзей, з якімі можна пашаптацца па начах, як я гэта люблю рабіць. А потым аказалася, што ў нас агульныя знаёмыя ёсць у Навагрудку.

Злева ад мяне, дзе раней спала Вольга, размясцілася дзявятнаццацігадовая Каця. Гэта дзяўчына, відаць, прывыкла жыць на шырокую нагу, таму ўмовы, у якіх апынулася, характарызавала аднаслоўна: «Кашмар». З ёй мы таксама знайшлі агульную знаёмую, а яшчэ цікавасць да хірамантыі — мастацтва чытання па лініях рук. Расказвалі адна адной, што бачым у гэтых лініях, потым і ўся палата далучылася. Як ні круці, а прадказанні нашыя станавіліся праўдай.

Тую ж дзяўчынку, што Наталля Сяргееўна адправіла пад мой нагляд, клікалі Ганначка. У яе была глыбокая дэпрэсія, прычына якой, даю сто працэнтаў, каханне. Яна ні з кім не хацела гаварыць першыя дні, толькі глядзела фільмы па ноўтбуку цішком, пакуль не хадзілі правяраючыя. Седзячы пад коўдрай і насунуўшы на нос акуляры, дзяўчына нагадвала маленькае шэрае пацучаня, хаця я ведала, што яна яшчэ ўсім нам дасць дыхту. Ганначка вучылася на трэцім курсе біялагічнага факультэта, а бацька яе быў хірургам.

Неяк на Каляды прыйшла да нас Марына і падкінула ідэю паваражыць на суджанага. Спачатку ўзялі па адным тапку кожнай незамужняй дзяўчыны і выставілі ў рад. Потым па чарзе перастаўлялі, накіроўваючы да дзвярэй. Калі не памыляюся, то першай па варажбе, павінна выйсці замуж Марына, затым Ганначка, Каця, а тады ўжо я. Маша недзе напрыканцы. Можа, глупства такім займацца, але да Марыны заляцаўся адзін з нашых пацыентаў, а Ганначка з Кацяй хутка пасля выпіскі знайшлі жаніхоў (але гэта ўжо іншая гісторыя).

Прыйшла да нас яшчэ трыццацісямігадовая Алена. Жанчына выглядала зусім гаротнай. Зірнуўшы на яе, можна зразумець: у сям'і ёсць п'яніца. Так і

было. Муж Аленчын піў і ў дадатак біў яе, а яна гадавала хлопчыка гадоў шасці і цягнула на сабе яшчэ будоўлю дома. Заняткі ў «групе» трохі разняволілі яе, яна пачала ўсміхацца.

А я ўсё бедавала, што мой тэрмін заканчваецца…

## Частка IV

Адным ранкам пранеслася чутка, што загадчыца аддзялення сама правярае палаты. Залішне насцярожаныя, мы потым зразумелі, што прыход правяраючых даў добрыя вынікі: мы хоць у тумбачках парадак навялі. Загадчыца туды, канешне, не зазірнула.

У той момант мы з Ганнай сядзелі на ложках з размалёўкамі і рознакаляровымі фламастарамі ў руках. Размалёўкі мне прынёс сябра, які ведаў, што ў лякарні я без іх не магу, — трэба ж чымсьці займацца. Так і павялося, што кожны раз, як трапляла ў лякарню, атрымоўвала размалёўкі ў якасці падарунка ад былога аднакласніка.

Наталля Сяргееўна, спытаўшы пра самаадчуванне, звярнула ўвагу на наш занятак. Твар яе непрыгожа скрывіўся ад нечаканасці ўбачыць дзевятнаццацігадовых дзяўчын, якія фарбуюць малпаў і мядзведзяў з вядомых мультфільмаў. Крыўдна мне стала тады. Ганначка цалкам са мной згадзілася, што ўрач-псіхатэрапеўт не павінен дазваляць сабе падобныя асуджэнні *(Ці не вы казалі пра тое, што нават у самай цяжкай сітуацыі трэба займацца прыемнымі для душы справамі?)*. І нічога не зробіш, калі чытаць разумныя кніжкі я не магу: па-ранейшаму кружылася галава ад лекаў.

* * *

Хацелася спяваць. Ды сорамна неяк. Мяне дзяўчаты пачалі прасіць праспяваць хоць некалькі радкоў з якой-небудзь песні. Тады я ішла ў прыбіральню і распявалася. А Маша з Ганначкай раз падслухалі пад дзвярыма, сказалі, што голас у мяне сапраўды ёсць. Тады я перастала саромецца — спявала і перад Машай, і перад бабулькамі ў душы, і ў лесе за лякарняй. Чарговы раз упэўнілася, што пахвала людзей надае сілы і веры ў саму сябе. Гэта як доказ таго, што я чагосьці вартая і не трэба так сябе заганяць.

Знайшла ў сабе сілы і дзеля вершаў. Яны ўжо лягчэй пісаліся і былі не такія няўдалыя, як адразу. Напэўна, жыццё пацыентаў змянялася да лепшага дзякуючы не дактарам, а асяродку ды абставінам, апынуўшыся ў якіх, людзі самі мянялі сябе. Той, хто лічыў сваё прыбыванне ў лякарні чорнай паласой ў жыцці, — вяртаўся да папярэдняга асабістага ўзроўню (адносна стылю жыцця, стаўлення да праблем і г. д.). А тыя, хто ўспрымаў лячэнне як новы і карысны жыццёвы досвед (да ліку такіх пацыентаў адносілася я), — пераводзілі сваё жыццё на новы, вышэйшы ўзровень.

Аднойчы на «групе» ў мяне атрымалася поўнасцю адысці ад звычайных думак, якія незалежна ад жадання перапаўнялі ўвесь час галаву. Расслабіцца нарэшце атрымалася. Як звычайна, Аляксей Андрэевіч уключыў прыемную музыку, мы ўтульна размясціліся ў крэслах і пачалі марыць, разважаць, уяўляць сабе нешта. А мяне раптам закружыла, нібы на арэлях. Гэта было так цудоўна, быццам танец з незнаёмым чалавекам, які зліўся з маёй душой.

Рэзкай змены настрою больш не адчувала. Весялосць і новыя сілы ішлі з глыбінь маіх магчымасцей. Толькі выпіска ўсё яшчэ наводзіла сум. Хаця думкі пра новае жыццё змагаліся з гэтым сумам і часцей за ўсё перамагалі.

Па той бок шыбы, не ўтаймоўваючыся, ішоў снег. Елкі за акном усё яшчэ былі маімі. Так, я лічыла сваёй уласнасцю ложак, тумбачку, крэсла, бялізну і гэтыя высокія заснежаныя елкі. Чаму? Здаецца, нікога яны не цікавілі і не вабілі так, як мяне. А яшчэ ў мяне быў снегавік. Ды яго разбурылі рыдлёўкамі дворнікі. І чым ён каму замінаў? Шкадавання і радасці было ў маім сэрцы прыблізна аднолькава, калі я пазірала на вуліцу па той бок шыбы…

* * *

Апошні тыдзень майго тэрміну надышоў хутка. Здаецца, толькі-толькі пераступіла ганак дзіўнай установы, і вось праз тыдзень выпіска. А ці выратавана я?

У панядзелак, як належыць, прыйшла да загадчыцы аддзялення.

— Ну як вы, Ева? — доктар задала звычайнае пытанне.

— Насамрэч добра, але кажучы шчыра, я не хачу выпісвацца, — на гэты раз выбрала іншую тактыку: не выдумляю неіснуючых сімптомаў, а проста расказваю пра свой сапраўдны стан.

— Вы ж ведаеце, што больш 28 дзён нельга…

— Вы казалі, што 29 можна ў асаблівым выпадку. Дык у мяне якраз такі выпадак: у бацькі дзень народзінаў выпадае на мой 29-ы дзень. Я яму сюрпрыз хачу зрабіць.

— Добра, Ева. Гэта ў маіх сілах. У нас некаторыя ўвогуле застацца просяцца, бо прывыкаюць да распарадку, знаходзяць сяброў. Тут яны сябе дужымі адчуваюць, а як толькі за дзверы — страшна. А ў нас жа кормяць бясплатна, даглядаюць. Я разумею нашых пацыентаў. Толькі тут ужо я не ўсемагутная.

— Дзякуй. Я абавязкова прыйду да вас пасля выпіскі. Тым больш, на «групу» хадзіць збіраюся.

Выйшла з пакоя з усмешкай. Мала хто разумеў мяне ў той момант. Як там ні было б, але людзі сумуюць па доме і сям’і, хочуць хутчэй уцячы адсюль. А я радавалася дазволу застацца на яшчэ адзін дзень.

* * *

Быў у нас пацыент Мікола. Гэта пра яго казалі, што жыве ён у свеце галюцынацый. Ён зусім малады хлопец. Знешне адразу бачылася, што ён не такі, як усе (я не бяруся называць яго хворым, бо хто-хто, а я ўжо дакладна ўпэўнілася, што мы не хворыя, мы проста больш эмацыйныя і, не пабаюся гэтага слова, таленавітыя, а часам увогуле геніяльныя). Аднак Мікола быў такім не заўсёды (ён і цяпер працуе на заводзе, там яго паважаюць). Проста ў адзін момант ён стаў бачыць тое, што не бачаць іншыя. Але для яго гэта было так нечакана і незразумела, што ён стаў асцерагацца, каб хто з людзей чаго не заўважыў. І пачаў жыць ва ўласным свеце і часам нават шчаслівым выглядаў.

Аднойчы прыйшла паглядзець тэлевізар і бачу, што адзін глядач сядзіць — Мікола. Якім жа было маё здзіўленне! Хлопец глядзеў праграму «Давай пажэнімся». Я спытала, чым яна прыцягнула ўвагу хлопца. На гэта Мікола рашуча адказаў, што хоча знайсці сваю каханую і ажаніцца з ёй. І я яму паверыла! Паверыла гэтаму

нязграбнаму, няголенаму, нечасанаму хлопцу, якога ўсе абыходзілі бокам. Я ведала, што такія людзі, як ён, так проста не здаюцца — усё ў яго атрымаецца.

І такіх пацыентаў было шмат. Крыўдна, што некаторыя клічуць іх «уродамі». Я наадварот узрадавалася, што такія людзі ёсць — такія, хто здольны знайсці ў цяжкім не па іх віне жыцці радасць для сябе і сэнс. Нягледзячы на ўсе перашкоды і асуджальныя позіркі, смела ісці па выбранай дарозе.

Марына стала значна весялейшая. У лякарні яна забылася пра адзіноту. Тут непатрэбныя былі звыклыя для яе марцыпаны, касметыка... Тут было тое, чаго ёй так не хапала, — людскія стасункі.

Маё сэрца радавалася ад таго, што ўсім добра. Усе пастунова рабіліся шчаслівымі. А мне самой чаго не хапала? Удзельнічаць у працэсе пераўтварэння звычайных людзей у шчаслівых, тым больш, быць карыснай для іх, не наносячы шкоды самой сабе.

* * *

Шмат хто захварэў з аднапалатніц на прастуду. Адна я ніяк не магла затэмпературыць. Нават калі на снезе ляжала, хвароба праходзіла міма. Крыўдна стала, што ўсе у ложках, не было з кім нават і пагаманіць, не тое што схадзіць куды. Размаўляць на ціхай гадзіне таксама нельга было: гэта замінала хворым, якім пры тэмпературы ўсе гукі здаваліся занадта гучнымі.

Сябры наведвалі да апошняга. Кожны дзень. Я, калі занятку лепшага не знайшла, зрабіла спіс самых адказных сяброў. Я была ім ўдзячна за такую пяшчоту, але мне чамусьці рабілася сумна побач з імі праз некалькі хвілін пасля іх прыходу. Надакучлівыя пытанні кшталту: «Як тваё самаадчуванне?» ці «Можа, ідзеш на папраўку?» выклікалі маланку ў маіх вачах. Адразу думалася: «Хутчэй бы яны пайшлі».

Мабыць, як і Мікола, я ўвесь час жыла ў сваім свеце, незразумелым і, напэўна, нябачным для іншых. А тут, у лякарні, я і сама адчула існаванне «майго» свету напоўніцу. Я ўжо не магла прымушаць сябе рабіць тое, што хтосьці калісьці прыдумаў і прыняў за ісціну. А магла толькі слухаць сваё сэрца ды інтуіцыю.

* * *

У апошні вечар пайшла на стадыён адна. Я палюбіла гэтую тэрыторыю, сярод лесу, з яе прасторай і пратаптанымі сцежкамі.

Легла на снег і пачала варушыць нагамі і рукамі, малюючы такім чынам анёла. Уставаць не хацелася. Марознае зорнае неба вабіла невыказна. А заснежаныя елкі шапталі: «Ты свабодная, Ева…»

*Наталля ЦВІРКО*

# КАБ ПРА ГАЛОЎНАЕ СКАЗАЦЬ

* * *

Што раскідала нас жыццё,
З табою мы не вінаваты.
Відаць, за наша пачуццё
Такая вызначана плата.

У тваіх задумлівых вачах
Лаўлю нясмелае прызнанне,
Ды толькі птушкі па начах
Не нам спяваюць пра каханне.

Хоць дотык рук тваіх агнём
Мне сэрца зноўку апякае,
Але ж не поруч мы ідзём —
Мы розныя дарогі маем.

Што раскідала нас жыццё,
З табою мы не вінаваты,
Навошта ж нам за пачуццё
Такая вызначана плата?

* * *

Басанож па апалым лісці
Наўздагон за імклівым шчасцем.
Падалося, яно ўжо блізка,
Толькі лёс, як заўжды, не лашчыць.

А дарога бяжыць бясконца,
І прастор — як акінуць вокам.
Вось, здаецца, кранущца б сонца,
Толькі вельмі ж яно далёка.

І хай лёс не заўсёды лашчыць,
Кожны крок аддаецца болем —
Наўздагон за імклівым шчасцем
Я пайду. Але не з табою.



***Наталля Цвірко нарадзілася 1 ліпеня 1980 года на станцыі Скрыбаўцы Шчучынскага раёна. Працуе настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў Скрыбаўскай СШ. Выступала з вершамі ў абласным друку, у газеце «Літаратура і мастацтва», часопісе «Маладосць». Напісанне вершаў параўноўвае са споведдзю душы.***

* * *

Ты не кліч маё сэрца зноўку,
Бо і так мне мацней баліць.
Зацягнулася наша вандроўка,
Але нельга яе спыніць.

Мы з табой, як заўжды, далёка,
А мо, сталі усё ж бліжэй?
Сонца ў небе яшчэ высока,
Ды дарога ж усё цяжэй.

Можа, трэба даўно спыніцца,
Можа, трэба цябе забыць?
Ды з гаючай вадой крыніца
Не змаўкае, яшчэ звініць.

Ну і што, што на сэрцы раны,
Ну і што, што мацней баліць!
Мой адзіны і мой каханы,
Без цябе я не ўмею жыць!

**НЕ ПАКІДАЙ**

Не пакідай… Я не паверу,
Што больш са мной цябе няма.
Як выжыць без твайго даверу,
Калі вакол снягі, зіма.

Не пакідай… Усё мінае,
Праходзяць радасць і сляза.
А я спаткання ўсё чакаю,
Каб пра галоўнае сказаць.

Не пакідай… Ну як растацца?
Заціхне сэрца без цябе.
З табой мне радасна смяяцца,
Сумую я, як ты ў журбе.

Не пакідай… Я не паверу!
Я без цябе не ўмею жыць.
Не падмані майго даверу,
Маё каханне зберажы…

* * *

Засмяглыя вусны шапталі малітву,
Імкнулася словы душа падабраць,
Як сэрцу патрэбны надзея і літасць,
Як сэрца чакае спагады, дабра.

Пачуй сваё сэрца. З далёкай дарогі
Вярніся туды, дзе ў празрыстай цішы
Над радасцю светлай,
над сумам-трывогай
Плыве між аблокаў малітва душы.

* * *

Дагарае у скверах восень,
На зялёнай траве — агонь,
А душа зноў надзеі просіць
І дазволу пабыць з табой.

Летуценне, збавенне, вечнасць
Застануцца табе і мне.
А на зорным шляху, на Млечным,
Толькі сум па былой вясне.

Апякае твая самота,
Невядомасць — яшчэ цяжэй.
Засыпаюцца пазалотай
Думкі-мары маіх начэй.

Не пачуеш, а мо, не трэба.
Будзе так, як павінна быць.
Зноў уранні святлее неба —
Будзе дзень, і патрэбна жыць.



*Міхась КАРПЕЧАНКА*

# НЯРУСКІ

*Апавяданне*

*«Аўстрыяк адыходзіў шпарчэй. Рускі павалюхаў марудна і няскладна, як мядзведзь. Яго прыціснула тое, што не меў часу падумаць, як гэта што было. Ён хапаўся ўцяміць, ці ўсё добра ён рабіў. І калі раптам блiснула яму ў галаве, і ён, каб не спазніцца і каб пасля не шкадаваць, што быў варонаю, ён, ужо ступіўшы разоў дзесяць, сказаў сам сабе: «Э, што ж я за ваяка». І не сказаў, толькі бліснула яму так у галаве... Павярнуўся, злажыўся стрэльбаю і без дум пацiснуў пальцам:*

*— Так!*

*Гул быў глухі і невялікі. Аўстрыяк спачатку зарыўся носам і бразнуў бляшанаю пляшкаю, з якой пілі гарэлку, аб сваю стрэльбу. Потым перавярнуўся дагары тварам — і вельмі жалосна і з працягам застагнаў.*

*Калі Рускі падбег і нахіліўся над яго чубатаю шапачкаю і даўно падстрыганымі вусамі, дык у цямноце мала чаго ўбачыў, але пачуў, як ён яшчэ дадаў, гаворачы быццам аб нейкім трэцім:*

*— Што ж цій москаль наробыв... Зостанэцця моя жынка і дзіты...»*

Максім Гарэцкі, «Рускі»



***Міхась Карпечанка нарадзіўся 14 лістапада 1959 года ў вёсцы Болін Краснапольскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Працаваў на будоўлях Маладзечна і Мінска, у рэдакцыях чэрыкаўскай і бялыніцкай раённых газет. Пісьменнік, журналіст, краязнаўца. Цяпер — галоўны рэдактар бялыніцкай раённай газеты «Зара над Друццю».***

Гэты ліхаманкавы бой скончыўся нечакана шчасліва для ўсіх трох разлікаў агнявога ўзвода супрацьтанкавай абароны, раптоўна знятых з паспешлівага маршу стралковага палка гадзіны тры назад з загадам не прапусціць нямецкія танкі, трымацца да апошняга. Колькі іх будзе і калі, хоць прыкладна, яны павінны былі з'явіцца тут, на гэтым пакуль што знямелым і, здавалася, такім разложыста неабсяжным лузе, ахапіць які не хапала нават пазірку, — пра гэта сярдзіты і заклапочаны нечым камандзір батальёна не абмовіўся і словам. Паставіў баявую задачу. І — кропка. А, можа, ён і сам не ведаў таго.

Змучаныя доўгім маршам, саракапятчыкі нярадасна паспяшаліся ўжо прылічыць сябе да безнадзейных смяротнікаў. Хоць кожны з іх спадзяваўся выжыць у наканавана немінучай калатнечы і пакрыёма цешыў сябе няпэўным спадзевам на спагадлівы цуд.

Яно і зразумела: каму ж хочацца на векі вечныя з дзіркай у галаве прылегчы на гэтым лапіку чужой зямлі?

Аднак, калі ідзе вайна, то, вядома, павінны гінуць і людзі.

Але бой яшчэ на самым пачатку чамусьці падатліва змарнеў, так і не здолеўшы разгарнуцца ў тую нястрымана гарачую напружанасць, калі зыход яго вырашаюць лічаныя мінуты, апошнія калівы вынослівасці асатанелых байцоў ды звычайнае, толькі ўжо вельмі пераменлівае на вайне, шанцаванне.

Артылерысты не панеслі страт, хоць упарыліся і добра папеapproxжывалі. Самае важнае — усе яны засталіся жывымі.

У трэцім разліку сяржанта Грыбанава не аказалася нават аніводнага параненага.

Нейкія бязладныя, спарадычныя стрэлы нямецкіх танкавых экіпажаў чамусьці клаліся абы-як: выбухалі то далёка за спінамі, за няроўнай хрыбцінай бальшака, то ўздыблівалі дзірван папераздзе, не далятаючы да гарматы на некалькі дзясяткаў метраў. Такая страляніна шкоды не прычыніла, адно толькі натаміла ды добра папужала змардаваных маршам і ўяўленай немінучасцю свайго салдацкага лёсу саракапятчыкаў.

Фрыцы выявілі сябе не толькі няўмекамі, але і баязліўцамі ці то звычайнымі перастрахоўшчыкамі.

Падносчык снарадаў трэцяга разліку баец Крывашапенка заўважыў, што наступалі на іх, няйнакш, нямецкія штрафнікі. Таму і не пажадалі яны класці свае разумныя галовы за паганага фюрэра: пастралялі і рынуліся назад. А немцы, маўляў, загараджальных атрадаў не маюць і адступаць ім пад пагрозаю расстрэлу яшчэ не забаронена...

Праўда, гэты скупы салдацкі жарт з даволі празрыстым намёкам ураз скамечыў нізкаберослы і вельмі задзірысты замковы разліку яфрэйтар Глотаў.

— Нямецкая бранявая армада, — запярэчыў ён павучальна, як ротны палітрук, — напаролася на мужнасць байцоў нашага шматнацыянальнага агнявога ўзвода і пад трапнымі стрэламі гарматчыкаў вымушана была адступіць. Наша справа правая, перамога будзе за намі. Няхай жыве вялікі і неўміручы таварыш Сталін!

— На вайне, як на вайне, — па-будзённаму, проста і абыякава, азваўся камандзір агнявога разліку сяржант Грыбанаў. — Адным шанцуе, іншым — не. У баі стратэгія і тактыка ясная: адзін-два байцы спудлуюць, і ... Падмазвай пяткі.

І ўсё ж такі нават бывалыя артылерысты не зразумелі гэтага бою, не маглі разгадаць намеру фашыстаў. Чаму танкі толькі падражніліся? Іх выперлася на пазіцыі ўзвода дзясяткі са тры. Такой сілай усе тры разлікі пушкароў яны маглі б лёгка змяць, пакласці пад гусеніцы, размазаць па перасохлым, калючым дзірване. Але і на гэту задачку знайшлося ў пляскатай галаве сівавусага сяржанта Грыбанава на дзіва простае, як і ўсё геніяльнае, рашэнне: маўляў, тут няхай раздумваюць старшыя камандзіры. А задача байцоў яго разліку — спраўна біць немца ды без пярэчанняў і ныцця выконваць дакладна і ў тэрмін усе загады начальства. Для іх першым камандзірам з'яўляецца ён, сяржант.

— Біць хоць бы вось так, як сёння, — удакладніў камандзір і паказаў пальцам на два плямістыя танкі, якія застылі на лугавіне. Гэта пастараліся гарматчыкі яго разліку, і Грыбанаў не хаваў свайго задавальнення.

А ў неглыбокай нізіне, за грываю нізкарослага бярэзніку, асмужанага і ўжо прасветленага блізкім подыхам ранняй восені, у паласе абароны другой агнявой кропкі, і далёка злева, на схіле пагорка, дзе стрымліваў немцаў першы разлік, таксама дыміліся падбітыя некалькі «тыграў» ды «пантэр».

Астатнія ж нямецкія экіпажы не сталі выпрабоўваць непрадказальны лёс. Самахоць, а, можа, і па загадзе, паспешліва павярнулі назад і ўжо растварыліся

ў бяскрайняй прасторы аблогі, збітай узгоркамі і ярамі, аздобленай разлапістымі копнамі зрудзелага кустоўя ды вычварнымі па сваёй форме астраўкамі змешанага лесу.

Непадалёк ад падбітых танкаў, на пажоўклай за спякотнае лета траве, мышастымі капешкамі сям-там шарэлі трупы нямецкіх салдат. Ляжалі танкісты і тыя, хто, верачы толькі ў сваю сілу і перамогу, безуважна сядзеў на бронемашынах.

— Завярнулі, гадаў! — старанна выціраючы падолам запэцканай у пясок гімнасцёркі спатнелы, мурзаты твар, па-дзіцячы радаваўся ездавы Іваноў. — Далі Гітлеру дыхту! Ага, не чакалі. Гады! Спудлавалі, ваякі!

Іваноў, як і зараджаючы Ермаловіч, у разліку Грыбанава навічок. Абодва яны з нядаўняга папаўнення. Розніла іх, праўда, тое, што Іваноў — баец яшчэ зусім не абстраляны, і гэты бой — першы ў ягоным маладым жыцці.

Ермаловіч пражыў паўвека і на фронце знаходзіўся ад самага пачатку вайны.

Пасля кулявога ранення ў сцягно і сямі месяцаў шпіталя, мабыць, па недаразуменні штабістаў ён трапіў не ў свой стралковы ўзвод, а быў залічаны ў артылерыю. Спачатку, як толькі даведаўся пра гэта, нядаўні пехацінец наважыўся рашуча аспрэчваць сваё нечаканае пераразмеркаванне, але, добра паразважаўшы, супакоіўся. Змірыўся з лёсам, пэўна ведаючы, што службістам-канцылярыстам са штабоў яшчэ ніхто з байцоў нічога і ніколі не даказаў. Дык навошта яму нервы трапаць ды нарывацца на лішнія непрыемнасці? Перажыве і гэта. Не было б толькі няшчасця большага.

Хоць, якая, зрэшты, розніца, дзе ў безнадзейнай сумятні вайны салдату ваяваць? Галоўнае тут для яго — як надаўжэй застацца цэлым і ўберагчыся ад калецтва, не растрэсці па каліўцу сваю чалавечнасць.

— Сяржант, — седзячы на парожняй снараднай скрыні, звярнуўся Глотаў да камандзіра разліку, — прабягуся… Гансікам вочы іхнія паганыя пазакрываю?

Грыбанаў, думаючы пра нешта сваё, маўчаў, а, можа, і прыкінуўся, што не чуе свайго нахабнага намесніка. Яфрэйтар, падфутболіўшы выстраленую гільзу, спаважна паклыпаў да камандзіра.

— Вялікі грэх, кажу, такую магчымасць упускаць, сяржант! — Глотаў упіўся ў Грыбанава лупатымі, як у жабы, вачыма. — Збегаю?

— А раптам вернуцца? — быццам апраўдваючыся, запытаўся сяржант.

— З перапуду яны яшчэ дні тры кальсоны мяняць будуць, — самаўпэўнена працадзіў Глотаў. — Іх пасля нашай прачуханкі сам Адольф не зможа прымусіць варочацца. Бачыў, як драпанулі?

— Твой занятак… — злуючыся, скрывіў тонкія вусны сяржант. — Не па-людску гэта, Глотаў!

— А фашысты людзі? Забыўся, камандзір? Дык пайду я? Пааўфідэрзэйкаюся…

Яны абодва добра ведалі, што будзе менавіта так, як надумаўся зрабіць Глотаў. Не ў першы раз яфрэйтар выпраўляецца «закрываць забітым немцам вочы» — па трафеі.

Залішне сціплы, дабрадушны і крышачку баязлівы сяржант у такія моманты заўсёды ненавідзіў сябе за бесхрыбетнасць, якая не дазваляла яму паставіць на месца свайго выскачку-намесніка. Бянтэжыўся і ад таго, што не мог знайсці патрэбныя словы, каб давесці яму ўсю мярзотнасць рабаўніцтва. Перад адкрытым нахабствам у меру інтэлігентны камандзір заўсёды пасаваў, губляўся, не ведаючы, як запярэчыць. І — саступаў. Такое здаралася ўжо не адзін раз.

А потым сяржанта доўгімі ціхімі начамі няшчадна «грызла» бязлітаснае сумленне.

З другога боку, было чаго Грыбанаву асцерагацца яфрэйтара. Ні для каго ва ўзводзе не з'яўлялася сакрэтам, што Глотаў меў грознага заступніка. І гэта надзвычайнае ліха стрымлівала, іншы раз нават спаралізоўвала, камандзірскую ўпэўненасць сяржанта.

— Паўгадзіны табе даю, — дазволіў адлучыцца Глотаву абнядужаны камандзір разліку. — Што мне з табой рабіць, яфрэйтар, калі такім ты ўрадзіўся? І, гэта самае, на ўсялякі выпадак, для падстрахоўкі вазьмі…

Грыбанаў павольна абвёў надломленым паглядам невялічкі гурт зморанных падначаленых:

— Іваноў! Ермаловіч! З яфрэйтарам пойдзеце. Да танкаў.

Каля сашніка правай станіны гарматы Глотаў ужо спрытна слаў брудную брызентавую палатку. Потым наўскоч збегаў да акопчыка, адкуль прынёс свой важкі заплечнік. Запыхкана спаражніў яго на палатку. Усё гэта нарабаванае барахло зверху прыкрыў ад чужога вока зашмальцаваным бушлатам.

— Усунеце насы, — прыгразіў ён тром байцам, што ўсё яшчэ аддыхваліся пасля бою і студзілі гарачыя спіны аб кола саракапяткі, — згубіце свае зубы. Панятна кажу?

Колькі дзён таму негаваркі наводчык Хадзімухаметаў, які ў разліку Грыбанава ваюе з фашыстамі каля года, па сакрэце паведаміў Ермаловічу, што яфрэйтар дужа ахвочы да нямецкіх трафеяў. Не ўпускае аніводнае магчымасці, каб не пашастасць па кішэнях забітых фрыцаў. Неяк, казаў наводчык, Глотаў праз сваю сквапнасць ледзь дзірку ў галаве не атрымаў. Мітусіўся каля забітага фашыста, а паранены немец, што ляжаў непадалёк, апрытомнеўшы, стрэліў па марадзёру. Аднак, ці то фрыц аказаўся слабым альбо цэліў няўдала, ці то шчаслівая зорка свяціла ў небе, калі нараджаўся Глотаў, але смяротныя дзевяць грамаў свінцу праляцелі міма.

Ермаловічу яфрэйтар не спадабаўся з першага ж знаёмства. Не, той не прыдзіраўся да нядаўняга пехацінца, асабліва не камандаваў ім, як любіў пакіраваць астатнімі байцамі разліку. Аняго ж, намеснік камандзіра! Лычку на пагонах носіць. Уладу мае. Асабліва ён дапякаў памяркоўнага, добрага і разважлівага Хадзімухаметава. Чапляўся да яго з-за дробязей і заўсёды стараўся ўпрэгчы ў работу, калі іншыя адпачывалі.

Запрыкмеціў яфрэйтар і Ермаловіча. Чамусьці выдзеліў з байцоў разліку адразу ж. Можа, з-за ўзросту? Пачаў назойліва набівацца ў сябры. Але ж былы пехацінец з непрыемнасцю адчуваў, як яго спадцішка літаральна дзіравілі Глотавы пранізлівыя вочы-бураўчыкі.

Не падабалася Ермаловічу і яфрэйтарава настырнае ўмяшанне ў размовы байцоў, калі тыя па-свойску субяседнічалі ўдвух-трох, схаваўшыся ў нейкае зацішнае ад чужога вока і вуха месца. Глотаў нахабна тачыўся ў іхнюю гутарку — перапыняў яе, павучаў, даваў непатрэбныя анікому парады, правакаваў спрэчку... Выдавала на тое, што намеснік камандзіра разліку падслухоўвае, штосьці выведвае, віжуе за байцамі.

Выклікала ў байцоў гідлівую пагарду і яфрэйтарава празмерная самаўпэўненасць. Ён настойліва падкрэсліваў, што за сваё жыццё ніколі і ні разу ні ў чым не памыліўся, не зрабіў ніводнай, нават самай дробязнай, абмылкі.

— У кожным чалавеку, — даводзіў Глотаў, — дрэннага куды больш, чым добрага. Я найперш заўважаю адмоўнае. На ім спыняюся, дрэннае ў чалавеку бяру пад увагу. Толькі таму і не памыляюся. А святых, як вядома, няма...

Яго спрабавалі пераканаць. Але яфрэйтар заставаўся пры сваёй думцы.

Вельмі часта, знянацку кінуўшыся ва ўспаміны, ён з ідыёцкай пыхаю выхваляўся сваім даваенным селькораўствам у раённай газеце. Казаў, нібыта яго сігна-

лаў-допісаў горай за самую пякельную кару баялася ўсё вясковае начальства: ад брыгаднага ўчотчыка — да дырэктара школы.

— Яшчэ здаля заўважаць мяне на вуліцы, — з радасцю на азызлым твары ўсцешна прыгадваў яфрэйтар сваё саладжавае мінулае, — картузы з галоў стараліся першымі скінуць. Першымі павітаюцца. Як з раённым начальнікам! Не абы-хто ж, не раўня ім насустрач ідзе. Сам Анатоль Глотаў. Селькор. Быў я для іх балючай пстрычкай. Той самай, якая так лоўка шчоўкала па іхніх насах… Каб не зазнаваліся асабліва, каб ведалі, што ёсць і на іх вока. І не ў далёкім райцэнтры, а побач, у суседняй хаце. І яно не заплюшчваецца ні ўдзень, ні ноччу...

Відавочна, Глотаў быў, упэўніваўся Ермаловіч, з таго неўмiручага і бязлітаснага да ўсялякага чалавека роду прыстасаванцаў і дэмагогаў, якія памешаны да брыдотнага ачмурэння на вышукванні ўсялякіх людскіх недахопаў і памылак.

Стаўшы пару разоў сведкам такой вось яфрэйтаравай непрыстойнай шчырасці, адчуў да яго сапраўдную гідлівасць. Пасля кожнай сустрэчы з Глотавым, Ермаловічу карцела як найхутчэй памыць ці хоць бы абцерці свае рукі. Каб не забрудзіцца самому. У апошні час ён нават загадзя пралічваў моманты, абы толькі не апынуцца побач, бо ад Глотава ўсё выразней патыхала душэўным смуродам. І Ермаловіч задыхаўся, адчуваў сябе сілком загнаным у закінуты здушлівы глыбокі калодзеж.

Праз такога самага асатанелага селькора-сігнальшчыка гніе дзесьці ў сцюдзёным Сібірскім лагеры родны Ермаловічаў дзядзька.

Але куды адсюль збяжыш, дзе схаваешся, калі плячо ў плячо ў адным разліку за адну гармату вымушаны трымацца?

І вось жа маеш, з горкай прыкрасцю адзначыў у думках Ермаловіч, у брыдотнай справе стану яму за памочніка. І адпрасіцца, на жаль, няма ў каго. Сяржант, папярэдзіўшы яфрэйтара: «Толькі паўгадзіны, Глотаў. Чуеш?», — пераскокваючы праз канавы, заспяшаўся па далейшыя ўказанні на пазіцыю другога разліку. Там павінен знаходзіцца ўзводны.

— Я, таварыш яфрэйтар, — прашыў вачыма намесніка камандзіра Ермаловіч, — дужа стаміўся... Дый, ведаеце, баюся мерцвякоў з дзяцінства… Не магу…

— А ты, радавы, праз немагу, — незадаволена перабіў яго Глотаў. — Ты мне, чуеш, кідай такія размовы. І думаць не думай пра гэта. На вайне не да сантыментаў. І, гэта самае, адмяніць загад сяржанта я не маю права. Зразумеў? Так што будзь ласкавы скласці мне вясёлую кампанію.

Раптам зусім блізенька, нібыта першы вясенні гром, раскацiста азваўся моцны выбух. Ездавы Іваноў, дзе стаяў, там і паваліўся на зямлю, абшчаперыўшы рукамі галаву. Яму падумалася, што варочаюцца танкі, і яны пачынаюць абстрэльваць агнявую пляцоўку. Насамрэч, гэта ўзарваўся боезапас «тыгра», што сыходзіў на чорны смуродлівы дым у сотні метраў акурат насупраць гарматы.

— Ну, арлы-саколікі, — узбадзёрыўся яфрэйтар, у якога ад гэтага выбуху не здрыганулася на целе аніводная жылка, — пасунуліся наперад. Параненых — дабіваць. Куляй, нажом… Як каму лацвей. Зразумела?

«Ой, які нядобры наш яфрэйтар, — раптам згадаўся Ермаловічу ўчарашні сцішана-нясмелы шэпт Хадзімухаметава, з якім ён неяк скора і проста паразумеўся і, можна лічыць, пасябраваў. — Сапраўдны шайтан! Нашто мёртвых абіраць?»

І яшчэ раптам насцярожана вывернулася з закуткоў памяці не раз бачанае непрыемнае шушуканне Глотава з лейтэнантам-асабістам.

Гэты на выгляд ціхмяны і нават па-дзявоцку сарамлівы асабіст з нядаўняга часу рэгулярна наведваецца ва ўзвод, праведвае разлікі. І як бы незнарок, зусім выпадкова, яму на вочы заўсёды абавязкова трапляў яфрэйтар.

Праўда, пакуль усе цэлыя. Але, як той казаў, не будзі ліха, пакуль яно спачывае...

Ермаловіч начуўся пра круты нораў сарамлівых лейтэнантаў і маёраў з асобых аддзелаў. Не прывядзі Гасподзь патрапіць у іх далікатныя рукі. Сатруць у парашок, з пылам развеюць па ветры.

І толькі цяпер ён дайшоў да яснасці, адкуль у Глотава такое дзёрзкае нахабства, чаму яфрэйтару асабліва не пярэчыць сяржант, амаль заўсёды саступаючы яго нялюдскім пажаданням.

Ды ўсё з-за гэтага прытворна-сарамлівага заступніка!..

«Вунь яно што, — бліснула неспакойная думка і незразумела-трывожнае прадчуванне зашчымела ў грудзях. — І вось куды выкруціцца…»

— Іваноў, — задыхаючыся ад бегу, на хаду, загірчэў Глотаў, — прама па тваім курсе — два гансы. А ты, — загадаў Ермаловічу, — абыдзі вунь той хмызнячок. І паўважлівей мне! Могуць патрапіцца параненыя, кантужаныя. Адказваць за вас не збіраюся.

Сам Глотаў, азіраючыся, як злодзей, кінуўся да танка.

Ермаловіч неспадзявана ўзрадаваўся вызначанаму для яго кірунку. Адразу адзначыў: зацішнае месца. І на сэрцы неяк паспакайнела. Выварочваць кішэні ў мёртвых ён не збіраўся.

«Вось і добра, — думаў ён, няспешна мінаючы раскідзістую купіну лазняку. — Глотаў будзе заняты рабаваннем, Іваноў застаўся далёка за спінай. Той спяшацца таксама, мабыць, не стане. Перачакаю. А вяртаючыся назад, скажу, што нічога цікавага ды патрэбнага яфрэйтару, у забітых не аказалася…»

Унурыўшыся ў свае думкі, Ермаловіч ледзь не зачапіўся кірзачом за цела нямецкага салдата.

Куля патрапіла небараку ў шыю. Грудзі, прымятая наўкола пажоўклая трава, былі заліты чорнымі згусткамі запечанай крыві. Ермаловіч паспешліва абмінуў забітага, і згледзеўшы на ўскрайку хмызняку пляскаты камень, наўпрост пашыбаваў да яго.

Прысеў, не спяшаючыся, скруціў самакрутку. Смачна зацягнуўся густым і пахкім дымам.

Бязлітасна высмажанае на гарачым сонцы спякотнага лета парудзелае лісце жывога лазняку ледзь чутна перашэптвалася ў знямелай прасторы. Цішыня і ўяўная адзінота ажывілі зернейкі ўспамінаў.

— Ермаловіч! — раздаўся прыглушаны ці то кустамі, ці то адлегласцю хрыпаты, быццам крумкачова карканне, голас Глотава.

— Тутака я, — паспяшаўся адазвацца нядаўні пехацінец. І цішэй, пра сябе, дадаў: — От ужо няма супынку чалавеку. Не стану я тваім саўдзельнікам. Не дачакаешся… Хай табе чэрці дапамагаюць…

— Вады… Піць…

Гэтыя словы, прамоўленыя па-нямецку працяжным і слабым стогнам, Ермаловіч пачуў зусім побач з сабой. У кусце, які пажоўклым лісцем прыемна астуджаў усё яшчэ гарачыя яго плечы. Чырвонаармеец насцярожана агледзеўся, прыслухаўся. Успомніўшы перасцярогу Глотава, на ўсялякі выпадак паставіў на баявы ўзвод вінтоўку.

— Божа мілы! Як мне баліць… Піць… — зноўку цяжкім стогнам абазваўся куст.

Ермаловіч асцярожна рассунуў зарослыя густой і высокай травой хлабазіны, і ў вочы яму кінуліся запыленыя боты. Трымаючы вінтоўку напагатове, абышоў куст. Па той бок хмызоў па пояс тырчала цела параненага немца.

Гэта быў яшчэ зусім малады хлопец, падлетак. «Мусіць, будзе аднагодкам майму Віцьку, — адзначыў Ермаловіч. — Такі ж русявы. І росту, бадай, аднаго…»

Няма Віцькі.

У суцэльным жалобна-чорным кастрычніку сорак першага Ермаловіч, не давяраючы ротнаму санітару, сам пад кулямі выносіў з поля бою параненага сына.

Не данёс.

Сканаў Віцька так і не прыйшоўшы ў прытомнасць. Памёр на бацькавых руках. Ермаловіч сам і пахаваў яго на ўскрайку лесу. Закапаў у падножжа безыменнай вышынькі, пазначанай на патрапанай карце-дзвюхвёрстцы ротнага адзнакай 112,7.

Да Віцькавай магілы трыста семдзесят два крокі праз зарослае ніцым кустоўем сырое поле ў правы бок ад скрыжавання прасёлкавай дарогі з гасцінцам Мажайск—Масква.

І тыя балесныя трыста семдзесят два крокі з Ермаловічам. Яны — з ім і ў ім. Кожны. Неадлучна. Назаўсёды. І ён будзе бачыць іх, адчуваць, будзе бясконца праходзіць іх зноўку і зноўку, з дня ў дзень, да апошняга ўдару свайго сэрца. Да апошняга глытка паветра…

Ён праходзіць іх нанава, і пэўна ведае, што ніколі ўжо не адолее тыя, пякельнацяжкія сваёй безвыходнасцю і дужа кволай надзеяй, трыста семдзесят два крокі занадта вялікай бацькавай бяды.

Самая вялікая ў свеце несправядлівасць, калі бацькам даводзіцца хаваць сваё дзіця. Гадуеш яго з пялюшак, калоцішся пры кожнай хваробе. Выгадаваў, паставіў на ногі, яшчэ сам не паспеўшы нарадавацца яму, — адпраўляй у пекла: на вайну, на бойню. Навошта нараджаць дзяцей, каб яны гінулі?

«Ваяваў мой дзед, — неаднойчы горасна разважаў сам-насам Ермаловіч. — З немцам, у Першую сусветную. Прыйшоў без нагі, але з медалём на грудзях «За храбрость». У Грамадзянскую бацька ваяваў. Прапаў. І невядома дзе яго магіла…»

На паўвека жыцця Ермаловіча прыпала ажно дзве вайны — Грамадзянскую захапіў і з немцам цяпер б'ецца. Як і дзед калісьці.

У няпоўныя дваццаць гадочкаў забіты сын, Віцька. Жонку-цярплівіцу Ермаловіч пахаваў перад самай вайной. Памерла… І сам ён наўрад ці веберацца з гэтай калатнечы. Дый навошта яму тое жыццё, калі бойня гэта адабрала ў яго адзіную і апошнюю радасць ды надзею?

— Вады, — адчуўшы, мабыць, побач з сабой жывую чалавечую душу, яшчэ раз папрасіў-прастагнаў паранены нямецкі салдат.

— Зараз-зараз, — рухавей заварушыўся Ермаловіч. Ён, спяшаючыся, адшпіліў ад сваёй пацёртай дзягі пагнутую біклажку. Адкруціў закрыўку. Цяпер ён бачыў перад сабой не ворага-немца, а звычайнага чалавека, які патрапіў у бяду, якому дрэнна. І якому трэба дапамагчы.

Апусціўшыся перад юнаком на калені, Ермаловіч павярнуў яго крыху набок, прыўзняў галаву і ў дрыжачых руках паднёс да бяскроўных вуснаў мокрае рыльца біклагі. Немец, не расплюшчваючы вочы, прагавіта, прыцмокваючы, як немаўля, заварушыў сасмяглымі вуснамі. Піў ваду, захлынаючыся, не паспяваў праглытваць, і яна па барадзе, нягуста зарослай яшчэ лёгкім юначым пушком, тонкім струменьчыкам сцякала на яго аголенае плячо.

— Пі, хлопец, не спяшайся, — спачувальна сказаў Ермаловіч. Ён адняў ад рота біклажку. Паглядзеў на немца. І чамусьці ўсміхнуўся яму. — Перадыхні крыху. Потым яшчэ дам.

Паранены нарэшце з цяжкасцю расплюшчыў павекі. У спакутаваным паглядзе яго блакітных вачэй адначасова мітусіліся жах і ўдзячнасць… Юнак, перасільваючы боль, уважліва ўзіраўся ў сталага чырвонаармейца. Ворага свайго.

— Не бойся мяне, — усміхнуўся Ермаловіч. — Ляжы сабе.

— Вялікі дзякуй! — нарэшце праз сілу прашаптаў паранены і таксама паспрабаваў усміхнуцца ў адказ. Але боль толькі расцягнуў яго ўдзячную ўсмешку ў крывую грымасу невыцерпнай пакуты.

— Глыні яшчэ, — Ермаловіч зноўку паднёс да вуснаў нямецкага салдата біклажку. Той зрабіў некалькі дробных, павольных глыткоў. Цяпер піў, бы ў запас.

— Дзякуй…

— Ляжы. Не бойся мяне. Я толькі пагляджу, куды цябе гэтак сцебанула. — Ермаловіч з куста асцярожна выцяг немца на невялічкую палянку. Расшпіліў фрэнч.

— Зусім кепскія твае справы, — шчыра паспачуваў немцу чырвонаармеец. Затым ён ададраў ладны кавалак матэрыі ад сваёй бруднай і мокрай ад поту споднай сарочкі, умела перабінтаваў рану на левым баку.

— Я — Вальтэр… Вальтэр Бідэрман, — ціха прашаптаў юнак. З яго вачэй скацілася некалькі буйных слязін.

Ермаловіча ахапіў смутак. Яму стала вельмі шкада гэтага маладзенькага, нешчаслівага немчука. Зноўку прыгадаўся родны Віцька.

— А я Ермаловіч, — спагадзя назваўся чырвонаармеец. — У мяне быў сын. Разумееш? Віктарам яго звалі. Аднагодак твой. Загінуў. Забілі пад Масквой. Зразумеў?

— Масква?

— Пад Масквой, Вальтэр. Увосень, дзевятнаццатага кастрычніка, споўніцца тры гады, як няма майго Віцечкі.

Успамін пра сына ўзмацніў неастылы яшчэ боль. На вочы Ермаловіча таксама нагарнулася некалькі слязін. Іх адразу ж заўважыў напаўжывы-напаўмёртвы ўжо Вальтэр.

— Не трэба плакаць... Бацька… — юнак паспрабаваў дацягнуцца да яго абвялай рукою, але не змог адарваць яе ад зямлі. Сілы пакідалі немца. Ён усміхнуўся праз боль, аднымі вуснамі і з цяжкасцю вымавіў па складах, нібыта назаўсёды стараўся запомніць прозвішча вось гэтага стараватага і добрага чырвонармейца. Прозвішча ворага, які даў яму вады, перавязаў рану… Дапамог свайму ворагу. — Ер-ма-ловіч...

— Ты пакуль тут паляжы. Не спяшайся вылазіць на луг, — па-бацькоўску папрасіў Ермаловіч падстрэленага немца. — Дасць Бог, можа, і выжывеш. Яшчэ пажывеш… Як наканавана. Свой лёс не падманеш. На крывой дузе яго не аб’вернеш. А вашы — там, — чырвонаармеец паказаў рукой у правы бок. — Туды адступілі танкі. Як пайду, ты паляжы троху і па канаве паўзі. Чуеш мяне, Вальтэр? Паўзі на сонца.

Ермаловіч зноўку паднёс да вуснаў нямецкага юнака біклажку, каб той папіў яшчэ. Па сабе ведаў, як параненаму чалавеку хочацца вады. І здрыгануўся ад хрыпатага з’едлівага голасу за спінай.

— Хрыстосік, растакую тваю маць! — па голасе пазнаў: крычаў яфрэйтар. — Табе што загадалі рабіць? Дабіваць параненых! А ты, як нярускі які?

— А я і ёсць нярускі, — цвёрдым голасам, не паварочваючыся, упэўнена адазваўся Ермаловіч. — Беларус я. З-пад Чэрыкава родам. Ёсць такое мястэчка на Магілёўшчыне. Можа, чуў?

— Размазня! Ануча, тваю маць!..

Немец чамусьці шырока расплюшчыў вочы, на яго твар імклівым чорным ценем лёг жах. Юнак замуляў абяскроўленымі вуснамі, стараючыся штосьці сказаць Ермаловічу, пра нешта папярэдзіць яго. Але ці то не знаходзіліся патрэбныя словы,

ці то словы тыя ён ужо проста не мог вымавіць. Ермаловічу падалося, што хлопец акурат у гэтую вось хвіліну даходзіць, канае. Ён прыгнуўся над ім, каб крыху прыўзняць яму галаву і палегчыць дыханне.

І тут жа гарачы і тугі, як падалося, спрасаваны камяк паветра імкліва і пругка праляцеў каля шчакі Ермаловіча, балюча апёкшы яе сваім дыханнем. Затым за спіной чырвонаармейца штосьці гучна ляснула. Са скроні параненага немца брызнуў струменьчык крыві. Твар яго адразу пачаў палатнець. Хлопец, якіх разы са два яшчэ сутаргавата хапануў паветра, здрыгануўся і заціх. Назаўсёды.

Ермаловіч закрыў яму вочы, крыху затрымаўшы на цёплых павеках, каб астылі і не раскрыліся, свае пальцы. Пасля нетаропка падняўся з каленяў, старанна абцерушыў з нагавіц прыліплыя травінкі. Азірнуўся. Глотаў, як ні ў чым не бывала, закідваў на плячо напалову напакаваны рэчмяшок.

З-за кустоў асцярожна высунулася галава Іванова.

— Што тут здарылася? — пацікавіўся ездавы і баязліва скасавурыўся на забітага немца. — Стрэл чуў. Падумаў, можа, які паранены фрыц у Ермаловіча кахнуў. А тут, бачу, вы абодва жывыя…

І зусім не чакана ў галаве Глотава імгненна выспеліўся такі чаканы, такі пакутлівы доўга думаны-перадуманы план. Нядобры, злавесны.

Вайна праз які год скончыцца. Значыць, трэба выжыць. Каля саракапяткі знаходзіцца — у любы час можна спаткацца з кашчавай. Аціраючыся пры штабе, куды больш шанцаў зберагчы сябе, захаваць жыццё і вярнуцца героем дахаты.

Гэта Глотаў зразумеў яшчэ тады, калі толькі патрапіў на фронт. Жаданне было, не ставала магчымасці. Спаткаўся з лейтэнантам — з’явілася і магчымасць. Асабіст досыць празрыстымі намёкамі абяцаў яму паспрыяць. Вядома, за паслугі.

Так з нядаўняга часу для Глотава шчасліва сышліся жаданне і магчымасць, але зноў не хапала аднаго — выпадку, каб споўніць тое, пра што неаднойчы прасіў яго сарамлівы лейтэнант. Яму трэба было спяшацца, паколькі ў час апошняй іхняй патаемнай сустрэчы яфрэйтар дастаткова ясна пераканаўся: асабіст губляе апошнія калівы свайго цярпення.

Выпадак з Ермаловічам якраз і выдаваў на тое, што пазарэз было патрэбна Глотаву, лейтэнанту. Калі, вядома, падаць яго ў патрэбным ідэйна-палітычным накірунку і ў адпаведнасці з суровымі патрабаваннямі бягучага моманту.

Выратаванне само плыло ў рукі яфрэйтара, і ён пэўна ведаў, як яму дзейнічаць і што рабіць.

— Іваноў, — Глотаў падняў з зямлі Ермаловічаву вінтоўку і, напружыўшы да крыку голас, загадаў: — Вазьмі.

— Ён што, сам не можа несці? Не зломак жа, — шчыра абурыўся ездавы. — Як што, Іваноў! Толькі і чуваць у разліку: Іваноў, прынясі... Іваноў, збегай... Іваноў — туды, Іваноў — сюды!..

— Радавы Іваноў, — не на жарт узлаваўся яфрэйтар. — Загады камандзіра не абмяркоўваюць. Ермаловічу нельга давяраць зброю. Ён толькі што ворага пашкадаваў. Здраднік!

Іваноў палахліва і спачувальна паглядзеў на Ермаловіча. Нехаця закінуў за сваю спіну чужую вінтоўку. А потым чамусьці зняў яе і прыставіў прыкладам да свайго запыленага кірзача.

— Ну, ты, ведай меру, — насупіўся Ермаловіч. — Не кідайся такімі абвінавачваннямі. Не суддзя.

Глотаў, здавалася, толькі гэтага і чакаў. Ён выхапіў трафейны пісталет, паспешліва зняў з засцерагальніка і навёў на чырвонаармейца.

— Упярод! Шырэй крок! Кінешся — з адной кулі пакладу. Як немчыка твайго. Пайшоў!

— Хлопцы, — замітусіўся асмялелы ездавы. — Чакайце! Якая муха вас пагрызла?

Глотаў праця̆ў Іванова такім маланкава-суровым позіркам, што той палічыў за лепшае адысці ўбок і пакуль не кідацца ў роспыты.

— Іваноў, сведкам будзеш, — папярэдзіў яфрэйтар. — Вунь немец ляжыць. Каля яго — біклажка Ермаловіча, бачыш?

Ён падышоў да забітага, брудным мыском бота падчапіў, загарнуўшы палу, фрэнч. Усміхнуўся:

— Дык ты што, яго яшчэ і перавязаў?

Глотаў перакінуў пісталет у левую руку, а правай лоўка вышмыгнуў на Ермаловічу з-пад дзягі гімнасцёрку. З сілаю пацягнуў да сябе край абарванай сподняй сарочкі.

— Іваноў, глядзі! Ён жа, гадзіна, яшчэ і сподняе падраў на бінты, каб свайго фашыста перавязаць. Сапсаваў казённую маёмасць. Чуеш, Іваноў, немец яшчэ жывым быў. Прыкончыў яго я. Калі Ермаловіч гэтага фашыста вадой адпойваў і пра нешта шаптаўся. Упярод!

Ермаловіч цягнуўся па лузе, як на ватных нагах. Някошаная, перасохлая на корані, трава — высокая, калючая і шорсткая, як дрот, — чаплялася, перашкаджаючы кроку, за яго цяжкія боты, быццам старалася затрымаць салдата тут, не пусціць да сваіх. Сам ён патыліцай адчуваў пякучыя вочы і гарачае дыханне шкурніка Глотава, які гучна і задаволена сапеў за спінай і калі-нікалі, падганяючы, балюча тыцкаў руляю пісталета ўбок.

«Здаецца, адваяваўся, — нявесела падумалася спагадліваму і добраму беларусу. — Лепей бы ў баі сваю кулю спаткаў. Там, на Мажайскім гасцінцы. Ляжаў бы цяпер побач з Віцькам.

Што са мной будзе і чым усё гэта скончыцца? Сяржант наўрад ці заступіцца. Як заўсёды, мабыць, спудлуе перад Глотавым… Можа, клыпаю да сваёй пагібелі… Вядзе, як сыты воўк безабароннае цяля…»

— А лейтэнант цябе, Ермаловіч, — радасна прасіпеў Глотаў, — адразу ж раскусіў. Толькі глянуў. Не наш ты чалавек, сказаў. Помніцца, я быў засумняваўся... А вось жа і спраўдзіліся яго словы. Малайчына, лейтэнант, як у ваду глядзіць: усё бачыць, усё прыкмячае, усё разумее… Хоць і маладым, а — галава!

...Іх нарэшце заўважылі тыя, хто заставаўся каля гарматы і, мабыць, здагадаліся, што нешта здарылася. Сталі ўчатырох, як на хаўтурах, блізенька адзін да аднаго, каля астылай саракапяткі і вачыма з'ядалі Ермаловіча, Глотава, Іванова.

— Таварыш сяржант, — яшчэ здаля кінуўся да камандзіра Глотаў, — радавога Ермаловіча неабходна пад вартай тэрмінова адправіць у асобы аддзел дывізіі.

— Ты што, яфрэйтар, — узлаваўся Грыбанаў, — з глуздоў з'ехаў? Ці, можа, трафеі не падзялілі?

— Ён з параненым немцам перамаўляўся. Перавязаў яго сваім споднім. Вадой напаіў. Ворага! Фашыста! Іваноў пацвердзіць.

— Ну і што з таго? Канчай, Глотаў, усялякую лухту малоць, — нечакана злосна і груба абсек сяржант яфрэйтара. — Ваяваць трэба… А не… мудазвонства разводзіць… Іваноў, дзе коні? Разлік, слухай маю каманду: чапляем гармату. Наганяем полк.

— Не ўсё так проста, камандзір, — яфрэйтар паспрабаваў вярнуць ініцыятыву ў свае рукі. — Лейтэнант, — і зноў усе зразумелі, якога лейтэнанта меў на ўвазе Глотаў, — за Ермаловічам назіранне ўстанавіў. Разумееш, сяржант?

Гэта непрыемная навіна аглушыла Грыбанава, спаралізавала яго волю. Сяржант цяпер проста не ведаў, што яму рабіць. Асабіст — гэта сур'ёзна. Калі што якое — следам накінуць вяровачку… Не адкруцішся. Яму яшчэ прыгадалася, што ціхмяны лейтэнант, сапраўды, апошнім часам чамусьці дужа часта круціцца ва ўзводзе, сустракаецца з Глотавым.

«Што тут зрабіць? — маланкава раздумваў сяржант. — Заступіцца? Сабе клопату толькі наробіш. Глотаў не адступіцца. Вунь як бычынымі вачыма круціць, ноздры раздзімае... Ат, самі кашу заварылі, няхай самі і разбіраюцца. Не майго розуму гэта справа. Я са сваёй задачай справіўся: разлік танкі не прапусціў. І гэта для мяне — галоўнае. А Глотаў, можа, змякчэе. Вунь як байцы пазіраюць на яго. Падраць гатовы на кавалкі…»

— На выгляд — чалавек, як чалавек, — неспадзявана смела, не хаваючы сваёй агіды да сяржантавага намесніка, абурыўся Хадзімухаметаў. — А нутро — шайтанскае! Сапраўдны шайтан!

— Пагавары мне, — злосна агрызнуўся яфрэйтар. — Следам пойдзеш.

— Яфрэйтар, — ужо не так упэўнена, як хвіліну таму сказаў сяржант. — Пакуль я камандзір тут. Разумееш?

— А я на твае паўнамоцтвы не прэтэндую. Камандуй, калі камандзір... Гэй, хто там… Іваноў, прынясі рэчмяшок Ермаловіча. Праверым і паглядзім, таварыш сяржант, што ў ім.

— Табе трэба, — сказаў Іваноў, — сам і нясі. Я да цябе ў пасобнікі не наймаўся.

— Паскачаш!.. Усе паскачаце ў мяне, — паабяцаў Глотаў і сам рушыў да акопчыка, па рэчмяшок.

Ермаловіч выдатна зразумеў гэты гнюсны ход Глотава. У ягоным рэчмяшку ляжалі некалькі нямецкіх прапагандысцкіх улётак, якія калісь парэзаў на лісткі-квадрацікі для самакрутак. Калі ляжаў у шпіталі, гэтага дабра, фашысцкіх лістовак, хапала. Прыхапіў для сябе, каб не выпрошваць.

А гадзіны дзве таму, перад самым боем, яфрэйтар папрасіў у яго паперчыну для самакруткі. І Ермаловіч па душэўнай дабрыні неабачліва падзяліўся.

Канешне, Глотаў перш, чым сыпануць на лісток шчэпаць махоркі, прачытаў, што там напісана. Запомніў. Прызапасіў для зручнага моманту.

— Ну, вось, таварышы, — парадаваўся яфрэйтар, дастаючы з рэчмяшка стосік квадратных лісткоў. — Што і патрабавалася даказаць: фашысцкая прапагандысцкая літаратура.

«Гэта — канец! — падумаў Ермаловіч. — Памажы мне, Божа, не апаскудзіцца, не зганьбіцца і вытрымаць усе мукі. Дай сілы, Царыца Нябесная, памерці з чыстым сэрцам».

— Іваноў, — істэрычна закрычаў камандзір артылерыйскага разліку сяржант Грыбанаў. — Забяры вінтоўку радавога Ермаловіча.

...Забраць на вайне вінтоўку ў салдата, азначала шмат чаго ад яго забраць...



Мікола КАНДРАТАЎ

# ПАН ЛЕС, ПАН ЛЁН, ПАН ЛЁС...



***Мікола Кандратаў нарадзіўся 20 мая 1957 года ў вёсцы Замосце Талачынскага раёна. Працуе інжынерам-праграмістам. Аўтар паэтычных кніг «Возера Рудакова», «Вершы і зоркі». У творах спрабуе пераасэнсаваць жыццёвыя ісціны, абапіраючыся на духоўную спадчыну продкаў.***

* * *

Вядомы ў каралеўстве дацкім
Прысню сумнеў.
Гуляцца ў словы, нібы ў цацкі —
Не для мяне.
Душа даўно пару забавы
Перарасла,
А плыць бліжэй да таннай славы —
Шкада вясла.
А хвалі плешчуцца аб крыгі —
Вякоў грахі.
І падмываюць сон Нямігі,
Дзён берагі,
Дзе, як на могілках забытых,
Народ жыве.
Развеяў німбы час нібыта
І знік, як звер.
Але нябёсы помняць радасць
І боль жывых.
І адчуваеш сэрцам: варта
Глядзецца ў іх.
Хай словы не шукаюць славы,
Яны ў цане.
Гуляцца імі ў час крывавы —
Не для мяне.

* * *

*Алесю Квяткоўскаму*

Пануе золата над светам,
Сцякае з неба ўніз.
Дзесь паміж восенню і летам,
Здаецца, свет завіс.

Лунае залатое рэха,
Бурліць, бы ў сэрцы кроў —
Планету, як галіну дрэва,
Абвіў пчаліны рой.

Дзень для вачэй дае прытулак
І залацістых кос.
І адгукаюцца мінулым
Пан Лес, пан Лён, пан Лёс…

Свет сёння зноўку заначуе
У залатым вуллі…
І толькі ўважлівы адчуе
Смак нашае зямлі.

* * *

Самота не спаткаецца з самотай,
Хоць кожная самота мосціць лёс
Праз топкае бяскрайняе балота,
З якога толькі ў неба выйсце ёсць —

Тады, калі канчаецца зямное.
Самота ж прыціскае да зямлі.
Самотай паяднаны нават двое,
Якія ў стан кахання перайшлі.

Самота тут — каменьчыкам адліку,
З адным крылом за птушкай не ўзляціш.
Знайсці сваёй самоты палавінку
Цяжэй, чым кветку-папараць знайсці.

Так лёгка з ёю размінуцца ў часе
І не патрапіць у зямныя сны
Ці ад самотнай роспачы прапасці
У чорных вокнах крыўды і маны.

Але шукае кожная істота,
Імкнецца ўспомніць першародны гай —
Калі з уласнай стрэнешся самотай,
Адразу на зямлі пачнецца рай.

* * *

Колькі можна расці?
Нават дрэвы спыняюцца ў росце,
Бо высокае дрэва — заўжды
Для маланак мішэнь.
Той, хто іх не баіцца —
Нібыта танцуе на дроце…
Толькі нешта штурхае ў каршэнь:
Уздымайся вышэй.

Колькі можна расці?
Кажуць, трэба нарэшце змірыцца
З тым, што як і даўней,
Не пракорміць атлантаў Зямля —
Цесны свет і малы,
Як планета для Зорнага Прынца…
Толькі прагне блакіту,
Сягае ў бясконцасць пагляд.

Колькі можна расці?
Усё роўна не вымкнеш да неба
У кароткім, самотным,
Халодным і шэрым жыцці…
Не спяшаецца з цела душа,
Сэрца не выпінае за рэбры,
Кроў з аорты не прэ.
Толькі духу ўдаецца расці.

## ЖОЎТЫ КОЛЕР СТОМЫ

***Жизнь надсмеялась надо мной.***
Алесь Асташонак

Я не стаміўся ад сваёй зямлі,
Хоць вымушаны быў яе пакінуць,
Каб на чужыне дажываць і гінуць,
Дарэмна пра вяртанне лёс маліць.

Ад шчасця сэрцу больш не палымнець,
Стаміўся я ад горкага кахання,
Ад кожнага сумнеўнага прызнання.
І не заменіць вера памяць мне.

Стаміўся і ад блізкае маны,
І ад далёкіх горных бліскавіцаў,
Як ад пагроз павінен быў стаміцца —
Спыніцца ля кітайскае сцяны.

Радзей пад сонцам падаю ў траву,
Нібы прашу зямлю вярнуць мне сілы.
Магчыма, што да самае магілы
Стаміўся я. Але пакуль жыву.

Алена БАСІКІРСКАЯ

## ПЕСНЯ МАЯ ДУШЭЎНАЯ

Мне даспадобы раніца.
Месяц па небе коціцца —
З зоркамі там спаткаецца;
Траўка ў расе маркоціцца.
Гэтай парой ціхуткаю
З вершамі — у абдымках я.
Астра глядзіць бялюткая.
Рэчка — празрыста-плыткая.
Я ж пакладу радочкамі
Песню сваю маёвую.
І праспявае ночкаю
Конік санату новую.
Песня прыгожа зложыцца,
Радаваць будзе кожнага.
Шчасце і радасць множацца —
Я іх мінаю пожняю.
Бо не хачу са сведкамі:
З імі мне дрэнна пішацца.
Разам з зарой-паэткаю
Ранак па свеце крышыцца.
Слоўцы гулліва песцяцца,
Сннымі нараджаюцца,
Бойкай чародкай месцяцца
І між сабой вітаюцца.
Песню маю душэўную
Так заспяваць мне хочацца!
Раніца каралеўнаю
Важна ад сонца моршчыцца.
Я бяру ў рукі ціхенька
Томік знаёмы з вершамі —
Спелым паглядам вішанька
Хоча ўчытацца першаю.

*Тамара БУНТА*

# АПЕЛЬСІНЫ

*Апавяданне*

Дзіцячыя крыўды помняцца ўсё жыццё. Крыўды, нанесеныя дзіцячай душы дарослым чалавекам, тым больш.

…Наша даўжэзная вуліца ў сто дамоў, якая адным канцом упіралася ў маю школу, а другім выходзіла да рэчкі, на самай справе была завулкам з прыгожай назвай — Вішнёвы. І невыпадкова, бо ў завулку амаль у кожным двары раслі вішні. Дарэчы, менавіта мой бацька прывёз іх са сваёй вёскі, з колішняй панскай сядзібы. Вішні былі пладавітыя, з цёмна-чырвонымі, мясістымі салодкімі ягадамі. Усе суседзі пачалі прасіць у бацькі атожылкі, і ён не пашкадаваў іх, як, дарэчы, нічога не шкадаваў людзям…

Кожны май наш завулак патанаў у вішнёвай квецені. У чэрвені ж вішні трэба было вартаваць — ад шпакоў і хлопцаў-падшыванцаў, якія, ідучы з рэчкі, стараліся абабраць ягады яшчэ зялёнымі. А ў ліпені, у разгар лета, у самую спякоту, калі хацелася залезці ў рэчку і не вылазіць адтуль, была ўсім — перш за ўсё нам, дзецям, — самая праца: сабраць ураджай! Тыдні два мы літаральна не злазілі з дрэў. Абвязаўшы вакол тулава матузок і пачапіўшы на яго бітончык з-пад малака, мы, быццам малпы, лазілі па галінах, драўляных лесвіцах, платах, стараючыся абабраць усе вішанькі да адной. Так наабіраешся, што ляжаш спаць, вочы заплюшчыш, а ў вачах усё роўна — ягады вісяць!.. А ўхіліцца ад гэтага занятку нельга было: за грошы, атрыманыя ад продажу вішань, потым набываліся абноўкі да школы. Гэта значыць, што збярэш, тое і атрымаеш…

Таму, прызнацца, вішань нам самім асабліва есці не хацелася. Гэтаксама як і яблыкаў, груш, сліў, агрэсту, парэчак, якіх шмат расло ў нашых садах… Мо толькі на самым пачатку лета, пакуль яны яшчэ не паспеюць. Хацелася чагосьці асаблівага, не тутэйшага, экзатычнага… Напрыклад, навагодніх мандарынаў. Гэтыя аранжавыя плады, падобныя да маленькага сонейка, былі неверагодна смачныя. І перш за ўсё таму, што цэлы год іх нідзе не купіш. Спачатку я была ўпэўнена, што мандары-



***Тамара Бунта нарадзілася 21 красавіка 1959 года ў Маладзечне. У 1984 годзе скончыла БДУ, факультэт журналістыкі. Друкавала апавяданні, казкі і вершы для дзяцей у газетах «Зорька», «Звязда», «Семья», часопісах «Бярозка», «Работніца і сялянка» пад дзявочым прозвішчам Міжыгурская. Працуе галоўным рэдактарам часопіса «Алеся».***

ны растуць разам з шышкамі на вялікай елцы ля хаты Дзеда Мароза, а напярэдадні навагодняга свята ён іх абірае і прывозіць да нас у прыгожых кардонных сумачках, поўных цукерак. Так мне сказала сястра, а я, малая, ёй і паверыла…

Калі ў падарунку ад Дзеда Мароза сярод цукерак знаходзілася мандарынка — то гэта ўяўлялася шчасцем. Калі ж раптам мандарынак аказвалася дзве — то гэта падавалася раўназначным багаццю: адну мандарынку можна з'есці, а другую памяняць на шакаладку!

Жаданей за маленькія аранжавыя сонейкі былі толькі вялікія аранжавыя апельсіны. Апельсіны час ад часу «выкідвалі» ў нашай краме, і тады за імі выгіналася велізарная чарга.

— Па аднаму кілаграму — у адны рукі!.. Даваць па кілаграму ў адны рукі, каб усім хапіла!.. — крычалі цёткі ў чарзе. А самі напіхвалі перад сабою па двое, а то і трое сваіх дзяцей. І яшчэ станавіліся адна перад адною.

— Я тут стаяла! — крычалі яны, калі хтосьці з «задніх» сароміў іх ці спрабаваў выгнаць з чаргі. — Марыя мне месца займала. Праўда, Марыя?..

— Займала, займала!.. Я Ірыне займала!.. — крычала цётка Марыя. І хаця ўсе разумелі, што гэта няпраўда, ніхто асабліва не настойваў: у наступны раз, калі прывязуць нейкі дэфіцытны тавар — грэчку, шпроты ці каўбасу — суседкі памяняюцца ролямі, і цётка Ірына будзе займаць чаргу для цёткі Марыі.

Нам рэдка што перападала, хаця мы звычайна ўтраіх — сястра, брат і я — станавіліся ў чаргу. Проста няшчасце нейкае атрымлівалася: якраз перад намі ўсё смачнае заўсёды заканчвалася. Так крыўдна! Гадзіну, а то і дзве прастаіш у душнай краме, а перад тваім носам прадаўшчыца крыкне: «Больш чаргу не займаць — апельсіны заканчваюцца!»

Маленькая, я пасля гэтых слоў звычайна пачынала плакаць. Калі прадаўшчыца траплялася жаласлівая, дык яна яшчэ знаходзіла пад прылаўкам некалькі аранжавых сонеек і міласціва выкладвала іх на вагі. А нам для шчасця хапіла б і аднаго апельсіна…

Калі ж я падрасла і плакаць стала сорамна, то было крыўдна і горка застацца без ласунку. Але крыўды мы асабліва не паказвалі:

— Ат, і не надта хацелася! — звычайна гучна і ганарліва аб'яўляла сястра. — У гэтых апельсінах аніякіх вітамінаў няма. І наогул, у мяне ад іх — алергія!

— Чаго ж ты тады дзве гадзіны ў чарзе стаяла? — з усмешкай пыталіся тыя, каму пашчасціла апельсіны ўхапіць.

— А я вось для сястрычкі малодшай хацела купіць… — уздыхала Света.

Звычайна знаходзілася спагадлівая пакупніца, якая ўручала мне аранжавы цуд. Калі ж такой свядомай у краме не аказвалася, сястра пазней усё роўна дзе-небудзь у суседзяў ці сябровак выпрошвала апельсін і прыносіла яго мне, як самай меншай. Звычайна мы дзялілі яго на тры часткі і кожны сваю з'ядаў па-рознаму: Сашка праглынаў за адзін раз, я расцягвала задавальненне на паўгадзіны, а Святлана — два дні. Гадзінамі смокчучы апельсін па дольцы, бы цукеркі-ледзяшы. А потым, напрыканцы другога дня, прыносіла мне апошнюю дольку, ужо крыху падсохлую:

— На! Я табе адразу яе прыхавала!..

І гэта долька аказвалася смачнейшай за ўсе…

…Аднойчы я гуляла на вуліцы — расчэрчвала класікі, чакаючы сябровак, —

і ўбачыла неверагодны цуд: наша суседка, якую і дарослыя, і дзеці клікалі Фаіна Адамаўна, бо яна працавала важнай начальніцай, ішла аднекуль і несла поўную сетку вялікіх апельсінаў! Іх было столькі, што яны распіралі сетку ва ўсе бакі і нагадвалі мне баскетбольныя мячыкі. Фаіна Адамаўна рэдка пешшу хадзіла па вуліцы — звычайна яе прывозіла чорная машына.

«Можа, пачастуе?.. — мільганула раптам думка. — У яе ж іх столькі многа!..» І я ветліва ўсміхнулася:

— Добры дзень, цётачка Фаіна!

Фаіна Адамаўна здзіўлена зірнула на мяне, але адказала:

— Добры-добры! — і пайшла далей.

Яшчэ заставалася надзея: «Вось, каб сетка падралася і ў дзірачку адзін апельсінываліўся!..» Але сетка, мусіць, была моцная, праверaная.

Ля водаправоднай калонкі размаўлялі дзве суседкі. Яны даўно ўжо набралі вады, але ўсё не маглі нагаварыцца.

Суседкі ветліва павіталіся з Фаінай Адамаўнай і моўчкі праводзілі яе пільнымі позіркамі.

— Бач ты, Буржуйка, недзе па блаце тры кіло апельсінаў купіла!.. — сказала ціха адна суседка другой, калі цётка Фаіна прайшла міма іх у свой двор за высокім плотам.

— Купіла, як жа!.. Мусіць, хабар атрымала! І нават не хавае... — дадала другая.

— Так-так… — засмяяліся абедзве, потым падхапілі кожная сваё вядро і разышліся ў розныя бакі.

Цётку Фаіну ў нашым завулку і сапраўды ўсе за вочы клікалі Буржуйкай. І было за што. Яна адзіная з суседак не садзіла агарод. Як нашы матулі і бабулі, не корпалася ў градах усё лета, не варыла варэнняў, не рабіла саленняў… Яна сама не гатавала ежу — пры ёй жыла старая цётка Тэкля, якая ўпраўлялася па хаце. Суседкі сцвярджалі, што гэта не радня, а самая сапраўдная хатняя работніца. Быццам бы Тэкля — былая нянька, якая выгадавала Фаіну, а цяпер жыве ў яе ў нахлебніцах і бясплатна прыслужвае. Таму і празвалі Фаіну Адамаўну Буржуйкай, але яна ўсяго гэтага прызнаваць не хоча. А каб ніхто не даведаўся праўды, Фаіна Адамаўна і старой не дазваляла да суседак хадзіць, і сама амаль ні з кім не размаўляе. Толькі з Вольчынай маці, добрай краўчыхай ды Гальчынай маці, прадаўшчыцай. Усе наўкол вельмі шкадавалі бабку Тэклю і не любілі Буржуйку.

Пакуль я пра ўсё гэта думала, прыйшлі мае сяброўкі Вольга і Галінка. Кожная прынесла сваю бітку — бляшаначку з-пад гуталіну, напоўненую пяском. На першы погляд, усе біткі аднолькавыя, але кожная дзяўчынка лічыла за гонар мець асабістую і гуляць у класікі толькі сваёй.

Мы дамовіліся, хто за кім скача, і гульня пачалася… Толькі распачала скакаць Вольга, як са свайго двара вызірнула Фаіна Адамаўна:

— Волечка, Галінка, дзяўчаткі, хадзіце да мяне, я вас чымсьці пачастую!

Дзяўчаты кінулі гульню і пабеглі ў двор да цёткі Фаіны. Я завагалася: Фаіна Адамаўна не назвала маё імя, але ж яна сказала «дзяўчаткі»! У адрозненне ад сябровак, я добра ведала, чым будуць частаваць. І жаданне атрымаць жаданы апельсін перамагло сорам. Я кінулася ўслед за дзяўчаткамі і дагнала іх ужо ля дзвярэй.

На ганку стаяла Фаіна Адамаўна і ласкава ўсміхалася маім сяброўкам. Убачыўшы мяне, яна адразу ж усміхацца перастала і сярдзіта ўсклікнула:

— А ты чаго з'явілася? Я цябе не клікала. Што за выхаванне?!. Што за манеры?!.

Мне зрабілася вельмі крыўдна: я адчула сябе жабрачкай. Слёзы выступілі на вачах. Рэзка павярнуўшыся, я хуценька выбегла з двара.

Ля варот Фаіны Адамаўны стаяла шырокая, зручная, пафарбаваная лаўка. На ёй звычайна сядзела бабка Тэкля, калі выходзіла на вуліцу «пагуляць». Я ўселася на гэтую лаўку і пачала чакаць дзяўчатак. Была ўпэўнена, што яны, як сапраўдныя сяброўкі, адмовяцца ад пачастунку і выскачаць следам за мной. Мяне калаціла ад хвалявання…

Мінула доўгая хвіліна, другая, трэцяя… Сяброўкі не з'яўляліся. Нарэшце паказаліся…

Яны выйшлі павольна і важна, задаволеныя і шчаслівыя. Кожная з іх хавала правую руку за спінай. Яны падышлі і сталі перада мной.

— А нас Фаіна Адамаўна вось чым пачаставала! Ага!..

І абедзве разам, бы па камандзе, выцягнулі правыя рукі наперад. У кожнай на далоні ляжала па вялікаму аранжаваму сонцу…

Я нахіліла галаву ўніз і ціхенька праглынула сліну.

— Падумаеш, апельсіны… — спакойна, нават абыякава прамовіла я. — У іх аніякіх вітамінаў няма. І ў мяне ад апельсінаў алергія!

Сяброўкі збянтэжыліся, яны не ведалі, што такое алергія, і прамаўчалі. Але відавочна ўзрадаваліся, што не трэба са мною дзяліцца. Пабеглі, панеслі дадому свае сонейкі.

А я з таго часу, сапраўды, не вельмі люблю апельсіны, хаця яны самі па сабе тут зусім ні пры чым. Затое з гадамі ўпадабала вішні, якіх, на жаль, усё менш і менш у бацькоўскім садзе.



*Ягор КОНЕЎ*

# ЗАБОЙЦА З РОДУ ДАСТАЕЎСКІХ*

*Гістарычная драма ў двух актах*

## Акт II

### Дзея I

Прыцемкі.

Ап'янела хістаючыся, уваходзіць Станкевіч у доўгай кашулі, ботах, з пустым збанам у руцэ. Ставіць збан на стол.

**Станкевіч** (*напявае*).

У паганцаў жонкі
Паміралі ўслед за мужам...

(*Ікае.*) Навошта я пакінуў сакратара ў лесе? Ніхто не сустрэў мяне... А цяпер Віславух дапамог бы мне апрануцца...

(*Спявае.*)

А цяпер мужа хаваюць,
Скочуць і не тужаць…

(*Ікае.*) Ну, пара да пекнай удавы...

Станкевіч адчыняе шафу.
З шафы выходзіць Ян Тур з шабляй у руцэ, замахваецца.
Станкевіч ухіляецца ад яго ўдара, бяжыць да дзвярэй.
Тур заступае яму шлях. Адступаючы, Станкевіч падае.

**Станкевіч.** Я думаў, падпільнуеце мяне вы па дарозе з лазні.

**Тур.** І я падумаў, што вы так падумаеце. Я бачыў, як ваш памагач сноўдаў па ўзлессі. Таму стаіўся тут.

**Станкевіч** (*устае на калені*). Дамовіцца мы можам.

**Тур.** Я не стану.

**Станкевіч** (*малітоўна складвае рукі*). Я няўзброены. Вы ўсемагутны. Ці дасцё мне крыху часу, каб памаліцца перад сконам?

**Тур.** Карловічу не даў. І вам не дам. Ён верашчаў, як дзік пад кордам. А вы сканаеце, як збродлівы сабака.

**Станкевіч.** Цікаўнасць не дае спакою. Адкажыце на апошняе ў маім жыцці пытанне: завошта вы яго забілі? Яна вас папрасіла?

**Тур.** Анічога яна не ведала, ні пра што не падазравала. Яна прыйшла ў гэты свет, каб стаць маёй. Восем гадоў я назіраў, як гэткая нікчэмнасць валодае ёю! Ды вычарпалася мая цярплівасць. Смяротны грэх узяў я на душу, каб непарыўна злучыць нашы жыццёвыя дарогі. І нікому не дазволю дакрануцца да яе!

**Станкевіч** (*б'е сябе па руках*). Клянуся, я не меў такіх намераў.

* Заканчэнне. Пачатак у № 5, 2013 г.

**Тур.** Твая душа і душа сакратара адправяцца на неба. А вашыя грэшныя целы пасяку на кавалкі ды свінням скармлю...

**Станкевіч.** Прыспеў час і для рыбнай лоўлі!

Уваходзіць Віславух з пісталетам у адной руцэ і шабляй у другой.

**Віславух** (*Туру*). Кінь шаблю, злыдзень!

Тур раптоўна выбівае пісталет з рукі Віславуха.
Віславух і Тур б’юцца на шаблях.
Станкевіч вымае з рукава кароткі корд, падкрадваецца да Тура, злаўчышыўся, прыстаўляе корд да горла Тура.

**Станкевіч** (*Туру*). А ну, кінь шаблю, чорт кашлаты!

Тур кідае зброю. Віславух б’е Тура пад дых. Тур падае. Віславух выцягвае з-за пояса вяроўку, вяжа Туру рукі.

## Дзея II

Уваходзяць Марына і Раіна.

**Марына.** Што адбылося тут? І што за крыкі?

**Станкевіч.** На чарвяка хітрасці злоўлены шчупак праўды.

**Раіна** (*Віславуху*). Вы не параніліся?

**Віславух** (*Раіне*). Мяне ваш медальён бароніць.

**Марына** (*Станкевічу*). Ці можаце ясней мне патлумачыць?

**Станкевіч** (*Марыне*). Я прыкінуўся ахвяраю. І абудзіў у злачынцы інстынкт драпежніка. Хто забіў чалавека, той крыважэрнасці сваёй ужо не ўтаймуе. Разважаючы такім чынам, я справакаваў аканома на ліхі ўчынак. І так пацвердзіў сваё падазрэнне.

**Раіна** (*Віславуху*). О, як вы неразважліва адважны!

**Віславух** (*Раіне, усаджваючы звязанага Тура ў крэсла*). Знайшлася, урэшце, у мяне рыса характару, якая вам даспадобы.

**Марына** (*Станкевічу*). Значыць, ваша міласць ад самага пачатку падазравалі не пасынка, а майго аканома?

**Станкевіч.** З тае прычыны надоечы я размаўляў з вамі недалікатным чынам. Прашу мне дараваць.

Станкевіч сцягвае кашулю, пад якой хаваў шаравары і панцыр. Віславух дапамагае яму зняць панцыр, вымае з шафы кунтуш, жупан и пояс, дапамагае Станкевічу апрануцца.
Марына падымае кінутую Турам шаблю, набліжаецца да Тура, скіроўвае вастрыё яму ў грудзі.

**Марына** (*Туру*). Згубіцель! Ірад! Людажэрац! Пара табе ў пекла!

**Раіна** (*адбіраючы ў Марыны шаблю*). Сцеражыся смяротнага граху, сястра!

Раіна перадае зброю Віславуху. Той хавае шаблю ў шафе.

**Тур** (*Марыне*). З табою пекла раем мне падасца.

**Станкевіч** (*Туру*). Вам апраметная сваю адчыніць браму ў сутарэннях земскага суда.

**Тур**. Я шляхціц. Мой статус мяне засцеражэ ад катаванняў.

**Станкевіч.** Зламыснік вы. Віну вам не аспрэчыць. Аднак сваю долю аблегчыце, калі прызнаецеся: хто нацкаваў вас на злачынства?

**Тур.** Д'ябал. Толькі ён адзін.

**Станкевіч.** Няхай ён вас і пашкадуе. (*Віславуху*) Пане Фелікс, забойцу пад замок у клець! Пана Казіміра вызваліць. Загадайце кучару, каб накарміў і асядлаў нашых коней. І пачынайце збіраць рэчы. На досвітку адканваіруем душагуба ў Менск.

Віславух выводзіць Тура. Раіна выходзіць за імі следам.

**Марына** (*разгублена*). Ваша міласць так хутка пакідае нас?

**Станкевіч.** Следства завершана. Згубіцель вашага мужа знойдзены. Яго належыць тэрмінова асудзіць.

**Марына.** А як жа маё права на маёнтак?

**Станкевіч.** Калі б забойцам аказаўся ваш пасынак, вы сталі б уладальніцай Дурыніц. Аднак паколькі пан Казімір невінаваты...

**Марына.** А як жа тэстамент майго мужа?

**Станкевіч.** Юрыдычна пан Казімір як колішні нашчадак першай чаргі можа яго аспрэчыць. Судовыя разборы такога кшталту цягнуцца багата часу. Здараецца, і пяць, і дзесяць, нават дваццаць пяць гадоў. І ўвесь той час законным спадкаемцам будзе лічыцца пан Казімір. Бо ён — мужчына, а вы — кабета. Таму зычу вам неадкладна мірыцца з пасынкам, шукаць з ім пагаднення.

**Марына.** Няўжо нельга павярнуць вам справу на маю карысць?

**Станкевіч.** Аніякім чынам, на вялікі жаль для вашай мосці.

**Марына** (*злосна*). Тады я зычу вашай міласці салодкіх сноў і гладкай дарогі! (*Прысядае ў паклоне, выходзіць.*)

Уваходзіць Віславух, пакуе ў мяхі адзенне і паперы.

**Віславух** (*уздыхаючы*). А мне тут падабаецца ўсё болей.

**Станкевіч.** А мне ўсё меней. Шчымам цісне сэрца.

**Віславух.** Дужа ж прынадная гэтая панна Раіна Дастаеўская!

**Станкевіч.** Мой роздум больш займае яе сястра Марына.

**Віславух.** Бач ты, убіла ў галаву, быццам медальён з малітвай, яе ўласнаю рукою напісанай, абароніць мяне ад усялякай злыбяды!

**Станкевіч** (*працягвае руку*). Ці магу пабачыць?

**Віславух.** Аніякім чынам, пане Андрэй. Яна, пэўна, ужо ў ложку спачывае. У шоўкавай кашулі, у адзінокай сваёй святліцы...

**Станкевіч.** Не панну Раіну хачу я бачыць, але яе медальён.

**Віславух** (*здымаючы медальён з шыі*). Навошта вам ён?

**Станкевіч.** У нашай справе важнай можа аказацца ўсялякая дробязь. (*Расчыняе медальён, чытае ліст з малітваю.*) Як раз такой драбязы мне і не хапала. Карціна злачынства набыла завершанасць.

**Віславух.** Што ваша міласць мае на ўвазе?

**Станкевіч** (*вяртаючы медальён Віславуху*). Пайду праверу: ці даў кучар аўса коням? А вы заканчвайце зборы ў дарогу. (*Выходзіць.*)

**Віславух** (*звяртаючыся да медальёна*). Бывайце, мілая панна Раіна Дастаеўская. Асабіста развітацца з вамі не адважуся. Жывіце шчаслівa. Няхай ад ліха Бог вас абароніць. (*Уздыхае, вешае медальён на шыю, пакуе мяхі, ускідвае на плечы, выходзіць.*)

## Дзея III

Уваходзіць Казімір Карловіч, сядае за стол, вымае з шуфляды паперу, чарніліцу, пяро, піша.
Уваходзіць Раіна Дастаеўская з падарункамі: у адной руцэ трымае кашулю і рушнік, у другой — збан з пітвом.

**Казімір** (*падымаючыся*). Сардэчна рады бачыць вас, панна Раіна. Я меў намер з вамі пагаварыць.

**Раіна** (*ставіць збан на стол*). Адчула я. І вось сама прыйшла.

**Казімір.** На досвітку з'язджаю я ў кляштар Святога Духа. Пажыву там паслушнікам, а потым і пострыг прыму. (*Працягвае ёй паперу.*) Сваю спадчыну, маёнтак і вёску Дурыніцы, я адпісваю кляштару. Мачаха, вядома, стане судзіцца, але, упэўнены, прайграе. Вам жа будзе сплочана буйная сума адступных у дукатах. (*Расплаўляе сургуч полымем свечкі і прыкладвае да паперы пячатку сыгнета.*)

**Раіна.** Узнагародзіць вас Гасподзь за дабрыню. Але чаму вы ўцякаеце з роднага дому?

**Казімір.** Скажу вам шчыра — баюся. Учора мачаха клялася, што стаўчэ мяне ў ступе. Яна не палохала — папярэджвала. Хачу схавацца я ад змроку за святымі сценамі, уратаваць сваю душу, пакуль магу.

**Раіна.** Бог кожнаму пакажа верны шлях. Трэба толькі зразумець Яго падказку. Я веру, што кіруе вамі воля нябёсаў.

**Казімір.** Вы адзіная, хто разумеў мяне заўсёды. Сваёй матулі я не памятаю. А бацюхна, праўду кажучы, часцяком сябе паводзіў, бы жывёла. То злосная, то баязлівая жывёла.

**Раіна.** Не асуджайце бацьку. Ён кахаў Марыну.

**Казімір.** Нягледзячы на тое, што яна яго збівала.

**Раіна.** Пан Station Станіслаў Карловіч пачаў першы. Я памятаю, як казаў ён: «Выпраўляючыся да жанчыны, прыхапі з сабой нагайку».

**Казімір.** А яна ў мужа нагайку адняла ды ёй жа яго адлупцавала. І спыніцца ўжо не магла. Потым парадкам пападала і мне, і слугам.

**Раіна.** Марына не заўсёды мела жорсткі нораў. Спярша між ёю і панам Станіславам царыла ўзаемная спагада. Шаснаццаць гадоў таму пан Карловіч і наш бацька пазнаёміліся на кірмашы. Бацюхна прайграўся ў карты ўшчэнт. Пан Карловіч уратаваў яго ад ганьбы і турмы. У знак падзякі бацюхна аддаў яму Марыну. Мая сястра сумленна ахвяравала пану Станіславу руку і сэрца, душу і цела. Ды спахапіцца ўсе мы не паспелі, як шлюбны рай ператварыўся ў пекла. І, пазіраючы на іх, я думала: «Дзякуй Богу, што не зычыў мне такую прыгоду! Якое шчасце, што мяне ніхто ніколі замуж не возьме!»

**Казімір** (*усміхаючыся*). Вы і цяпер так думаеце?

**Раіна** (*працягваючы*). Цяпер хачу я даць вам у дарогу гэтыя сціплыя дарункі. Сама пашыла іх. Вось нацельная кашуля, рушнік.

**Казімір** (*прымаючы з яе рук падарункі*). Сардэчна вам удзячны.

**Раіна.** Пара мне адвітацца. Не да твару незамужняй паненцы доўга бавіць час сам-насам з нежанатым панам.

**Казімір.** Далібог яшчэ пабачымся.

**Раіна.** Я ранкам праводзіць вас не пайду. Сястра маю прысутнасць не ўхваліць. Мо лепей цяпер вып'ем адыходную?

**Казімір** (*вымаючы з шафы келіхі*). Што заўгодна? Вянгерскага віна? Гарэлкі анышовай? Аквавіты?

**Раіна** (*разліваючы па кубках вадкасць са збана*). Я згатавала нам настоечку на вішні. Хмельная і саладжавая на смак. (*Падымае келіх.*) Няхай дарога ў ваша новае жыццё будзе лёгкай і хуткай!

Раіна і Казімір сутыкаюцца келіхамі, выпіваюць.

**Раіна.** Увагі вартае пытанне спакою не дае мне, пане Казімір.
**Казімір.** Што ж вас так турбуе, панна Раіна?
**Раіна.** А раптам прыйдуць з набегам крымчакі, схопяць мяне і гвалтам змусяць праклінаць імя Боскае. Ці адвернецца ад мяне Бог у хвіліну маёй слабасці?
**Казімір.** Боская міласэрнасць неспасцігальная для нашага розуму. Калі будзе шчырым пакаянне, то Ён даруе...
**Раіна.** А ў час, калі я пад прынукаю не буду хрысціянкай, ці пакарае Бог здзейсненае мною злачынства?
**Казімір.** Пра якое злачынства ідзе гаворка?
**Раіна** (*указваючы на яго келіх*). Вось пра гэтае.

Казімір хістаецца, падае.
Раіна вымае са складак спадніцы флакон, выпівае з яго вадкасць.

**Казімір** (*прыўзнімае свой келіх*). Гэта…
**Раіна.** Атрута. Сама яе прыгатавала. Пакутаваць будзеце вы моцна ды нядоўга. Спярша ваш розум праяснее. Потым боль спапяліць вантробы. Нарэшце нечым стане дыхаць. (*Памахаўшы пустым флаконам.*) А гэта проціяддзе. На жаль, яго вам не хапіла.
**Казімір.** За што? Хіба я вас пакрыўдзіў?
**Раіна.** Ад нараджэння вы ахвярнае ягнё. І бацька ваш такім быў.
**Казімір.** Дык значыць, усе злачынствы — плён вашых намераў?
**Раіна.** Не маіх. (*Указваючы на дзверы.*) Яе.

## Дзея IV

Уваходзіць Марына.
Раіна апускаецца перад ёю на калені, цалуе руку.

**Раіна** (*Марыне*). Усё, як я дакляравала, мілая сястрыца. Атрута ўжо расцяклася па яго жылах і спаралізавала цела. (*Казіміру, падымаючыся.*) Родная кроў вымагае беззаганнай вернасці.
**Марына** (*Раіне*). Але ці бездакорная твая адданасць?
**Раіна** (*хапае са стала паперу, працягвае Марыне*). Вось лепшы доказ, мілая сястрыца. Ты пачытай, як узбагаціць хацеў мяне твой пасынак нікчэмны. А я скарылася перад тваёю воляю.
**Марына** (*чытае паперу, вяртае Раіне*). Парві яе, родная.

Раіна старанна рве ды топча жмуты.

**Марына** (*Казіміру*). Цяпер усё належаць будзе мне. Прыслуга ў адзін голас прысягне, нібыта вы папярхнуліся за вячэрай і заўчасна памерлі. Нават суддзя Станкевіч ужо не дакапаецца да праўды.
**Казімір** (*хапаючыся за жывот*). Божухна, як баліць! Ратуйце!

**Марына** (*Казіміру*). Калі насамрэч існуе Царства Боскае, то вы заслужылі яго сваімі пакутамі. Убачыце бацьку — кланяйцеся ад мяне.

Казімір здаўлена крычыць, сутаргава торгаецца, сціхае.

**Марына** (*грэблівa*). Сканаў. І анічога не сказаў на развітанне...
**Казімір** (*падымаючыся*). Цяпер скажу. Рыбная лоўля!

## Дзея V

Уваходзяць Станкевіч і Віславух.

**Станкевіч** (*Віславуху*). О, як люблю сваю пасаду я ў такія моманты! Як ганаруся нашымі выдумкамі!

**Марына** (*Станкевічу, ашаломлена*). Вы тут? Якім жа чынам?

**Станкевіч.** Ці памятаеце, што казаў раней вам пра інстынкт забойцы? Тады ён праяўляецца яскрава, калі Зламыснік верыць у беспакаранасць. Іншая рыба тады толькі ўхопіць чарвяка, калі не ўбачыць зблізку рыбака.

**Марына.** О, ашуканец! Недаверак! Брыда!

**Казімір** (*Марыне*). Ад усяго, што тут нагаварылі, вам, мачаха, ужо не адрачыся.

Станкевіч (*Марыне*). Мы з панам Віславухам адканваіравалі Тура ў турму і адразу ж вярнуліся. Пан Казімір гасцінна прытуліў нас у сваім пакоі. Панна Раіна цішком карміла нас. Хавацца нам было нязручна! Але ж вынік апраўдаў нашу цярплівасць.

**Марына** (*Раіне*). Атруты не было ў вашых кубках?

**Раіна** (*Марыне*). Вішнёвая настойка там была. Я пану Казіміру ў дэталях апісала сімптомы атручвання. І загадзя мы з ім дамовіліся, якія рэплікі агучым, калі стаішся ты ў калідоры.

**Марына.** Падманшчыца! Цябе Бог пакарае!

**Раіна.** У мяне будзе час, каб замаліць свой грэх — падробку тэстамента.

**Марына** (*Станкевічу*). Калі мяне вы западозрылі, чорт хітры?

**Станкевіч.** Як супаставіў я абодва завяшчанні. Рукою вашага мужа было пазначана: «Праўдзіва запісана з маіх слоў». Я часта сутыкаўся з падробнымі тэстаментамі. Зверыўшы почырк, зразумеў: другое завяшчанне — падробка. Так праясніўся мне матыў забойства. Затым даследаваў тэкст вашага паслання да дзядзечкі ў Менск. Пераканаўся, што новы тэстамент падрабілі не вы. Тады хто? І тут дарэчы пан Віславух мне паказаў цэдулу, напісаную сястрою вашаю Раінай. У ім я ўгледзеў характэрны націск на пяро і адпаведныя памеры літар. І так адкрылася, хто ваша саўдзельніца.

**Раіна.** Вымушаная саўдзельніца. З юнацтва мела схільнасць да чыстапісання. Усялякі почырк я скапіраваць магла. Аднак сваё ўмельства таіла ў сакрэце, паколькі не да твару паненцы хваліцца такімі талентамі. Толькі Марына пра ўсё ведала. І сёлета загадала мне скапіраваць почырк нябожчыка і напісаць новы тэстамент. Інакш, пагражала, выкіне мяне з маёнтка. Якую радасць я адчула, калі вашая міласць прад'явілі неаспрэчныя доказы маёй віны! Як шчасіва была ва ўсім пакаяцца і вам дапамагаць!

**Марына** (*Раіне*). Ты — боўдзіла! Дурное бервяно!

**Станкевіч** (*Віславуху*). Злачынцу — пад замок. І загадайце кучару, каб рыхтаваў карэту. У ёй адканваіруем зламысніцу ў Менск.

Віславух цягне Марыну за руку да дзвярэй.

**Марына** (*Віславуху*). Прэч рукі ад мяне, нікчэмнік!

**Віславух** (*Марыне*). Годзе джаліць, змяя! Ты пазбаўлена джала!

Віславух перакідвае Марыну цераз плячо і выносіць, не зважаючы на тое, як злосна яна барабаніць яго па спіне кулакамі.

**Станкевіч** (*Раіне*). Я ўдзячны вам за дапамогу правасуддзю. Яшчэ належыць далучыць да справы пратакол вашых паказанняў. Яго складзе мой сакратар. Будзьце з ім шчыраю. (*Казіміру*) А вашыя сведчанні, пане Казімір, я запішу асабіста.

**Казімір.** Прашу ў маю святліцу, ваша міласць.

Пакланіўшыся Раіне, Станкевіч і Казімір выходзяць.

## Дзея VI

Уваходзіць Віславух, зніякавела кашляе, сядае за стол, падсоўвае стос паперы, торкае пяром ў чарніліцу, піша.

**Віславух.** Не я, а вы цяпер жыццём рызыкавалі. І мушу вам, вялебная панна, выказаць пачцівае захапленне.

**Раіна.** Калі б мяне паклікалі вы замуж, то я ахвотна пагадзілася б.

**Віславух.** Злітуйцеся, які з мяне жаніх! Я бедны, як...

**Раіна.** І я амаль жабрачка. А ўсё ж, мяркую, вартыя жалю тыя, хто вымярае сямейнае шчасце талерамі, дукатамі ды злотымі.

**Віславух.** Але не вымаўлю я слоў, якіх мы прагнем...

**Раіна.** Чаму ж?

**Віславух** (*указваючы ўслед Станкевічу*). Маё наканаванне — клапаціцца пра яго. Яму жыццём я абавязаны. Дзевяць гадоў, сем месяцаў і ўжо тры тыдні... Яго не толькі я ад кулі і ад шаблі бараню. Я даглядаю, каб ён сытна харчаваўся, каб чыста і ахайна апранаўся, каб быў у канцылярыі парадак. Без мяне пану Андрэю блага будзе... Ці думалі вы пра тое, чаму наша Рэч Паспалітая, дзе спрэс бязладдзе і тумульта, аніяк не разваліцца? А таму, што трымаецца Рэспубліка на такіх дбайных руплівцах закону, як пан земскі суддзя Станкевіч...

**Раіна.** Беражыце сябе на службе, мілы пане Фелікс. Дала зарок я Боскай Маці — калі мне суджана ўзяць шлюб, дык толькі з вамі.

**Віславух** (*гнеўна*). Такой ахвяры я прымаць не смею!

**Раіна** (*дзёрзка*). А гэта мне дазвольце вырашаць!

**Віславух** (*цягне каўнер*). Мне цяжка дыхаць, неяк непамысна! Выбачайце, але я не ў стане пратакаліраваць вашыя паказанні. Вы напішыце знізу: «Пацвярджаю». Астатняе я дапішу ў Менску.

Раіна бярэ пяро, падпісвае паперу, кланяецца, выходзіць.
Віславух уздыхае, складвае пісьмовы набор, выходзіць.

## Дзея VII

Менск. Памяшканне суда.
Уваходзіць Віславух, уводзіць Марыну і Тура, у якіх звязаны рукі.

**Віславух.** Нагадваю прысутным пра захаванне павагі да судовых пастаноў. Парушальнікаў парадку чакае строгае спагнанне. Няхай здзейсніцца правасуддзе! Яго міласць пан суддзя Андрэй Станкевіч.

Уваходзіць Станкевіч у судзейскай мантыі, капелюшы і з папяровым скруткам у руцэ.

**Станкевіч.** Іменем закону! З Боскай волі і дазволу караля і вялікага князя! Слухаецца справа пра забойства ўладальніка маёнтка Дурыніцы Станіслава Карловіча яго аканомам Янам Турам па наўмыснеіцтву Марыны Карловіч, у дзявоцтве — Дастаеўскай. Судом разгледжаны доказы віны і паказанні сведак. (*Марыне і Туру*) Ці прызнаяце вы сваю віну ў ажыццяўленні гнюснага злачынства? Я нагадаю, што ў працэсе дазнання выкарыстоўваюць бізун і прэнг...

**Тур.** Я прызнаюся. Мне шкада і горка.

**Марына.** А я абвінавачана бязвінна! Я мужа любага не забівала! (*Ківае ўбок Тура.*) Вось каго д'ябал спакусіў на злы ўчынак!

**Тур** (*Марыне, абурана*). Не д'ябал. Вы мяне падгаварылі! Шмат месяцаў прасілі ды малілі. Шмат тыдняў папракалі, пагражалі. Душою саслабеўшы, я стаўся зброяй вашых злых намераў. Але ж я каюся ў сваіх грахах! А вы ані пра што не шкадуеце. Дык вы і ёсць сапраўдная забойца! А я — ахвяра, як і пан Станіслаў...

**Станкевіч.** Той, хто забіў, і той, хто натхняў на злачынства, панясуць роўную долю адказнасці за пралітую кроў хрысціянскую.

**Марына** (*Станкевічу*). Я прызнаю віну. Прашу пазбавіць прэнгу. Малю вас праявіць спагаду да майго полу і шляхетнага паходжання. Не забівайце маю веру ў міласэрнасць!

**Станкевіч.** Паколькі абвінавачаныя не адпрэчваюць сваю віну, то я пастанаўляю, што катаванне ўжываць не мае сэнсу.

**Віславух** (*сабе*). Шкада! Маглі б і скарыстаць дзеля парадку...

**Станкевіч** (*разгортвае скрутак*). «Закон Вялікага княства Літоўскага разглядае забойства ў шэрагу найцяжэйшых злачынстваў перад Богам. Належыць строга караць душагубаў, не зважаючы на іх пол і статус. Інакш пад цяжарам іх учынкаў дзяржава разбурыцца, а люд паспаліты ўгразне ў граху і адчаі. Таму суд спасылаецца на артыкул трэці раздзела дванаццатага Статута 1588 года, паводле якога калі муж жонку або жонка мужа загубіць, то такога людабойцу трэба без усялякай літасці караці горлам адпаведным звычаем...»

**Тур** (*спалохана*). Што за звычай такі?

**Віславух** (*Туру, зласліва*). Паверце, вам ён будзе не па сэрцы.

**Станкевіч.** «І тых зламыснікаў па торжышчы возячы, ірваць ім цела абцугамі, затым пасадзіць у скураны мех, а з імі — сабаку, пеўня, вужаку і ката. Мех зашыць і ў глыбіню водную пусціць».

**Марына** (*разгублена*). А пеўня і сабаку навошта?

**Віславух.** Судовая сімволіка, якая перайшла да нас у спадчыну ад рымскага права. Змяя, кот, певень і сабака — жывёлы, якія здавён увасабляюць крывадушнасць і няўдзячнасць да сваіх суродзічаў. За вашае злачынства пакаранне мусіць быць павучальным.

**Станкевіч.** «Прыгавораныя маюць месяц і два тыдні на апеляцыю, пасля чаго наш прысуд абскарджанню не падлягае. Няхай Бог злітуецца з іхніх грэшных душаў!»

**Тур.** Я ўжо змірыўся з думкаю, што за правіну буду пакараны. Але нашто тапіць мяне ў Свіслачы? Лепей ламайце мяне жалезным колам! Садзіце на кол! У вогнішчы паліце!

**Станкевіч.** Мне дзіўнавата чуць такія просьбы.

**Тур.** Калі сканаю я на дне рачным, то мая душа там назаўжды і застанецца! Навекі ў кампаніі ката, сабакі, пеўня і змяюкі. О, жах! Калі ж памру я ў пакутах у

полымі або на вострай палі, то душа мая памкнецца напрасцяк у неба, нацянькі да райскіх шатаў.

**Віславух** (*Туру*). Хто вас у рай пусціць, гіцаль вы гэткі?

**Тур.** Бог літасцівы. Можа, Ён даруе.

**Станкевіч** (*Туру*). У вашай мосці будзе процьма часу паразважаць наконт вышэйшай волі. Мінаюць дні марудна ў вязніцы. (*Віславуху, указваючы на Марыну і Тура.*) Падсудных — у турму!

## Дзея VIII

Уваходзіць Салямон Псарскі з папяровым скруткам у руцэ.

**Псарскі** (*кланяючыся Станкевічу*). Пры ўсёй маёй павазе да земскага суда адважуся аспрэчыць я намер ваш трымаць за кратамі шаноўную пані Марыну Карловіч.

**Віславух.** Што за нахабнік да нас уварваўся?

**Псарскі** (*працягваючы Станкевічу скрутак*). Як вядома, вышэй за вашу юрысдыкцыю пастановы Галоўнага трыбунала Вялікага Княства Літоўскага. Суддзя Трыбунала пан Пётр Сасінавіч Дастаеўскі прадпісаў, што калі яго пляменніца аспрэчыць вырак менскага земскага суда і падасць апеляцыю...

**Марына.** Вядома, я аспрэчу і падам! (*Туру, з пагардаю*) Няхай бязвольныя на долю наракаюць. Мая барацьба толькі распачалася!

**Псарскі** (*Станкевічу*). …то на час, пакуль Галоўны трыбунал будзе разглядаць вышэйзгаданую апеляцыю, абвінавачаная можа быць узята на парукі асобамі, вартымі павагі.

**Станкевіч** (*хмурна*). Мабыць, вы і ёсць тая асоба?

**Псарскі.** Зямянін Салямон Псарскі да вашых паслуг.

**Станкевіч.** Свае паслугі лепш прапанавалі б вы ў іншым месцы.

**Псарскі.** Быў доўгі час суседам я Карловічаў і скрушныя ў сэрцы таіў жарсці да прывялебнай жонкі пана Станіслава. Калі Гасподзь забраў пана Станіслава ў Свае шаты, я не паверыў у вінаватасць пані Марыны. А як пачуў наконт яе арышту, то дзейнічаў рашуча. Прадаў стары маёнтак і старую прыслугу ды набыў дом тут, у Менску, дзе буду даглядаць гэтае райскае стварэнне, пакуль Галоўны трыбунал не прыме справядлівага вердыкту.

**Станкевіч** (*прыкра*). Дарэмныя ўсе вашы намаганні!

**Псарскі.** Усе ведаюць умовы прабывання ў нашых турмах. Мала хто з вязняў там пражыве даўжэй як год.

**Марына** (*радасна*). Сам Бог мне дасылае пана Псарскага!

**Віславух** (*змрочна*). Хутчэй за ўсё нячысцік.

**Псарскі** (*прыкладваючы руку да сэрца*). І ўсведамляючы ўсю меру адказнасці, я прысягаю гонарам, маёмасцю і ўратаваннем душы, што не дазволю пані Марыне Карловіч пакінуць горад, пакуль яе не апраўдае Галоўны трыбунал. Калі ж пані Марына ўцячэ за межы Рэчы Паспалітай, то я гатовы цярпець кару за яе.

**Тур** (*Марыне*). Вам даспадобы, калі іншыя пакутуюць за вас!

**Станкевіч** (*Псарскаму*). Ці разумееце вы, што ступілі на шлях, які незваротна прывядзе вас у пекла?

**Псарскі.** Жыць без кахання — вось што такое пекла.

**Станкевіч.** Зноў ашукаліся вы, пане Салямон. Пекла — з'ява куды больш страшнейшая за катлы з кіпенем і распаленыя патэльні. У пазачаснасці ваша душа

будзе сузіраць жахлівыя наступствы ўчынкаў вашых і памылак. І вы не зможаце заплюшчыць вочы...

**Псарскі.** Пры ўсёй маёй павазе мяркую, што развагі наконт сутнасці інфернальнага выходзяць за межы вашых паўнамоцтваў.

**Станкевіч.** Вы прыграваеце гадзюку каля сэрца!

**Псарскі** (*указваючы на Марыну*). А вы дакараеце чароўную ружу за тое, што прыгажосць сваю яна бароніць вострымі шыпамі. Аднак ружа ўсё роўна застанецца ружай у імені сваім.

**Станкевіч** (*з горыччу*). Эх, вы, батанік! Дурань! Доўбня!

**Псарскі.** Ваша міласць не мае права аспрэчыць прадпісанне пана суддзі Галоўнага трыбунала.

**Станкевіч.** Маеце рацыю. Зычу вам здароўя. (*Выходзіць.*)

**Тур** (*Псарскаму*). Прыміце і мяне вы пад апеку. (*Ківаючы ў бок Марыны*). Быў ёй адданым я сабакам. Надзейна стану вам служыць.

**Псарскі** (*Туру, грэбліва*). Пан Станіслаў Карловіч вам паверыў. Як вы аддзячылі яму за дабрадзейства?

**Віславух** (*штурхаючы Тура*). Насамрэч у нашай турме не ўсё так блага, як брэшуць злыя языкі. Там значна горш.

Віславух і Тур выходзяць.

### Дзея IX

Псарскі развязвае Марыне рукі.

**Псарскі.** Як шчаслівы я гаварыць з вамі сам-насам. З багіняю, што да мяне сышла з нябёсаў!

**Марына.** Вы памыляецеся, мілы пане. Вы — мой уладар. А я, калі захочаце, буду служкаю вашай давеку.

**Псарскі.** Як доўга марыў я пра надыход такога дзівоснага імгнення! Мяркую, што ад гэтае пары вам статус удавы больш не пасуе.

**Марына.** Я поўнасцю ў вашай волі.

**Псарскі.** Хачу бачыць вас сваёю жонкай! (*Апускаецца на калена, вымае з кішэні кунтуша і працягвае пярсцёнак.*) Прашу прыняць пярсцёнак у знак рашучасці маіх намераў.

**Марына** (*разглядваючы пярсцёнак на сваім пальцы*). Якія мудрагелістыя гулі вядзе з намі падчас Фартуна! Прачнулася ўдавой Карловіч, а засынаць я буду пані Псарскай.

**Псарскі.** Я ўжо дамовіўся са святаром. Нас хутка павянчаюць у касцёле. Але найперш вы мусіце адкрыцца мне, як на споведзі: ці маеце дачыненне да зламыснага забойства мужа вашага?

**Марына.** Калі й дапусціць такую думку, то што далей? Ці вернеце ў вязніцу мяне? Ці зможаце глядзець, як буду горлам пакарана?

**Псарскі** (*падымаючыся*). Адказвайце мне праўду!

**Марына.** А што ёсць праўда?!. А калі вам прызнаюся, што пасля шаснаццаці гадоў апрыклага шлюбу і непрабуднага п'янства мужа я пакрысе зняверылася? Аднойчы з горыччу я зразумела: няма ані Боскай міласэрнасці, ані Боскага гневу. Верагодна, Бог стварыў усё існае, а потым памёр ад старасці. Мала хто здагадваецца, што мы даўно пакінуты без нагляду Вышэйшай волі. Значыць, кожны мусіць дзейнічаць, як пажадае.

**Псарскі.** Вы хочаце сказаць, калі няма Бога, то ўсё дазволена?

**Марына.** Хачу сказаць, што моцная натура не абавязана прымаць абмежаванні, якія нехта некалі назваў мараллю.

**Псарскі.** А калі Бог усё ж існуе?

**Марына.** То ў дзень Страшнага Суда пан Станіслаў Карловіч даруе ўсё сваім забойцам. Бо Гасподзь — гэта дабрыня і міласэрнасць.

**Псарскі.** Хіба зусім вы не такая, якой я ўяўляў вас столькі часу?

**Марына** (*памаўчаўшы*). Не вінавата я ў смерці мужа. Ян Тур, жарсцю апантаны, злачынства тое здзейсніў. Паколькі ён не хоча, каб я некаму яшчэ належала, то абгаварыў мяне. І суддзя яму паверыў.

**Псарскі.** О, ён пачвара! А суддзя Станкевіч пазбаўлены розуму!

**Марына.** Я шчыры вам дала адказ. Той, што пачуць вы пажадалі.

**Псарскі.** І ўсё ж я разумею тых, хто дзеля вас адважыцца на ліха!.. Нарэшце адшукаў я сваю долю і ў яе прымаю наша шчасце.

**Марына** (*працягваючы руку*). О, улюбёнец мой найслаўнейшы! Як галубка побач з сокалам, я з вамі палячу насустрач усім нягодам.

Псарскі і Марына выходзяць.

## Дзея X

Кабінет суддзі Станкевіча: шафа, крэслы і стол.

Уваходзіць Казімір Карловіч са скруткамі ў руках, ніякавата туліцца ў кутку.

Уваходзяць Віславух з даўгімі скруткамі пад пахай і Станкевіч у судзейскай мантыі. Яны не заўважаюць візіцёра.

**Станкевіч.** Спрачацца з суддзямі Галоўнага трыбунала — усё адно, што цяляці з дубам боўкацца. Яны не чуюць маіх довадаў!

**Віславух.** Такое часта з вамі ўжо здаралася!

**Станкевіч.** Звон талераў ім толькі лашчыць слых.

**Віславух** (*разводзіць рукамі*). І здарыцца яшчэ не раз!

Судзейскія скруткі падаюць на падлогу. Віславух падымае іх, складвае на стол. Казімір памкнуўся яму дапамагчы.

Віславух і Казімір сутыкаюцца ілбамі.

**Віславух** (*радасна*). Ах, што за госць да нас прыехаў! Які шчаслівы вецер прыгнаў вас, пане Казімір?

**Казімір.** Сёння атрымаў я ў канцылярыі судовае паведамленне. Маёмасць бацюхны зацверджана за мною. Хачу засведчыць вам сваю пашану. (*Станкевічу*) Сардэчна ўдзячны вашай міласці за ўсё.

**Станкевіч** (*раздражнёна*). А я, прызнаюся, зусім не схільны да прыязненькай размовы. Падзякавалі мне — ступайце з Богам.

**Віславух** (*Казіміру*). Але перад адыходам адкажыце, як маецца панна Раіна Дастаеўская? Ці здаровая? Ці ўсё ў яе ладам?

**Казімір.** Здаровая. Але настрой мае няшчасны.

**Віславух.** Трынаццаць месяцаў, тры тыдні і пяць дзён мінула з тае пары, як развіталіся мы. А ці згадвае яна пра мяне?

**Казімір.** Штодня. І часта піша вам.

**Віславух** (*здзіўлена*). Мне? Я анічога не атрымліваў з Дурыніц.

**Казімір.** Бо вам яна іх і не адпраўляла. Звычайна, як напіша, то суне за ікону ды памоліцца за вас. Праз пэўны час збірае ўсе лісты і кідае іх у печку. А потым зноў складае вам пасланні. Некаторыя з іх я скраў. (*Працягваючы Віславуху скруткі.*) Можаце азнаёміцца.

**Віславух.** Хіба тактоўна мне чытаць лісты чужыя?

**Казімір.** Прыстойна, бо вінаваты вы ў яе пакутах.

**Станкевіч** (*іранічна, Казіміру*). Паквапіліся вы на рухомую маёмасць панны Раіны. Сцеражыцеся, каб скаргу не падала на вас.

**Казімір.** Найлепшым чынам я ўрэгуляваў маёмасныя пытанні. Панне Раіне надаў статус саўладальніцы маёнтка. Адпаведным пагадненнем я зазначыў, што калі панна Раіна пойдзе замуж па ўласнай згодзе, то палова Дурыніц з прыналежнымі землямі стануць яе пасагам. Прапановы рукі ды сэрца ёй паступалі ўжо. (*Выразна пазірае на Віславуха.*) Ды ўсім яна рашуча адмаўляла.

Віславух бярэ скруткі, паглыбляецца ў чытанне.

**Станкевіч** (*Казіміру*). Мяркую, пане Казімір, вы заявіліся не толькі за тым, каб папсаваць настрой майму сакратару?

**Казімір.** З Менска ў Дурыніцы ідуць навіны доўга. А мне карціць пачуць, як рухаецца справа пра пакаранне забойцаў майго бацькі!

**Станкевіч.** Мушу засмуціць вас. Каторы месяц пан суддзя Галоўнага трыбунала Пётр Сасінавіч Дастаеўскі зацягвае разгляд справы. А сам тым часам задобрывае калег каштоўнымі дарункамі, каб дамагчыся для пляменніцы апраўдальнага прысуду.

**Казімір.** Як горка чуць такое!

**Станкевіч.** Як пэўна і тое, што ваша мачаха, не марудзячы, выйшла замуж за пана Салямона Псарскага. Яны павянчаліся ў касцёле недалёка ад Кальварыйскіх могілак.

**Казімір.** Там бацюхна мой пахаваны.

**Станкевіч.** Сціплая ўрачыстасць адбылася 14 кастрычніка.

**Казімір.** У гадавіну яго смерці! О, д'яблава стварэнне! О, халера!

**Віславух** (*цалуе лісты*). Мая саколка! Сонейка! Галубка!

**Станкевіч** (*Віславуху*). Што з вамі, пане Фелікс?

**Віславух** (*патрасаючы скруткамі*). О, пачыталі б вы, як піша абаяльна! Бясспрэчна, сярод Дастаеўскіх ёсць схільнасць да прыгожага пісьменства. Як пранікаюць яе словы проста ў душу!

**Станкевіч** (*працягваючы руку*). Што ж, дайце, пачытаю.

**Віславух** (*прыціскаючы лісты да грудзей*). Саромлюся. Не дам.

**Станкевіч.** Ваша сэрца даўно ўжо ёй належыць, пане Фелікс.

**Віславух** (*змрочна*). Я буду побач з вамі, а не з ёю.

**Казімір** (*Станкевічу*). Мяркую, ваша міласць, што за дзесяць гадоў беззаганнай службы пан Віславух заслужыў адпачынак. Прашу вас — адпусціце яго пагасцяваць у Дурыніцы. Мажліва, свежае паветра, смачная ежа і прыемная суседства пойдуць яму на карысць.

**Віславух.** А я мяркую, вашым языком лепей падлогу падмятаць!

**Казімір** (*Станкевічу*). А калі пан Фелікс раптам ажэніцца з нейкай вартай павагі паненкай, то няхай у Дурыніцах і застаецца. У нашай гаспадарцы патрэбна дбайная рука і пільнае вока.

**Віславух** (*цягне Казіміра да парога*). Не крыўдуйце, пане Казімір, але маё калена ўчыніць псоту вашаму азадку!

**Станкевіч.** Пан Віславух, я адпраўляю вас у адпачынак на год.

**Віславух** (*адпускаючы Казіміра, Станкевічу*). Глупства вы верзяце! Як можна вам без сакратара?

**Станкевіч.** Іншага найму.

**Віславух.** Дазвольце пацікавіцца — каго?

**Казімір** (*Станкевічу*). Можа, мяне?

**Віславух** (*Казіміру, здзіўлена*). Вас?

**Станкевіч** (*Казіміру*). А як жа мара пра манаскі пострыг?

**Казімір.** Пажыў я ў кляштары тры тыдні. І добра ўсвядоміў, што для такога служэння не маю ані наканавання, ані моцы.

**Станкевіч** (*усміхаючыся*). І вы рашылі: калі не чарнарызнікам, то неадменна стаць сакратаром у судзе?

**Казімір.** У абіцелі часта я думаў пра тое, як шмат людзей у свеце штодня памірае ад старасці ў адзіноце і пакутах. І мабыць, хацелі б яны здзейсніць штосьці важнае, патрэбнае іншым, але не маюць ужо ані моцы, ані магчымасці такой. І мысліў я тады, што пакуль маю сілы, мушу паслужыць закону і справядлівасці. А паколькі вы адзіны сумленны суддзя, якога ведаю, то вам гатовы слугаваць аддана. Вы не зважайце, што мне досведу бракуе. Той недахоп запоўню я дбайным і цягавітым стаўленнем да справы.

**Станкевіч.** Даруйце, пане Казімір, за шчырасць, аднак не здатны вы з такой чулліваю душой да нашай справы.

**Казімір.** А вы мяне праверце, ваша міласць. Я згодны паслужыць і без аплаты. Прыбыткаў з маёнтка мне на жыццё хапае.

**Станкевіч.** Дармавы сакратар, без аплаты? Тут ёсць пра што падумаць!

**Казімір.** У кляштары хацеў уратавацца я ад жахаў свету. Але далі вы мне ўрок пераканаўчы: не варта ад ліха хавацца. А трэба з ліхам змагацца. І тады бывае, што праўда крыўду перамагае. У такія моманты адчуваеш, як анёлы спяваюць у душы, і як Гасподзь нам зычліва ўсміхаецца... Прашу, не пазбаўляйце мяне такой асалоды!

**Станкевіч.** Пакуль прызначу вам выпрабавальны тэрмін.

**Казімір.** Удзячны я сардэчна! (*Цалуе руку Станкевіча.*)

**Віславух** (*бурчыць*). А я ўсё роўна ў Дурыніцы не еду.

**Станкевіч.** Чаму ж, мой мужны і адданы сябра?

**Віславух.** Саромлюся.

**Казімір.** Чаго?

**Віславух.** Сваёй нястачы, безграшоўя, нэндзы. Пра старасць я раней не думаў і талеры ў кішэні не затрымліваў. Калі ўпершыню панну Раіну шчыкаў за талію, яна жыла нахлебніцай у маёнтку. Цяпер жа, мабыць, мае гадавы прыбытак у трыццаць коп грошай.

**Казімір.** Дакладней, сорак дзве капы. Аднак пры дбайным гаспадаранні прыбытак можна павялічыць утрая.

**Віславух.** Я побач з ёй сябе адчую дармаедам.

**Станкевіч.** Насамрэч, пане Фелікс, жаніх вы дужа выгадны.

**Віславух** (*пакрыўджана*). Годзе жартаваць так, ваша міласць.

**Станкевіч** (*адчыняе шафу, вымае мяхі*). Ці памятаеце прэзенты, якімі нас адорвалі пан Дастаеўскі ды пані Карловіч? Як вы мяркуеце, куды я іх падзеў? Захоўваў тут да лепшае часіны.

**Казімір** (*зазірае ў мяхі*). Каштоўны кунтуш, жупан з фалендышу, шаравары, літы слуцкі пояс, посуд з саксонскага фарфору…

**Станкевіч** (*указваючы на мяхі, Віславуху*). Тое, пане Фелікс, мой шлюбны пада-

рунак. Прыміце яго з падзякаю за верную службу. Зычу вам шчасця, лёгкай дарогі і Боскай ласкі. Бывайце. (*Абдымае Віславуха. Казіміру*) Паспяшаемся і мы, пане Карловіч. Апоўдні нас чакаюць у канцылярыі ягамосці пана ваяводы. (*Выходзіць.*)

Казімір разгублена лыпае вачамі.

**Віславух.** Чаго аслупянелі? Служба пачалася. (*Аддаючы Казіміру скураны мех і скруткі.*) Тут усё неабходнае для пратаколаў: папера, пер’е і чарніліца. (*Штурхаючы да парога*) Любімая страва яго міласці — смажаны гусак з тушанай капустаю. Напоі — квас і мёд. Не церпіць ён бруднага посуду і просьбітаў на падпітку. Вось самыя істотныя для вас веды. Астатнія прыдбаеце з цягам часу.

**Казімір.** Удзячны вам я за навуку. Няхай ахоўвае вас Пан Бог. (*Выходзіць, прыціскаючы скураны мех і скруткі да грудзей.*)

**Віславух** (*узвальваючы мяхі на плечы*). А ўсё ж у свеце справядлівасць існуе! Быў ранкам гаратлівым бабылём, цяпер жа — кавалер. З багаццем шчасце ўраз мне прываліла. Раіна, дачакалася! Іду я! (*Выходзіць.*)

## Дзея XI

Памяшканне суда ў Менску.
Уваходзяць Марына з Псарскім пад руку.
Уваходзіць Ян Тур са звязанымі рукамі. Яго канваіруе Казімір.

**Марына** (*Туру*). Пан Тур! Як маецеся, мілы пане Янка?

**Тур.** Як пагляджу, мая доля горшая за вашу.

**Казімір** (*строга*). Нагадваю прысутным пра захаванне павагі да судовых пастаноў і суддзі. Парушальнікаў парадку чакае строгае спагнанне. Няхай жа спраўджваецца правасуддзе!

Уваходзіць Станкевіч у мантыі і са скруткам у руках.

**Станкевіч.** Іменем закона! З Боскай ласкі і дазволу караля і вялікага князя! Зноў слухаецца справа пра забойства ўладальніка маёнтка Дурыніцы пана Станіслава Карловіча аканомам Янам Турам паводле падбухторвання Марыны Карловіч, у другім шлюбе — Псарскай, у дзявоцтве — Дастаеўскай. Галоўны трыбунал Вялікага Княства Літоўскага разгледзеў апеляцыю пані Марыны, усебакова вывучыў доказы віны і пастанавіў... (*Разгортвае скрутак.*)

**Марына** (*Псарскаму*). Памілуюць. Мне дзядзечка дакляраваў.

**Псарскі** (*Марыне*). О, мой анёл! О, лепатна ўсім ты ў мяне.

**Станкевіч** (*чытае*). «Смяротны прысуд — зацвердзіць».

**Марына** (*ашаломлена*). Як такое магчыма?

**Псарскі** (*збянтэжана, Марыне*). О, мой анёл!

**Казімір** (*Марыне*). З вашым дзядзечкам надоечы пагаварыў я. Пётр Сасінавіч Дастаеўскі меў намер ўратаваць вас ад справядлівага пакарання. Але я пераканаў яго ў адваротным.

**Марына** (*Казіміру*). Якім жа гэта чынам?

**Казімір.** Раскрыў яму я памылковасць яго ранейшых уяўленняў. Распавёў, як сам ледзьве не стаўся вашаю ахвярай. Нагадаў, што ўсіх нас чакае суд нябесны, які карае суддзяў несумленных.

**Марына.** Ах, ты, сабачая гнюсата! А выглядаў раней такім ягняці!

**Казімір.** Дзядзька ваш паверыў мне ўрэшце. І болей не замінаў правасуддзю. Не марудзіў з разглядам справы. Не схіляў анікога на вашу карысць уговорамі і дарункамі.

**Станкевіч.** «Улічваючы статус прыгавораных, Галоўны трыбунал замяняе меру пакарання. Забойцаў Станіслава Карловіча належыць не тапіць у Свіслачы, але павесіць на гарадскім рынку ў павучэнне люду паспалітаму. І няхай злітуецца Госпадзь з іх грэшных душаў!»

**Казімір** (*Туру*). Шыбеніцу ўжо змайстравалі. Месцічаў сабралася процьма. Жадаюць пабачыць, як вы затузаеце нагамі ў паветры.

**Тур** (*Станкевічу*). Я — шляхціц! Пратэстую!

**Псарскі** (*Станкевічу*). І мы засведчым пра сваю нязгоду.

**Станкевіч** (*Туру*). Цяпер што вас змушае, пане Тур, пярэчыць?

**Тур.** Я заклапочаны блуканнямі душы сваёй.

**Станкевіч.** Зноў вогнішча папросіце сабе? Ці кола? Або палю?

**Тур** (*апантана*). Мне лепш туды, чым горлам у пятлю.

**Станкевіч.** Адкуль такая ўпэўненасць?

**Тур.** Мяркуйце самі, ваша міласць. Калі вяроўка сціснe маё горла, і я сканаю, куды памкнецца мая душа? (*Дэманструючы*) У апраметную цераз азадак! А я хачу — у нябёсы.

**Станкевіч.** Вы думаеце, вас чакаюць у райскіх шатах?

**Тур.** Мажліва, бо іду туды я з пекла. Амаль два гады пакутваў я ў вязніцы. Там час спыняецца, і месяц роўны году. (*Указваючы на Марыну*) І як жа крыўдна і балюча бачыць, як песцяць і лашчаць тую, якая выракла мяне на грэх смяротны! Няўжо цяпер нябёсы не спагадаюць мне за ўсё, што з-за яе перацярпеў?

**Станкевіч.** Неўзабаве даведаецеся. Што да мяне, то я не маю юрыдычных паўнамоцтваў, каб скасаваць вырак Трыбунала.

**Тур.** Ты не суддзя, а ілжывы патварца!

**Казімір** (*уцягваючы Тура*). Лепш памаліцеся перад кананнем. Чакае вас апошняя дарога. (*Выходзіць з Турам.*)

## Дзея XII

**Псарскі** (*Станкевічу*). Велцы дарэчы ваша міласць прыгадалі юрыдычныя межы, якія вам акрэслены законам.

**Станкевіч.** Зноў хітрасць нейкую папрыдумлялі?

**Псарскі.** Хачу вам нагадаць пяты артыкул трынаццатага раздзела Статута Вялікага Княства Літоўскага...

**Станкевіч.** Не турбуйцеся. Я памятаю. «Калі вырачаная на смерць — цяжарная, то да народзінаў дзіцяці не караць яе, а трымаць пад наглядам. А як народзіць, тады караць горлам».

**Псарскі** (*пагладжваючы Марыну па жываце*). Парадуйцеся з намі, ваша міласць. Чакаем мы дзіця.

**Станкевіч.** Пэўна, паклапаціліся наконт павітухі, якая пад прысягаю пацвердзіць усё вамі сказанае?

**Псарскі.** Вядома, ваша міласць.

**Станкевіч.** Я віншую. Дзіця — то ласка і спрыянне вам нябёсаў. Убачымся пасля народзінаў. У вас будзе час падумаць пра адвечнае.

**Псарскі.** У нас будзе час, каб звярнуцца да таго, хто вышэй за вас і за Галоўны

трубунал. Да караля, памазанніка Боскага! Ён можа дараваць памілаванне. Ён злітуецца з маёй шматпакутнай жонкі!

**Станкевіч.** Вы страціце маёмасць і патонеце ў пазыках. Дарога ў каралеўскі палац выбрукавана не камянямі, а хабарам. Толькі лянівы не запатрабуе з вас дарункаў шчодрых.

**Псарскі.** Аспрэчыць каралеўскі загад вы не пасмееце! Маё вам шанаванне. (*Марыне*). Пара дадому, пані майго сэрца. Дарэмнаю трывогаю не варта сябе вярэдзіць. Клянуся, покі будзем жывы, не дам вас анікому і ні ў чым пакрыўдзіць.

Псарскі і Марына выходзяць.

**Станкевіч.** Дурны вы, пане Псарскі, як варона! Кіруюць вамі добрыя намеры. Але куды яны вас прывядуць урэшце? (*Выходзіць*.)

## Дзея XIII

Дом Псарскіх у Менску.
У пакоі — шафа і стол. У кутку — калыска.
Уваходзіць Салямон Псарскі ў плашчы і з шабляю на поясе.

**Псарскі** (*азіраючыся*). Ластаўка мая, сустракайце мужа! Здалёк вярнуўся я і пыл дарожны з ботаў шчэ не стрэсены.

Уваходзіць бедна апранутая Марына.

**Марына.** Цішэй крычыце, пане і спадар мой. Інакш абудзіцца і зноўку заплача сынок ваш. Сама ад стомы ледзьве не валюся.

**Псарскі.** Чаму ж служанка вам не дапаможа?

**Марына.** Сышла яна ўпрочкі. Мовіла, псяюха, што абяднелым спадарам служыць не хоча... Як прыніжае нэндза і галеча!.. Вы, можа, пане, грошы нам здабылі?

**Псарскі** (*разводзячы рукамі*). Адкуль узяць іх, мілая саколка? Апошнія ў Кракаве патраціў, каб дамагчыся з каралём сустрэчы.

**Марына.** Якую ж вестку мне прывезлі?

**Псарскі.** Такую, што трэба нам збірацца тэрмінова ў далёкую дарогу. (*Расчыняе дзверцы шафы, выцягвае мяхі з рэчамі*.)

**Марына.** Куды? Навошта, мой спадар міленькі?

**Псарскі.** З тае прычыны, ясачка, што Рэччу Паспалітай кіруе жаба. Пабожная, пыхлівая, без добрасці ў сэрцы! Сем тыдняў я выпрошваў у караля для вас уратавання. І вось вынік маіх намаганняў! (*Вымае з плашча і працягвае скрутак з пячаткамі*.)

**Марына** (*бярэ і разгортвае скрутак*). Каралеўскі ўказ. (*Чытае*.) «Мы, Жыгімонт Трэці, з Боскай ласкі кароль польскі, вялікі князь літоўскі, загадваем...» (*У жаху*) Ён пацвярджае мой смяротны вырак. Дае адтэрміноўку на дванаццаць тыдняў са дня апублікавання загада!

**Псарскі.** Той тэрмін завяршаецца сёння. Вось яна, каралеўская літасць! Дзеля яе ўвесь нажытак страціў. Завошта, Божа, так караеш?

**Марына.** Сёння 14 кастрычніка. Бязрадаснае супадзенне! Тры гады таму ў гэты вечар палёг касцьмі мой першы муж Станіслаў.

**Псарскі.** І два гады, як мы пабраліся шлюбам.

**Марына.** Пэўна, копію загада караля атрымаў і суддзя Станкевіч.

**Псарскі.** Што нам за справа да таго абэлтуха! Пакуль спахопіцца ён і прыедзе па нашы душы, мы будзем ужо далёка. Асядланыя коні нас чакаюць. Бяры дзіця, а я — рэчы. Сёння ж прэч з Менска! А потым і з Літвы. Памкнёмся на Украіну або ў Ліфлянты. Я веру, знойдзем мы куток утульны, дзе зажывём ціхмяна і шчасліва...

**Марына.** І вы парушыце дадзеную пад прысягай клятву? Навек зняславіце імя Псарскіх? Ахвяруеце збавеннем душы сваёй адвечнай?

**Псарскі.** Пакуль я побач з вамі, усе гэтыя метафізічныя матэрыі фальшывымі мне падаюцца. Адзінае, што насамрэч істотна — мы назаўсёды разам. Усё астатняе — лухта і драбяза.

**Марына** (*роспачна*). Фартуна жорстка кпіць з нас і карае.

**Псарскі** (*разгублена*). Што, мая дарачка, вы маеце на ўвазе?

**Марына.** Жаданняў у нас процьма. Няма грошай.

**Псарскі.** А што грошы! Вы залацей мне за ўсё золата ў свеце!

**Марына.** З цягам часу нашы коні акалеюць. Адзенне пазношваецца, а рэчы мы прададзім. А што далей? Як мы сябе пракормім? Законнікі шукаць нас стануць. Будзем жыць з аглядкай?

**Псарскі.** Развагі вашы, красачка мая, гучаць паныла і няўцешна.

**Марына.** Убоства розуму, мой пане, замінае вам прадбачыць нават блізкія падзеі. А я са скрухаю гляджу значна далей. І выразна бачу, якая будучыня нас чакае. Галеча, гора, голад!

**Псарскі** (*ускідваючы мяхі на плячо*). Годзе енчынь! Мы ведаем, што адбылося. А што адбудзецца — тое ведае адзіны Бог.

**Марына.** Я ведаю, што вы — прычына маёй нядолі, ліха і нягоды.

**Псарскі** (*апускаючы мяхі*). Ці ў сваім вы розуме, галубка?

**Марына.** Вы падманулі мяне прывіднаю марай! Дакляравалі, што ўратуеце ад смерці. А самі толькі крыху затрымалі яе надыход! І гэткае чаканне — пакута горшая за пакаранне!

**Псарскі.** Хіба я сам не пацярпеў бязвінна? Пазбаўлены маёмасці, багацця... Неўзабаве страчу гонар і сваё добрае імя. І ўсё дзеля вас, пані майго сэрца, гатовы адцурацца нават раю!

**Марына.** У Царства Нябеснае даўно зачынена нам дарога.

**Псарскі.** Аднак мы не пазбавім такой надзеі нашае дзіця. Каб меў наш хлопчык шанец стаць шчаслівым, мы мусім ратавацца.

**Марына** (*павагаўшыся*). Няхай усё будзе, як жадаеце, мой пане. Рассыпала расу ўжо Вечарніца і сонцу ложак рассцяліла ў нябёсах. У недалёкім часе прыйдзе цемра. Трэба спяшацца... (*Вымаючы з шафы збан з вінам і наліваючы ў келіхі.*) Паводле звычаю мы вып’ем на дарогу. Віно нямецкае кроў разагрэе і надасць нам моцы.

**Псарскі** (*бярэ келіх*). Ахвотна. Нас цяжкая чакае пуцявіна.

Марына і Псарскі сутыкаюцца келіхамі, выпіваюць.

**Псарскі** (*хіснуўшыся.*) Мне блага... З чаго такая млявасць? Святло цьмянее... Пячэ ў грудзях!.. Што за віно мы выпілі, галубка?

**Марына.** Атруту, міласцівы пане дабрадзей мой. (*Вымае са складак спадніцы флакон.*) А гэта процііддзе. Даруйце, але вам яго не засталося. (*Выпівае вадкасць з флакона.*)

**Псарскі.** Ты — д’яблава дачка! Якім жа быў я дурнем! Дзеля чаго згубіў жыццё і гонар?

**Марына.** Дзеля мяне. А значыць, не дарэмна. Вас першым выпраўляю ў змрок, каб вы спазналі: ці ёсць насамрэч пекла? Ці яго няма? Сама ж я затрымаюся, паколькі маю адну няскончаную справу.

**Псарскі.** Што ты яшчэ прыдумала, стварэнне пекла?

**Марына.** Не суджана мне жыць, як я жадала. Не даў мне лёс багацця і рабоў. Дык забяру з сабою ў цемру я і мужа, і дзіця.

**Псарскі.** Не дакранайся да дзіцёнка, ведзьма! Далібог вырасце ён шчасным чалавекам. Разумнейшым за бацьку. Дабрэйшым за маці.

**Марына** (*пакрыўджана*). Не мае права ён пражыць памысна, паколькі я пазбаўлена шчасця!

**Псарскі.** Цябе законы не сунялі. Аднак стрымае мой клінок!

Псарскі вымае шаблю з похваў, набліжаецца да Марыны.
Марына ратуецца ад яго, круцячыся вакол стала.
Псарскі ўпускае зброю, падае, калоціцца ў канвульсіях, памірае.
Чутны плач дзіця.
Марына схіляецца над Псарскім, цалуе яго.

**Марына.** Бывайце, мілы пане дабрадзей мой. (*Ідзе да калыскі, прыўзнімае падушачку.*) Пара памерці, хлопчык даражэнькі. Каб мог, то ты б падзякаваў матулі. Праз мой клопат не зведаеш ты аніколі брыдоты і агіды свету...

## Дзея XIV

Уваходзяць Станкевіч і Казімір.

**Станкевіч** (*гледзячы на Псарскага*). Баюся, мы спазніліся.

**Марына** (*Станкевічу*). Уваліліся вы да пары, заўчасна.

Марына апускае падушку на калыску. Дзіцячы плач суціхае. Казімір кідаецца да Марыны, адштурхоўвае яе ад калыскі. Марына падае. Зноў загучаў дзіцячы плач.

**Марына** (*Казіміру*). Як вы сябе паводзіце, нахабнік, з кабетаю!

**Станкевіч** (*схіляецца над Псарскім*). Здаецца, загавеў душою.

**Марына** (*Казіміру і Станкевічу*). Мусіць, задыхаліся, пакуль сюды дамчалі? Мо пажадаеце з дарогі пакаштаваць нямецкага віна?

**Казімір.** Я ўстрымаюся. На гэты конт я маю благі досвед.

**Станкевіч** (*Марыне, прынюхваючыся да келіхаў*). Такім напоем, пані, атруцілі мужа?

**Марына.** Так, прызнаюся, што свядома яго душу я з целам разлучыла. Наконт забойства пана Салямона належыць вам правесці следства і дазнанне. Праз колькі месяцаў адбудзецца земскі суд. Падам я апеляцыю ў Галоўны трыбунал. Потым звярнуся і да караля. Можа, гэтым разам манарх памілуе матулю з немаўляткам! Калі ж не спраўдзяцца мае надзеі, то ўсё роўна парачку гадоў я затрымаюся на гэтым свеце. Бо раптам пекла існуе насамрэч? Туды я іншых смела адпраўляла. Самой у апраметную патрапіць дужа страшна.

**Станкевіч** (*скрушна*). Вы крываблудная, як вораг чалавечы.

**Казімір** (*схіляецца над Псарскім*). Ваша міласць ашукаліся. Пан Псарскі не мярцвяк, але п'яны да непрытомнасці.

**Марына.** Брахня! Узяў ён шлюб з зямлёю! Уласнаручна згатавала я атруту, ад якой спруцянее дзясятак, а мо і сотня такіх псарскіх.

**Казімір** (*Станкевічу*). Не бачу я ані ахвяры, ані падстаў для судовай цяганіны. Няхай пан Псарскі ўволю адаспіцца. А калі заўтра ён не падымецца, тады і распачнём следства.

**Станкевіч** (*самазадаволена*). Удала выбраў я сабе сакратара!

**Марына.** Высновы вашы беспадстаўны! Учынкі неабгрунтаваны!

**Казімір** (*Марыне*). Вас кат і эшафот на торжышчы чакаюць.

**Марына.** Вы не шануеце закон! Нягоднікі! Адлюдкі! Ліхадзеі!

**Казімір.** Там ваша хітрая галава развітаецца з грэшным целам.

**Марына.** Злітуйцеся! І пашкадуйце. Як мне страшна!

**Казімір.** Пара ў апошні шлях. Калі шчэ можаце, то памаліцеся.

**Марына.** Хачу ды не магу. Сціскаюць сэрца жах, жуда і сполах.

Казімір дапамагае Марыне падняцца, выводзіць яе.
Станкевіч бярэ з калыскі загорнутае ў пялюшкі немаўлятка.

**Станкевіч.** Завершана злачынства пакараннем. Матуля пра сынка і не ўзгадала. Але ты не бядуй, малеча. Я даклярую — для цябе ўсё скончыцца ўдала. (*Выходзіць, гайдаючы дзіця на руках*.)

## Дзея XV

Маёнтак Дурыніцы.
Гасцявы пакой. Інтэр'ер той жа, што і напачатку, але пышна ўпрыгожаны кветкамі.
Уваходзіць Фелікс Віславух у новым кунтушы, вымае са стала люльку, капшук і крэсіва. Сядае ў крэсла, напіхвае люльку тытунём.
Уваходзіць прыгожа апранутая Раіна Дастаеўская.

**Раіна** (*кланяючыся*). Ці не заўгодна, пане мой, падсілкавацца? Я загадала, каб падалі грыбной поліўкі і тушаных зайцоў з шафранам.

**Віславух.** Ахвотна, мой анёл. Але спярша хачу я выпіць квасу.

**Раіна.** Як пажадае мой спадар і абаронца. (*Ідзе да дзвярэй*.)

**Віславух.** Чакай, зязюлька! Нагадай мне, калі ласка, калі пан Казімір даклараваў прыехаць?

**Раіна.** Ён у лісце зазначыў, што прыедзе з панам Станкевічам сёння бліжэй да вечара. Але ж калі б не завіталі госці, мой муж і гаспадар іх не сустрэне з пустым страўнікам.

Уваходзіць Казімір, які трымае ў руцэ скрутак з пячаткамі.

**Казімір** (*кланяючыся*). Спяшаюся засведчыць шанаванне. Як кажуць, госць у дом — і Бог ідзе ў дом.

**Раіна** (*абдымаючы Казіміра*). Годзе, пане Казімір! Які вы госць! Вы — гаспадар у Дурыніцах, як і мы з мужам. А дзе пан Станкевіч?

**Казімір.** На ганку.

**Віславух** (*падымаючыся*). Няўжо ён зноў патрапіў у каравяк і дзеркачом бруд з ботаў ачышчае? Гэтак ён да цемры праважкаецца.

**Казімір** (*затрымліваючы Віславуха*). У яго міласці занятак больш адказны. Люляе-калыхае немаўлятка, спявае песні ціхія яму. Дзіця стамілася ў дарозе і змарнела. Вось пан Андрэй і супакойвае, як умее, сірату гаратлівую.

**Раіна.** Пра якое дзіця ідзе гаворка?

**Казімір.** Пра сына нябожчыкаў Марыны і Салямона Псарскага.

**Раіна.** Нягожа, каб хлопчык, родная нам кроў, без бацькоў мікіціўся! Яго мы прымем, узгадуем і захаваем за ім прозвішча Дастаеўскі. Бо ён цяпер адзіны нашчадак роду Дастаеўскіх. Мой бацюхна пайшоў у магілу, не пакінуўшы пасля сябе сыноў. Не меў дзяцей і дзядзечка наш Пётр Сасінавіч. Мы з панам Феліксам ужо немаладыя. Але ад гэтае пары прадоўжыцца наш род у стагоддзях!

**Казімір.** Зраблю і я пачэсны свой унёсак у карысную справу. (*Працягваючы скрутак з пячаткамі Віславуху*.) Граматай гэтай перадаю вам правы на сваю палову маёнтка Дурыніцы. З умоваю, што будзеце вы дбайна даглядаць малога Дастаеўскага. А як дасягне паўналецця, яго вы забяспечыце грашыма, каб мог пабрацца шлюбам ён суладна з пачуццём сваім сардэчным.

**Віславух** (*прымаючы грамату*). А самі за які кошт пражывяце?

**Казімір.** Мне жалавання сакратарскага хапае з лішкам.

Уваходзіць Станкевіч з сонным немаўляткам на руках.

**Станкевіч** (*шэптам*). Вітаю ўсіх. Яго я заспакоіў.

Раіна баязліва бярэ дзіця з рук Станкевіча.

**Віславух** (*Станкевічу*). Спяваць я навучуся калыханкі. Мой голас, пэўна, мілагучнейшы за ваш.

**Раіна** (*разглядваючы дзіця*). О, ненаглядны мой, панадны, мілы! Бы роднага, любіць цябе мы будзем. Толькі ў любові спасцігаеш Бога. А хто кахання і любові не шукае, той аніколі і не знойдзе Бога.

**Казімір.** Хай Бог спрыяе нашым добрым справам!

***Заслона.***



*Уладзімір ЛІПСКІ*

# МІЛАГРАДСКІ КОНІК

*Аповесць пра Барыса і Дашу, пра эпоху далёкую і нашу*

***Чарапок першы***

## ЯК БАРЫСА Ў НЯВОЛЮ ВЕЗЛІ

Божа барані, на руках Барыса не было наручнікаў.

На нагах Барыса не надзеты кайданы.

На вачах — аніякай цёмнай стужкі.

Але ён, пасажыр трынаццатага аўтобуснага сядзення, добрую палову дарогі лічыў, што яго вязуць у няволю, ссылаюць у нейкае чортава балота. Ад таго і вочы ў тумане, і на твары — кісляціна, а на губах — нібы амбарны замок.

Побач сядзеў не канваір, а родны бацька. Гэта ён збаёндваў Барыса ў вёску, каб самому паехаць у Палангу, дзе мора і дзюны. З бацькам ехала ў санаторый і маці. Яны будуць там лячыцца, а ты, Барыс, кісні ў дзеда і бабы ды рабі выгляд, што гэтаму рады.

Нявольнік утыркнуў у вушы сінія слухаўкі, уключыў мелодыі, якія спампаваў у свой мабільнік з Дзянісавага камп’ютара. Яны тусаваліся апошнім вечарам на дзіцячай пляцоўцы ў скверыку. Дзяніс, як ніколі, быў шчодрым і лагодным, спачуваў яму, абяцаў сумаваць па ім і чакаць.

Барыс не вельмі верыў свайму аднапартніку, бо той ехаў з сябрамі ў Балгарыю. І хіба скіруюцца яго звіліны ў бок вёскі, дзе будзе нудзіцца сябар?

Металічныя мелодыі тупалі ў кованых ботах па Барысавых вушах. Ён не чуў аніякіх іншых гукаў у аўтобусе, і ад гэтага душа спакайнела, цяплом агортвалася цела, вачам хацелася святла. Ён падняў галаву, расплюшчыў вочы і ледзь не ахнуў.

Перад ім, на высокай спінцы сядзення, ляжаў кот. Не, ён быў не зусім чорны, як магло падацца ў першы момант. Зыркія промні сонца высвецілі мурзу, і яго футра заіскрылася бляскам цёмна-сівога атласу. Кот, відаць, вылузнуў з рук соннай дзяўчыны, якая сядзела перад Барысам, і ўскочыў на верхатуру сядзення. Учапіўся лапамі ў шэрую абіўку і ўпіўся вачыма ў аўтобусную шыбіну.

Барыс прыкмеціў у яго вачах-круглячках вертыкальныя, прадаўгаватыя чорныя авалы, нерухомыя вусы і



***Уладзімір Ліпскі нарадзіўся 6 мая 1940 года ў вёсцы Шолкавічы Рэчыцкага раёна. Скончыў БДУ, факультэт журналістыкі. Працаваў у апараце ЦК ЛКСМБ, з 1978 года — галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка». Старшыня Беларускага дзіцячага фонду, віцэ-прэзідэнт міжнароднай асацыяцыі дзіцячых фондаў. Аўтар шматлікіх кніг як для дзяцей, так і дарослых.***

кароткія вушы-антэны. Кот пільна ўзіраўся ў наваколле, якое неслася насустрач аўтобусу. Цікава, што ён там бачыў, чым захапляўся? Барыс выцягнуў з вушэй слухаўкі і пачаў таксама глядзець на прыдарожныя пейзажы.

Што бачылі Барысавы вочы, нам лёгка здагадацца. Праедзьце па трасе Мінск—Рэчыца і вы сустрэнеце тыя ж малюнкі прыроды, тыя ж паселішчы, дарожныя знакі, масты і кавярні, рэкі і канавы. Калі пашанцуе, убачыце спакойнага, важнага бусла і перапалоханага зайца. На дарогу можа выскачыць паласаты дзік ці рагаты лось. А з неба, як кажуць прагназісты, будзе свяціць сонца альбо пойдзе дождж, к вечару ўсё стане відавочным.

Але адны і тыя ж вочы могуць плакаць і смяяцца. Як галава захоча гузака, то абавязкова знойдзе яго. Так было і ў той дзень з Барысам. Настроіў сябе, што яго вязуць у няволю, ад гэтага бачылася ўсё ў шэрым колеры, а вушы чулі надакучлівы шоргат колаў. Усё разам напружвала нервы, узвінчвала паводзіны, агольвала характар.

— Сынок, мо б з'еў банан ці папіў соку? — лагодна пытаўся бацька.

— Адстань! — брыкаўся яршысты Барыс, не верачы ў тое, што рана малая загоіцца і па ёй не застанецца знаку, а злое слова доўга вярэдзіць чалавечую душу.

Бацьку не хацелася канфлікту ў аўтобусе, і ён надоўга замаўкаў.

Барыс працягваў пазіраць у шыбіну.

А што б убачылі і сказалі ўсе тыя, хто ў гэты час зазіраў у вокны аўтобуса?

Бярозы абавязкова прыкмецілі б хлопца, які носам утыркаўся ў шкло: «У яго гэткая ж прычоска, як і ў нас: кучаравая, трапяткая, толькі што не зялёная, а русявая, якераспелае жытнёвае калоссе».

Высокае неба ўсклікнула б: «У яго вачах — два блакітныя люстэркі, якімі ён бачыць усе колеры маёй вясёлкі».

Рэкі прымусілі б рыб выскачыць з ціхай плыні і заманьваць сумнага пасажыра да сябе: «Адпачні на нашым беразе, акуніся ў гаючай вадзе, злаві ў ёй залатую рыбку і паслухай, як жаба хваліць сваё балота».

Аўтобус праз пэўныя інтэрвалы рабіў прыпынкі. Пасажыры тады расшавельваліся. Барыс пачынаў распазнаваць пасажыраў, чуў іх галасы, лавіў асобныя рэплікі. Найперш, ён прыкмеціў дзяўчыну, якая везла ката. Яна была, відаць, аднагодкай з ім, толькі што незнаёмая. Мела доўгую касу, а вочы стомленыя і сумныя. Вандроўка сталася ёй цяжкасцю, а ехала яна, напэўна, таксама ў няволю.

Побач з дзяўчынай сядзеў брухель, які бессаромна пасмоктваў з вялізнай пластмасавай бутлі пеннае піва. Барыс яго адразу не ўпадабаў і першы раз за ўсю дарогу ўсміхнуўся, калі прыкмеціў, як камар упіўся ў яго тлусты карак і спакойна напаўняў сваю «цыстэрну» крывёю.

Іншыя пасажыры не кінуліся ў вочы і памяць Барыса. Хіба што салдацік на заднім месцы, які нястомна цалаваў сваю нявесту і, відаць, думаў, што ніхто гэтага не бачыць. Ага, схаваешся ад Барыса, калі ён адчувае ўсё на трыста шэсцьдзясят градусаў вакол сябе.

З размоў, якія павісалі ў аўтобуснай прасторы, Барыс вылучыў і запомніў некалькі фраз. Над імі доўга раздумваў, але так і пакінуў не зусім разгаданымі. Сапраўды, чаму мужчына з пярэдняга сядзення сказаў суседцы: «Ажаніўся, як нагу ў бот уставіў»? А што азначаюць рэплікі: «Усё наша, толькі мы не свае»; «Беднаму і вецер у вочы»?..

На чарговым прыпынку ў аўтобус увалілася цётка з венікамі. Убачыла людзей, абрадавалася: ёсць з кім пагаманіць. І пачала распавядаць пра сябе, як яна на сцэне:

— А я, ета, у свой Мілаград еду. Унукаў пасвіла ў горадзе. Цяпер дзеці вызвалілі з етага пекла, дык я, ета, дамоў лячу…

Барыс улавіў слова «Мілаград» і сэрца ёкнула, нібыта разам з аўтобусным колам ускочыла ў выбоіну. Ён жа таксама кіраваў у вёску Мілаград. Думаў, што едзе ў пекла, а цётка, бач, называе пеклам горад.

— Вой, у тым горадзе людзей, як мурашні, а пагаманіць няма з кім. Усе некуды спяшаюцца, — цётка давярала ўсю гэту шчырасць суседу, чалавеку з сівой галавой і носам, падобным да дзюбы грака.

— А навошта вам дзве мяцёлкі? — урэшце азваўся сівы сусед.

— Далі задарма, дык чаму б не ўзяць, — хіхікнула цётка. — Адной мяцёлкай буду падлогу чысціць. А другой — дзяцей вучыць розуму…

Барыс зыркнуў у бок гаманлівай таўстухі і падумаў: «Трэба будзе, як прыеду, палічыць, колькі мяцёлак у дзеда і бабы. Ці не падрыхтавалі і яны адну з іх для яго, мінскага госця?..»

За акном аўтобуса ўсё часцей пачалі трапляцца вёскі, найбольш з драўлянымі, пасівелымі хатамі. Шаша разрывала ланцугі пабудоў на два бакі. У адным месцы з-за кустоўя выбліснула блакітная стужка Дняпра. І ўрэшце вадзіцель аб'явіў: «Мілаград!»

Цётка з мяцёлкамі ўсклікнула: «Божачкі, якое шчасце, прыехала!..»

А Барыс з бацькам моўчкі, бы нехаця, выйшлі з аўтобуса.

### *Чарапок другі*

## ЯК БАРЫС ЗА ДУБ ЗАЧАПІЎСЯ

— От што, унучак, я калісь на спор вядро вады выпіў, — сказаў дзед Яўхім ды ляпнуў дзвярыма і выйшаў на вуліцу.

Толькі цяпер дайшло да Барыса, што ён дапёк старых. Баба Клава прапаноўвала яму і малака ранішняй дойкі ад рабой кароўкі, і кісяльку на брусьнічным заварку, і кампоту папіць у ахвоту, і магазіннай газвады, каб не было ад смагі бяды. Барыс аднекваўся ад усіх напояў, тады дзед Яўхім і засердаваў.

Планета зямля ўжо другія суткі ляцела, круцілася ў космасе, а Барыс усё адчуваў сябе нявольнікам, пакіданцам у Мілаградзе. Бацька ў той жа дзень, як прывёз яго, апошнім аўтобусам, на заходзе сонца, пакіраваў дамоў. А ён застаўся ў выгнанні, перасяленцам з горада ў вёску.

У хаце вісела гнятлівая цішыня.

Барыс тупа пазіраў у акно. Нічога там не бачыў і не хацеў бачыць. А баба Клава стаяла каля печы і не зводзіла вачэй з мядзяных галавешак дроў. Стомленае полымя нехаця аблізвала іх. Вогненныя языкі ўскалыхнулі далёкую памяць, і баба Клава цяжка ўздыхнула:

— Даруй, Барысік… Не крыўдуй на дзеда… Калі яму было гадкі тры, немцы хацелі забіць яго маму. Вывелі ў двор, паставілі да сцяны. Адзін рыжы, з закасанымі рукавамі ўжо зняў з пляча ружжо…

Барыс павярнуў галаву ў бок печы. Твар бабы Клавы нібы гарэў полымем. Яна абапіралася на вілашнік, каб не ўпасці ад горкіх успамінаў і ціха, нібы сама сабе, гаварыла:

— У той апошні момант аднекуль выскачыў Яўхімка, закрычаў: «Мамачка!..» Яна падхапіла яго на рукі, каб развітацца. А ён абшчаперыў яе за шыю і пачаў крычаць: «Не дам!.. Гэта мая мама!..» Усе мілаградцы думалі, што фашыст заб'е іх разам, маці і сына. Але малы так крычаў, так пазіраў на чужога дзядзьку, што той,

на дзіва ўсіх, зноў павесіў ружжо на плячо. Пагергеталі і пайшлі з двара. А Яўхімку ледзь адшчапілі ад мамінай шыі…

Барыс пачуў, як па хаце праляцела муха. Яна, хітруха, абмінула жоўтую стужку-ліпучку, на якой ужо «адпачывалі» яе сяброўкі. Ёй хацелася жыць і шкодзіць.

Барысу ўпершыню падалося, што ён завітаў у госці нейкім шкоднікам — нячуйкам і нябачкам. Гэтак можна даўпарціцца да таго, што і салавей пачне замінаць жыць.

Барыс вінавата падышоў да бабы Клавы, як мага ласкавей сказаў:

— Я, праўда, пакуль не хачу ні есці, ні піць. Не крыўдуй, калі што папрашу…

Ён следам за дзедам націснуў на клямку дзвярэй. Яны хрыпла рыпнулі, быццам сказалі: «Хадзі, але часта не шморгайся. Давай і мне адпачынак».

У двары Барыс адразу знайшоў дзеда Яўхіма. Той на дрывотні калоў бярозавыя цурбакі. У яго гэта спрытна атрымлівалася. Замахнецца сякерай з-за пляча і гахне роўна пасярэдзіне кругляка. Той разлятаецца на дзве палавінкі. Раз, два — і з іх ужо чацвярцінкі. Гатовы дровы ў печ.

— Хочаш паспрабаваць? — дзед змахнуў з ілба пот і працягнуў Барысу сякеру.

«Ого, які давер! Бацька ў горадзе нават нож лішні раз не давярае, каб не парэзаўся».

Барыс перахапіў з дзедавых рук сякеру. Паставіў цурбак на калоду. Замахнуўся і сякера ўпілася ў дрэва, але не раскалола яго.

— Анёж, унучак, паясі бабінай кашы, падужэеш. Хто гора пазнае — чалавекам стане, — супакоіў дзед Барыса.

Яны склалі ў скірду паколатыя дровы і прыселі на непарэзаную лясіну. Дзед, як з роўным, пачаў даверлівую гамонку:

— У кожнага свая доля, Барыс. Бачыш, наш сабака Боня — на вуліцы і на ланцугу. А кот Морда — на печы грэе плечы. Адна жытка ў вашым горадзе, другая — у нашым заканурку. Каму месяц ясны, каму ноч цёмная…

Дзед Яўхім зірнуў у бок Дняпра. Вочы яго ўбачылі нешта далёкае, і ён змоўк надоўга. А пакуль стары думаў, Барыс пазваніў у Мінск:

— Мамуля, жыву як кот Морда… Ага, кормяць і спаць даюць колькі хачу… А цяпер во з дзедам дровы колем і складваем. Трудзягі мы!..

Дзед пачуў апошнія словы, ачнуўся, папрасіў:

— Перадай дачцэ, каб не маркоцілася па табе…

Міма дрывасекаў шуганулі лапаткія галубы.

— Ух ты, спартыўныя, — здзівіўся Барыс.

— Анёж, дзікія… Лясныя…

— Нашы ў горадзе — тоўстыя папрашайкі, жабракі.

— Гэтыя гатовай яды ніколі не возьмуць. Фанабэры!.. Сюды прылятаюць на гольках яблыні пагайдацца…

— А дзе жывуць?

— Вуньдзека, — дзед павярнуў галаву ў бок дубняку, які пачынаўся адразу за агародам. — Хочаш, прагуляйся туды.

Спадабалася Барысу: дзед з ім паводзіць як з роўным, давярае і верыць, лічыць дарослым. Хіба бацькі дазволілі б яму аднаму ісці ў лес?

— Дык я прайдуся, — пагадзіўся Барыс.

— Доўга не баўся. Ды неўдалем не будзь, не заблудзіся. Пойдзеш сцежкай. Утыркнешся ў плот, дзве частаколіны адсунеш — і ты ў лесе…

Барыс саскочыў на ногі, памахаў дзеду:

— Што перадаць дубам?

— Папрасі, каб грому не баяліся, — усміхнуўся дзед, ласкавым позіркам праводзячы ўнука ў самастойную вандроўку.

У тры прыскокі Барыс апынуўся на ўзлеску. Вузкая дарога віляла каля агародаў. Адным канцом упіралася ў вуліцу, другім — вяла да ракі. Ён хуценька перамахнуў яе і кеды зашархацелі па лясной траве. Цыбаты папаратнік, кусты ядлоўцу, маладзенькія клёнікі, рабінкі даўно чакалі яго тут, віталі і прасілі пабыць з імі. Прысеў наўколенкі перад дубком з трыма лісцікамі:

— Ну што, сядзіш у дзірване, сумна табе, — шкадоба агарнула Барыса, і ён прыгадаў біялагічку Надзею Анатольеўну, яе павучанне: «Усё зялёнае ў лесе — гэта лабараторыя, якая вырабляе для нас з сонечнай энергіі кісларод».

Барыс пагладзіў лісцікі дубка. На адным прыкмеціў рыжаватую плямку, як бы хто цыркнуў ядам на кволую расліну. Бач, не зберaглі яе і густыя шаты статных дрэў і лясное зацішша.

Кожны крок па густым дубняку, перамешаным грабамі, клёнамі, а бліжэй да балацянкі і чорнымі вольхамі, усё больш напаўняўся таямніцай. Чым далей заходзіў Барыс у гушчар, тым страшней рабілася, хацелася бегчы ў хату, пад крыло дзеда і бабы, пад ахову сабакі Боні. Але ж і гонар апаноўваў, і супакаенне стукалася ў свядомасць: што ж ты палохаешся, брыдка быць баязлівцам.

Раптам Барыс сапраўды злёкнуўся, аж прысеў на паваленае дрэва. Над галавой нешта залапатала, ён на імгненне заплюшчыў вочы, а калі адкрыў іх, то ўбачыў праз галіны, як ад яго аддалялася шэрая птушка. Дакладна не ведаў, але падумаў, што спалохаў саву, якая звычайна ўдзень спіць. Так казала настаўніца. Цяпер ён гэтую старонку біялогіі прачытаў у жывой прыродзе.

Крыху супакоіўшыся, Барыс прыкмеціў, што сядзіць не проста на дрэве, а на старэнькім, гнілаватым дубе. Яго не спілаваў чалавек, яго не падрылі дзікі, яго не разбіў гром. Дуб звекаваў тут і ад старасці сам паваліўся. Колькі ж яму гадоў?

Барыс падышоў да пня, які вытыркаўся з зямлі як зуб велікана. Казалі, па круглых кольцах можна палічыць гады дрэва. Але дзе ж ты іх убачыш, калі ўся сярэдзіна дуба згніла. Нейкім агніста-фіялетавым месівам уяўлялася дубовае чэрава. І толькі вакол яго, як верхняя адзежына, цэлым заставаўся вонкавы вобад драўніны з парэпанай карой.

Ляжалы дуб нагадваў мумію фараона. Ногі запеленаны сівой, тоўстай карой. Адной галінай-рукой ён абапіраўся аб зямлю, а другую падняў да неба, быцца развітваўся з ім, а можа, маліўся, баіў маўклівы споведь пра сваю жытку непадалёк ад Дняпра?

Барыс сфоткаў на тэлефон сваю знаходку. І доўга не мог адыйсці ад ляснога нябожчыка. Гэта ж, відаць, рэдкая з’ява, калі дуб падае ад старасці, пад цяжарам пражытых стагоддзяў?

Па вяртанні ў хату, Барыс уключыў ноўтбук і ўжо не забаўляўся ў звычайныя гулі — футбол, вайнушку, бітву драконаў, а пачаў шукаць звесткі пра лясных волатаў-дубоў, якія ўваходзяць у род зялёных, лісцевых дрэў сямейства букавых.

Што выдала сеціва?

Дубы жывуць па пяцьсот, а то і па тысячы гадоў. Яны бліжэй да сонца, чым чалавек, на паўсотню метраў. А каб вымераць таўшчыню некаторых з іх, то трэба ўсёй шматдзетнай сям’ёй, узяўшыся за рукі, кінуцца ў абдымкі да дуба. Гэта дрэва каштоўнае ва ўсім. Драўніна яго ідзе на выраб мэблі, посуду, жылля, лодак, суднаў і нават караблёў. Кару і лісце выкарыстоўваюць як лекі. Ды і сам дуб, кажуць, перадае сваю моц чалавеку, калі пастаяць спінай да ствала. З жалудоў заварвалі каву, імі кармілі свіней, а ў голад елі дубовыя плады.

У інтэрнэце Барыс адшукаў эсэ Уладзіміра Караткевіча пра дуб «Дрэва вечнасці». Яго ён прачытаў цяпер не як заданне настаўніцы, а як патрэбу сэрца. А вось гэтыя словы пісьменніка выпісаў у свой блакнот: «Продкі пакланяліся дубу і дзічцы, лічылі, што жывуць у іх гордыя душы палескіх мужчын і пяшчотныя душы мясцовых жанчын, ледзь не самых прыгожых на ўсёй Беларусі... Яны і зараз пазбягаюць чапаць гэтыя дрэвы і не чапалі б іх зусім, каб часам не пільная неабходнасць або не загад чалавека, які не ведае звычаяў гэтай зямлі… Каб мая воля, я б сабраў жалудымацакі ад гэтых волатаў і засадзіў бы імі ўсю Беларусь!.. Небу яны апавядаюць свае тайны, гамоняць з ім, а людзі ўнізе, мурашы, збіраюць грыбы і ганяюць камароў. Дзівакі, задзярыце галовы ўвысь, каб аж шапкі пападалі з галоў…»

Вечарам, калі сядзелі за сталом, Барыс прыкмеціў на твары дзеда Яўхіма глыбокі раўчук паміж бровамі. Такімі ж маршчынамі-шнарамі пакрыта і кара таго дуба, што ўлёгся на вечны спачын, з якім ён спаткаўся сёння. У дзеда, відаць, гэта адзнака з вайны, калі фашыст ледзь не застрэліў яго маці. Ад якіх жа нягод маршчыны на дубе?

Барыс перастаў жаваць бульбу-рассыпанку з самаробнай кілбасой, упіўся позіркам у няголены шараваты твар дзеда, таямніча паведаміў:

— А за вашым агародам, дзядуля, у гушчары паваліўся старажытны дуб.

— Ведаю, унучак.

— Дык чаму б не ўзяць яго на дровы?

Дзед Яўхім паклаў відэлец, крыху насцярожыўся, паміж броваў узніклі два новыя раўчукі, а вочы буравілі Барыса.

— Ведай, унучак, дуб — гэта лясны Бог. У ім — нечая чалавечая душа, — Яўхім сцішыў голас і, відаць, выдаў свой сакрэт, у які паверыў даўно, з якім звекаваў. — Ад таго месца, дзе ты ўбачыў памерлы дуб, калі пайсці да рэчкі Свідзера, а яна цяпер, як раўчук, то за яе плюхотай пачынаецца колішняе-праколішняе селішча. Дык тамака пракаветашніх дубоў, як у маім плоце частаколін. І кожны з іх бы чалавек!..

— А хто тыя дубы вырасціў? — вырвалася запытанка ў Барыса.

— Хто?.. Каб жа я ведаў… Тамака жылі людзі, калі яшчэ цароў не было. Тамака вучоныя ажно з Масквы капаліся. І нешта важнае знайшлі, бо таблічку з гербам павесілі. І напісалі, каб нічога не рушылі, бо то каштоўнасць усяе нашай Беларусі…

— Яўхім, не забівай хлопцу галаву, — умяшалася ў гамонку баба Клава.

— Хай ведае! — махнуў рукой дзед, бы сакануў шабляй у паветры.

— Мне гэта цікава, бабуля, — азваўся Барыс.

— А калі так, то заўтра туды і сходзім, — паабяцаў дзед Яўхім. — Тамака дубы ў тры абдоймы. Яны багата чаго знаюць, такую памяць маюць. Толькі гаварыць не могуць…

Той ноччу Барысу не спалася.

Снілася радня з мілаградскага сяла. Усе былі ў дубовых кажухах, высокія і няўклюдныя. А сярод іх румяная, як сонейка, дзяўчына. Яна заманьвала Барыса на кручу каля Дняпра, дзе жыло яе племя.

### *Чарапок трэці*

## ЯК БАРЫС З ДАНАШАЙ СУСТРЭЎСЯ

Селі снедаць.

— У нашай вёсцы, Барыс, прынята верыць: які ядзец, такі і касец, — дзед Яўхім перанёс з патэльні ў сваю талерку пшанічныя, пульхныя аладкі, кавалачак духмянай каўбасы і ахвотна пачаў жаваць.

— Калі хочаш, бяры луплёнікі, — баба Клава паказала на ачышчаную вараную бульбу. — Гурочкі во са сваёй бочкі, разбаўтуха з курыных яек…

— Добра, бабулька, пакаштую ўсяго, — сарамліва ўсміхнуўся Барыс, бо адчуваў, што ўвесь гэты стол з наедкамі падрыхтаваны ці не ў яго гонар.

Дзед зірнуў на бабу і ўнука, сказаў, бы завязаў размову пра яду.

— Пастаўлёна-бласлаўлёна. За сталом і лыжка пані… Пануйце, як хто ўмее… Шукайце ў місе здароўя. Як мой бацька казаў: «Хоць здароўе страчу, але ў місе дно пабачу».

Гамонка дзедава ўсё болей падабалася Барысу. Падумаў: «От бы нам яго на ўрокі па беларускай мове!..» Такога настаўніка хацелася б слухаць і слухацца.

Пасля снедання дзед Яўхім папрасіў:

— Клаўдзія, скажы нам пажаданне ў дарогу.

Бабуля пакорна стала перад абразом Божай Маці с Сынам Ісусам, перахрысцілася і вымавіла:

— Святы Божа, Святы Дух праводзь у дарогу маіх Яўхіма і Барыса. Сам Выратавальнік ідзі ўперадзі, анёлы — па баках. А мае мужчынкі ў Багародзіцы на руках. Бяры іх на рукі, абарані ад мукі. Ідзіце за вароты, куды ахвота. З дарогі не збівайцеся, з бядою не сустракайцеся. На сваім шляху не спатыкайцеся і хутчэй дамоў вяртайцеся. Амінь.

— От цяперака давай па-лясному апранацца, — звярнуўся дзед да ўнука.

Ён не вучыў, як гэта рабіць, а паказваў. Кашуля з доўгімі рукавамі — каб камары не джыгалі, мухі не назалялі. Штаны не парадныя і не светлыя, лепш лахманы, каб падалей ад бяды. На галаву — шапку, на ногі — боты.

— Так будзе спакайней блындаць па лесе, — тлумачыў дзед Яўхім.

А Барыс, абуваючы боты, скарыстаў яго добры настрой:

— Скажы, дзядуля, што азначаюць словы: «Ажаніўся, як нагу ў бот уставіў»?

— Дзе такое пачуў?

— У аўтобусе, як ехаў да вас.

— Добра, што маеш вушы чуйныя. Дык ведай, лёс няроўны і людзі няроўныя. Адзін жэніцца і тут жа яму боты пачынаюць муляць. А другому тыя боты — асалода, бо не трэба, як лапці, прывязваць, як чаравікі, завязваць. Ім і зносу не будзе, калі ў руках насіць…

Выйшлі з двара, за браму, дзед працягнуў размову:

— Ведай, унук, і жонку трэба выбіраць, каб была ў асалоду на ўсе гады. Мы з Клаўдзіяй, бач, звекавалі разам. Яна некалі прыехала на практыку ў нашу калгасную кантору. А я на трактары тады рабіў. Падкаціў да яе. І не выпусціў з Мілаграда, абчалавечыўся. Во які я певень ваяўнічы. Такі ўдаўся змалку, такі і цяперака да астанку…

Пад нагамі хрумсцеў пясок. Ніхто не абганяў вандроўнікаў: ні машыны, ні людзі, ні сабакі. Толькі летняе сонца з высокага неба пільна сачыла за імі.

— Павер, Барыс, усё вакол нас мае сваё жыццё. Бачнае і нябачнае. Сваё жыццё ў рачных хваль, садовых яблынь, кветак у палісадніку… Лес шуміць. Вецер свішча. Хмара плача. А зямля, бывае, стогне. Цяжка ёй. Я гэта чую, — Яўхім пра нешта задумаўся, ішоў ціха, нібыта баючыся ступаць гумавікамі па зямлі.

Барыс не вытрымаў, спытаў:

— Чаму маўчыш, дзядуля?

— Бацьку Сцяпана прыгадаў. Калі ён вярнуўся са сталінскага лагера, казаў нам, дзецям, умейце маўчаць, а гаварыць заўсёды навучыцеся. Змоўк, бо думкі распіралі душу…

Дзед і ўнук павярнулі з шырокай дарогі на вузкую лясную сцяжыну. Пачынаўся дубняк, нізоўе, у якім нарасло маладняку дубкоў, клёнікаў, арэшніку. Пад нагамі шаргацела трава. Каля дуба-таўстуна прыпыніліся. Яўхім паклаў рукі на яго парэпаную кару, зірнуў уверх, праз раскідзістыя, кашлатыя галіны ўбачыў лапікі блакітнага неба, загаварыў:

— Пра што маўчыш, векавун памятушчы? К сонцу цягнешся, з ім толькі хочаш гаварыць, а не з намі?

Барыс адчуў, што ад дрэва ідуць да яго нейкія мікрахвалі, перадаюць яму сігналы, прыцягваюць да сябе. І ён не прыкмеціў, як сам стаяў побач з дзедам і рукамі гладзіў шурпаты дуб.

Пастаялі крыху моўчкі і, не змаўляючыся, пакрочылі далей, нібыта дуб адштурхнуў іх, падказаў наведаць свайго суседа. А сусед быў, няйнакш, прадзедам таго дуба. З яго магутнага ствала паадвальвалася ўжо кара. Сівымі лысінамі свяціўся ён сярод зеляніны хмызоўя. Месцамі ў кару ўпіліся купкі зялёнага моху. Там, дзе расла некалі галіна, утварылася вялікае дупло. Адтуль тырчалі шыгалле, сухія травінкі, пёркі. Нехта з лясных жыхароў змайстраваў сабе хатку.

— Гэта дуб-вартаўнік, — таямніча паведаміў дзед Яўхім. — Ад яго пачынаецца пракаветашняе селішча. Уяўляеш, Барыс, тут жылі людзі тысячы гадоў назад!

— Не ўяўляю, — шчыра прызнаўся ўнук.

— Дык ідзі за мной, — загадаў дзед і рашуча накіраваў углыб дубняку.

На паляне, парослай бярозамі, дубамі і зацягнутай дываном папаратніку, яны прыпыніліся. Дзед зачаравана пазіраў наўкол і прасіў унука перанесціся ў тое мінулае, у якім жылі іх далёкія крэўнікі.

— Бачыш, земляны, паўкруглы вал? На ім, напэўна, стаяў вастракол, высозны частакол. Людзі баранілі сваё жыллё ад звяр'я. Вал завяршаецца кручай. Да яе падыходзілі воды Дняпра. Цяпер там — сенажаць, балацянкі, завадзі з лінямі ды карасямі…

Дзед гаварыў, тупаў па таямнічым селішчы, паказваў усё новыя дубы, якія для яго даўно сталі жывымі. А ў тым месцы, дзе леснікоўскі трактар працягнуў проціпажарны плуг па самай пупавіне гарадзішча, спыніўся, рэзка нахіліўся да глыбознай баразны.

— Зірні, Барыс!.. Чарапок!.. Ад іхняга глінянага посуду!.. Падарунак гаршкалёпа!..

Яўхім ухапіў жаўтлявы, спрасаваны кавалачак гліны, пацёр аб штаны і трымаў на далоні, як золата, як самы дарагі скарб.

— Зірні, Барыс, з чарапка высвечваюцца пясчынкі, бы вочкі-іскрынкі.

Унук і сам падняў свой чарапок, тоўсценькі, гладзенькі і таксама з блёсткамі светлых каменьчыкаў. Не выпускаў з рук і не зводзіў з яго вачэй.

— Дзядуля!.. — голасна крыкнуў Барыс, і яго рэха даляцела ці не да Мілаграда. — На маім чарапку тварык дзяўчыны. Во, бачыш, нейкія рысачкі, пад імі — дзве бліскучыя пясчынкі, ніжэй нібыта вусны. Твар пад колер чырвонай гліны. На зломе чарапка быццам затрымаліся яе доўгія, чарнявыя валасы…

— Віншую, ты сустрэўся з дзяўчынай з данашай эры! — узрадаваўся Яўхім. — Мо яе і звалі Данаша?

Вандроўнікі прыселі ў траву каля баразны, разглядвалі знаходкі. І дзед раптам прапанаваў:

— А цяпер давай пазіраць у далёкую прастору паміж вунь тымі двума дубамі, якія вякуюць каля кручы. Друзачкі хай нам стануць пультамі да тэлевізара. Націскаем!..

Праз хвіліну маўчання спытаў:

— Што бачыш, Барыс?

— Бачу хаткі нізенькія. Зыркае вогнішча. А каля яго сядзіць Данаша з агністымі, распушчанымі валасамі…

— А я чую, як трава расце, як старасельнікі дудкамі склікаюць збор, каб нас з табою кагалам разгледзець. І пайшлі іх весці, што трэба сесці ды паесці. А ў нас ёсць перакус!

Дзед Яўхім развязаў хатулёк, які падрыхтавала ў дарогу яго клапатлівая Клаўдзія. Раскінуў на траве настольнік з саматканага палатна, расклаў яду, наліў у шклянкі ранішняга малака.

— Давай, Барыс, прыгадаем нашых першабытных сваякоў, — прапанаваў Яўхім. — Я даўно адчуў, унук, што яны былі не дзікунамі, не звярамі, не малпамі. І зусім не дурнямі!..

— Згодзен, дзядуля, яны былі, як і мы, — па-даросламу рассудзіў Барыс і яшчэ раз адчуў, што яму з дзедам лёгка і проста.

— Зірні, вунь на той дуб за валам, — папрасіў Яўхім унука. — Бачыш, на ім борць для пчол. Гэта наш мілаградзец Мікіта ўсцягнуў. Усім казаў: «Хай тамака пчолкі зумкаюць, ды сваіх далёкіх прародзічак згадваюць».

— Я чытаў, дзядуля, што пчолы самыя старажытныя насякомыя. У іх ёсць матка-царыца, рабочыя пчолы, варта і трутні.

— Ага, мы перанялі іхні склад сям'і, — падтрымаў унукаў роздум старэйшы вандроўнік. — Так і сярод людзей узніклі працаўнікі, цары, трутні. А мёду жыцця ўсім ніколі не хапае…

У той час, калі яны гутарылі і перадыхалі на старым селішчы, у высокім небе рэактыўныя самалёты выпісвалі белыя стужкі. Яны былі падобны да скруткаў воўны, да пеністых хваль акіянскіх цунамі, да бясконцага зорнага Млечнага Шляху. Тыя самалётныя шлейфы нагадвалі пра касмічную эру людзей на Зямлі. А дзеду Яўхіму і Барысу хацелася вярнуцца ў далёкую эпоху, разгадаць тайны таго жыцця, зразумець і пачуць сваіх прародзічаў. А найлепш, убачыць іх!

Барысу, здаецца, гэта ўдалося. Ён паверыў, што недзе тут, непадалёк, жыве Данаша. Яна то сонцам вызірала з-за хмаркі, і тады старое селішча залівалася такім пяшчотным святлом, ад якога сыходзіла нечуваная асалода. Яна раптам паказвалася ў раскідзістай кроне дуба, і тады яе твар, прычоска, уборы рабіліся зялёнымі і прывабнымі, а сам дуб уяўляўся яе ахоўнікам і абаронцам.

Па ўсім даўнейшым селішчы цяпер растуць дрэвы — старыя, маладыя і зусім дзеткі. Барысу, як і дзеду Яўхіму, яны сталі ўяўляцца людзьмі. Яны тут жывуць, нясуць варту памяці ў любое надвор'е, у любую пару года і сутак.

У адным куточку таго селішча Барыс прыкмеціў тры дрэвы, якія трымаліся ў зямлі пераплеценымі каранямі і да вышыні аднаго метра ўзнімаліся моцна знітаваным, амаль што адным ствалом. Далей гэта брацтва раз'ядноўвалася ў тры ствалы: злева малады граб, справа — упэўнены ў сваіх сілах дуб, а пасярэдзіне — беластволая паненка бяроза.

Тут ужо Барыс даў волю сваёй фантазіі:

— Дзядуля, дык гэта ж мы трое: вы, я і наша Данаша! Сфоткайце мяне, каля гэтых дрэў.

Барыс перадаў дзеду фотаапарат «Нікан» нібыта словамі летапісца Нестара патлумачыў:

— Я пайдаха і абнімаха дрэвы. А вы, Яўхім Сцяпанавіч, адкрываха, націскаха і здымаха нас. Толькі не пужаха, калі будзе бліскуча асвятляха.

Дзед Яўхім з гумарам успрыняў просьбу мінскага вундэркінда:

— Станавіся, Барысяха, я цябе расстраляха і на вечныя вякі злучаха з Данашахай!..

*Чарапок чацвёрты*

## ЯК БАРЫС І ДАША ЗНАЁМІЛІСЯ

— Да-ша-а!..

Голас нібыта бабулі Клавы. Але чаму яна аклікнула нейкую Дашу? А можа, Данашу? Яна што, у іхнім дворышчы? Няўжо?!

Барыс падскочыў з ложка. Утыркнуўся ў акно, якое нястомна сачыла за палісаднікам і вуліцай. Нікога з людзей. Толькі ў шыбіны, як у люстэрка, узіраліся півоні, вяргіні. А за брамай, на другім баку вёскі, праляцеў бусел, трымаючы ў дзюбе нешта доўгае і вёрткае. Відаць, панёс сняданак у сваю сям'ю.

На двары стаяла тая летняя раніца, калі сонца пачынала ўладарыць на поўню. Пад яго промнямі млелі бульбоўнік і агурочнік, яблыні і слівы. Зумкалі пчолы, над зяленівам гайдаліся матылькі. Сонца праганяла расу і прахалоду. А Днепр заманьваў вольны люд на свае зялёна-пясчаныя берагі. Гаспадарыў новы дзень!

Барыс ведаў, што яму дазваляецца спаць, колькі душа пажадае, што дзед і баба ходзяць ледзь не на дыбачках, калі ён у ложку. Але дзе ж улежыш, калі ў іхні двор завітала дзяўчына з данашай эры.

Барыс хуценька ўсцягнуў на сябе джынсавыя шорты, блакітную майку з выявай лагоднага, плямістага тыгра. Пецярнёй прыгроб чупрыну і босы выскачыў на двор. Там, вочы ў вочы, сустрэўся з бабуляй Клавай, трывожна спытаў:

— Дзе?

— Што дзе?

— Не што, а хто… Якую Данашу ты клікала?

— А во пайшла. Суседчына ўнучка. Прыехала пагасцяваць. Як прыгожа ты яе назваў — Данаша. А для ўсіх нас яна Даша.

У гэты момант Барыс убачыў, як у суседнім двары зіхатлівай маланкай прабегла дзяўчына. Агністыя валасы, фіялетавая сукеначка, загарэлыя рукі. Гэта яна, Данаша, якую ўчора бачыў сярод дубоў, на Гарадзішчы. У Барыса, відаць, сталі вялікімі вочы, а твар выцягнуўся ў бок суседавай хаты.

— От, мой хлопчык, усе мы і не згадалі, як ты вырас, пачуцці займеў, — гэтае прызнанне баба Клава сказала сабе самой, бо яе слоў Барыс не чуў.

— А надоўга яна сюды?

— Хутка даведаемся, — сказала баба Клава і тут жа гукнула суседку: — Марфа, а Даша твая колькі ў цябе прабудзе?

— Пакуль не наскучыць, — праз плот тут жа прыляцеў адказ. — А чаму ты, Клава, пытаешся?

— Унук Барыс цікавіцца.

— Дык яна хутка прыбяжыць да вас.

Барыс не чакаў такога павароту падзей. Засаромеўся і кінуўся хавацца ў хату. Так бег хіба што кот Морда, калі злізаў са збанка смятану, а баба Клава з мяцёлкай хацела дагнаць шкодніка.

У сваім пакоі Барыс аддыхаўся, крыху супакоіўся і ўключыў ноўтбук. Міжволі, нібы хто кіраваў ім, адкрыў пошукавік і пачаў гугліць. Увёў слова «Данаша». Ліхаманкава глытаў тэкст:

«Гэта старажытнае імя, камбінацыя Данаі, Ташы, Анашы, Данешы. Азначае — натхнёная. Сучаснае імя — Дар'я, Дарыя, Азарыя, Даша. Моцная, любіць перамогі. Чалавек настрою. Завадзіла. Упэўненая ў сябе, эмацыйная. У яе характары рана пачынае праяўляцца глыбіня пачуццяў…»

— Праходзь, праходзь, Дашачка, — пачуў Барыс голас бабулі і хуценька выключыў камп'ютар, узяўся тэлефанаваць па мабільным бацькам, адно для таго, каб хоць нечым заняць сябе.

— О, колькі ў вас рамак з фоткамі, — здзівілася Даша, калі ўвайшла.

— Захацелі з дзедам, каб усе нашы анучы былі ў кучы, — патлумачыла баба Клава. — Радні ў нас, як мардвы, багата па ўсім свеце, хай хоць тут пасядзяць гуртам.

Галасы гучалі побач, праз сцяну, і Барыс вырашыў не чакаць, пакуль яго паклічуць. Сам выйшаў з адпачывальні, як са схавальні.

— А вось і наш унучак, — радасна выгукнуда баба Клава. — Цячэ вада ў Дняпры, гэтаксама цякуць дні, гады, і Барыс вунь які вырас.

— Я — Даша, — сарамліва кіўнула дзяўчына. — З Гомеля прыехала. У сёмы перайшла.

— І я ў сёмы, — абрадавана паведаміў Барыс.

— Бач, свет цесны, дык ва ўсіх і адны песні. Гаманіце, а я пайду ў агарод, каларадскіх жукоў укохаю.

Баба Клава ціха, як котка, пакінула пакой.

Калі засталіся адны, гаваркая Даша перахапіла ініцыятыву:

— А ты хадзіў да Жыўца? — спытала ў Барыса.

— Што гэта?

— Хэ, мінчук, гэта ж падземная крыніца ля Дняпра. Яна ўзята ў трубачку. І адтуль дзень і ноч цячэ смачная жыўцовая вада.

— Давай сходзім.

Барыс усё болей пераконваўся, што Даша сваім абліччам падобна да той Данашы, якая ўявілася яму на старажытным селішчы. І ён быў гатовы ісці з ёй куды заўгодна, але паставіў і сваю ўмову:

— Слухай, а пасля Жыўца, давай наведаем старое Гарадзішча. Я дарогу туды ведаю!..

— Згода! — яны пляснулі адзін аднаму ў далоні і вопрамеццю выскачылі на вуліцу.

Даша пабегла адпрошвацца ў бабы Марфы, а Барыс адшукаў сваю бабу Клаву на бульбяным загоне. Сёння яна камандзірка ў дворышчы, бо дзед Яўхім пасвіў кароў.

— Бабулька, мы з Дашай сходзім да Жыўца, а потым — на Гарадзішча.

Канешне, бабе Клаве карцела займець сабе памочніка. Трэба было б такой спякотай памідоры ды гуркі напаіць вадой, саспелыя трускалкі з град сабраць, прапалатую траву знесці ў скрыню для кампосту, збегаць у краму па цукар, сыпануць курам зерне, падкаравуліць, дзе якая знеслася ды сабраць свежыя яйкі. «Божа мой, — падумала баба Клава, — у селяніна аніколі няма адной работы, адразу плойма клопатаў. Але ж ці варта займаць імі гарадскога ўнука? Мо калі-небудзь сам дапетрыць, як трэба гасцяваць?..»

— Бабуля, дык мы пайшлі, — яшчэ раз звярнуўся Барыс да бабы Клавы, расцаніўшы яе маўчанне як згоду, а яшчэ падумаў, што яна крыху ачмурэла ад ядахімікатаў, якімі труціла паласатых жукоў.

— Ага, добра, унучак… Толькі не баўцеся доўга. Будзь разумнікам, мой хлопчык…

Па бульбяным палетку ў бок Дняпра жвавым матыльком ужо ляцела Даша. Пасяпшаўся і Барыс. У канцы агародаў яны сустрэліся і спакойна пайшлі па сцяжыне, якая пад ценямі дрэў вяла да прыроднай, падземнай крынічкі.

Каля Жыўца Даша зняла басаножкі, босая падступілася да срабрыстага струменя. Схілілася да яго, як бы ва ўдзячным паклоне, і пачала прагна наталяцца гаючай

вадзіцай. Барыс не зводзіў з дзяўчыны вачэй і адчуў, нібыта па яго целе прабеглі ўсе шустрыкі вялізнага мурашніка. Яшчэ раз падумаў: «Не, яна не зямная, а тая, далёкая, якую даўно хацеў сустрэць, убачыць і нікому не аддаць».

— Цяпер твая чарга… Пі!.. — Даша ўзяла за руку аслупянелага на міг Барыса і падштурхнула да Жыўца.

Вада астудзіла Барысавых «мурашоў». Але нейкія шалёныя нейроны гойсалі ў галаве і прымушалі па-іншаму пазіраць на Дашу. У іхнім жа класе процьма дзяўчынак. З косамі і чолкамі, у джынсах і сукеначках, чарнявыя і бялявыя, дзюбатыя і курносыя, вірлавокія і губасценькія — ды ні адна з іх ніколі не чаплялася нават у думкі. А Даша, бач, залезла адразу ў душу.

Яны ішлі ўздоўж шырокай старыцы Дняпра. Пасярэдзіне яе, за шчацiннем чароту і асакі, паблісквалі вадзяныя люстэркі. Яны часам узрываліся блёхатам плотак, за якімі ганяліся акуні, а мо і самі шчупакі. Тады і Даша падскоквала ўгору. У той жа момант высока агаляліся яе загарэлыя ногі, якія чамусьці вымушалі Барыса саромецца і хваляваацца. Раптам ён парушыў маўчанне, гуллівы настрой і сур'ёзна спытаў:

— Даша, ты верыш, што аднойчы ты ўжо жыла на белым свеце?

— Веру!.. Я была рабінай, а ты дубам. Пра нас мая бабка песню спявае: «Як бы мне, рабіне, к дубу прыхінуцца…»

— Не блазнуй, Даша, — Барыс хацеў назваць яе Данашай, але стрымаўся, толькі паведаміў пра тое, у што сам паверыў. — Раней, даўным-даўно, ты жыла вунь у тым дубняку, што сцяной узвышаецца на крутой прыдняпроўскай кручы.

— У дубняку?.. Сярод дзікай прыроды?.. Адна?.. — Даша ішла па травяністай сцяжыне першай, раптам рэзка павярнулася і яе вочы ўпіліся ў Барысаў твар. — Адкуль даведаўся?!

Яна страшна ўсхвалявалася, нібыта Барыс агучыў яе самую засакрэчаную тайну. Хлопец нават пашкадаваў, што сказаў такое, але адступаць не збіраўся. Па гараскопе ён — змагар, мэтаскіраваны аптыміст. Таму шаблю з ножан і наперад — да перамогі!

— Сны пра цябе пачаў бачыць, калі з дзедам пабываў у тым лесе. Там жылі людзі да нашай эры. Сярод іх ты — Данаша!..

Вочы Дашы нават у сонечных промнях зазіхацелі светлячкамі. Твар пасур'ёзнеў, агністыя валасы нібыта ўздыбіліся. Такім натапыраным стаяў некалі кот Морда перад сабакам Бонем, калі той хацеў толькі панюхаць яго абед.

— Што вярзеш? — ледзь стрымліваючы сябе, сказала Даша. — Я ў тым пракаветашнім селішчы ні-ра-зоч-ку не была. Мяне туды цягнуў і дзед нябожчык, і бацька, і брат старэйшы. Ні з кім не пагадзілася ісці. І з табой не пайду!..

Дзяўчына рэзка мільганула каля Барыса і пабегла па высокай траве, напрасткі да сваёй хаты.

— Даша, вярніся, — крыкнуў Барыс, але яго рэха зачапілася недзе ў косах прыдарожных бяроз, а можа, утапілася ў ціхіх хвалях Дняпра.

Даша не адгукнулася, не павярнулася да яго, а ўсё больш аддалялася. І Барыс не пабег за ёй. Роспачна апусціўся ў траву, пачаў думаць: чаго спалохалася Даша? Мо яна сапраўды адчувае сваю повязь з Гарадзішчам, бо не адважваецца нават наведацца туды? А можа, яна перахапіла яго зацікаўлены позірк, якім ён акідваў яе каля Жыўца?..

Барыс выканаў просьбу бабулі, доўга не бавіўся на гулянцы. Але вярнуўся сумны, крыху ўстрывожаны. І невядома колькі б трымаўся ў ім такі настрой, каб не ўбачыў бабу Клаву за дзіўным заняткам. Яна стаяла на самаробнай лесвіцы каля яблыні і з галіны дрэва жменямі зграбала пчол у драўляную скрыню. На галаве ў яе

была дзедава пчалярская маска. На момант прыкмеціла ўнука, рэзка махнула рукой, каб падалей адышоўся.

Барыс здаля назіраў за спрытам незвычайнай пчаляркі. Дзівіўся, як бабуля збірае рой, перажываў, каб яна хутчэй знайшла іх матку, і тады пчолы самі пойдуць за сваім важаком.

Праз некалькі хвілін баба Клава спусцілася, зняла маску, уздыхнула:

— Во як, Барысік, у вёсцы жыць, дык мусіш кім хочаш быць. Злавіла лясны рой. Дзед пахваліць!..

— Віншую, — сказаў Барыс і падумаў: «Бач ты, мы не пайшлі на Гарадзішча, дык пчолы адтуль прыляцелі».

Ён схаваўся ў сваім хатнім пакоі. Прыкмеціў сумуючага павучка ў левым куце, адчуў ноты цішыні і яму захацелася ўзарваць гэты млявы спакой. Уключыў камп'ютар. На поўную моц праслухаў мелодыі любімай рок-группы «Рамштайн». Але іх высокія дэцыбелы не спалохалі нават павучка. Яны на гэты раз не кранулі за жывое пачуцці Барыса.

І тады ён пачаў шукаць новыя звесткі пра Мілаград. Адкапаў у сеціве, што Гарадзішча знаходзіцца за адзін кіламетр на поўнач ад вёскі, на правым беразе Дняпра. Жылая пляцоўка ўмацавана з трох бакоў валам вышынёй у два метры. Археолагі з Масквы і Мінска высаджвалі там свой дэсант ажно сем разоў. Прасеялі праз рукі восемсот квадратных метраў плошчы на глыбіню да паўметра. Агледзелі абарончыя, гаспадарчыя збудаванні. Знайшлі шмат камянёвых і гліняных рэчаў. Яны далі падставу заявіць пра адкрыццё Мілаградскай культуры, якая засведчана цяпер ва ўсіх энцыклапедыях свету.

Пра гэта Барыс ведаў яшчэ ў Мінску. Але тут, у Мілаградзе, пасля вандроўкі з дзедам на Гарадзішча, усё ўспрымалася як жывое кіно. Ён паверыў, што старажытны людскі дух жыве і ў пракаветашнім дубняку, і ў самой вёсцы, і ў кожнай мілаградскай хаце. І ў Дашы-Данашы, якая так нечакана завіхурыла яго ў абдымкі сваёй аўры.

Барыс верыў вучоным, якія сцвярджалі, што на Мілаградскім гарадзішчы людзі пасяліліся за пяць стагоддзяў да нашай эры. Ён пачаў шукаць у сеціве звесткі пра тую далёкую эпоху. І адкапаў, што ў той час жылі і праслаўлялі землі Грэцыі доктар Гіпакрат, філосаф Дыяген, мудрэц Сакрат, драматург Сафокл. А ў Кітаі ўзвысіў сваё імя паэт Цюй Юань. Да нас дайшлі яго прарочыя радкі:

Памерла смяротнае цела,
а дух застаецца вечным…

Барыс выключыў камп'ютар.

Яму хацелася думаць пра Дашу: дзе яна, што робіць, як заманіць яе да тых дубоў, якія вартуюць вечны дух мілаградцаў?..

***Чарапок пяты***

## ЯК БАРЫС ВУЧЫЎСЯ КАВАЛЕРЫЦЬ

— Мудры не той, хто багата штаноў знасіў, а той — у каго галава варыць, — прамовіў дзед Яўхім, калі выслухаў Барысаў аповед пра Дашу.

— Чаму яна забаялася ісці са мной на Гарадзішча? — не супакойваўся Барыс.

Дзед адчуў, што размова можа зацягнуцца, прапанаваў прысесці на лаву пад акном хаты. Такія лавы, два ўкапаныя слупкі і дошка паверх, гаспадар нарабіў

усюды: і на вуліцы, каля палісадніка, і ў двары, каля хаты і хлява, і ў агародзе, каля цяпліцы і пад яблыняй. Барыс даўмеў, што гэтыя седалы дзед Яўхім змайставаў не для таго, каб вераб'ёў лічыць ды гультаяваць, а каб пасядзець ды падумаць, азірнуцца наўкол ды парадавацца зямному раю. А калі зазлаваў, таксама прысядзь, прыкінь мазгамі, ці варта паліць нервы. Зойдзе ў двор чалавек, запрасі на лаву, дай папіць квасу, пагамані з ім, выслухай, пазыч, што папросіць. Гэтым і славяцца мілаградцы. Дык лаўкі ў іх не проста для адпачынку, а для роздуму, таварышавання, сустрэч, агледзін.

— Ага, кажаш, не пайшла з табою ў лес? — дзед сам сабе нагадаў унукава пытанне, крышку зажмурыў вочы, усміхнуўся. — Ведаеш, Барыс, яна вельмі правільна зрабіла.

— Я ж хацеў ёй паказаць усё, што мы тады бачылі.

— У цябе, Барыс, пад носам ужо вусікі прабіваюцца, а не можаш зразумець. З першага дня знаёмства дзяўчыну ў лес нельга заманьваць.

— Я ж хацеў, каб ведала адкуль яна родам.

— Гэта ўсё пахвальна. Але ж ты прыкінь, яна — дзяўчынка, магла і ўсумніцца ў тваіх добрых намерах. А ты адразу: «Пайшлі ў лес».

— Дзядуля, мне здаецца, яна спалохалася таго, што я хацеў раскрыць тайну яе мінулага жыцця.

— Барыс, веру табе. Але ты ўсё павінен зрабіць, каб табе паверыла Даша. Вунь недалёка ад нас, праз тры хаты, жыве Хведар. Гадуе сабак чыстай пароды. Дык ведаеш, як ён іх правярае пры куплі? Падымае за хвост шчанятка ўгору. Калі не скавыча, не галосіць, значыць, пародзістыя. Вось і ты ўмей сябе падымаць угору і з вышыні ацэньваць свае словы, паводзіны, учынкі.

— Разумею, але як мне быць?

— Вось што, Дашу трэба прыручыць, прылагодзіць. Тут, браце, мусіш займець надзею і цярпенне. Ніколі не чапай, што не тваё. Хай Даша паверыць, што ты — з чыстай пароды і намеры ў цябе светлыя.

— А як гэта зрабіць?

Дзед Яўхім зірнуў на неба, як бы там шукаў падказку, і паклаў сваю жылістую руку на вострае Барысава калена:

— Зробім так. Ідзі і прапануй Дашы наведаць цётку Ганну. Яна некалі з археолагамі капалася на Гарадзішчы. Мо збаіць што-небудзь цікавае. Так спакваля і падрыхтуем Дашу да вандроўкі.

— А што, дзядуля, вельмі слушна, — падскочыў з лавы Барыс. — Толькі падрыхтуй яе, каб прыняла нас.

— Я воценькі і скокну да яе. А ты з Дашкай зладзь, — дзед па-маладому падміргнуў унуку.

Змоўшчыкі пакрочылі намечанымі маршрутамі.

А ўжо праз якую гадзіну ўсе мілаградскія куры і пеўні, якія грэбліся ў пяску, бачылі, як па вясковай вуліцы ў бок магазіна ішлі гарадскія хлопец і дзяўчына. Тое, што яны не тутэйшыя, птушкі скемілі адразу, бо свае б ніколі не сыпанулі ім лузганкоў, не пачаставалі б пячэннем.

Барыс і Даша адчувалі лёгкасць у хадзе. Яны ледзь не падскоквалі, як лугавыя конікі. Быў такі настрой, нібыта сонца толькі для іх свяціла, вуліца існавала для іх, цень ад ліп — ім у падарунак. Даш зняла сандалі і ахнула ад прыемнасці.

— О, клёвы пясочак!.. Спякотненька!..

Барыс міталем змахнуў з ног свае тапкі.

— Праўда, хай ногі прымуць пясочныя ванны.

Неўпрыкмет яны ўзяліся за рукі. Цяпло ад зямлі перадавалася ва ўсё цела. Адчулі сябе мілаградцамі. Вочы пачалі шмат што прыкмячаць.

Прыпыніліся каля калодзежа, змайстраванага пад ліліпуцкую хатку. Абнесены нізенькім парканчыкам, пафарбаваны ва ўсе колеры вясёлкі.

Каля другой хаты гаспадар ажывіў мёртвае дрэва. На сухіх доўгіх галінах, якія тырчалі ў розныя бакі, ён вывесіў шыльды. На іх пазначыў, колькі кіламетраў ад яго сядзібы да Масквы, Парыжа, Берліна, Мінска, Гомеля. На верхавіне напісаў: «Да сонца — 149.600.000 км».

А вось сапраўдны помнік і майстру, і прыродзе. Укапаны ў зямлю тоўсты ствол ліпы. Ад нізу па ім нібыта ўздымаюцца рачныя хвалі. З іх вышыні выплывае, паўстае юная прыгажуня. Валасы, рукі, покрыўка быццам з жывых пераліваў вады. Твар прывабны, вочы вірлівыя, пазіраюць далёка. Яна хоча нешта паведаць, але скавана немаччу драўніны, адвечным маўчаннем.

— Данаша! — Раптам крыкнуў Барыс, а Даша ад нечаканасці выпусціла сваю руку з ягонай, разгубілася.

— Барыс, я — во тут.

— Прабач, але яна вельмі да цябе падобна.

— Я ведаю, — пагадзілася Даша.

Іх дыялог перапыніў хрыплаваты голас цёткі, якая сядзела на лаве каля хаты і трымала ў руцэ сукаваты кіёк.

— Ці не Ганну Дудзянкову шукаеце?

— Так, яе, — адгукнуўся Барыс.

— Дык я і ёсць яна… Хадземце ў хату…

Цётка цяжка тупала. З кожным крокам перастаўляла і кіёк, трэцюю сваю нагу, і, нібы для апраўдання нямогласці, прызнавалася:

— От, дзеткі, стала добра жыць, дык некалі. Трэба збірацца ў вечны дом… Каб не паміралі, то б неба падпіралі…

Яны прайшлі дворышчам. Пераступілі сенцы. Прамінулі пакой з печчу і апынуліся ў святліцы, чатыры акны якой нядрэмна сачылі за тым, што робіцца за імі.

— Праз гэтыя вачніцы, мае дзеткі, я вас і ўгледзела. Яўхім прыбягаў, сказаў, прыйдзеце…

Барыс аж зніякавеў, бо цётка пачала рассакрэчваць яго змову з дзедам. І каб скіраваць размову ў патрэбным кірунку, сказаў:

— А мы, Ганна Міхайлаўна, хацелі распытаць вас пра Гарадзішча. Кажуць, вы з археолагамі ўдзельнічалі ў раскопках…

— Ага, мой хлопчык, капалася там, пад дубамі. Я мо такой была, як вы цяпераka, — узлётак. У школу хадзіла, падымалася ў жыццё…

Цётка Ганна паднялася з табурэта, прастукала кійком да шафы, за шклом якой стаялі фужэры, вазы, талеркі. Выцягнула адтуль папку з паперамі, патлумачыла:

— Тут маё ўсё: і граматы, і лісты, і дарагія мне фотакарткі, і газеты пра наш Мілаград…

Гаспадыня зноў прысела на табурэт, падсунула пад белую хустку пасмы сівых валасоў. Не хавала радасці ад таго, што і яна, і яе папка з паперамі, урэшце, некага зацікавілі.

— От, мае дзеткі, добра, што захацелі ведаць нашу гісторыю.

— Раскажыце, цётка Ганна, што было пад тымі дубамі? — як сапраўдны даследчык, спытаў Барыс.

— Вой, нейкае магнітнае месца. Нашы людзі доўга ладзілі там маёўкі, гулянкі. Па нядзелях, у святы, збіраліся ўсім кагалам. Спявалі, танцавалі, вогнішчы палілі.

Як пачалі з археолагамі капаць, дык на першым штыку рыдлёўкі траплялiся адны пустыя бутэлькі магазінныя…

Ганна Міхайлаўна пачала так залівіста смяяцца, ажно куры на двары засакаталі, ажно вочы ў яе праслязіліся. Барыс і Даша яшчэ не ведалі прычыны раптоўнага вясел-ля, пазіралі на гаспадыню недаўменна. Яна перахапіла іх здзіўленне, патлумачыла:

— Вой, мае дзеткі, адзін наш мясцовы грамацей яшчэ да прыезду вучоных, захацеў з той паляны ў дубняку набраць зямлі ў сваю цяпліцу, грабануў цэлы самазвал. Ага, усякі гад на свой лад. Дык пазнаходзіў у тым пяску столькі шкляной тары, што з яе плот змайстраваў…

— А вы што там знайшлі? — скіраваў размову Барыс, бо адчуваў Дашына нецярпенне, ведаў яе нораў: можа крута сарвацца і пабегчы дамоў, як той раз, на сцяжынцы каля Дняпра.

— Мы ж, мае дзеткі, як знялі першы слой, далей пачалі прасяваць зямлю на рэшатах. Наша кіраўніца ўсё паўтарала: «Не бойцеся, дзеці, што стануць рукі чорнымі, абы душа была чыстай…» Пазнаходзілі мы ў тым пяску розныя чарапянкі гліняныя. З іх масквічка склейвала збанкі, гаршкі, макатры, місы. Завушніцы з медзі траплялiся, нейкія каменьчыкі завостраныя, металічныя рэчы, нібы сярпы ці нажы. Охо-хо, людзям жа неяк трэба было жыць у дрымучым лесе…

У пакой зазірнула зыркае сонца, нібыта нехта вялізным нябесным ліхтаром высвечваў людзей, якія варушылі памяць мінулых стагоддзяў. У гэтых промнях Барысу зноў убачылася Данаша. Тая, далёкая, з данашай эры, сядзела побач. Ён адчуваў яе дыханне, позірк. Сапраўды, вочы яе не як у ранішняй Дашы, спакойныя і крыху раўнадушныя, а здзіўленыя і ўзрушаныя.

Барыс падумаў: калі яна і напраўду паходзіць з той далечы, то яе здзіўленне і ўзрушанасць зразумелыя. Вось гэта вясковая цётка адшуквала і трымала ў сваіх руках рэчы, на якіх адбіткі пальцаў Дашыных продкаў. А Ганна Міхайлаўна, быццам разгадаўшы Барысавы думкі, дастала з папкі некалькі гліняных друзачак, патлумачыла:

— Такіх во чарапінак мы знаходзілі мо тысячы. Хто жадаў, можна было ўзяць на памяць. Я іх часта трымаю ў руках. Яны і апякаюць, і студзяць.

— Мы з дзедам Яўхімам такія ж паднялі на лесніковай баразне, — прызнаўся Барыс.

Цётка дала патрымаць знаходкі сваім гасцям.

— Чуеце, дзеткі, яны гарачыя, бо ўтойваюць жар агню, на якім сушылі, гарталі гліну… Яны часам і халодныя, бо колькі ж праляжалі ў зямлі…

Барыс і Даша адчулі, што вось гэта вясковая цётка неўпрыкмет наблізіла іх да Гарадзішча. Барыс гатоў быў паверыць, што Даша ўжо не супраць пайсці да пракаветашняга дубняку. Там жа некалі стаялі хаткі прашчураў. От бы зайсці ў некаторыя з іх, як яны сёння зайшлі да мілаградкі Дудзянковай.

— Канешне, каб знайшоў хто кветку папараці, то ведаў бы, пра што сакочуць сарокі. Можа, вам гэта і ўдасца разгадаць, але пакуль з'ездзіце ў Рэчыцу. У тамашнім краязнаўчым музеі шмат мілаградскіх знаходак…

А калі Барыс і Даша ўжо стаялі ля парога і гатовы былі развітвацца, цётка Ганна неяк па-моладзеваму пляснула далоняй па сваім лобе:

— От галава!.. Пачакайце, дзеткі. Я хутка абярнуся…

Яна, не выпускаючы кіёк з рукі, пайшла ў сваю адпачывальню і вярнулася адтуль з кнігай.

— Во, такой ні ў кога няма!.. Сама Мельнікоўская з Масквы прыслала. Раскопкамі ў нас кіравала. І пра ўсё гэта напісала…

— Вы нам давяраеце такую каштоўнасць? — вырваліся эмоцыі ў Барыса.
— Не баіцеся, што згубім? — здзівілася Даша.
— Вы першыя, хто зацікавіўся гэтым. Веру вам!..
Цётка Ганна перадала Барысу кнігу, як перадае бягун эстафетную палачку, правяла ў двор.
— Шчаслівага, мае дзеткі!
— Дзякуй, цётачка, — расчулена прамовіла Даша.
Ужо на вуліцы, яны на хвілінку прыпыніліся і схілілі галовы над кнігай, адно для таго, каб прачытаць назву. На сціплай вокладцы намаляваны старадаўні, паколаты гаршчок. Побач сур'ёзная назва — «Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке». Издательство «Наука», Москва.
Яны не пайшлі, а чамусьці пабеглі да сваіх хат. А там, задыханыя, прыселі на вулічную лаву дзеда Яўхіма. Хацелася чытаць кнігу!
Барыс і Даша сядзелі блізенька. Галовы схілены над кнігай. Час ад часу чуваць былі іх воклічы.
— Глядзі, раскопкі тут праводзілі, калі яшчэ мае бацькі не нарадзіліся, — здзівіўся Барыс.
— А во карта, дзе пазначаны такія ж гарадзішчы, — падала голас Даша. — Гэта недалёка адсюль — Глыбаў, Берагавая Слабада, Горваль, Гарошкаў. От бы там пабыць!
— Даша, нам хаця б тут абследаваць…
За чытвом кнігі яны і не заўважылі, як пачалі ўжо вандраваць па лясной мілаградскай культуры.
Гарадскія ўнукі не ведалі, што за імі неўпрыкмет шпіёніў дзед Яўхім. І нават данёс бабе Клаве першую шыфроўку:
— Сядзяць на лаве. Разам чытаюць адну кнігу…

### *Чарапок шосты*

## ЯК БАРЫС СТАЎ БАРЫСФЕНАМ

Над Мілаградам збіралася ўзыходзіць сонца.
Недзе там, далёка, за Дняпром, за яго сонным люстэркам, за кашлатым вербалоззем, пачало млець, расплаўляцца, прачынацца начное неба. Да вялізнага чорнага парасона падбіраўся далёкі водбліск фары. Нешта вельмі светлае набліжалася да небасхілу. І насоўвалася імклівa, бо неба на ўсходзе ўсё мацней разгаралася, нібыта ў нябачны касцёр падкінулі свежых сасновых смалякоў.
Зусім не чакана, над дняпроўскімі старымі вербамі вытыркнуўся залацісты сярпок, нібы толькі выхаплены з кавальскага полымя. Ён вісеў рожкамі ўніз над зялёнымі пасмамі-косамі дрэў. І Барысу падалося, што сама Данаша з далёкага мілаградскага племя ўздымаецца над зямлёй, вітаецца з тымі, хто сёння жыве на сядзібе яе продкаў. Хоча ўбачыць, урэшце, мінскага хлопца, які пачаў шавяліць жывую памяць вякоў.
Барыс кінуў сачыць за паплаўком вуды, ухапіў фотаапарат. Трэба засведчыць імгненне народзінаў новага дня, сустрэчы з Данашай. Адзін кадрык, другі, трэці. «Мама! — хацелася абудзіць прыдняпроўскі закуток. — Я ўбачыў узыход сонца!..»
Нязведаная радасць агарнула Барыса нібы цёплай, пуховай коўдрай. Пачуцці распіралі яго душу. Здаецца, нічога падобнага з ім яшчэ ніколі не было. Хацелася

ўсім убачаным з некім падзяліцца і раптам ледзь не абамлеў: з боку Жыўца, пясчаным берагам да яго бегла Даша. На імгненне падалося, што гэта тая, нябесная Данаша, якая сваім вогнівам абудзіла дзень. На ёй быў чырвоны спартыўны касцюм, пад яго колер шапачка і кеды. Ну, сапраўды, бы толькі што катапульціравала з сонца.

— Як даведалася, што я пайшоў вудзіць? — здзівіўся Барыс.

— Дзед Яўхім учора вечарам шапнуў.

— От, дзед-барадзед, не ўмее трымаць тайну, — крыху зазлаваў Барыс, але тут жа палагаднеў. — Закідвай пад кустоўе чароту. Плоткі там шалеюць…

І пакуль Даша рыхтавала вуду да першага закіду, Барыс не вытрымаў, уключыў фотаапарат для прагляду кадраў.

— Ты толькі зірні, Даша, я падлавіў узыход сонца.

Яны схіліліся над экранчыкам, і Даша прашаптала:

— Так было і на Гарадзішчы тысячы гадоў таму…

Не змаўляючыся, яны зірнулі ў бок дубняку, які зялёным помнікам узвышаўся на высокім беразе. Ад таго мыса да Дняпра цягнуўся шлейф травянога дывана.

— Па ім тады гуляў сам Барысфен, — паведаміла Даша.

Барыс падумаў, Даша пагадзілася, што ў ранейшым жыцці ўжо была тут. Вось і пачынае выдаваць свае тайны. Таму спытаў рэўнасна:

— Які тут Барысфен тады гуляў?

— Ты што, напраўду, не ведаеш?

— Пакуль не.

— Дык запомні. Даўным-даўно Дняпро звалі Барысфенам. І быў ён больш паўнаводным, чым цяперашняя рака.

— Ого, што ты адкапала ў айподзе.

— Пра астатняе пазней давяду, — сказала Даша і перад тым, як закінуць вуду, прапанавала. — Давай я цябе буду клікаць Барысфенам.

— Я згодзен, Данаша, — усміхнуўся Барыс.

Яны моўчкі сцёбалі срабрыстую гусцяру, а думалі, відаць, пра іншае, бо часцяком іх позіркі сягалі ў бок ляснога Гарадзішча.

Барыс, праўда, парушаў калі-нікалі рыбацкі закон, узрываў навакольную цішу падказкамі:

— Данашка, закідвай у воканкі, там плоткі.

— Што яшчэ за воканкі?

— Дзед мой так называе форткі. Дык вунь яны ў лапушынні. Толькі, барані бог, не зачапіся.

— Слухаюся, Барысфен!

— Шарыкі з цеста рабі драбнейшымі, тугімі.

— Слухаюся, мой капітан!

Калі не клявала, пачыналі перамаўляцца пра тое, што засела пад спод душы.

— Цікава, як рыбалілі нашы продкі? — запытаў Барыс.

Даша нібыта ўраз абарочвалася ў Данашу, пачынала фантазіраваць:

— Ведай, РА, у нас былі лавушкі з лазовых дубцоў. Плялі кашы з лыка і заганялі туды рыбін-дурніц, якімі кішэў Барысфен.

— А мы, мужчыны, вострым кап'ём білі сазанаў, лінёў. Кап'ё драўлянае, наканечнік — зубы ваўка ці шчупака.

— Сам прыдумаў?..

— А ты чаму назвала мяне РА?

— Ага, папаўся! — узрадавалася Даша, хаця ў гэты момант у яе сарвалася з кручка ладная чырванапёрка. — Дык ведай, я сядзела ў сеціве, як рыба ў сетцы.

А ты разам з курамі пайшоў на седала. Так мая бабуля Марфа кажа пра тых, хто рана кладзецца спаць.

— Дашка, тлумач хутчэй.

— Запомні, Барысфен, у старажытнай міфалогіі Бога Сонца называлі РА. Хто яго шанаваў, сустракаў ранкам, хто быў апякун, заступнік для іншых, таго, напэўна, таксама клікалі РА. Звонка і проста вымаўляецца — РА-а-а-а!

Дашын голас праляцеў над ціхай плынню Дняпра. Непадалёк, каля чароту, плюхнуўся шчупак. З высокай асакі ўзляцелі качка і качар, залапаталі крыламі над вадой.

— Слухай, а можа, ад таго слова РА і пайшлі цяперашнія словы — ра-ка, ра-к, ра-са, ра-сліна, ра-й?

Барыс адчуваў сябе адкрывальнікам, вынаходнікам.

— Падтрымліваю тваю размову, — пагадзілася Даша і прыдумала свае словы: — ра-дзіма, ра-дыё, ра-ма, ра-ман, ра-дня, ра-здолле…

— Калі думаць, можна да чаго заўгодна дадумацца, — амаль афарызм выдаў Барыс.

— Ага, скажаш гэта ў верасні сваёй класнай.

— А што, яна хоча, каб мы заўсёды разважліва думалі.

З гэтым адкрыццём ды з пакетамі плотак вярнуліся рыбакі ў свае хаты.

Барыс усё яшчэ цешыўся новым словам «ра». Захацеў праверыць дзеда і бабу: якія словы з божым імем найбольш важкія ў іхнім ужытку?

Дзед Яўхім выслухаў унука, махнуў рукой, як адсек ад дрэва важкі сук:

— Запішы, Барыс — ра-лля! З ёй, ра-дзімай, мае ра-ны, мая ра-дасць, маё ра-таванне. Даў Бог тут ра-дзіцца, ра-сці, п-ра-цаваць, ста-ра-сць стрэць.

«Ого, падумаў Барыс, каб дзед не пражыў жыццё трактарыстам, мог бы пісьменнікам стаць. Хітры, дзед, толькі прыкідваецца вясковым лапцем».

Баба Клава хацела адмахнуцца ад гульні ў словы, але дзед і ўнук не далі ёй гэтага. Што ж і яна выдала сваю філасофію:

— Запомні, унучак, слова «ра-даўніца». Так называецца дзень, калі жывыя памінаюць нябожчыкаў на магілах. Мне здаецца, мой хлопчык, гэта традыцыя ўзята ад тых людзей, якія жылі на нашым Га-ра-дзішчы.

Барыс стаяў агаломшаны.

Яны з Дашай прыдумалі словы проста са свайго моўнага лексікону. А дзед і бабуля, бач, як мудра, глыбінна патлумачылі. Ім не трэба камп'ютары. Іх душа і памяць выдаюць патрэбную інфармацыю.

Тым ліпеньскім днём Барыс і Даша яшчэ тройчы бегалі да Дняпра.

Калі сонца стаяла над галавой — загаралі.

Калі сонца схілілася к захаду — каталіся на лодцы.

Калі сонца збіралася на спачын — зноў закідвалі вуды.

Але найбольш уразіла катанне на дзедавым чаўне.

Перад тым, як даверыць сваю вадзяную пасудзіну моладзі, дзед Яўхім правёў інструктаж:

— Сядзіце роўна пасяродку. Не куляйцеся да бартоў, бо замераеце дно, дзе ракі поўзаюць.

— Добра, дзядуля, будзем асцярожнымі, — паабяцаў Барыс і па-даросламу спытаў. — Лепш скажы, у якім магазіне набыў гэту самаходку?

— Ведаеш, унук, крамнымі таварамі селяніна разбэсцілі не так ужо і даўно. Во гэтымі рукамі ўсё рабілі для сябе. Як і тыя, хто жыў даўно ў Гарадзішчы.

Даша ў гэты час пазірала ў бок дубняку і пра нешта сваё думала. Барысу карцела з дзедам пагаманіць, увагай аддзячыць, што давярае яму рачную тэхніку.

— Дык і гэту лодку зрабіў?

— Во, гэтымі рукамі, — дзед выцягнуў уперад мазольныя далоні з кручкаватымі пальцамі. — З асінавага бервяна, як дзяцел выдзяўбаў. Асінаўка атрымалася як карыта: нос гостры, заднік тупы.

Дзед павёў Барыса і Дашу ў майстэрню каля дрывотні. Ахвотна паказаў увесь набор свайго інструменту: гэблікі, стамескі, фуганкі, сякеры і сякеркі, пілы і пілкі, долаты, свёрлы, ціскі…

— Май ахвоту і ўмей усё майстраваць, — і ты выжывеш пры любых нягодах. — Гэты дзедаў тэзіс Барыс ужо чуў, але цяпер успрыняў як наказ.

Дзед Яўхім уручыў Барысу ключы ад доўбанкі, расказаў, дзе і каля якой вербалозіны яна зацугляна.

— Ну, кланяйцеся бацюхну Дняпру. Ды не жартуйце з ім.

— Дзякуй, дзядуля, і не хвалюйся, — ад сябе і Дашы вымавіў Барыс.

Яны ўхапілі па самаробнаму вяслу, а Даша яшчэ і круг надзімны, пабеглі да ракі.

Калі ладкаваліся ў човен, Барыс пра сябе пахваліў дзеда; «Бач, ва ўсіх мілаградцаў лодкі-хістанкі, з адным вяслом, а ў дзеда Яўхіма надзейная, з двума вёсламі. Да іх ён прымайстраваў металічныя штыркі. Яны ўстаўляюцца па бакавінах у круглыя вушкі, і кіруй у дзве рукі хоць да Кіева».

Весляры выплылі з дняпроўскага рукава, абагнулі паўастравок з лысымі берагамі і цыбатымі вербалозінамі. Нырнулі праз браму пантоннага моста і апынуліся на шырокай плыні Дняпра. Крыху сівая, быццам стомленая ў далёкай дарозе, вада перакатвалася дробным рабаціннем. Як бы ўзіралася ў наваколле, спакваля адпачываючы, а можа, нешта прыгадваючы.

— У які бок пакіруем? — спытаў Барыс. — Па цячэнні ці супраць?

— Давай наперакор хвалям! — На правах штурмана падала каманду Даша.

Барыс налёг на вёслы. Прыгадаў дзедаву прымаўку: супраць ветру ісці — характар гартаваць.

— А, ведаеш, Данаша, ваша племя, відаць, вось гэтак жа як і мы, плыло на самаробках.

— Ага, мы ўцякалі ад камароў, вужоў, гадзюк, ваўкоў, ад гнілых балот.

— І знайшлі вунь той высокі бераг Дняпра.

— Ага, Барысфен, мы прычалілі да яго і пачалі караскацца на мыс. Наш важак, малы і русявы, у шортах з дубовых лістоў, даў каманду атабарвацца на тым сухім грудку…

Даша не зводзіла вачэй з высокіх дубоў на крутым узгорку, дзе і жылі да нашай эры дрыгавічы, людзі з дрыгвы, балот. А Барыс падкідваў свае «дроўцы» ў касцёр яе мрояў, бо лодка плыла ўздоўж Гарадзішча. Іх, вандроўнікаў, раздзяляла цяпер забалочаная сенажаць шырынёй на паўкіламетра. Даўней, безумоўна, над гэтай прасторай уладарылі воды магутнай ракі.

— Дняпро быў для вас паільняй і ўмывальняй, акварыумам свежай рыбы, жывой кладоўкай птушыннага мяса, — вёў свой расповед Барыс, нястомна махаючы вёсламі.

— Так, мы ўдзячны табе, Барысфен, за шчодрасць і цярплівасць, — падхоплівала яго развагі Даша. — А яшчэ за тое, што па тваіх зігзагах праходзіў старажытны гандлёвы шлях «З варагаў у грэкі».

— О, я на сваёй спіне перавёз незлічоную колькасць купцоў, гандляроў з іх таварамі, — Барыс усё болей уваходзіў у ролю Барысфена. — Яны плылі ад Варажскага, цяпер Балтыйскага, мора і ажно да Пантыйскага, цяпер Чорнага мора.

— Слухай, Барысфен, а можа, сярод тых бізнесменаў былі такія ж ратазеі, як і мы з табой?

— Думаю, Данаша, дапытлівыя ўзлёткі, як кажа баба Ганна, былі і ёсць ва ўсе часы. Без нас жа няма будучыні, — Барыс апусціў на ваду вёслы, потны і расчырванелы, прызнаўся. — Давай крыху адпачнём. Рукі не хочуць слухацца.

Даша паспачувала, што на яго далонях ускочылі мазалі. Пашкадавала, што сама не ўмее кіраваць чоўнам. І яны падплылі да берагавой, зацішнай бухтачкі. Барыс слухаў плюханне рыб, цвырканне конікаў, кугіканне чаек, ціўканне вераб'ёў. А Даша захоплена шукала нешта ў ноўтбуку. Раптам азартна закрычала на ўсё наваколле:

— Слухай, Барысфен, чаго маўчаў! З табой, аказваецца, сябраваў знакаміты вандроўнік і гісторык старажытнасці, Герадот.

— Хэ, дык гэта, як кажа мой дзед Яўхім, «сушчая праўда». Так, бываў ён тут і напісаў, што нашы тутэйшыя людзі раз на год перакідваліся ў ваўкоў і станавіліся ваўкалакамі.

— Хоць ён і вучоны, але фантаст несусветны, — заступілася Данаша за сваё племя. — Зімою і ў іншую халадрыгу мілаградцы заўсёды накідвалі на сябе засохлыя шкуры ці забітых звяроў, ці свойскай жывёлы. Дык што, яны ўжо ваўкалакі?

Барыс горача падтрымаў Данашу:

— Ды вашы мудрыя сапляменнікі за звярыныя шкуры выменьвалі ў тых варагаў дарагія футры. Мо хадзілі ў іх на рыбалку, на паляванне, а Герадот не мог у гэта паверыць і запісаў у сваёй «Гісторыі», што бачыў тут людзей-звяроў.

Даша рассмяялася так шчыра, што Дняпро разнёс яе добры настрой па ўсім наваколлі:

— А мы тым варагам, якія прабіраліся паўз нас у Візантыю, воск пчаліны збывалі. Дзікіх пчол тады вадзілася процьма. І ў зямлі, і ў дуплах. Дык мы мёдзік высмоктвалі, а пажаваныя соты — вандроўнікам. Яны нам за гэта — бронзавыя завушніцы, бранзалеткі, бурштын, медзь, свінец…

— Мне здаецца, Данаша, яны маглі і крыўдзіць вас. Моцных хлопцаў забіралі да сябе веслярамі. Прыгажунь паланілі ў рабыні. Добра, што ты, Данаша, нікуды адсюль не сплыла. Вось і сустрэліся…

Барыс адчуваў, што ў іхняй размове ёсць усяго патроху: праўды, маны, ведаў, здагадак, гульні. А яшчэ адчуў, што ў вёсцы, сярод старых людзей, і сам крыху пасталеў. Набытыя похапкам на ўроках веды пачалі праяўляцца тут, каля Мілаградскага гарадзішча.

Некалі, у адной з займальных кніжак, якімі бацькі адорвалі яго з першага класа, Барыс прачытаў легенду пра подзвігі Геракла. Там паведамлялася шмат блытаных звестак пра радавод асілка. Цяпер жа, каля Дняпра, Барыс усё пераасэнсоўваў.

— Слухай, Данаша, — парушыў ён маўчанне. — Я чытаў, што бацька Геракла ўсемагутны Зеўс меў багата жонак. Адна з іх — дачка ракі Барысфен, во гэтага Дняпра, па якім мы сёння плаваем.

— І што з гэтага?

— А тое, што ад іх шлюбу нарадзіўся першы тутэйшы жыхар — Таргітай. Ад яго пайшлі тры сыны — Ліпаксай, Арпаксай і Калаксай. Яны — заснавальнікі плямёнаў людзей па ўсім Дняпры. І тут, у Мілаградзе, таксама.

— Ну і фантаст жа ты, Барысфен, — хутчэй хваліла, чым дакарала Даша.

Яе водгук узняў у Барыса новую хвалю красамоўства:

— Пры іх уладарстве з неба ўпалі на гэтыя мясціны залатыя плуг, ярмо, сякера, чаша. Яны і вызначылі лад жыцця прыдняпроўскіх плямёнаў.

— Ад іх, можа, пайшлі ўсе мы? — задумалася Даша.

— А што, круцяк! — усклікнуў Барыс. — Ад Ліпаксая пайшоў ваш род Ліпаўскіх.

— Рэспект і ўважуха Калаксаю, — падтрымала размову Даша. — Ад яго, відаць, тваё прозвішча — Каласоўскі.

— Дакладна ўсіх разгадваем! Дык мо ад Арпаксая паходзяць усе Аратыя, якім скінуты былі плуг, ярмо, сякера?

— А яшчэ Пастухі, Касцы…

— Ты супер фантастка, Данаша! Мой дзед-гаманюк клепануў бы: «Вось і сышліся два грамацеі з вёскі Лебяда, з вуліцы Лапухі».

— А мая бабка Марфа абгаманіла б нас: «Вы пара ботаў на левую нагу».

— Ну што, Данаша, канец прычалу? Вяртаемся ў нашу эру!..

Барыс лёгка выруліў човен з бухтачкі. На сярэдзіне Дняпра пусціў дзедаву асінаўку ў вольнае плаванне па цячэнні. Хацелася сфатаграфаваць зялёнае прыбярэжжа, задумліваю раку, белакрылых чаек у блакітных нябёсах…

Спакойны занятак перапыніў Дашын вокліч:

— Барыс, зірні!.. Барысфен пасылае нам емэйл!..

Барыс стрэліў вачыма на правы бок, куды працягвала руку Даша. За бартом плыла закаркаваная пустая двухлітроўка-пляшка. А ў ёй ляжалі каляровыя паперы. Даша закамандавала:

— Узяць на борт пасланне!

Барыс асцярожна падвяслярыў да бутэлькі-вандроўніцы. Вылавіў яе і перадаў Дашы:

— Чытай, там нешта напісана.

— Ага, ёсць словы, выведзеныя чорнымі чарніламі:

— Дашка, хутчэй агуч!

— «Хто вылавіць гэту бутэльку і выканае маё заданне, той дазнаецца пра вялікую тайну», — прачытала Даша.

— Выцягвай тайну!

— Э, Барысфен, тут пазначана: «Пасля знаходкі, адкрыць на трэці дзень».

Барыс ухапіў вёслы, ліхаманкава запрацаваў імі. Нібыта будзіў дрымотны Днепр. Нібыта хацеў наблізіць дзень адкрыцця таямніцы.

### *Чарапок сёмы*

## ЯК БАРЫС І ДАША АСЯДЛАЛІ МІЛАГРАДСКАГА КОНІКА

Дзед Яўхім вывеў з хлява буланага каня. Паляпаў далонню па яго жаўтлявай шыі, паправіў чорную грыву. На галаву адзеў аброць. Пахваліў:

— Малыш мой. Цярплівец. Працаголік, — а для Барыса, які стаяў побач, сказаў: — Ён у мяне смяльчак, нічога і нікога не баіцца.

— Не, дзядуля, самы смелы конь Буцэфал быў у Аляксандра Неўскага. — Ён толькі свайго ценю баяўся.

Дзед пацешна зірнуў на ўнука, вінавата ўсміхнуўся:

— Не ведаў пра гэта. Затое мой Малыш харашэйшы ў Мілаградзе.

— А чаму ты яго Малышом клічаш?

— Бо гэткі ж добры, як усе малыя.

— Няўжо ніколі не паказвае характар?

— Можа праявіць, але трэба ведаць яго норавы. Калі ўхмыляецца, аскальвае

зубы, — не падыходзь, укусіць ці ўдарыць. Каля задніх ног асцярожнічай, бо падфутболіць...

Дзед перакінуў повад аброці на грыву, загадаў:

— Сядай, Барыс!

— Пачакай крышку.

Барыс і хацеў праехаць верхам на кані, і крыху пабойваўся, бо яшчэ ніколі не быў наезднікам. І толькі тады, калі ўбачыў Дашу, якая бегла да іх агародамі, віхурай ускочыў на спіну Малыша. З вышыні яму падалося, што і дзед, і Даша паменшалі.

— Адпускаю! — аб'явіў дзед, бы запускаў у космас ракету. — Трымайся за аброць, за грыву. Камандуй, і конь будзе слухацца цябе.

Для Малыша дзед Яўхім даў сваю каманду:

— Пайшоў, дружок. Не падвядзі.

Конь паслухмяна рушыў уперад. Травяністым дваром прайшоў паўз хлеў, дрывотню, склеп, а за адчыненай брамай выйшаў на калёсную дарогу. Малыш адчуў волю. Сядок на ім адчуў упэўненасць. І яны, з маўклівай згоды абодвух, паляцелі насустрач ветрыку, зялёным палеткам, далёкаму небасхілу.

Барыс учапіўся за грыву. Мячыкам падскокваў на шырокай спіне Малыша. І асцерагаўся аднаго, каб не шмякнуцца на зямлю. Чамусьці ў галаву ўскочыла дзедава прымаўка: «Будзеш шпарка ісці — бяду нагоніш, а калі паціху — яна цябе нагоніць».

— Стой, супыніся, Малыш, — папрасіў Барыс, і конь, цяжка храпучы, збавіў галоп на бег, а пасля і на павольную хаду.

Барыс пацягнуў за правую лейчыну аброці, і буланы пайшоў на разварот. Дзе подбегам, дзе ціха перастаўляючы ногі, Малыш падвёз да хлява дзедавага ўнука. Ды, убачыўшы гаспадара, радасна заржаў, нібы сказаў: «Забірай свайго жэўжыка ды дай вадзіцы напіцца».

А дзед Яўхім і напраўду трымаў поўнае вядро калодзезнай вады. Малыш прыліп храпай да пітва. У гэты момант Барыс саскочыў са спіны каня.

Пакуль скакун піў ды аддыхваўся, Дзед Яўхім і Барыс рыхтавалі Дашу для катання. Яна не хавала свайго страху, прызналася:

— Я ж, дзядуля, ніколі не сядзела на кані.

— Бач, Барыс, першую абкатку вытрымаў, — супакойваў яе Дзед Яўхім.

— Клёва! — паказаў Барыс вялікі палец. — Круцяк!..

І Даша пагадзілася. Дзед сагнуўся каля каня, загадаў:

— Станавіся мне на плечы.

Барыс падаў руку Дашы. Яна асцярожна ўзнялася на дзедаву спіну і спрытна пераскочыла на Малыша.

Дзяўчына-вершнік на кані. Барыс пазіраў услед незвычайнай наездніцы і чамусьці зноў усплыла ў думках Данаша. Відаць, вось гэтак жа і тады яна верхаводзіла прыручаным, дзікім канём-тарпанам. А на Палессі, кажуць, яны хоць і даўно свойскія, але засталіся малыя ростам. Малыш, бач, удаўся буйным.

Дзед Яўхім разгадаў Барысавы думкі:

— Конь для мілаградцаў з данашай эры — крэўны памочнік. Аніякі трактар не заменіць яго.

— Разумею, ён жа не толькі для катання.

— Хэ, з ім хоць куды — у поле з плугам, у лес па дровы, на балота па торф.

— Я чытаў, дзядуля, што канём лечаць дзяцей, якія не могуць хадзіць. А калі яны на рухомым кані, то рухаюцца і іх мышцы, сцішваюцца нервы. Такое лячэнне называецца іпатэрапія.

Дзеду Яўхіму не хацелася падаць ніц перад унукам-грамацеем і ён нечакана для яго пачаў дэкламаваць верш:

Мой радавод вёў летапіс свой плугам,
і, як радком чырвоным, баразной
мядзяны конь ішоў адвечным кругам
пад Князем-Сонцам, Поўняю-Княжной…

— Наш паэт Анатоль Сыс склаў такое, — не без гонару заявіў дзед Яўхім. — Недалёка адсюль жыў. Каля яго вёскі таксама гарадзішча раскапалі…

Мужчыны гаварылі і не зводзілі вачэй з Дашы. Вось Малыш з ёй падышоў да жытнёвага палетка, павярнуў у бок фермы. А калі скіраваў да дзедавай хаты, тут буланы не вытрымаў, пабег трушком. Даша падскоквала на пакатай спіне каня і верашчала на ўсё наваколле:

— Вой!.. Ай!.. Ма-ма!.. Тп-ру-у, стой!..

І толькі ў дворышчы Малыш перайшоў на крок, павольна, як бы ні ў чым не бывала, даставіў вершніцу, дзе ўзяў.

— Жывая?! — і спытаў, і абрадаваўся Барыс.

— Супер! — усклікнула Даша, як толькі прызямлілася.

— Дык мо папрашу ў Хведара яго Беляка і з'ездзіце верхам на конях у Рэчыцу, — прапанаваў дзед Яўхім. — Вы ж хацелі там пабываць.

— Сапраўды, дзядулька, мы сёння думалі патрапіць туды ў музей, — узрадаваўся Барыс. — Ды лепш на маршрутцы.

— Бач, прызвычаіліся да машынак, — прамовіў дзед Яўхім, здымаючы аброць з Малыша, пусціў яго ў загародку і вярнуўся да сваіх развагі. — А мой дзед некалі баіў, што яго дзед ездзіў на кані ажно ў Тураў, сталіцу ўсіх дрыгавічоў.

— Ух ты, у такую далеч! — здзівілася Даша.

— Аге, мая дзеванька, дарог тады мала мелі. Прабіраўся хмызамі, балотамі, лясамі. Праз Рэчыцу, Глінную Слабаду, Аўцюкі, Юравічы, Мазыр і далей паўз Прыпяць…

— Коні верна служылі мілаградцам і на Гарадзішчы, — нагадаў Барыс старонкі з кнігі цёткі Ганны.

— А што ж ты думаеш, без каня яны б мо і не ўтрымаліся тут.

Даша ўмяшалася ў размову:

— Мы, дзядуля, вычыталі, што археолагі знайшлі пры раскопках фігуркі гліняных конікаў. Хочам іх у музеі пабачыць.

— Што робіцца! Дык не раздумвайце доўга. Садзіцеся на прыпынку на аўтобус. І, дай Бог, спаткання з той цацкай.

Праз якую гадзіну Барыс і Даша ехалі ў горад. І толькі ў аўтобусе спахапіліся, што не ўзялі слухаўкі. Даўнавата музыка любімых гуртоў не цешыла іх вушы. Столькі клопатаў і заняткаў апанавалі іх, што не да сеціўных забаўлянак.

Цяпер яны вымушаны пазіраць у акно аўтобуса.

І гэты занятак усцешыў іх.

Убачылі на поплаве коней. Каля іх круцілася карычневае жарабя. Брыкалася. Падскоквала. А калі брала хуткі бег, то хвост выпростваўся, як бы ляцеў яму услед, і ніяк не мог дагнаць.

У адной з вёсак прыкмецілі на даху адразу дзве буслянкі. От цікава, хто ў той хаце жыве, якую ўпадабалі бацяны? І чаму побач два гнязды? Мо ў іх буслiны радавод?

Калі праязджалі раку Ведрыч, Барыс нагадаў Дашы:

— О, рукаў Барысфена! У яго такіх шмат.

— Табе б такую кашулю.

— Ага, Данаша, я б нагадваў тады індыйскую шматрукую багіню Ганешу.

— А навошта ёй столькі рук?

— Каб справіцца з усялякай працай і быць здаровай. Як і Дняпру патрэбны прытокі, каб мускулы дужэлі.

А яшчэ ўбачылі нафтавую вышку. Яна стаяла мадэрновай ёлкай пасярод палетка. Непадалёк ад яе металічны «бусел» нястомна кляваў і кланяўся да зямлі.

— Ваў! — здзівілася Даша.

— Ага, нафту выкачваюць з зямлі.

Дашу і Барыса прыкмецілі ўсе бабулькі, якія сядзелі ў аўтобусе. Прыветна ўсміхаліся ім, цешыліся, што яны ўсё бачаць за акном і пры гэтым радуюцца. І толькі хлопчык-таўстунок ганарліва сядзеў каля мажнай цёткі. Ён важнічаў, бо ў яго вушах тырчалі навушнікі. Праз іх ён слухаў рэп.

Неўпрыкмет аўтобус наматаў на колы апошні кіламетр асфальту. Пачаліся гарадскія вуліцы, пабудовы. Пасажыры зашавяліліся. І Барыс з Дашай усхваляваліся ад хуткай сустрэчы з Мілаградскім конікам.

Яны лёгка знайшлі музей, бо ён стаіць у цэнтры горада. Побач — старажытныя царква і касцёл. Непадалёк, праз дзіцячы парк, нясе сваю варту нястомны Дняпро. На яго беразе — капліца ў знак таго, што тут прыпыняўся параход, калі везлі саркафаг са святой Еўфрасінняй Полацкай з Кіева ў Полацк.

У музеі Барыс і Даша адразу трапілі ў экспазіцыю старажытнай гісторыі. Яна размяшчалася на першым паверсе, нібы нагадвала: што прайшло — усё ўжо ўнізе, у мінулым, што маем сёння — гэта верхні паверх. А без нізу хіба можна падняцца ўгору?

— О, зірні, якім быў горад даўней, — Барыс першым кінуўся да старажытнай карты, і Даша ахвотна пакіравала за ім.

— «Borisfenes» — услых прачытала Даша надпіс, зроблены на хвалях ракі.

— Ага, з нашага Мілаграда прыплыў сюды, — рэўнасна азваўся Барыс. — Тут ён шырэйшы. Але ж, бач, мост драўляны змаглі перакінуць праз яго.

— А во крэпасць з вежамі на беразе. Яе, пэўна, добрыя ўмельцы рабілі, — падтрымала размову Даша.

— Слухай, мо ўсе гэта ладзілі нашы мілаградцы? — У Барыса іскрыліся вочы. — Прыплылі сюды прапрапрадзеды з піламі ды сякерамі і давай будаваць горад.

— Наш атаман хацеў сабраць тут усе плямёны, — Даша, адчувалася, ператваралася ў Данашу. — І марыў стаць галоўным начальнікам над Барысфенам.

— Клёва прыдумала, — пахваліў Барыс і неяк загадкава зірнуў на Дашу. — Барысфен і цяпер жадае, каб ім хто-небудзь уладарыў.

Даша не зусім зразумела намёк, тады Барыс сказаў адкрыта:

— Данаша, уладар Барысфенам. Давяраю!

— Трэба падумаць, мінчук, — Даша сур'ёзна зірнула на хлопца.

У гэты час у залу ўвайшла купка турыстаў, пераважна школьнікі. Экскурсавод з указкай у руцэ аб'явіў:

— А цяпер падыдзіце да стэндаў з экспанатамі мілаградскай культуры.

Барыс з Дашай ахвотна далучыліся да гурта.

— На тэрыторыі цяперашняга нашага раёна чалавек аб'явіўся ў эпоху палеаліту. Сто тысяч гадоў таму, — гаварыў экскурсавод. — У эпоху мезаліту адкрыта стаянка людзей каля Прудка, Берагавой Слабады. У эпоху неаліту, каменны век, чалавек

засяляўся ў цяперашніх вёсках Борхаў, Горваль, Заспа, Чорнае. У жалезны век, гэта сем стагоддзяў да нашай эры старажытныя пасяленцы ўпадабалі мясціны каля сённяшніх вёсак Гарошкаў, Глыбаў, Бязуеў, Мілаград…

Ніхто з вучняў не перапытаў, што гэта за эпохі перажылі рэчычане, чым яны адметныя? Можа, усё ведалі, але, хутчэй, былі раўнадушнымі да таго, што адбывалася тут да нашай эры. І толькі Барыс з Дашай прыкметна здрыгануліся, калі пачулі назву вёскі Мілаград.

Яны адсталі ад млявай групы экскурсантаў. І прыліплі да стэндаў, на якіх дэманстраваліся знаходкі мілаградскай культуры.

Вось яны — жывыя сведкі сівой даўніны!

Гліняныя чарапкі і злеплены з іх гаршчок, гліняныя місы, збанкі. Што варылі і як елі з іх? Адна гэта тайна выклікае роздум. А як рабілі гліняны посуд? Што замешвалі ў гліну, каб не развалілася? Як і на якім агні сушылі, загартоўвалі вырабы?

Барыс і Даша стаялі зачараванымі, крыху разгубленымі перад стэндам. Іх прыкмеціла сталая, з сівымі пасмамі валасоў ахоўніца залы, падышла, азвалася:

— Што, зацікавілі вас экспанаты?

— Ага, — кіўнула Даша.

— Мы самі з Мілаграда, — прызнаўся Барыс.

— О, дык ведайце, якія там людзі даўней жылі!

І яны разам пачалі разглядваць знаходкі археолагаў. Ахоўніца расказвала пра старажытныя ўпрыгожанні. А Барыс як бы прымяраў іх на Дашу.

Вось на яе руцэ павіслі бронзавыя пазелянелыя бранзалеты. З галавы звісаюць стужкі са скроневымі кольцамі. На шыі — ланцужок з жалезнымі падвескамі-трохкутнікамі, гліняныя пацеркі. А на яе фіялетавай сукеначцы — вялікая фібула, як сучасная шпілька.

— Данаша!.. — Барыс хацеў сказаць нейкі камплімент, але яго апярэдзіла ахоўніца музея.

— Данаша?.. Якое рэдкае імя..

— Ага, цётачка, яна з данашай эры…

— Гэта праўда, такая уважлівая, — пагадзілася ахоўніца. — З нашай эры вунь на вуліцы. Марожанае ядуць, па мабільніках галёкаюць.

Не змаўляючыся, Барыс і Даша зірнулі ў акно. На асфальце перад музеем стаяла тая ж купка турыстаў, што вёрткімі стракозамі прашамацелі па залах музея і тут жа вырваліся на волю.

Барыс з Дашай і далей з цікавасцю разглядвалі наканечнікі для стрэл, касцяныя іголкі, гліняныя грузікі, жалезныя сярпы, сякеры, нажы, каменныя зерняцёркі, малаткі. І вось — о цуд! — Мілаградскі конік!

Ён стаяў за шклом ва ўсёй сваёй прыгажосці. Доўгія эпохі добра захавалі карычневы колер гліны. З яе месіва невядомы майстар выляпіў некалі гэтага чароўнага коніка. Ён надзейны, з моцнымі нагамі. Тулава выцягнутае, можа змясціць двух седакоў. На выгнутай угору шыі — вольная, без аброці галава. Невялікая грыўка і кароткі хвосцік як бы сведчаць, што гэта — жарабя, конскае дзіця. І гэта фігурка — цацка для малых. А можа, знакавы сувенір таго, што мілаградцы даўно прыручылі дзікага каня-тарпака і ён — верны сябар дарослых і любімая забава дзяцей?

Мілаградскі конік!

Яго прародзіч Малыш сёння катаў Барыса і Дашу. А гэты, бач, знайшоўся праз стагоддзі і займеў сваю канюшню ў музеі XXI стагоддзя. Як жа гэта ўсё фантастычна! Барыс і Даша адчувалі сябе сапраўднымі адкрывальнікамі.

Але і яшчэ адно адкрыццё чакала няўрымсаў.

У адным з музейных залаў яны ўбачылі герб Рэчыцы і пачулі цікавую легенду пра яго. У рашаючай Грунвальдскай бітве ў 1410 годзе ўдзельнічала рэчыцкая харугва. Нашым землякам, рыцарскаму атраду кавалерыі, даручана было падчас бою з тэўтонцамі ахоўваць сцягі аб'яднанага войска Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага.

Пераможцамі вярнуліся дамоў рэчыцкія ваяры. Сярод іх мо былі і мілаградскія вершнікі? Іх баявы сцяг з выяваю ўзброенага воіна на кані стаў гербам. Гэты сімвал захаваны і на сучасным гербе Рэчыцы і раёна. Срабрысты рысак у імклівым бегу. На ім — старажытны воін з аголеным мячом і чырвоным шчытом з двайным крыжам. Конь і воін у пастаяннай гатоўнасці да змагання.

Усю зваротную дарогу да Мілаграда Барыса і Дашу быццам суправаджаў Мілаградскі конік. То ён вымалёўваўся блакітным воблакам у летнім небе. То бачыўся ім у зялёным уборы, калі праязджалі бярозавым шляхам. То спакойна пасвіўся на лужку каля рэчкі з табуном вясковых коней.

Мілаградскі конік нібы падсабляў аўтобусу ехаць не на колах, а ляцець на крылах. Барыс і Даша спяшаліся ў вёску. Заканчваўся трэці, доўгі дзень абяцанай сустрэчы з тайнай. Іх чакала злоўленая ў Дняпры загадкавая бутэлька.

### *Чарапок восьмы*

## ЯК РАЗГАДВАЛІ ТАЙНУ

— Ото ідзём, — азвалася баба Клава, і яны з дзедам і бабай Марфай борздзенька ўвайшлі ў садовую альтанку.

За столікам на скрыжаваных ножках узвышаліся крыху разгубленыя Барыс і Даша. Перад імі ляжалі паперы, якія яны, быццам эмчээснікі, выратавалі з вылаўленай у Дняпры бутэлькі.

— Тры тупалы на ваш покліч прыцягнуліся! — па-вайсковаму далаў дзед Яўхім.

А баба Клава і баба Марфа, калі ўбачылі ўнукаў, ледзь не злякнуліся, ледзь не загаласілі:

— А што ж гэта з вамі?

— А дзе ж вы гэтак уквэцаліся?

І толькі цяпер Барыс і Даша як бы ўбачылі сябе ў люстэрка. На Барысавым твары застылі сляды ад зялёнай раскі. У Дашыны валасы ўплялася сетка павуты. Іх футболкі, шорты заляпаны балотнай гразёю.

— Распавядайце! —загадаў дзед, як сякерай адсек.

Барыс і Даша пачалі наперабой даводзіць тайну, якую тры дні хавалі нават ад сябе, і якую меркавалі трымаць толькі ў сабе. Але нечаканыя абствіны вымушалі цяпер раскрыцца перад вопытнымі экспертамі.

— Разумееце, мы вылавілі ў Дняпры бутэльку, — пачаў Барыс.

— А там — пасланне і во гэта карта, — Даша ўзняла ўгору аркуш паперы з чарцяжамі.

— Ну, мы прачыталі і пайшлі шукаць тайнік.

— Ішлі дакладна па ўказаным маршруце і раптам натыкнуліся на кладку цераз зарослую рэчачку.

— Ага, я прапанаваў збегаць па сякеру, хацеў намасціць пераход, а Даша сказала: «Вяртанне — дрэнная прыкмета».

— Узялі па дручку і давай пераадольваць тую перакладзіну, — прадоўжыла аповед Даша, — і раптам закрычала: Ая-ёй!.. Ратуйце!.. Пасярэдзіне кладкі ляжала тоўстая вужака…

— Мы і пападалі ад страху ў гразь…

Дзед Яўхім прыпыніў няўдалых вандроўнікаў.

— Добра, гразь не сала — прасушыў і адстала. Чытайце, што напісана ў пасланні.

Баба Клава ўмяшалася ў гаворку:

— Хрыстос з табой, Яўхімка, дай дзецям аддыхацца ад страху.

— Ай, які там страх. З блыхі зрабілі ваўка, — не пагадзіўся дзед Яўхім. — Бедная вужака грэлася на сонейку, дык трэ было падаць перад ёй у твань?

— А сам ці даўно напалохаўся вожыка, як той зачмыхаў на цябе ў цёмным хляве, — азвала баба Марфа і зарагатала. — Прыляцеў да нас з Клавай, каб ратавалі ад чорта.

Пакуль старыя перамаўляліся ды высвятлялі адносіны, Барыс узяў пасланне незнаёмца і падрыхтаваўся адкрыцца. Дзед убачыў гэта і суцішыў усіх:

— Добра, чытай ужо, што вы там вылавілі.

— Слухайце, — прамовіў Барыс і перадаў пісьмо Дашы.

Яна паказала ўсім скамечаны аркуш паперы, спісаны ад рукі чарнілами чорнага колеру, схемы намаляваны зялёным фламастарам, і пачала агучваць тайну:

— «Хто першы вылавіць гэту бутэльку, прашу не хіхікаць нада мной. Кап'ютар у мяне ёсць, мабільнік — таксама, а я пакарыстаўся старасвецкім метадам, бо хачу паведаміць тайную звестку, якая даўней, відаць, толькі хвалямі Дняпра і перадавалася…»

— Ай-ей, — вырваўся вокліч у бабы Марфы. — Хто ж гэта прыдумаў?

— Май цярпенне, — супыніў суседку дзед Яўхім.

Калі наступіла суцішша, Даша прадоўжыла чытаць:

— «Мяне здаўна хвалюе старое Гарадзішча, на якім жылі людзі да нашай эры. Яны мне часта сняцца і, здаецца, некаторых з іх я і цяпер сустракаю ў навакольных вёсках. Гэтым летам задумаў будаваць непадалёк ад таго селішча хатку, у якой некалі маглі жыць данашаэраўцы. Але мушу тэрмінова пакінуць Мілаград. Хто атрымае мой ліст, прашу дабудаваць задуманы маёнтачак. Хай ён стане святым абярэгам для кожнага, хто ўвойдзе ў яго…»

— Хрыстос нейкі жыў побач з намі, — пераждагналася баба Клава.

Баба Марфа ўздыхнула:

— Госпадзі, ёсць жа непаседы. Такое задумаў…

— Маўчыце, сакатухі, — на правах камандзіра загадаў дзед Яўхім і падміргнуў Дашы, як бы ведаў, што далей напісана. — Чытай, дзяўчынка, не звяртай на баб увагі.

— «Давяраю гэту тайну незнаёмым вандроўнікам па Дняпры, як і раней людзі з мілаградскага племя давяралі свае жыцці сонцу, вадзе, лесу, зямлі. Перадаю, спадзяюся, у надзейныя рукі схему маршруту (дадаецца да пісьма). Паведамляю некаторыя падказкі: за хатай, якая стаіць каля лесу, а на агародзе тых гаспадароў — тры старыя калоды з пчоламі, знайдзіце зарослую сцяжынку. Па ёй дойдзеце да паваленага дуба. Далей папаратнікам да старыцы былой рэчачкі. Пераадолееце хісткую кладку, ідзіце дубняком да кукурузнага поля. На вашым шляху будуць тры старыя бярозы, якія растуць з аднаго кораня. Дзве з іх выгнуліся тоўстымі каленамі ў бок Дняпра. Метраў праз сто ад іх сустрэнеце засохлы дуб. Зірніце ўверх і вы налічаце сем галін-рук, працягнутых да неба. Так дрэва развітваецца з жыццём. Яшчэ праз метраў тры-

ста сустрэнеце сярод маладых грабаў стары дуб. Ён аблысеў, скідвае з сябе кару, але яшчэ моцна чапляецца за зямлю…»

Калі Даша зачытвала лясные прыкметы маршруту, Барыс пільнаваў за дзедавым тварам. І яму падалося, што дзед, які звекаваў тут і ведае назубок усё наваколле, не проста слухаў, а нібыта вандраваў тымі мясцінамі.

Даша заканчвала чытаць:

— «Калі выйдзеце да палетка з кукурузай, кіруйце грудком, па махавіне, сасонніку ажно да канца лесу. Далей пачынаецца забалочаны луг, за ім — Дняпро. А вы павярніце ўправа і метраў праз трыста, у густым арэшніку, парослым маладымі дубкамі і клёнікамі, знойдзеце хатку гарадзішчанскіх мілаградцаў. Дабудуйце яе і аберагайце. Я вярнуся. І я, і вы, і ўсе мы, беларусы, павінны ўвайсці ва ўчарашні дзень, каб ацаніць сённяшні. Здымаю перад вамі шапку. Касцян з Мілаграда».

Даша змоўкла.

Загаманілі бабулі:

— Хэ, хто ж гэта мог быць? — азвалася баба Марфа. — Не згадаю ніякога Касцяна з нашай вёскі.

— Мо які чарнобылец, якіх наперасялялі да нас? — выказала сваё меркаванне баба Клава.

— Ды што вы кудахчаце, — супакоіў іх дзед Яўхім. — Бачыце, нашых унукаў зацікавіла яго прапанова. То давайце думаць, як ім падмагчы.

— Вядома ж, за грошы можна і хваробу купіць, — роздумна ўздыхнула баба Марфа. — А тут жа мусім памагчы за так.

— Правільна, суседачка, калі маеш грошы, то можна і перад каралём не здымаць шапку, — падтрымаў размову дзед Яўхім. — А мы павінны пакланіцца таму Касцяну, які задумаў вярнуць памяць пра данашаўскіх мілаградцаў.

— Трэба з унукамі схадзіць да патаемнай будоўлі, — рашуча, не як пенсіянерка, а як піянерка, прамовіла баба Клава.

Барыс і Даша не хавалі радасці, што да тайны далучаліся свае людзі. А ім у дарогу сабрацца, што голаму падпаясацца. Дзед Яўхім адразу ж выдаў каманды:

— Зробім так. Бабы падояць удзень каровы. Пакормім свіноту. Самі перакусім. А тады папросім Малыша, каб звазіў нас у грабняк за кукурузным полем.

Сказаў дзед, як пугай ляснуў.

Усе разышліся па сваіх хатах.

А ўжо праз дзве гадзіны мілаградцы прыкмецілі, як Яўхім вёз на сваіх калёсах цэлую дэлегацыю крэўнікаў і суседзічаў. Пасажыры, відаць кіравалі не на працу, бо былі святочна прыбраны. І, безумоўна, нікому ў галаву не цюкнула, што яны едуць на старажытнае Гарадзішча, бо той дубняк не вельмі каго хваляваў. Часцей за ўсё мілаградцы траплялі туды, каб пашукаць грыбоў, сабраць жалудоў ці арэхаў, ссекчы маладых дрэў на тапарышчы ці ўтрымальнікі для рыдлёвак. Пра само селішча дзікага племя казалі рознае.

Іван Парфіраў верыў, што там жылі людзі да таго, як ён нарадзіўся.

Сямён Манін быў перакананы, што там людзі пасяліліся пры царыцы Кацярыне.

Перасяленец з чарнобыльскай зоны, нараўлянец Сцяпан Зыль, меў сваё меркаванне:

— Ды там паявіліся людзі пасля Сусветнага Патопу, бо выбралі вельмі ж высокі бераг Дняпра.

А тым часам на возе, які цягнуў Малыш, суседкі Клаўдзія і Марфа перамаўляліся пра курэй ды куранят, пра грады і пустазелле, пра гуркі і памідоры ў цяпліцах.

Дзед Яўхім даверыў лейцы Барысу. А сам з Дашай сядзеў поруч ды падказваў, куды павярнуць каня.

Яны ехалі зусім не тым маршрутам, які апісаў у сваім лісце нейкі Касцян. А галоўны кіроўца Яўхім не ўдакладняў дарогу, нібыта ўжо даўно засвоіў яе. Барыс не вельмі дзівіўся з гэтага, бо дзед жа звекаваў у гэтых мясцінах. І ўсё наўкол ведаў, здаецца, да кожнага дрэва, куста і нават да асобнай красачкі ў лесе. Але ж і была ў Барыса нейкая насцярожанасць пра дзедаву дасведчанасць.

Калі павярнулі з шашы на лясную дарогу, дзед Яўхім перахапіў з Барысавых рук лейцы:

— Тут, унучак, я сам… Хто вязе, таго не трэба падганяць…

Бабы перасталі гудзець пра свае хатнія клопаты. На ўхабах па-маладому ўскрыквалі, ахалі ды охалі, прасілі ў возчыка літасці, бо маглі рассыпацца на чарапкі, як тыя пракаветныя мілаградскія гаршчкі.

Барыс з Дашай не зводзілі вачэй з дарогі, быццам фатаграфавалі шлях, які вёў да тайніка. Яны нават забыліся пра фотаапараты і мабільнікі, якімі сапраўды маглі б запеленгаваць увесь маршрут. А дзед Яўхім у гэты час гаварыў толькі з Малышом:

— Но-о, дружок, павярні лявей… Вось так… Прама… Крыху вазьміся правей, ага…

Калі выехалі да кукурузнага палетка, дарога пайшла раўнейшая. Усе паспакайнелі, але не надоўга. За полем Малыш крута павярнуў управа, і колы зашамацелі па лясным шыгаллі, па моху, дзябёлым папаратніку, упрэлай леташняй лістоце. Маладыя клёнікі і грабы быццам хацелі зазірнуць на воз і гладзілі пасажыраў сваімі пяшчотнымі лісцікамі. Баба Марфа і баба Клава пачалі прасіцца:

— Яўхімка, затармазі… Мы сваімі нагамі пойдзем.

— От, лепей дрэнна ехаць, чым добра ісці, — азваўся дзед. — Хай адзін Малыш пешшу ідзе.

— Старога мяха не залатаеш, — крыху гнеўна сказала баба Марфа, але Барыс і Даша не зразумелі прыказку.

Малыш тым часам, пахрапваючы і цяжка сапучы, дацягнуў воз да патрэбнага месца. Па лесе разнеслася звонкае рэха ад Яўхімавых слоў:

— Тпру-у-у!.. Прыехалі!..

Што ж адкрылася вачам вандроўнікаў?

На «лысіне» дубняку, у малой адлегласці ад Гарадзішча ўзвышалася дзіўнае збудаванне. Яно нагадвала прапускны будан у гістарычную мясціну. І задуманы ён па сваёй архітэктуры, як старажытнае жытло дзікага племя. Барыс не стрымаў сваіх пачуццяў:

— Глядзіце, Касцянава хатка падобна да жылля данашаўскіх мілаградцаў.

Барыс пазіраў на Дашу і чакаў, што скажа яна, бо разам жа штудзіравалі кнігу археолага Мельнікоўскай. А там падрабязна, на аснове раскопак, апісваецца жыллёвае памяшканне далёкіх продкаў. Выходзіць, тую кнігу чытаў і яшчэ нехта.

Даша не спяшалася з адказам. Пільна азірала пабудову, нібы прыгадвала пэўныя старонкі даследчыцкай працы. У гэтае імгненне яна зноў падалася Барысу той Данашай, якая ўжо адно сваё жыццё правяла ў такой хаціне.

— Вельмі падобна да нашай, — урэшце сказала Даша, і Барыс разгубіўся, што яна мела на ўвазе, цяперашнюю бабуліну хату ў вёсцы ці тую, далёкую, у якой жылі ў Гарадзішчы.

Кропку ў здагадках паставіў Дзед Яўхім:

— Той, хто развёў гэту будоўлю, намардаваўся добра, але не давёў яе да ладу.

— А няго ж, — у знак падтрымкі ўставіла слова баба Клава. — Хочаш, каб цябе ўспомнілі пасля смерці, рабі дабро пры жыцці.

І дэлегацыя «экспертаў» пачала аглядаць лясное збудаванне.

Таямнічы Касцян майстраваў усё толкам і сумленна. Выкапаў яміну для падмурка тры на чатыры метры. Менавіта такой плошчай і ладзіліся хаткі на адну сям'ю.

Сцяну ўзводзіў па-пісанаму. На чатырох вуглах укапаў па два дубовыя слупы, таўшчынёй з калёсную аглоблю. А паміж імі укладваў жэрдкі. Пасля кожнага такога вянка пераплятаў слупы лыкавымі стужкамі з маладых ліпак. Каб сцяна не разыходзілася. Каб непарушнай была, як крэпасць.

Дзед Яўхім, а разам з ім і ўсе астатнія, вельмі ж прыдзірліва агледзелі тры сцяны, якія паспеў зрабіць Касцян. Паміж жэрдкамі ён клаў зялёны мох, каб захоўвалася цяпло ў хатцы. Вымасціў земляную падлогу камянямі. Пасярэдзіне выкапаў дзве ямы і закапаў у іх тоўстыя слупы, якія вытыркаліся ў неба вышэй сцен.

— А гэта для чаго? — пацікавілася баба Марфа.

Дзед Яўхім толькі ўсміхнуўся і кіўнуў у бок Барыса і Дашы.

— Яны ведаюць.

— Ага, ведаем. На гэтых слупах будзе трымацца дах.

— Правільна, будзе трымацца, калі мы яго зробім, — сказаў-адрэзаў дзед Яўхім.

Барыс і Даша помнілі Касцянаву просьбу ў пісьме, зразумелі, што дзед Яўхім гатовы далучыцца да іх, каб дабудаваць маёнтачак, і яны амаль у адзін голас заверылі:

— Мы дапаможам, дзядуля!.. Што скажаце, зробім…

— Дык будзьце здаровыя, як дубы, ды моцныя, як зубы, — пажадаў дзед Яўхім моладзі, а жонцы кіўнуў. — Давай, Клаўдзія, як той цыган казаў, спачатку перакусім, пасля паабедаем, заадно і павячэраем, а як паспім, ды калі сонца ўзыдзе, тады і пачнём мазалі зарабляць.

Баба Клава паслухмяна, як перад вялікім начальнікам, узялася ладзіць сталаванне на траве каля новабудоўлі. Ёй падмагала баба Марфа.

Дзед Яўхім тым часам распрог Малыша, вызваліў яго ад хамута і пусціў паласавацца лясной, гаючай травой. Сам жа падышоў да пабудовы і пачаў прыкідваць, што яшчэ трэба дарабіць, колькі жэрдак пойдзе на чацвёртую сцяну, як і з чаго змайстраваць дзверы, столь, дах. У гэты час ён адчуў сябе цесляром, будаўніком, архітэктарам, а можа, і гаспадаром, які заказвае новы аб'ект. Падумаў дзед і аж уздыхнуў: кім жа яму толькі не даводзілася быць у жыцці, чаго толькі не рабілі яго сялянскія рукі, пра што толькі не мікіціла яго заснежаная галава?

У гэтым роздуме ён сядзеў на падгнілым дубовым пні, пакуль не пачуў жончын вокліч:

— Яўхім! Гукай дзяцей. Стол гатовы…

— Яны вуньдзека, на Гарадзішчы, — азваўся дзед і свіснуў салаўём-разбойнікам на ўсё наваколле. — Барыс, Даша! Сюды!..

Праз колькі хвілін гарадскія ўнукі, высока падскокваючы над папаратнікам, падбеглі да абруса-самабора.

— А вохці мне, хто гэта такія? — здзівілася баба Марфа.

— А божухна, што прыдумалі! — азвалася баба Клава.

І толькі дзед Яўхім спакойна, разважліва патлумачыў:

— Дык гэта ж завіталі да нас у госці былыя пасяленцы старых сядзіб — Данаша і Барысфен.

На галаве ў Дашы красаваў вянок з дубовых галінак. З яго звісалі жалудовыя падвескі. На шыі — каралі-пацеркі з жаўтавата-зялёных рабінавых ягад. На запясцях — кольцы з маладых, махнатых арэхаў. Спадніца з папаратніку, а замест пояса — гнуткія лазовыя пруткі.

У Барыса — зялёная шапка з бярозавых галінак, якая абараняла галаву ад сонечных промняў. За каўнер футболкі наўтырканыя кусцікі чарнічніку. Яны стваралі быццам плеценую накідку на плячах. Пад рэменем, як патранташ, трымаліся яловыя шышкі.

Барыс і Даша мелі ў руках доўгія палкі з ляшчын. Яны служылі ім дзідамі, якімі ўзбройваліся і насілі з сабой усе гарадзішчанскія мілаградцы.

Зайграла музыка. Абудзіліся ад спячкі дубы. Зашамацелі сарафанамі бярозы. У сонечных промнях свяціліся лясныя зёлкі. Закружыліся над палянкай матылі і стракозы. А Барысфен з Данашай кінуліся ў дзікі танец. Махалі дзідамі, нібы дэманстравалі спрыт і ўмельства бойкі. Паказвалі такія выкрунтасы рукамі, нагамі, усім целам, якія бабам і дзеду нават не сніліся.

Але яны не асуджалі маладых, а, здаецца, самі былі гатовы кінуцца ў скокі. Ім пацешна зрабілася ад таго, што ўнукі ўпадабалі вёску, Дняпро, лес і іх саміх.

Над мілаградскім Гарадзішчам стаяла летняе сонца. Як і тады, дзве з паловай тысячы гадоў таму, калі племя дрыгавічоў высадзілася на высокі бераг Барысфена.

Правабярэжжа магутнай ракі, райскі куточак з назвай мілы град, як і тады, да нашай эры, і цяпер ажываў ад людскіх галасоў, вясёлых мелодый і адвечнай прагі ЖЫЦЬ.

Калі ўсе сцішыліся і прыселі каля абруса з сялянскімі прысмакамі, дзед Яўхім на правах правадыра гэтай кампаніі дазволіў сабе сказаць тое, што даўно, як мёд у сотах, асела ў кожнай клетачцы яго душы:

— Мы ніколі ні на кога не нападалі… Хіба толькі на мядзведзя, які выдзіраў наш дзікі мёд… Хіба толькі на сома, які глытаў нашых качак… Хіба толькі на ваўка, якому падабалася мяса нашых цялят… Мы заўсёды абаранялі нашых дзяцей ад двуногіх звяроў, ад грому, сонца, рачных віроў, голаду і хвароб. Ад атрутных грыбоў і ягад… Мы заўсёды хацелі жыць… І мы выжывалі!.. Мілаградцы жывучыя!..

Барыс і Даша, як ніколі, разумелі дзедавы словы. Ім здавалася, што іх прамаўляе не сённяшні мілаградскі дзед, а той, які жыў тут да нашай эры.

Баба Клава і баба Марфа пры гэтым чамусьці плакалі.

***Чарапок дзевяты***

## ЯК БАРЫС НЕ ХАЦЕЎ ПАКІДАЦЬ НЯВОЛЮ

— Гамузам, Барыс, можна нават чорта выгнаць з балота, — кожны раз паўтараў дзед Яўхім, калі збіраліся на Гарадзішча.

Гамузам дзед называў гурт людзей, якія разам нешта робяць. А яшчэ — талакой. Ён нават камароў над Дняпром, якія «таўкуць мак», называў талакнёй. І распавёў аднойчы, як мілаградцы гуртам, з кожнага двара па чалавеку, збудавалі хату пагарэльцу Хведару за адзін тыдзень.

Цяпер жа, калі ўзяліся закончыць Касцянаву хатку на Гарадзішчы, дзед таксама збіраў гамуз добраахотнікаў. Барыс і Даша — верныя памочнікі. Дзве бабы заўсёды гатовы падставіць жаночае плячо. Але для справы патрабаваліся і моцныя, умелыя

рукі. Іх прапанаваў дзядзька Хведар, які жыў ад Яўхіма праз тры хаты і якому некалі гамузам склалі хату.

Хведар адразу спадабаўся Барысу і Дашы. І найперш таму, што прызнаў іх за роўню і вельмі паважліва ставіўся, нават называў маладых людзей на «вы». А мову меў адметную. І часам ужываў словы «ка» і «ку».

— Я яму ку, а ён мне ка…

Гэта азначала:

— Я яму кажу, а ён мне кажа…

Вось такім магутным гамузам-гуртам, калі пехам, а калі на кані, пачалі яны бываць штодня на старажытным селішчы. Правільней, перад уваходам у яго. Хацелася збудаваць хатку вельмі падобную да той, у якой жылі людзі да нашай эры. І яна, па іх задуме, магла б стаць пропускам на Гарадзішча.

У гэтай рупнасці Барысу і Дашы давяралі самыя розныя даручэнні: падаць, паднесці, збегаць, патрымаць. Былі і больш складаныя просьбы: зняць гэблем маладую кару з жэрдак, нарваць пакет моху, нарыхтаваць чароту і пакласці сушыцца. Усё гэта яны рабілі ахвотна, з асалодай.

А найбольш ім падабалася, як вяскоўцы мудра гаманілі. З іх размоў багата чаго наматвалі сабе «на вусы». Дзядзька Хведар аднойчы прыгадаў бацькаў аповед, як усім сялом ратавалі дзяцей ад хвароб:

— Ага, тата дый ка, хочаш ведаць як мы ад смерці вас абараНялі? Ку, раскажы, а я сваім спадкаемцам перадам. Дык во што прыдумалі. Усю ноч бабы пралі кудзелю. І той ніткай, якую вывелі ў бяссонні, мужыкі раніцай абвілі ўсе мілаградскія хаты. А знахарка Куліна пры гэтым нешта бясконца шаптала. Во як хацелі, каб дзеці жылі…

— Дык што ты думаеш, во гэтыя людзі з Гарадзішча, ці не гэтак жа заступаліся за сваіх дзяцей? — І спытаў, і адначасна сцвердзіў дзед Яўхім.

— А я табе што ку, каб не яны, дык і нас бы не было, — падтрымаў Хведар свайго суседа.

— Ды ў нас і аблічча ад першабытнікаў, і паходка, і звычкі, — сцвердзіў дзед Яўхім.

— А я ку, што і мовім мы па-іхняму.

— І хаты свае збудавалі, навучыўшыся ад іх, — дзед Яўхім пераводзіў гаману на лясны аб'ект і ў які ўжо раз цешыўся тым, што ўзводзяць яны хатку без адзінага цвіка, без дошак, шкла, шыферу. Усё натуральнае — жэрдкі, лаза, мох, чарот, камяні.

— Я і ку, што мы малайцы. Нездарма ж бабы з навакольных вёсак пусцілі чутку: «Пайду замуж хоць за старца, абы за мілаградца».

— Мне часам здаецца, Хведар, што мы з табой, ды ўсе мілаградцы, і ёсць тыя самыя «чарапкі», якія нагадваюць пра старажытных насельнікаў Дняпра.

— А я што ку? Не знайшлося яшчэ археолага, каб нас адкапаў ды ў музей выставіў, — дзядзька Хведар зірнуў у бок Барыса і Дашы, міла ўсміхнуўся. — Хіба вось гэтыя, што круцяцца каля нас, калі-небудзь успомняць добрым словам.

— Эй, вы, камсамольцы, — крычыць на ўвесь дубняк дзед Яўхім, — падайце пук чароту.

Барыс і Даша хапаюць у абярэмак доўгія падсохлыя сцябліны, нясуць да будоўлі. Дзед мосціць дах у хатцы. Хай ратуе гасцей ад сонца, дажджу і снегу.

Кіпіць праца, ідзе мудрая гамана пад покрывам магутных дубоў.

У гэтым ціхім віры клопатаў Барыс зусім забыўся, што ён у гасцях, што вывезены ў няволю. І толькі нечаканы прыезд бацькі агарнуў трывогай яго душу.

Чырвонае «пежо» нечакана падкаціла да хаты з белымі, фігурыстымі ліштвамі вакол акон. Сабака Боня не вылез з будкі, так неўпрыкмет фыркнула аўто каля брамы. Цішыня і летняе, млявае мроіва вісела над палісаднікам, над усім дворышчам, над парэпанымі, счарнелымі бярозамі. Крыху саржавелы замок сустрэў мінскага зяця. Ніхто яго болей не чакаў. Нават Барыс.

Леанід Іванавіч, так звалі бацьку Барыса, прайшоўся ў белых дырчатых чаравіках за хлеў. У агародзе — нікога. За бульбянішчам пачынаўся бярэзнік, а там ужо і бацюхна Дняпро. Але ісці па пясчаных барознах, вакол якіх на зялёных кустах сядзелі каларадскія жукі, Леанід Іванавіч не адважыўся. Набраў па мабільніку сынаў нумар. На тэлефоне высвецілася: «Абанент не даступны».

— Дзе яны ўсе? — устрывожыўся госць.

Хацеў схадзіць да ракі: «Мо загараюць?» Але тут жа супыніў самога сябе, нават усміхнуўся: «Якія загаральшчыкі з дзеда і бабы?» Барыс, калі і на Дняпры, дык хіба яго там знойдзеш. Трэба чакаць. Леанід Іванавіч прысеў у садовую альтанку. Задумаўся і, зморaны за дарогу, неўзабаве задрамаў.

Яго разбудзіў шум павозкі, якую ўкаціў у двор нястомны Малыш.

На месцы кучара сядзеў Барыс. Ён спрытна кіраваў канём і, як толькі ўбачыў бацьку, кінуўся да яго, але не ў абдымкі, а каб выказаць радасць, якая распірала душу:

— Тата, мы сёння закончылі будаваць хатку!

— Навошта вам яшчэ адна хатка? — здзівіўся Леанід Іванавіч, разгублена пазіраючы на сына. — Дзе ты гэтак вымазюкаўся? Увесь у смале, у сажы…

Да госця падышлі дзед Яўхім, баба Клава, суседзі Марфа і Хведар. Крыху воддаль стаяла Даша. Усе наперабой расказвалі пра лясную хатку, а Леанід Іванавіч паведаміў сваю навіну:

— Прыехаў забраць Барыса. Перад школай вырашылі наведаць Егіпет, адпачыць там з тыдзень.

— Адсюль я нікуды не паеду! — рашуча заявіў Барыс.

Дарослыя здзіўлена пераглянуліся.

Леанід Іванавіч помніў, з якім настроем ехаў сын у Мілаград. Нібыта яго сілком везлі ў няволю. Цяпер Барыс не хоча пакідаць вёску. Што здарылася?

На Барыса спагадліва пазірала Даша. Ён так і не зразумеў, ці то яна спачувае яму, ці то зайздросціць, ці шкадуе, што так неўспадзеўкі наступае разлука. Нейкі горкі, даўкі камяк падкаціў пад горла хлопца, нібы душыла балючая крыўда. Чаму трэба пакідаць Мілаград, у якім адкрылася столькі дзівосаў? Як жа ён будзе без Дашы на чужыне?

Барыс раптам сарваўся з месца і, відаць, на дзіва самому сабе і ўсім, хто быў на той час у двары, імкліва пабег у бок Дняпра. Як бы за ім гналіся куслівыя пчолы ці злосны сабака. Быццам уцякаў ён ад бяды, нячысціка ці нечаканай хвалі цунамі.

Прыпыніўся толькі на пантонным мосціку, які пралягаў цераз дняпроўскую затоку. Агледзеўся наўкол. І ледзь не ахнуў. Усе пясчаныя берагі затокі і самога Дняпра запоўнілі разамлелыя людзі. Адкуль іх столькі ў Мілаградзе?

Ды гэта ж сонца і нядзеля сабралі тут амаль усіх карэнных насельнікаў і тых, хто адсюль пераехалі ў райцэнтр ды іншыя гарады. Яны загаралі, купаліся, каталіся на лодках, лавілі рыбу.

Барысу асабліва не спадабалася дзікая арда аднагодкаў. Яны гарланілі на ўсё наваколле. Абліваліся вадой. Уключалі на ўсе дэцыбелы партатыўныя прыёмнікі. Некаторыя з гуляк у адкрытую смакталі піва, і па затоцы ўжо плавалі пустыя, карычневыя бутэлькі.

Барысу падалося, што гэтыя нядзельныя госці абражаюць сівога Барысфена, што зневажаюць саму Данашу, якая з вышыні сонца пазірае на іх.

І Барыс не стрымаўся. Ён пачаў нешта крычаць, каб пачулі Барысфен, Данаша, неба і зямля.

Каб пачула само Гарадзішча.

Каб зашумелі ў гневе векавыя дубы.

Аднагалоссем разлятаўся трывожны, звонкі покліч:

— А-а-а-а-а!..

Людзі на вадзе і на беразе на імгненне быццам замерлі. І ў гэтай нямой цішы яшчэ раз прагучаў надрыўны голас Барыса:

— А-а-а-а-а!..

Пра што крычаў Барыс, ведаў толькі ён.

***Чарапок дзясяты***

## ЯК БАРЫС ПІСАЎ ЛІСТ МІНІСТРУ

Клас гудзеў, бы вулей.

Данік адгадаваў за лета кучаравы хвосцік унізе чупрыны. Хваліўся новым сотавым тэлефонам, па якім можна бачыць, хто звоніць.

Чарнявы Віця яшчэ больш пачарнеў, а твар ад сонечнага загару стаў цёмна-карычневым, быццам у афрыканца.

Дзяніс, які так ні разочку не пазваніў Барысу з Балгарыі, цяпер хваліўся, як ён гуляў па Залатым беразе мора.

Лена з доўгай касой і зіхатлівымі зоркамі ў ёй сабрала каля сябе дзяўчат і напявала ім мелодыю, якую прывезла з лагера «Зубраня».

Ягор і Наста пра нешта шапталіся і залівіста рагаталі…

У клас увайшла класная Надзея Антонаўна і ўсе сцішыліся. Нібыта ў чайніку, які толькі што кіпеў, раптоўна выцягнулі вілку з электраразеткі.

— Сёння будзем пісаць класнае сачыненне: «Як я правёў лета», — абвясціла настаўніца і, каб заахвоціць вучняў, дадала: — Лепшыя сачыненні пашлём на гарадскі конкурс. Адтуль пераможцы могуць трапіць вышэй. Так што ёсць магчымасць засвяціцца. За працу!..

Барыс выцягнуў з партфеля сшытак у лінейку, ручку с сінім стрыжнем. Хвіліну сядзеў у глыбокім роздуме і раптам чысты аркуш пачаў засявацца літарамі алфавіта, якія гуртаваліся ў патрэбныя словы і сказы.

Сваё сачыненне Барыс пачаў арыгінальна:

«Паважаны міністр!

Гэтым летам я пабываў у вёсцы Мілаград, на Дняпры…»

Атрымлівалася крыху афіцыйна, можа, занадта асабіста, але ж настаўніца тлумачыла, што сачыненні могуць быць рознага жанру. Хай яго летняя справаздача стане лістом-зваротам да ўплывовага чалавека, які не толькі прачытае, але і прыме важныя меры. Рашучасць ахапіла Барыса. Нахлынулі шчымлівыя ўспаміны. Ручка быццам сама заскакала па паперы.

«Пачуйце і запомніце, паважаны міністр, назву вёскі — Мілаград. Канешне, гэта не горад, але тут існуе старажытнае Гарадзішча. Археолагі яго раскапалі і адкрылі мілаградскую культуру, якая зарадзілася тут яшчэ ў пятым стагоддзі да нашай эры. Пра гэта паведамляецца цяпер ва ўсіх гістарычных энцыклапедыях. Экспанаты

выстаўлены ў музеях. Ёсць навуковыя кнігі пра плямёны людзей мілаградскай эпохі. А вось пра саму вёску Мілаград пішуць, што яна вядома толькі з XIX стагоддзя. У тым часе тут валодаў зямлёй памешчык Фітлончык. У паселішчы мелася паштовая станцыя на шэсць экіпажаў, якія вазілі людзей ажно ў Чарнігаў.

А я, паважаны міністр, паверыў, што адсюль на прыручаных мілаградскіх коніках людзі ездзілі далёка яшчэ з данашай эры. А Дняпро? Ды гэта такая дарога, па якой да Чорнага мора траплялі нашы мілаградцы. А цяпер пра наш Мілаград мала хто ведае.

Бацькі звазілі мяне гэтым летам у Егіпет. Дык тамака кожны егіпцёнак ведае пра Ніл, піраміды, фараонаў, сфінкса, царыцу Неферціці.

Паважаны міністр, мы з дзедам Яўхімам, з дзядзькам Хведарам, бабамі Клавай, Марфай і маёй сяброўкай Дашай збудавалі каля Гарадзішча хатку, падобную да той, у якой жылі мілаградцы ў далёкай старажытнасці. Яна можа служыць прапускніком на Гарадзішча. Мой мудры дзед Яўхім гатовы служыць там вахцёрам, вартаўніком. У яго ёсць конь Малыш і сабака Боня. А мы з Дашай летам будзем яму памагаць.

Зрабіце так, паважаны міністр, каб на Мілаградскім гарадзішчы пабудавалі цэлы гарадок з хатак, у якіх жылі некалі нашы продкі. У некаторых з іх можна было б наладзіць выпуск посуду, мілаградскіх конікаў, упрыгожанняў. Сюды прыязджалі б турысты з усяго свету. Хай бы паспрабавалі самі здабыць агонь у гліняных печах, пакатацца верхам на кані, злавіць рукамі ліня, сплесці кош з лубу. Хай бы пазналі, як жылі нашы дрыгавічы ў дзікім лесе.

А яшчэ, паважаны міністр, пашліце ў наш Мілаград студэнтаў, якія вывучаюць мову, каб яны ў час канікулаў сабралі ў мілаградцаў і ва ўсіх жыхароў навакольных вёсак іх гаворку: прыказкі, прымаўкі, байкі. Я пачаў запісваць некаторыя мясцовыя словы, выказванні, але часам не магу іх расшыфраваць. От скажыце, што такое «акосак». Аказваецца, гэта старая дзедава каса з вузкім, змянташаным палатном. «Вотлум» у іх — гэта вір, глыбокае месца на Дняпры. «Дрыпуліць» — хадзіць дробнымі крокамі. «Закаўбень» — гэта затока, завадзь, вугал ракі, ціхае месца, дзе вельмі ж добра ловіцца рыба. А «егіпта» для іх — пагібельнае, дрыгвяністае месца. Не дай Бог, каб карова туды ступіла, толькі вушы будуць бачны.

Паважаны міністр, у кнізе археолага Мельнікоўскай мы з Дашай знайшлі карту, на якой пазначаны месцы, дзе жылі плямёны людзей мілаградскай культуры. Яны, як пацеркі, абляпілі берагі нашых асноўных рэк — Дняпра, Бярэзіны, Сожа, Прыпяці, Буга. Добра было б наладзіць вандроўкі і туды. І мы б тады ведалі нашу гісторыю не толькі па школьных падручніках.

На гэтым заканчваю сваё сачыненне і чакаю за яго не адзнаку ў дзённік, а Вашага адказу, паважаны таварыш міністр».

Наталля ЗАЯЦ

# КНІГІ ЎЖО Ў ДАРОЗЕ

***У канцы 1960-х крытык Іван Шпакоўскі выступіў з публікацыяй «Кніга яшчэ ў дарозе», дзе анансаваўся на той час яшчэ не выдадзены зборнік Васіля Зуёнка — паэта, што толькі заявіў пра сябе «Крэсівам».***

Сёння ў дарозе да чытача яшчэ два тамы лірыкі — «Вертыкальныя рэкі святла» і «Шляхам Белага каменя». Значныя і па аб'ёме, і па мастацкіх вартасцях, гэтыя зборы пакуль не выйшлі на традыцыйных папяровых носьбітах (некаторыя творы, аднак, друкаваліся ў перыёдыцы, іншыя змешчаны ў «кнігазбораўскім» томе выбранага). Тым не менш кнігі існуюць і ўяўляюць з сябе не толькі прыступку творчасці Васіля Зуёнка, але і з'яву сучаснай беларускай паэзіі, рэпрэзентуючы яе ў розных адносінах: з аднаго боку, гэта лірычнае самавыяўленне выбітнага, яркага аўтара, з другога — своеасаблівы летапіс эпохі, дзе ў мастацкай форме зафіксаваны яе паказальныя, сімптаматычныя рысы.

Прадстаўнічы не толькі якасна, але і колькасна (больш як 400 старонак) зборніка «Вертыкальныя рэкі святла» структураваны па храналагічным прынцыпе: раздзел «Рэчышча-1» змяшчае вершы 1993—2000 гадоў, «Рэчышча-2» — творы 2001—2006 гадоў. У «вершах сутоку тысячагоддзяў» гарманічна і ўзаемадапаўняльна суіснуюць прыватнае і агульназначнае, будзённае і быційнае, зямное і касмічнае. У новых вершах выяўляецца касмаганізм мыслення Зуёнка: мастак імкнецца зразумець сутнасць прыроды, космасу, сусвету — зразумець і паказаць іншым. Зрэшты, гэта азначэнне (касмаганізм) вельмі ўмоўнае: зуёнкаўская паэзія не паддаецца катэгарычнай ідэнтыфікацыі і супраціўляецца размежаванню яе на складнікі. Даследчыкі то адзначалі анімістычны, амаль што паганскі погляд Зуёнка на свет, то заўважалі ў яго лірыцы элементы навуковага пазнання, то звярталі ўвагу на праявы рэлігійна-хрысціянскага светапогляду... У сучасных вершах прыкметы, якія дамінавалі на розных этапах творчасці, суіснуюць і ўзаемаадцяняюць адна адну, засведчыўшы новую ступень спасціжэння быцця паэтам:

Вертыкальныя рэкі святла,
Ад сузор'яў — сухія Гальфстрымы.
І мая крынічка цякла
Праз мільярды гадоў нястрымна —
Покуль стала душою маёй,
Словам, песняй, трывогай, загадкай…
…Як не будзе мяне — над зямлёй
Ці пабачыце зорку, нашчадкі?..

Працытаваныя радкі эпіграфа да кнігі «Вертыкальныя рэкі святла» выяўляюць глабальнае самаадчуванне лірычнага героя, які ў Васіля Зуёнка амаль заўсёды тоесны асобе аўтара, — як часцінкі сусвету. Найперш гэта датычыць твораў натурфіласофскай лірыкі, дзе трыяда «прырода — космас — Бог» ва ўзаемадачыненні з чалавекам выступае адзіным і непадзельным аб'ектам мастацкага даследавання, прыміраючы паганства, навуку і рэлігію. Аднолькавая ўвага да самых простых з'яў і сусветных пытанняў з самага пачатку адрознівала паэзію Зуёнка. Пісьменніцкі позірк выхоплівае з безлічы жыццёвых праяў незаўважныя для іншых дробязі, паказваючы значнасць і каштоўнасць кожнай з іх: «Што імклівы палёт сусветаў / Перад гэтым зярняткам малым! — / І ў каго больш загадак-сакрэтаў / У нябесным быцці і ў зямным? / Хай — як Бог неспасціжнасць галактык / Будзе вечна

**Зуёнкаўская паэзія не паддаецца катэгарычнай ідэнтыфікацыі і супраціўляецца размежаванню яе на складнікі. Даследчыкі то адзначалі анімістычны, амаль што паганскі погляд Зуёнка на свет, то заўважалі ў яго лірыцы элементы навуковага пазнання**

душу ахінаць, / Але веліч малога зярнятка / Толькі смерцю можна пазнаць. / Знакаў роўнасці не шукаю, / Ды зярнятка сягае далей / За сусвет, бо калі памірае — / Колькі жыццяў яно дае?!» («Што імклівы палёт сусветаў…»). Паэтычны свет Васіля Зуёнка цесна знітаваны са светам жывой, зменлівай прыроды, якая адначасова ўспрымаецца як таямніца, як разумны, раўназначны суразмоўца і сябар: «Рабіна — / Восені рыбіна / Чырвонапёрая — / Трапеча ў імглістай стыні. <...> / З табой мы / Горкай часінаю, / Блуднай, знявечанай, / Ратуемся разам ад ліха: / Ты боль мой / Спагадай рабінавай, / Я твой — чалавечаю / Ціха вылечваю…» («Рабіна…»).

Васіль Зуёнак не замыкаецца на філасофскіх развагах пра прыродна-касмічныя з'явы і пазачасавыя пытанні, сузіранні і рэфлексіі — праблемна-тэматычны дыяпазон кнігі даволі шырокі. Да прыкладу, «рэчышча» грамадзянскай лірыкі па напоўненасці не саступае натурфіласофскаму. Тут шырока прадстаўлены вершы, дзе ўздымаюцца праблемы гістарычнага бяспамяцтва, нацыянальнай непраяўленасці, бязмоўнасці народа, даследуецца стан краіны ў перыяд духоўна-сацыяльнага хаосу мяжы тысячагоддзяў. Сярод іншых тэм і матываў звяртае на сябе ўвагу інтэрпрэтацыя паэтам купалаўскага матыву чакання прарока. У многіх творах («Адкуль прарокі ў нас…», «Каб верылі…», «Хочацца музыкі светлай…»), якія па вастрыні і сіле гучання не саступаюць вершам класіка, актуалізуецца вядомы з пачатку XX стагоддзя вобраз прарока. Паводле Зуёнка, вялікая бяда і сённяшняй Беларусі — адсутнасць нацыянальнага прарока, здольнага раскрыць вочы людзям, абудзіць душы, дапамагчы пазбавіцца комплексу непаўнавартаснасці. Мастацкае ўвасабленне гэтага вобраза часта ажыццяўляецца з арыентацыяй на творчасць Купалы. Так, гіпертэкставыя адсылкі да яго спадчыны адчувальныя ў вершах: «Сыне Божы, Хрыстос Ісусе...», «Мы — у цэнтры, не на ваколіцы...» і іншых. Некаторыя творы на гэтую тэму ў змястоўных і фармальных адносінах можна разглядаць як алюзіі на «малітвы» Купалы («Мая малітва», «Я буду маліцца і сэрцам, і думамі...», «Ва ўсякую мінуту, ва ўсякай патрэбе...»). Так, верш «Сыне Божы, Хрыстос Ісусе...» нават адкрываецца эпіграфам «Паўстань з народа нашага, прарок...». Васіль Зуёнак звяртаецца да Бога з пакутнай просьбай выратаваць Беларусь, падараваць ёй сапраўднага Месію: «Сыне Божы, Хрыстос Ісусе, / Ці ты нас не пабачыў здалёк, / Што да грэшнай маёй Беларусі / Не дайшоў ні адзін твой прарок?... <...> / Божа светлы, Божа адзіны, / Дай хоць сёння нам ласку сваю: / У імя пакутнай Радзімы, / Дай нам, Божа, прарока, — малю».

Разам з тым паэт бачыць, што беларус застаецца ўсё такім жа пасіўным, інертным, абыякавым да сябе самога і сваёй будучыні, і гэта нараджае змрочныя настроі і матывы расчаравання: «Будзе новы дзень — і далёкія / Не паклічуць нас небасхілы. / Нашы крылы растануць аблокамі, / Мы — гарбатыя, як магілы. / Будзе зноў кумір новаспечаны / Нас прымерваць да ўласнага кроку. / А бяда наша — звышчалавечая: / Беларусь не чакае прарока...».

Філасафізм мыслення пісьменніка (а гэта адна з вызначальных прыкмет яго сінкрэтычнай у жанравых і праблемна-тэматычных адносінах творчасці) найбольш паслядоўна і поўна выяўляецца ў новай кнізе «Шляхам Белага каменя» (вершы 2007—2012 гадоў). Белы камень са старажытнасці надзяляецца сакральнай семантыкай і ў розных культурах успрымаецца як аснова светабудовы. У дачыненні да кнігі гэты шматзначны сімвал можна трактаваць як своеадметнае, духоўнае апірышча творцы, на якім засноўваецца яго паэтычны космас. Ключы-падказкі да расшыфроўкі метафары назвы ўтрымліваюцца ў пяці эпіграфах, якія ўпісваюць зборнік у літаратурна-мастацкі кантэкст — аўтар апелюе да творчасці Багдановіча, Вялюгіна, Пісьмянкова і да

фальклорных крыніц. Апошнім эпіграфам Зуёнак дае ўласнае «апраўданне назвы»: «Ён праз вякі і над вякамі / Аднойчы ў сэрца зазірне, — / І мне дазвольце побач з вамі: / Ёсць Белы камень і ў мяне!..». У пэўным сэнсе яшчэ адным «апраўданнем назвы» з'яўляецца верш «Камень белы...», у якім аўтар прасочвае гісторыю свайго «героя» ад пячорных часоў да сучаснасці. За шляхам белага каменя бачыцца ход цывілізацыі, а з ім — паступовае разбурэнне адносін у сістэме «чалавек — прырода»: «Камень белы на мёртвым беразе, / Што калісьці люляўся хвалямі… / Камень белы, — доляю змерыўся / З надмагільнымі, пахавальнымі… / Што пасеялі, тое й пажалі: / Дзе канавы, як мёртвыя змеі, / Стаўся кропкаю ты на скрыжалях… / …Я цябе, дружа мой, разумею…».

Адказнасць за кожнае слова з самага пачатку была літаратурным крэда і адным з лейтматываў творчасці Васіля Зуёнка. Варта прыгадаць, як доўга ён не выносіў на людзі плён уласных пошукаў, адчуваючы, што вершы пакуль не дацягваюць да ім самім вызначанай, планкі. Перфекцыяніспкія патрабаванні да кожнага слова, крытычнае стаўленне да сваёй працы не зніклі і цяпер:

Азірнуўшыся, не скамянею:
Сам пажаў, што — сам жа — пасеяў.
І ні ўдачы сваёй, ні віны
Не ўступлю і за тры цаны.
І ніхто: ні Бог і ні людзі —
Так, як сам, мяне не асудзіць…

*(зб. «Вертыкальныя рэкі святла»).*

Шчырасць з самім сабой, глыбокая асэнсаванасць сказанага (усяго гэтага часта бракуе многім сучасным аўтарам, і не толькі пачаткоўцам) выступаюць перадумовай якаснай паэзіі, пытанне пра якую займае ўжо прызнанага майстра («Араты», «О, як бы верш мне напісаць...», «А мне ўжо восьмы дзясятак...», «Донкіхоцка-біблейскае» і іншыя). Развагі пра палярныя перажыванні мастака, пра яго шматразовыя «нараджэнні» і «смерці» ўвасобіліся ў лаканічным, але сэнсава ёмістым вершы: «Запомніце: я — самазабойца найпершы. / Ды тут жа ў жывыя павінен вярнуцца крадком: / Адлятаю ў сусвет, паміраючы з кожным вершам, / І нараджаюся з кожным новым радком». Увогуле, аўтар засяроджаны на мастацкім даследаванні такіх антыномій, як «жыццё — смерць», «быццё — небыццё», «імгненне — вечнасць», «сапраўднае — ілюзорнае» («Бясчассе», «Сцежкі, сцежкі — усцяж магіл...», «Смерць — гэта і ёсць вечнасць...», «О час...», «Дыялог»). Яшчэ ў творах 1970-х гадоў, у лірыцы зборніка «Світальныя птушкі» і ў паэме «Прыцягненне», атрымала ўвасабленне аксіялагічная апазіцыя «зямля — неба». Матыў узаемапрыцягнення зямлі і неба, паяднанасці дзвюх стыхій у адным чалавеку рэалізуецца і ў новых вершах. Часткі гэтай п*а*ры паўстаюць у Васіля Зуёнка аднолькава моцнымі і прыцягальнымі полюсамі прывязанасці лірычнага героя, які выступае своеасаблівым медыумам, сувязным звяном, як, напрыклад, у вершы «Зямное і нябеснае»: «Слухаю ўдары сэрца свайго / Маленькага, — / О, не знаць бы, што ўсё гэта ў ім сабранае! — / І нябеснае, і зямное... — / Колькі ў ім усяго-ўсявенькага... / А яно ўсё ідзе — / Не з жабрацкай кавенькаю, / На сардэчнасць не абабранае, / Не засіленае маною, / Ідзе — / Не трымціць парабску каленькамі / Перад уладнаю брамаю, / Ідзе — / У саюзе са мною». (Дарэчы, матыў узаемапрыцягнення выяўляецца не толькі ў лірыцы — кніга прозы Васіля Зуёнка мае паказальную назву «Паміж небам і зямлёй».)

## Ключы-падказкі да расшыфроўкі метафары назвы ўтрымліваюцца ў пяці эпіграфах, якія ўпісваюць зборнік у літаратурна-мастацкі кантэкст

Чытанне зборніка «Шляхам Белага каменя» пераконвае ў тым, што яго аўтар жыве ў саюзе з уласным сэрцам, з сумленнем, з сабой: кніга атрымалася цэласнай, канцэптуальнай, без выпадковых, прахадных твораў. Многія вершы ўспрымаюцца як інсайт — адкрыццё не толькі для пісьменніка, але і для чытача, прычым гэтыя адкрыцці робяцца на звычайным, паўсядзённым «матэрыяле». Вопытны майстра, ён, аднак, не страціў дзіцячага ўмення здзіўляцца, кожны раз наноў адкрываць неабсяжны свет і сябе ў свеце.

...Новыя кнігі Васіля Зуёнка ўжо даўно ў дарозе. Ёсць спадзяванне на шчаслівае завяршэнне гэтай доўгай вандроўкі.

*Мікалай АКСЁНАЎ*

# ТЭМПАРАЛЬНЫЯ КАНЦЭПТЫ Ў ПАЭЗІІ УЛАДЗІМІРА ЖЫЛКІ

***У гісторыі айчыннага мастацтва слова 20—30-я гады XX стагоддзя звычайна пазначаюцца як час, калі на літаратурнай ніве працуе вялікая колькасць мастакоў слова, адрозных і нават ідэйна варожых па сваёй творчасці і ладу мыслення. Фактычна ў межах літаратурнага жыцця адбываецца сутыкненне дзвюх стыхій, дзвюх парадыгм бачання свету — рэнесанснай («нашаніўскай») і новай (пралетарскай). І менавіта на фоне гэтай барацьбы добра бачныя тыя адрозненні, якімі звычайна маркіруецца творчасць Жылкі. З'яўляючыся паэтам-рамантыкам, ён, безумоўна, аддае перавагу адраджэнскім ідэям, але актыўны ўдзел у рэвалюцыйным жыцці, у літаратурным аб'яднанні «Узвышша» таксама знаходзіць сваё выражэнне ў творчасці і прыводзіць да таго, што вершы-«оды новаму ладу» («Песня дзясятых угодкаў») часта набываюць відавочна сфабрыкаваны характар.***

І. Э. Багдановіч сцвярджае, што Уладзіміра Жылку, чый паэтычны талент «сфарміраваўся ў Заходняй Беларусі пад уплывам ідэалаў нацыянальнага адраджэння», як узвышаўца падвяргалі жорсткай крытыцы паводле класавых, пралетарскіх падыходаў да мастацтва. «Паэта абвінавачвалі ў містычных настроях і мяшчанскай філасофіі», у ранейшым узрушаным апяванні «бел-чырвона-белага сцяга» і ў тым, што да апявання «чырвонага штандару» паэт не дайшоў.

Сапраўды, Жылку вельмі часта называюць мастаком адной думкі, якой пранізана не толькі яго творчасць, але і ўсё жыццё, — веліч Роднага Краю. І. Я. Навуменка гаворыць, што «самы моцны, найбольш выразны, адчувальны матыў паэзіі У. Жылкі — радзіма, бацькаўшчына ад першых і да апошніх радкоў. Роздум, пачуцці паэта датычаць роднай зямлі, зямлі крывічоў, Беларусі». Сярод тых, хто аддаў сябе справе барацьбы за незалежнасць Роднага Краю (у тым ліку і вызваленне Заходняй Беларусі), за свабоду беларускага люду, постаць гэтага мастака слова стаіць асобна. Ён да апошняга быў барацьбітом, думка пра Беларусь цеплілася ў яго сэрцы нават тады, калі надзея на тое, што ён з грамадой пойдзе ў вялікі бой «па шчасце нам», была знішчана. Вершы творцы, адзначаныя патрыятычным пафасам, традыцыйна выносяць у асобную групу. У іх адкрыта ці завуалявана, адназначна ці праз алегорыю прасочваецца ідэя Нацыянальнага Адраджэння. Зразумела, што і тэмпаральнасць у аўтарскай рэпрэзентацыі свету набывае якасна новае гучанне, адрознае ад «калектыўнага разумення». Варта адзначыць, што большасць вершаў, у якіх раскрываецца магістральная тэма творчасці У. Жылкі, характарызуецца наяўнасцю шэрагу падобных элементаў (асабліва на пачатковым этапе). У адрозненне ад медытатыўнай лірыкі творцы, тут прэвалююць аптымістычны настрой, бунтарскія матывы, звязаныя не проста з верай, а нават са сцвярджэннем таго, што краіна стане вялікай. Утапічнасць думкі ў сваю чаргу патрабуе адмысловай сэнсавай арганізацыі такіх вершаў і, адпаведна, спецыфічнай ідэйна-эстэтычнай функцыі лінейнага часу ў іх. Фундаментам, на якім трымаецца большасць такіх твораў, выступае трыяда *«мінулае / цяперашняе / будучыня»* (пры гэтым рэпрэзентацыя асобных яе частак можа адбывацца і на імпліцытным узроўні).

Канцэпт *«мінулае»* (у творах ён можа размяшчацца і ў пачатку, і ў сярэдзіне, і ў канцы) рэалізуецца ў дзвюх інтэнцыях. Першая — гэта апеляцыя да «белых» старонак у летапісе краіны, да гістарычнага або перыферыйнага часу з мэтай абуджэння рэцыпіента: *«Пад штандар бел-чырвона-белы / Гартуйся, раць, адважна, смела / Адважных, храбрых ваяроў! / І ўспомняцца старых вякоў / Паходы мужныя у славе, / Часы Альгерда, Ізяслава / Грунвальдскі з немцам бой! / І боек даўні цяг з Масковой»* («Покліч»); *«Мы любім даўнія паданні, / Быліцы сівых песняроў. / Няхітры іх апавяданні / Аб справах мінулых часоў. / Нам даспадобы чэрпаць веду / Гісторыі з пажоўклых кніг; / З рукапісаў пра быт прадзедаў / Даведацца, што сведчыць мніх»* («Мы любім даўнія паданні…»). Другая, як мяркуецца, уласціва «прасавецкім» вершам, паказвае занядбанасць, прыгнечанасць краіны, ад якой яе пазбавіла рэвалюцыя: *«Калісьці, да паўстання, / Рабіў, цярпеў прыгон… / К нямцом не раз віціны / Ганяў па Нёмне ён»* («Дзед»); *«І напаткаць руіны ў полі, / Дзе мох на рэшце сцен узрос, / І занудзіцца мімаволі, / Згадаць замчышча сумны лёс»*. *«Цяперашняе»* рэалізуецца ў творах як час, калі адбываюцца канкрэтныя дзеянні, скіраваныя на дасягненне канчатковай мэты — працвітання Беларусі: *«Не плач, не плач па сыну, маці, — / Сягоння сорам быць у хаце, / Бо ўзнят за волю грозны меч, / Бо хутка будзе злая сеч»* («Покліч»); *«Не відна йшчэ у завірусе, / Куды ляжыць ягоны шлях, / Але дух творчы ў Беларусі / Жыве й змагае долі жах»* («Мы любім даўнія паданні…»); *«Таму так — шчыра ў працы — / Будуе Край унук, / Адважны і бясстрашны, / Не пакладае рук»* («Дзед»). А ментальная сутнасць *«будучыня»* ў ідэасферы У. Жылкі рэпрэзентуецца ў якасці стану («шчаслівы час»), да якога вось-вось прыйдзе беларускае грамадства (звычайна ў творы размяшчаецца ў канцы): *«І веру радасна я болей, чым калі, / Ў вялікі лёс і шлях Радзімае зямлі: / Абуджаны народ быліц дазнае сказ — / Узрушыць як адзін пры свеце бліскавіцы. / Прыйдзі хутчэй! Я жду цябе, жаданы час. / Дай думам сёмушным і казкам дай здзяйсніцца»* («Сёмуха»); *«Мы мацнеем што ні раз, / Чуюць моц чужы і свой. / Жджэм: надыдзе грозны час — / Будзе радасць, будзе бой»* («Толькі той, чый вольны дух…»); *«Ўсё пераможней нестрымание / Стыхіі шум і бурны круг… / О, места роднае, каханае, / Цябе залье крывіцкі рух!»* («Вершы аб Вільні»).

Цалкам рэалізуецца дадзеная трыяда ва ўжо ўзгаданым творы-штучнай радасці «Песня дзясятых угодкаў». У сэнсавым плане структура верша акурат разбіваецца на тры часткі: 1) тое, што было: *«Спявайце, браты мае, нашае Ўчора: / У ім рэвалюцыі полымя, ў ім мы / Спалілі азырклае, чорнае гора, / У працы свабоднай прапелі мы гімны»*; 2) тое, што ёсць: «*Спявайце, браты мае, нашае Сёння: / Ў ім творчыя высілкі, творчыя будні, / Вялікае спее ў ягоным узлонні! / Хоць крок наш павольней, хоць крок і марудней…»*; 3) тое, што будзе: «*Але гэта песня дзясятых угодкаў / Няхай будучыні красу прывітае, / Няхай наша Заўтра вітае ўрачыста, / Дзе ззяе маяк перамогі агністай»*. «Наша Заўтра» — ідэалагема, на якой будавалася рыторыка ўсіх без выключэння савецкіх функцыянераў і якая стала ў савецкім сацыяльна-палітычным дыскурсе дамінантай. Гэта імкненне да пабудовы ідэальнай будучыні, ухроніі, дзе, паводле У. Жылкі, «сонца і кветы Камуны працоўных».

Індывідуальныя сэнсы, якія аўтар накладае на канцэпты цыклічнага часу, абумоўліваюцца, у першую чаргу, адраджэнскай ідэяй. Паказальным з'яўляецца алегарычны верш «Напярэдадні». Тэмпаральны канцэпт *«раніца»* тут карэлюецца з традыцыйнай яго інтэрпрэтацыяй. Калі ў чытацкай свядомасці раніца — пачатак новага дня (шырэй — увогуле пачатак нечага новага), то для мастацкага свету пісьменніка *«раніца»* з'яўляецца адпраўным пунктам новай гісторыі Радзімы, пасля якога знікне ўся цемра, што так доўга ахінала краіну. Гэта значыць, што ў структуру канцэпта на аказіянальным падузроўні ўключаецца канатацыя — «вызваленне краю,

**Для пісьменніка Вільня — «крывіцкая Мекка», каталізатар вольнай думкі**

## «Купальская ноч» — адмысловы маркер, які ў свядомасці пісьменніка адрознівае родную краіну ад іншых

яго росквіт»: *«Ружовая стужка на ўсходзе, / Як сцяг пераможнага дня; / І марыць аб светлым прыходзе / Пярэдадня змрок, цішыня»*. Пры гэтым амаль кожны радок у вершы насычаны аўтарскімі сімваламі: *«Зацвіркала першая птушка, / І ветрык павеяў свяжэй. / Ружова-ядвабная стужка / Палае ярчэй і ярчэй»*. «Першая птушка» — той, хто адначасова і «творыць» нацыю, і вядзе яе за сабой, пасіянарый. З ліку такіх людзей і сам У. Жылка. «Ветрык» сімвалізуе сабой змену, «ружова-ядвабная стужка» выступае сімвалам народнага пратэсту.

Падобным чынам рэпрэзентуецца канцэпт *«раніца»* і ў вершы «Каваль». Лірычны герой усім сэрцам перажывае за свой народ, які «падзялілі чужаніцы» (маецца на ўвазе Рыжскі мір 1921 г. — **М. А.**) і які так доўга стрымліваюць захопніцкія ланцугі: *«Закаваны люд мой, волат, / Крыўд нязлічаных цяжар. / Вышай, вышай, верны молат, / Нестрыманы ў сэрцы жар...»*. Зноў пісьменнік укладае ў канцэпт усё той жа сэнс — адлік новага жыцця, пачатак лепшай долі для беларусаў. Менавіта ранiцай каваль пачынае ствараць тую зброю, з якой пойдзе ў наступ: *«Хлопцы, хлопцы, — на змаганне! / Гэй, крыўдзіцель, вораг, — прэч! / Нездарма каваў я зрання, / Нездарма навостран меч»*. Да ліку аналагічных твораў можна аднесці і верш «Ізноў пытанні…», дзе *«ранішняя малітва»* з'яўляецца маніфестацыяй актуальных для пісьменніка ідэй: *«Спалі, калі так трэба, / І пожні, і палі, / Пашлі грымоты з неба / Віхор пашлі, але / Хай пройдзем праз напасці, / І дачакаю хай — / Убачыць ў новым шчасці / Мужычы Край»*.

Найбольш выразна адносіны творцы да Радзімы праяўляюцца ў мастацкім цыкле «Вершы спадзявання». І. Я. Навуменка (як і У. А. Калеснік) сцвярджае, што ў творчай думцы Уладзіміра Жылкі яна паўстае не проста як нейкі кавалак зямлі з роднымі лясамі і палямі, а як дзяўчына, што заўсёды вядзе з ім дыялог душ. Як і дзяўчыну, творца не любіць Беларусь, а кахае. У сёмым вершы цыкла «Ледзь знаёмы пачуецца гук…» паэт параўноўвае сустрэчу з каханай з днём, што ў хрысціянскай часавай традыцыі лічыцца адным з галоўных святаў, такім чынам ствараецца адмысловая біблейская алюзія: *«Ледзь знаёмы пачуецца гук, / І туга, і хаўтурнае змоўкне галошанне. / О лілеі пяшчотныя рук, / Мая радасць і дзень уваскрошання!»* У 1912 годзе Максім Багдановіч піша верш «Даўно ўжо целам я хварэю…», у якім толькі Родны Край можа распаліць зноў ужо затушанае вогнішча ўласнага жыцця. Уладзімір Жылка, як чалавек надзвычай блізкі і па біяграфіі, і па аксіялагічных арыенцірах да свайго «настаўніка», проста не можа не працягнуць у сваёй творчасці гэтую традыцыю: *«Спадзяваннем апошнім ты так неспадзевана / Зазіяла ў маёй цішыні. / А я думаў, што ўсё праспевана / І дапеваны гэтыя дні»*. І першым, і другім адарванасць ад Радзімы прыраўніваецца да смерці. Аднак Жылка паказвае гэта праз выкарыстанне дыхатаміі *«дзень—ноч»*: «*Варажы ж, варажы ж невымоўнае бачанне! / Мне звінець і звінець мацней. / Будзе ноч немінучая — страчанне / Тваіх рук незраўнаных лілей!*»

Цікава разгортваюцца ў грамадзянскай лірыцы творцы і канцэпты *«вечар»*, *«ноч»*. Так, у цыкле «Вершы аб Вільні» Уладзімір Жылка надае першаму сакральны сэнс, што непасрэдна звязана з той роляй, якую ён адводзіць гэтаму гораду. Для пісьменніка Вільня — «крывіцкая Мекка», каталізатар вольнай думкі: *«Увечар за гарой трохкрыжнаю / Палае захаду пажар, / Як знак, што веліччу аблыжнаю / Яна не выкліча ахвяр»*. Канцэпт «ноч» таксама падвяргаецца пэўнай мадыфікацыі. Напрыклад, у знакамітым вершы «Беларусь» можна вылучыць такую сэнсавую сутнасць, як *«купальская ноч»* — адмысловы маркер, які ў свядомасці пісьменніка адрознівае родную краіну ад іншых: *«Беларусь, Беларусь — / Край замчышч, курганоў, / Дзе таяцца страхоцці і звод, / Дзе русалкі выходзяць з віроў / І начніцы вядуць карагод, / Дзе пад шум каласоў ведзьмяры / На палетках заломы кладуць /*

*І ў купальскую ноч у бары / Забабоны ў пацёмках снуюць».*

Для твораў са сфер медытатыўнай, інтымнай і пейзажнай лірыкі характэрна трансфармацыя цыклічнага часу ў час лінейны — стварэнне (або ўзнаўленне) так званых паэтычных формул. Так, канцэпт *«вясна»* часта ў ідэасферы пісьменніка губляе сэнсавы элемент «цыкл». На змену яму прыходзіць іншы — «пачатак, вітальнасць, росквіт»: *«А ў адказ на яе / То цішэй, то мацней / Пяе песні свае / У гаі салавей / Іх пачуеш, і ў раз / Дзіўны сум агарне, / І згадаеш ў той час / Аб сваёй ты вясне»* («Вечарам»); *«Як ўсё ў жыцці, яшчэ вясна / Мінула вечнасць назаўсёды. / Памножыла тугу й нягоды, / Як ўсё ў жыцці, яшчэ вясна... / Душы ж як бы чагосьці шкода, / А думка за адной адна: / Ў тваім жыцці яшчэ вясна / Мінула ў вечнасць назаўсёды»* («Як ўсё ў жыцці…»). *«Вясна»* атаясамліваецца з пачаткам жыцця, а часам — і з самім жыццём: *«Ёсць боль затоенай тугі / У кволым паху звялых кветак, / Нібы ў канання час благі / Ім родны марыцца палетак. / Нібы шчэ вераць — вось дыхне / Паветра хваляю гаючай / І з хаты верне іх вясне, / І знаюць — згуба немінуча»* («Смяротны пах»). Такі адмысловы паралелізм будуецца на аналогіі, якая лёгка праводзіцца паміж чалавечым жыццём і цыклам у прыродзе: маладосць= вясна, сярэднія гады=лета, сталасць=восень (гэтую аналогію можна экстрапаліраваць і на часткі сутачнага цыклу). Дадзены прыём з'яўляецца ўніверсальным і надзвычай распаўсюджаным ў сусветнай літаратуры («Захад Еўропы» О. Шпенглера і інш.).

Падобнай мадыфікацыі падвяргаецца і канцэпт *«восень»*: *«Наўкол сляды павольнага канання / І веліч нетутэйшага маўчання. / Прымаю корна сон зямлі азурны. / І летуціцца сцішанай душы / Такі ж спакой, халодны і бязбурны, / І адцвітанне яснае ў цішы»* («Восень»); *«Божа, не шмат засталося / Піць мне з келіху дзён. / Восень, як жменю калосся, / Скосіць жыцця майго сон. / Скосіць халодна, дазвання, / Ў сэрцы насмешлівы здзек: / Сумна тваё адцвітанне, / Квеце зямлі, чалавек!»* («Божа, не шмат засталося…»).

Часцей за ўсё асацыятыўнасць аўтарскай думкі праяўляецца ў вершах, напіса-

Канцэпт «ноч» убірае ў сябе сэнсавы элемент «безвыходнасць», увасабляе боль, які ўзнікае з-за таго, што не атрымалася здзейсніць запаветную мару

ных эзопавай мовай. Так, у творы «Безнадзейнасць» канцэпт *«ноч»* убірае ў сябе сэнсавы элемент «безвыходнасць», увасабляе боль, які ўзнікае з-за таго, што не атрымалася здзейсніць запаветную мару: *«Ноч стушыла агні, пад акно / Падступіла й цікуе жахліва. / Што пачну выглядаць? Не відно, / Не відно — за окнамі маўклівa <...> / На душы пустата, немата, / Не ўзрушае ні песня, ні дзейнасць. / Толькі сум, як у восень слата, / І спакой, і спакой — безнадзейнасць»*; *«Смяротнае, глухой тугі / Зіяе чорнае бяздонне... / О час запынены, благі! / О ноч жахлівая бяссонне!»* («Бяссонне»).

Сугучнымі з традыцыйнай трактоўкай з'яўляюцца канцэпты, што актуалізуюцца ў творах пейзажнай лірыкі. У вершы «Вечарам» пісьменнік не адыходзіць далёка ад народнага разумення канцэпта *«вечар»*. Гэтая пара — заканчэнне дня, мяжа, што раздзяляе дзве дыяметральна супрацьлеглыя часавыя прасторы — дзень і ноч. Вечар — пераход з аднаго стану ў другі: *«Вось і паў ужо змрок, / Ды заціх дзённы рух, / А агонь ў аблаках / Дагарэў і патух»*. «Дзень правёўшы ў касьбе», селянін з удзячнасцю сустракае вечар, бо ведае, што з ім прыйдзе адпачынак. Падобным чынам ва ўрбаністычным малюнку рэпрэзентуецца канцэпт *«ноч»*: *«Завянуць, збледнуць, фарбы дня / Прысуд не знаючага, помсты, — / І невядомыя таёмствы / Уявіць цемры глыбіня»* («Дзень і ноч»).

Такім чынам, індывідуальна-аўтарская мадыфікацыя тэмпаральных канцэптаў найбольш выразна праяўляецца ў сферы грамадзянскай лірыкі і дэтэрмінавана эстэтычнай, і грамадзянскай пазіцыяй пісьменніка. Найчасцей аказіянальныя сэнсы працуюць на раскрыццё магістральнай у творчасці паэта ідэі нацыянальнага Адраджэння.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

# ВАСІЛЬ БЫКАЎ. АДЗІНОТА І СВАБОДА

***Пра ашчаднасць на эмоцыю звычайна думаеш, калі глядзіш на фотаздымак Васіля Быкава. Ды што ў гэтым сцверджанні чуецца — знаёмае кожнаму: «Чаму ты сёння такі хмурны!» Уяўная змрочнасць і злоснасць, што маецца на ўвазе і нібыта хаваецца пад хмурнасцю — гэта проста шэрая журба, уласцівая мільёнам людзей.***

Калі б на чыюсьці прыхамаць трэба было б сканцэнтраваць усю творчасць і асобу Васіля Быкава ў адным слове, то я, напэўна, вымавіў бы слова «адзінота».

Яно не зусім звыклае: Быкаў вядомы і сваёй актыўнай грамадскай дзейнасцю, шмат хто называе сёння яго сваім сябрам, да яго, бясспрэчна, заўжды хінуліся — гэта лёс усяго сапраўднага.

Аднак я пішу эсэ і мне дазволена рабіць гіпотэзы.

* * *

Адзінота — гэта заўсёды чаканне, спадзяванне на добрую вестку. Але — «Ты цар, живи один».

У Быкава рэтраспектыўнасць, унутраныя маналогі персанажаў падкрэсліваюць іх адзіноту, нязлітнасць адно з адным, разасобленасць — навідавоку апынаецца індывідуальнасць кожнага чалавека, не спалучаная і неспалучальная з чужым досведам.

«Усё ў сабе» (ліст да Е. Лось). Праз гэтае «ў сабе» — імкненне да псіхалагізму, раскопкі кар’ера свайго «эга». Персанаж становіцца «я» пісьменніка. Нездарма ў многіх аповесцях ёсць асноўны персанаж, вакол якога і круціцца ўсё. «Круціцца» ў прамым сэнсе, бо нават і апісальныя моманты, нават пейзаж адлюстроўваюцца не аб’ектыўна, а суб’ектыўна — праз свядомасць героя. Спачатку ўсе гэтыя разасобленыя свядомасці ўваходзілі ў адзіны голас апавядальніка. Але па часе Быкаў стаў разасабляць іх. Што адразу выклікала крытыку — адлюстраванне подласці «асабіста» Сахно ў «Мёртвым не баліць» — было вынікам саштурхоўвання аднастайнасці выказвання і аднамернасці героя — праз поўную супрацьлегласць, праз героя-антаганіста. Быкаў шукае вобраз таго, з кім нельга пагадзіцца і імкнецца сутыкнуць супрацьлегласці. Пазней гэта пераробіцца, як і належала, у адметныя *галасы* кожнага персанажа — пры неспалучальнасці гэтых свядомасцей яны перастануць быць адной плынню апавядальніка — стануць самі сабой, зажывуць асобна ад апавядальніка.

Самотная, але несамадастатковая душа ў выведванні выхада — з надзеяй, што пачуе, зразумее нехта яшчэ.

Як гэта бязмежна далёка ад філасофіі калектывізму, ды і наогул «народнасці», у тагачасным, брэжнеўскім разуменні.

Гісторыя, паводле Быкава, — няспынная хада ў невядомае мірыядаў самотных душ, і ў кожнага — свая зямля і свая вайна: дэталі, вылазкі, крушэнні. Тое, што ўсё гэта пасля абрынаецца ў небыццё, для агностыка-Быкава і ёсць асноўным «парадоксам жыцця», збоем у светапарадку.

Народ у гэтым выпадку таксама бачыцца хаатычным суплётам індывідуальнасцей, аб’яднаных, аднак, спрадвечным законам *людскасці*. Гэтая рыса і зводзіць у адно падобнае і расштурхоўвае несумяшчальнае. Народ мае меру ўсіх рэчаў, і калі яго пазбаўляюць той меры — пачынаецца трагедыя, за якой неадступна ідуць — боль, несправядлівасць, нішчымніца, смерць.

* * *

Ужо з таго самага даўняга часу 1950-х, калі Быкаў, праз упартае і настойлівае змаганне з самім сабой, пазбавіўся героікі і рыторыкі пачаткоўца, ягоны метад — успышка. Каб пазбегнуць чыстай сюжэтнасці, ён уражвае: паказвае малапрывабныя бакі рэчаіснасці, выгляд якой не мог не бянтэжыць савецкага пурытанскага чытача і крытыка. Што дазволена было ў перакладных кнігах, тое жорстка выкаранялася галоўлітаўскімі цэнзарамі, са сталінскім імпэтам. Дзяржава, якая закатавала сотні тысяч ні за што, пыжылася, каб ніводзін сумнеўны радок, вобраз ці нават эпітэт не праскочыў у друк. Усё гэта, канешне, скончылася пасля 1991 года, калі ўсе кінуліся «закрываць гештальт».

Паглыбленне ў «вельмі-рэалізм» (А. Разанаў), бясспрэчна, у Быкава не адбылося — занадта цнатлівы ў гэтым сэнсе быў аўтар. Нават і ў 1990-я, бадай, Шамякін у кнізе «Сатанінскі тур» пайшоў у гэтым значна далей. Што і было паказальна. Быкаў не пачаў атрымліваць жоўчную асалоду ад сузірання распаду. Наадварот. Калі прыгадваць нават і такі жорсткі твор, як «Ваўчыная яма», то і там не адшукаеш гэтага цынічнага «скрозь зубы» стаўлення да чалавечага становішча, лёсу. Хутчэй шкадобу, а сям-там і павагу да новых рабінзонаў ці партызанаў, якіх лёс выкінуў на ўзбочыну жыцця: туды, дзе апынуўся, па вялікім рахунку, і сам Быкаў.

* * *

Успышка — як навізна. Таму вельмі блізкі яму «ваенны» Гарэцкі. І — зноў жа — вялікія творы Гарэцкага — расцягнутыя і, часам, з ухілам у этнаграфізм, з быкаўскім метадам не маюць нічога супольнага. Быкаў ад пачатку адмаўляецца ад стылізацый пад фальклор, ад этнаграфічнай вузкасці на карысць *«тагачаснай сучаснасці»*. Пасля яго абвінавачвалі ў адштурхоўванні сучаснасці, але ў многіх пісьменнікаў, якія пісалі пра «бягучы момант», стыль быў як у той бабы Броні.

Быкаў ледзь не адзінае выключэнне, калі адмова ад ускладненага сінтаксісу, экспрэсіўнасці выказвання (Стральцоў, Брыль, Пташнікаў) прывяла да пазітыўных вынікаў. Безумоўна, ён быў такі не адзін. Але ён адзін, як кажуць, «выйшаў у людзі» менавіта праз гэта. Такім чынам, не стыль, а дакладнасць выказвання бярэцца ім за аснову.

Адмоўная ацэнка славаспельства, слоўнай квяцістасці — слушная. Але ў пэўны час тое стаўленне да пісьма, да самога працэсу канфліктавала з рытарычным канонам афіцыйнага стылю партыйных дакументаў. Вялася несціханая, але патаемная спрэчка паміж афіцыйным і стылёвым (успомнім вядомы Брылёў жарт пра жанчыну ў бальніцы: «Доктор, я к вам по вопросу зубов»). Занурыцца ў словы — гэта было вызваленнем. У кшталтаванні слова аб'яўлялася немалая рызыка. Па сутнасці — праз магчымасць гаварыць *па-іншаму* ды і проста — чалавечай мовай на старонках друку. Што выяўляла рэзкі кантраст з мовай афіцыёзу, якая прагнула стаць «нормай», стаць «прывілеяванай». Але афіцыйны стыль прайграў бітву: быў высмеяны і зрынуты, у першую чаргу менавіта «стылістамі»…

Квяцістасць была толькі скрайняй праявай «маўленчага супраціву» празаіка, якому супрацьстаяла партыйная машына.

* * *

Можа, праз усю творчасць, а ў позніх творах дык і часцей, праходзіць тэма сілы і бяссілля. Быкаў, які заўсёды гаварыў пра чалавека, яго магчымасці і пакліканне, павінен быў спыніцца перад ідавочным, якое, тым не менш, гняло яго ці не мацней за ўсе чалавечыя войны. «Чала я не хіліў прад сілай», — пісаў Ластоўскі, аднак змалолі ў жорнах і яго. Што ж тады казаць пра простых смяротных, ад якіх кожны дзень патрабуюць кампрамісаў? Менавіта адсюль, з гэтага адчування важнасці сілы ў гісторыі пачынаецца іншы Быкаў — «Аблава», «Сцюжа», «Жоўты пясочак», «На Чорных лядах», «Ваўчыная яма». Тэма гэтая надзвычай хвалюе яго да апошніх дзён: інэртнасць чалавечай асобы — непераадольная цяга да самаасаблення, самашкадавання і, пасля зробленага выбару, да самаапраўдання.

Пісьменніка-псіхолага, якім і быў Васіль Быкаў, не маглі не зацікавіць тыя складнікі, што з'яўляюцца на душы ў ходзе падобнай інэртнасці і самаапраўдання. Вынік — дэградацыя і ўсёпаглынальны рэлятывізм.

Ён пісьменнік трагічнага, эсхаталагічнага светаадчування. Гэта бясспрэчна. Але бясспрэчна і ягоная настойлівая прага змен, надзея на тое, што цемра не можа агарнуць святло. Дастаеўскі ў ім заўсёды прагнуў стаць Талстым. І спыняўся недзе на паўдарозе.

**Каб пазбегнуць чыстай сюжэтнасці, ён уражвае — паказвае малапрывабныя бакі рэчаіснасці, выгляд якой не мог не бянтэжыць савецкага пурытанскага чытача і крытыка**

Яго ніколі не пакідала пачуццё рэальнасці. Творы таксама поўняцца канкрэтыкай — фактамі, учынкамі, і толькі выключнае мастакоўскае майстэрства Быкава прымушала сырыя, непрыглядныя кавалкі рэчаіснасці складацца ў цэласную, на дзіва лаканічную, стрыманую карціну. Вось гэтая лаканічнасць, гэты бёлеўскі халадок прозы і вабіў тысячы людзей. Нешматслоўнасць была ўласціва Быкаву ад прыроды. Ён з тых пісьменнікаў, якія ўсё жыццё распрацоўваюць сваю эстэтычную дзялянку аднымі і тымі ж, але ўласна вынайдзенымі спосабамі і метадамі: пэўным чынам ладзяць кампазіцыю, падбіраюць месца і час падзей. Быкаў сціскаў прастору і час да кропкі, і кропка пачынала пульсаваць, як жывая. Для беларускай ваеннай прозы 1950-х характэрнай была гераічная каша — «абавязкова давесці героя да Берліна». Быкаў жа абмяжоўваўся адным-двума днямі, адной пройдзенай вёскай, вышынёй, і чытачу пачынала здавацца, што час у аповесці цяче прыкладна адналькава з яго ўласным, жыццёвым часам, якое ён аддае на чытанне.

Асабліва важнай была тэма вартасці / нявартасці жыцця: ледзь не ў кожнай аповесці нехта канчае самагубствам. Умова выбару і цікавіла пісьменніка больш за ўсё. Не сам выбар, а ўмова, пры якой ён робіцца — што прыносіцца ў ахвяру і што здабывае перамогу?

У будучыню ён глядзеў з надзвычайнай скрухай. Насцярожанасць і недавер праблісквалі ў кожным творы, запісе, інтэрв'ю апошніх гадоў. Дзевяностыя і сапраўды былі чорным часам распаду, прычым адносіцца гэта не толькі да нацыянальных арыенціраў, але і да ўсяго, што мела шыльду «мастацтва». Раптам шыльду знялі, і выявілася, што патрэба ў нейкім (як смешна) «абсалюце», нейкіх, даруйце, «каштоўнасцях» далёка не першасная, што «чалавек» можа гучаць «горда» і не надта горда, а вынік гэтай антыноміі лёгка губляецца ў хуткаплыннай мітусні. Дзе ж выхад да чалавека?

Быкаў не адказаў на пытанне, якое выношваў усё жыццё. Але правільна паставіць пытанне — хіба гэтага мала?..

Ён наогул з'яўляецца несвядомым дэміургам сацыяльна завостранай прозы апошніх гадоў. Калі пачаліся мастацкія імправізацыі і разбэрсанасць, Быкаў застаўся верным сваёй праблематыцы і ўказаў шлях, па якім сёння ідзе амаль уся наша лепшая проза — асэнсаванне лёсу краіны, пошукі выйсця з крызісу, пошукі выйсця да сапраўднай Беларусі. Тое, што ў гэтай галіне ствараюцца дасканалыя творы нават у наш, далёкі ад захаплення грамадзянскім пафасам, час — сведчыць пра пастаянны ўплыў Быкава. Так, заўсёды хочацца жыць у Беларусі Караткевіча і Сыса, Коласа і Багдановіча. Але ці была і ці будзе калі-небудзь такая Беларусь?

З быкаўскай Беларусі хочацца сысці і зрабіць іншую краіну, перайначыць ці хаця б прамымі зрабіць шляхі да яе.

* * *

Імя Быкава працягвае пульсаваць у літаратурнай штодзённасці. На нашых вачах ствараецца быкаўскі міф, дзе сам пісьменнік нярэдка апынаецца ў сітуацыі, якую так любіў апісваць ва ўласных творах.

Я маю на ўвазе кафкіянскую сітуацыю пасткі, кожнае выйсце з якой не з'яўляецца ратавальным, бо нясе з сабою і радасць перамогі, і горыч паразы.

Кнігі Быкава чытаюцца праз шкельца аўтарскай асобы, ёю тлумачацца, ёю, на жаль, і завяршаюцца. У гэтым — перамога і параза пісьменніка. Ад дзясяткаў аповесцей застаўся няўлоўны арэол (для некага — німб), дакрананне да якога абяцае *саўдзел* у роздуме над неаформленым, нявысветленым, недасканалым, выгінастым, як акрабат, быццём. «Апошняе слова свету і пра свет яшчэ не прамоўлена. Усё наперадзе і заўсёды будзе наперадзе», — пісаў філосаф. Быкаў ведаў пра няскончанасць уласнай працы, пра яе, так бы мовіць, доўгатэрміновасць.

Зрэшты, пісьменнік, сабраўшыся напісаць адзін сказ альбо абзац, не здатны ў момант пісьма прадугледзець тое, як скажацца і што скажацца. Мажліва, недзе ён пасля адчуе *скажэнні*, вось толькі адносна

чаго? Мо пэўнай цэласнасці, якая ўявіцца яму дасканалай. Але ўсе сэнсатворныя вектары, што прамянямі разыдуцца неўзабаве ад твора, пісьменнік не можа злавіць, пералічыць, а нават часам і заўважыць, бо яны большыя і шырэйшыя за той твор, аўтар якога некалі жыў сярод жывых.

Традыцыя ўзнікае дзякуючы праслаўленню «генералаў», дзякуючы наяўнасці іерархіі. Працяг гогалеўскай традыцыі ў рускай літаратуры ўзнік не толькі таму, што Гогаль быў геній, але і з прычыны таго, што ўсё астатняе — нават і па-мастацку выдатнае — было заценена, яго на пэўны час перасталі чытаць.

Быкава чытаюць, значыць, традыцыя ёсць. Няхай нават «школы» і не ўтвараецца.

* * *

З асабістага. У школе беларуская літаратура не выклікала ў мяне якой-кольвек цікавасці. Але аднойчы (здаецца, у сёмым класе) я прачытаў у падручніку адзін твор, прызначаны для пазакласнага чытання — «На чорных лядах». Адэкватна перадаць уражанні не магу: апавяданне проста расціснула мяне ў блін, і яшчэ тыдзень я хадзіў і паўтараў: «Вось жа, можна і *так* пісаць?! І пра гэта?!» Апавяданне адкрыла мне магчымасці літаратуры — не слінявай і ружовашчокай, а нейкай іншай. Зямля зазыбалася пад нагамі, прайшло шмат часу, пакуль я змірыўся з гэтым творам, абдумаў яго...

У верасні 2003 года брат прывёў мяне, першакурсніка, на Маскоўскія могілкі. Ужо сутонела, крапаў невялікі дождж. З-за дзясяткаў вянкоў магіла Быкава здалася неверагодна вялікай. Я стаяў перад ёй і чамусьці адчуваў, што і сам Быкаў вельмі вялікі. Нібы казачны волат у кургане, ён ляжыць, спіць — і пад маімі нагамі, і пад усімі могілкамі, і нават машыны на шашы, якія праносяцца праз імжу, таксама адчуваюць прысутнасць Васіля Быкава. Гэтае насланнё яшчэ доўга не праходзіла.

* * *

Адлюстраванне абсурду магчыма на фоне звычайнага. Як тыя брэйгелеўскія сляпыя, людзі падаюць у цемру смерці на фоне банальнага, спакойнага і звыклага пейзажу. Калі аўтарам валодае экспрэсія, чытач атрымае ўяўленне толькі пра яго псіхіку, але не ўбачыць карціны, не стане суперажываць — хіба толькі самому аўтару.

Шмат каму проза Быкава была даспадобы тым спакоем і той цвёрдасцю, якія, мяркуючы па выдадзеных сёння мемуарных і эпісталярных матэрыялах, не даваліся самому аўтару.

Нават апавядаючы пра бой, пісьменнік знаходзіў словы, каб сцісла выкласці яго рэальную (рэалістычную) аснову, а зусім не экзальтаваныя эмоцыі героя. Што казаць пра рамантызацыю вайны. Быкаў уцякаў ад яе, пазбаўляўся, пачынаючы з першых буйных твораў (розніцу паміж «Апошнім байцом» і «Жураўліным крыкам» цяжка не адчуць).

Адрознасць і тая навізна, якую праявіў Быкаў у адмаўленні эпічнай карціны ў мастацкай прозе. З тым разлікам, вядома, каб менавіта праз асобнага чалавека, адзінкавую з'яву, індывідуальнасць паказаць іншы бок эпічнасці — бяздонны калодзеж чалавечай душы і яе лёсу на шахматнай дошцы гістарычнага часу.

Спалучанасць з гісторыяй кожнага асобнага чалавека ў часе вайны (не істотна — франтавой, партызанскай, альбо ўнутранага спаборніцтва «чорных варанкоў») давала той жа эпічны эфект, якога марна хацелі дасягнуць стваральнікі дылогій, трылогій, тэтралогій і пенталогій.

Тая эпічнасць, аднак, патрэбна была аўтару не як самамэта: праз яе Быкаў мог выходзіць на выклятыя пытанні чалавечага існавання, а пазней — беларускай ідэнтычнасці.

Паглыбленне ў свет чалавека запавольвала сюжэт і прыводзіла да эсэістычнасці.

* * *

Кожны твор — спроба выбрацца з адчужэння, але марная спроба.

Нарастае і нарастае тая адасобленасць.

Але што ёсць любоў? Хіба можа пісьменнік ствараць без любові?

Нібыта паўсюль адны пакуты, боль, несправядлівасць, абсурд сусветнага беспарадку.

Як быццам губляецца тая надзея. Але адкуль яна ўвогуле бярэцца?

Любоў Быкава — любоў да ісціны. І ў ёй — усе ягоныя пакуты і ўвесь ягоны боль. Ён згарае ў ёй, але, згараючы, толькі расказляецца, як метал.



Іван ЖДАНОВІЧ

# ЁСЦЬ ЛОГІКА ХАДЫ…

## Сінкрэтычная аповесць пра «Хаджэнне ў трыдзясятае царства»

*З элементамі лёгкай дакументальнасці і светлай паэтыкі*

***Маёй вернай і любай спадарожніцы Валянціне прысвячаю***

### НЕАБХОДНАЯ ПРАДМОВА

Жыло-было Цэлае. Даўным-даўно... Яшчэ калі ў госці да Яго, у амаль недасяжнае цяпер Трыдзясятае царства, не трэба было асабліва доўга выбірацца. А потым вяртацца адтуль, кормячы кавалкамі плоці сваёй Птушку Уяўлення. Якая, творцы ведаюць, знясільваецца ўшчэнт ад такіх сакральных вандровак...

У тым царстве далёкім, але і блізкім, ды нябачным простаму воку, жыло Цэлае. Зрэшты, яно і цяпер там жыве, толькі людзі перасталі яго бачыць. Пэўна, заблудзіла ў дэталях, драбязе — і развучыліся ўспрымаць свет Цэлым і Жывым. А мысляры прыдумалі ўзамен Цэламу, якое стала нябачным, дзіўную назву: сінкрэтызм. Пазычыўшы слова, як сцвярджае інтэрнэт, ад грэкаў ды рымлян, ад іх паняцця syncretismus, што азначала: федэрацыя Крыцкіх гарадоў…

Але не ўпэўнены я, што рымляне ды грэкі першымі да таго дадумаліся! Скажаце, яны і іншых сінкрэтычнаму штукарству навучылі? Ды яны ж самі пераянялі традыцыю гаварыць пра невымоўнае сімвалічнай мовай ці то ад егіпцян, ці то ад старажытных арыяў — продкаў беларусаў з праіндыйскай цывілізацыі. Карацей, ад нашых прапра…прадзедаў беларусаў сучасны цывілізаваны свет усяму і вучыўся. Натуральна, праз пасрэдніцтва грэкаў ды рымлян!

А потым здарылася «Вялікае перасяленне народаў». Продкам нашым, пэўна, надта горача, ды ўжо і нецікава стала жыць на тых паходжаных уздоўж і ўпоперак індаазіяцкіх прасторах. Хацелася «зазірнуць за небасхіл», як цяпер кажуць. О, я іх так разумею! Часам аж пяткі чэшуцца — так і хочацца ў дарогу! Некалі прадбачылі мудрыя продкі нашыя і глабальнае пацяпленне клімату ды засілле ўсялякіх парніковых газаў. Вось і пайшлі па свеце вандраваць, шукаць больш прыдатную для жыцця зямлю. Спачатку ў Заходнюю Еўропу, як цяпер тыя землі называюць, рухаліся са Старажытнай Індыі караваны. Некаторыя вандроўнікі там прыжыліся. А найбольш цярплівыя прывандравалі з берагоў Інда і Ганга з Брахмапутраю ў мясціны нашыя, Цэлым благаслаўлёныя. І сталі жыць паміж Хранонам, Рубонам і Барысфенам, гэта значыць: Нёманам, Дзвіною і Дняпром.

А сінкрэтызм… Удумайцеся: «Нерасчлененасць розных відаў чаго-небудзь, першапачатковая злітнасць у якой-небудзь з'яве, уласцівая для ранніх стадый развіцця; гэта значэнне тэрміна прымяняецца да сферы мастацтва». І яшчэ: сінкрэтызм (мастацтва) — спалучэнне або зліццё «несупастаўляльных» вобразаў мыслення і поглядаў. Гэта, скажам, спроба паяднаць цягавітага каня рэальнасці і трапяткую лань паэтыкі, што я і спрабую зрабіць у гэтай сваёй аповесці. Абнадзейвае хіба сінкрэтызм рэлігійны, гэта «злучэнне разнастайных дактрынальных і культавых палажэнняў». Тут пра «раннія стадыі развіцця» цікава разважыць. Няўжо пара федэрацыі Крыцкіх гарадоў — ранняя стадыя ў чалавецтва? А што за «дзеці прыроды» жылі ў Старажытным Егіпце ці, глыбей, Старажытнай Індыі? Пісьменнасць, арыфметыка, астралогія, піраміды — ім помнікі. А міфаў нашыфравалі, што і па сённяшні нам нават са штучным інтэлектам не паразгадваць… Дзеці!?

З той нагрувашчанасці слоў пра неспасцігальны без добрай чаркі сінкрэтызм можна смела зрабіць выснову: каня і лань варта спрабаваць запрэгчы ў адну павозку! Цэлае некалі жыло, было — і цяпер нікуды не дзелася. Яно побач і ўнутры нас. Толькі не ўсе тое ведаюць і бачаць. А сакральны працэс яго спасціжэння і ёсць бясконцае «хаджэнне ў трыдзясятае царства» для тых, хто жадае да Цэлага далучыцца.

Аповесць напісана паводле ўражанняў і вершаваных твораў з рэальнага пешага «Хаджэння ў трыдзясятае царства». Мы з цяперашняй маёй жонкай Валянцінай, паважаючы запаветы продкаў, вялікіх вандроўнікаў, здзейснілі яго ў красавіку-жніўні 1996 года. Абышлі ўсю Беларусь па перыметры ўздоўж дзяржаўнай мяжы, пераадолелі за 120 дзён 2 810 кіламетраў. У «Хаджэнні…» спрабавалі спасцігаць вялікую сутнасць Цэлага і адчуваць Яго быццё — праз логіку Хады. Ёсць у тэксце аповесці і непазбежныя адхіленні ў розныя бакі: Валянціна сцвярджае, на тое схіляюць мяне зоркі ў касмаграме.

У добры шлях!

## СВЕТЛАСЦІ ПАРА

Першы падарожны верш, якім пачынаецца «вершаваны кругаход». Усяго ж падчас «Хаджэння ў трыдзясятае царства» апусцілася на старонкі трох тоўстых падарожных дзённікаў больш за сто паэтычных твораў. Гэты, першы, напісаны ў трэці дзень вандроўкі, на Браслаўшчыне. Мы з Валянцінай, былыя супрацоўнікі часопіса «Роднае слова» (тады яна яшчэ Шымановіч, а з 1998-га — мая жонка) — на ўлонні прыроды, сярод скаваных лёдам азёр і прыгожых краявідаў. Пачыналі вандроўку з пасёлка Друя, на поўначы Беларусі, у Велікодныя дні, 15 красавіка. Рака Дзвіна жыла ўся ў сонцы і крыгаходзе. А перад пачаткам шляху ў першы дзень Вялікадня, 13-га, былі мы ў Полацку, папрасілі блаславення ў святой Ефрасінні. Нябачную яе падтрымку, дарэчы, адчувалі ў дарозе неаднойчы…

Ранняя, празрыстая вясна. Сонца грэе ўвесь дзень: курткі-ватнікі едуць на калясцы-Лялечцы — ісці цёпла. Зусім мала людзей і машын на дарогах, а паколькі ў кюветах мокра яшчэ, а месцамі і снежна, то адпачываем праз кожную гадзіну хады, расцягнуўшыся на цёплым асфальце. Яшчэ ўсё вельмі рамантычна… Хоць перад першым вершам у дзённіку ўжо ёсць паказальны радок: «Свабода ад транспарту заваёўваецца цяжкаю працаю ног».

А на душы ад той вясновай свабоды і цеплыні вельмі ўтульна і светла.

Аголенасці й светласці пара...
Яшчэ і ў гнёздах не чуваць нікога,
І пупіхі лістамі не гараць,
І не стамляе доўгая дарога.

Яшчэ снягі не збеглі ў раўчукі,
І лёд азёры ў кайданах трымае —
А па палёх шыбуе напраскі
Вясна вясёлая. Такая маладая!

Такой аголенасці й светласці пара —
Нібыта ўсё пяшчотаю прамыта.
І сэрца пачынае рытм звяраць
З вясновай праўдай... Вечнай... І забытай...

*17.04.96, вечар, 19.07.*

## НЕ РАСПІНАЙЦЕ ХРЫСТА!

Восьмы дзень дарогі, Пастаўшчына. Уцягваемся ў вандроўнае жыццё, псіхалагічна падладжваемся адзін да аднаго. Шмат побытавай мітусні і, вядома ж, штодзённай глыбокай фізічнай стомы. Жыццё наша набывае новыя фарбы, пры тым чужыя лёсы, аповеды — заўсёды нагода для няспешнага, у рытм крокаў роздуму пра агульныя законы, па якіх уладкаваны свет. У Паставах, напрыклад, мы начавалі ў школе-інтэрнаце для дзяцей-сірот: гэта ў асноўным сіроты пры жывых бацьках. Рознага наслухаліся. У тым ліку і пра нязвыклае яшчэ для постсавецкага часу сацыяльнае расслаенне людзей у райцэнтры — на багатых і бедных.

Некаторыя нашы субяседнікі схільны былі крыўдаваць на ўвесь свет, які «несправядліва ўладкаваны». Іншыя — не чакаюць міласціны ад некага, самі выбіраюць свой шлях. Мы, вядома ж, за тое, каб жыць без крыўд і «дуляў у кішэні». І ў бабулі Яніны, вартаўніцы школы ў Камаях, дзе мы начлежылі, радаснае светаўспрыманне: яна прыгожа вышывае. Уранні з яе пакойчыка чуліся хваласпевы ў гонар Маткі Боскай.

А праз акно спартыўнай залы, у якой мы прачнуліся, відаць быў і мясцовы касцёл, трохі падобны да сярэдневяковай крэпасці, бо і сам ён адтуль, з XVII стагоддзя. Радасная вера — правільная вера.

Развагі з дзённіка: «На жаль, людзі не бачаць іншых сродкаў, каб унесці перамены ў сваё жыццё, акрамя палітычных. Але ж ёсць і больш надзейны, даўно выпрабаваны спосаб дасягнуць душэўнай гармоніі. Мудрацы раяць: як не можаш змяніць абставіны — змяні сваё стаўленне да іх. І зварот да ўласнай душы, памкненне рабіць усё па сумленні, шукаць ва ўсім прычыну для радасці, а не для злосці — вельмі цікавы і прадуктыўны шлях. Да таго ж любое насілле і несправядлівасць урэшце пацерпяць крах, калі людзі пачнуць жыць сумленна. Вядома ж, нехта з тых — сумленных — будзе насміхацца, іх будуць і распінаць, і абплёўваць, але за імі — будучыня. «Непалітычны блок сумленных і шчырых» урэшце атрымае перамогу!

А просьба «не распінаць Хрыста», чатыры разы паўтораная ў вершы, узнікла як рэакцыя на шматлікія ўкрыжаванні, што часта сустракаюцца нам пры дарозе. І з разваг пра тое, што ў радасці больш праўды, чым у вечных пакутах і «посных» тварах некаторых вернікаў. Няўжо яны думаюць, што Богу падабаюцца іх плачы і стогны? Ды і ў Евангеллі, у пасланні апостала Паўла да Філіпійцаў, ёсць знакаміты радок: «Радуйцеся заўсёды ў Госпадзе; і яшчэ кажу: радуйцеся».

Не распінайце Хрыста на крыжах
Каля гасцінцаў, каля скрыжаванняў!
Душы стаміліся ў жаху дрыжаць,
Крылы не вырастуць ад гараванняў.

Не распінайце! Пусціце ляцець
Божага Сына, як птушку, над светам.
З волі ды веры надзея ўзрасце
Ў сэрцы гарачым, любоўю сагрэтым.

Не распінайце! З пакутаў Яго
Вылушчым — радасць. І сілы для працы.
Не распінайце — бо ў сэрцы Агонь
Сам парываецца самараспяцца.

Не распінайце... На вечным крыжы
Сцвердзяцца ў сонцы сусвету асновы.
Самаахвярна — і радасна жыць
Кліча нас сёння голас Хрыстовы.

*22.04.96, Пастаўшчына.*

**ДАРОГА**

Яшчэ адзін верш з тым жа днём нараджэння: 22 красавіка. Ну вядома ж, прысвячэнне дарозе — заканамернае, і далёка не апошняе ў «Хаджэнні…». Дарога і неба ў нас перад вачыма ўвесь час. Бо штодзень ідзём ды ідзём, па 20—25, а то і па 30 кіламетраў.

Тым, хто лічыць нашае «Хаджэнне ў трыдзясятае царства» лёгкай вандроўкай «бездельников» (гэтак з непрыхаванай злосцю абазваў нас адзін з калег-«прамаходаў»), раім абавязкова зрабіць такі 30-кіламетровы шпацыр. Хаця б аднойчы ў жыцці. Нават і без абцяжаранасці каляскай з паходнымі рэчамі. І без неабходнасці пасля такой праходкі яшчэ ў чыстым полі ці лесе гатаваць вячэру, ставіць палатку…

Адзін з Валіных запісаў пра той дзень у дзённіку: «Мы ўжо як брудныя парасяткі. Лічы за шчасце, калі нават у невялічкім балотцы памыеш твар і рукі. Але прыстасавацца можна да ўсяго: такая ўжо істота чалавек...»

Дарэчы, у той дзень мы прайшлі 33 кіламетры. А наш начлег упершыню быў на прыродзе, справа ад дарогі ў ляску пад Лынтупамі, каля вёскі Ігнацішкі. Увечары паставілі палатку, зробленую з белага парашутнага шоўку, непадалёк ад вялізнай, бурай прываленай елкі. Палілі вогнішча, рабілі вячэру з гарбатай. Цішыня побач аж палохала, ні шораху — толькі ўдалечыні недзе бурчэў матацыкл. І так прыгожа глядзеліся на небе маладзік і яркая зорка (Венера?), што Валя ў захапленні сказала: «Як пейзаж!» — маючы на ўвазе: як на малюнку.

Хоць і адкрылі мы для сябе начлежны «лясны сезон», але ночы яшчэ халодныя, з прымаразкамі.

Верш атрымаўся не толькі пра дарогу — ён і пра нас, вандроўнікаў.

Дарога між пагоркаў і лагчын —
Сама дачка лагчынаў і пагоркаў,
Па іх плячах і лонах бегучы,
Віляе і выпростваецца лёгка.

Яна — ад плоці гэтае зямлі,
Яе характар у сябе ўвабрала,
Хоць людзі выпрамлялі, як маглі,
Яе хрыбціну. Хоць яна стагнала,

Іх беды і нядолю везучы —
Ды зноў была надзеяю і сілай
Дарога
між пагоркаў і лагчын.
Усіх вяла — і платы не прасіла.

...Ці станеш, брат, пагорак беручы
Апошні
перад велічнаю Брамай
Дарогай сам —
між горак і лагчын,
Дрыготкаю жыцця кардыяграмай —
Ці пойдзеш
прамаходам
прама, прама?..

22.04.96, каля мястэчка Лынтупы
Пастаўскага раёна.

## БРЫЛЬ

Брылі — саламяныя капелюшы — набылі мы на Браслаўшчыне, у знакамітых Слабодкаўскіх майстроў саломапляцення Міхаіла Чэркаса і Пятра Караніка. Прыгожыя, на пачатку аж залатыя, яны нам вельмі спатрэбіліся — ахоўвалі ў дарозе ад сонца, дажджу (як быў вельмі моцны, то наверх брылёў прыстасоўвалі яшчэ цэлафанавыя стрэшкі), камароў ды сляпнёў (для гэтага брылі акаймоўваліся па перыметры марляй, як тое робяць пчаляры). Гэтыя прыгожыя галаўныя ўборы арыгінальна глядзяцца. Па брылях пазней і пазнавалі «незвычайных падарожнікаў», калі прайшоў зняты ў Гомелі відэасюжэт пра нас па адзіным, мусіць, на той час канале Беларускага тэлебачання.

Свой, чэркасаўскі брыль, я скарыстоўваў яшчэ і на прывалах: клаў ці то пад галаву, як падушку, хай сабе і мулкаватую, ці то на твар, калі сонца надта сляпіла.

З верша, які «ўбачыўся» пад брылём пры дарозе на Лынтупы, быццам выглядваюць таямніцы быцця. Ён пісаўся трохі пазней, але дата пад ім тая, калі верш пачынаўся.

Ад сонца твар прыкрыў я
саламяным брылем —
І дзірачкі, бы зоркі, прад вачыма ззялі.
...А можа й нам Спрадвечны Шлях
да зор прыкрылі
Вялікім брылем — каб вачэй і душ
не асляплялі?..

А некалі спадзе той брыль — вялікая заслона,
І развінецца Свет: нябачны... і бясконцы...
Святлее змрок начы. І зор на небе поўна...
Пад брыль няведання схавана праўды Сонца?

*23.04.96, каля вёскі Альшэва*
*Мядзельскага раёна.*

## НА ЮР’Я

Гэта быў дзень святога Юрая, Георгія, ці, як у народзе кажуць, Юр’е каталіцкае, што святкуецца 23 красавіка. За вершам пра саламяны брыль у дзённіку і гэты. Як цяпер перад вачыма: ланцужок дзіцячых слядкоў наўзбоч дарогі-гравійкі, недалёка ад вёскі Альшэва. Пэўна, нехта са старэйшых вёў малое за руку, і яно плюхала басанож па лагодным цёплым пыле. Як некалі і мы, вясковая дзятва.

Чаму запомнілася мне, што гэта было Юр’е? Працуючы з 1990 года ў часопісе «Роднае слова» — адказным сакратаром, намеснікам галоўнага рэдактара, потым загадчыкам аддзела культуры — я некаторы час рыхтаваў да друку тэксты даследчыкаў пра народную культуру, звычаі. Дарэчы, звольніўшыся з Валянцінай разам на пачатку 96-га з рэдакцыі, а яна працавала там жа, у галоўрэда Міхася Шавыркіна, адказным сакратаром, мы і пачалі рыхтавацца да «Хаджэння…». І прадстаўляліся ўсім у дарозе як журналісты, былыя супрацоўнікі рэдакцыі часопіса «Роднае слова», у якую пасля «Хаджэння…» не вярнуліся: прапанавалі папрацаваць у часопісе «Беларусь». Дык вось, святы Юрай, паводле народных, язычніцкіх паданняў, — ахоўнік свойскай жывёлы, таму ў гэты дзень звычайна і выганяюць кароў на пашу пасля зімы. А сам

**Што за «дзеці прыроды» жылі ў Старажытным Егіпце ці, глыбей, Старажытнай Індыі? Пісьменнасць, арыфметыка, астралогія, піраміды — ім помнікі. А міфаў нашыфравалі, што і па сёння нам нават са штучным інтэлектам не паразгадваць... Дзеці!?**

**Любое насілле і несправядлівасць урэшце пацерпяць крах, калі людзі пачнуць жыць сумленна. Вядома ж, нехта з тых — сумленных — будзе насміхацца, іх будуць і распінаць, і абплёўваць, але за імі — будучыня**

Юры быццам бы ходзіць у гэтую пару па зямлі менавіта басанож, аглядаючы пасевы і сенакосы.

Напрыканцы верша ёсць яшчэ слова «імша» — думаю, цяпер усе ведаюць, што гэта ўрачыстае каталіцкае набажэнства. А сапраўды ж, як хораша жыць «у веры» — ведаць і верыць, што добрая Нябачная Сіла заўсёды поруч з табой. Гэтаксама, як мамка ці татка побач, калі плюхае па пяску басанож тваё дзяцінства.

Дзіцячыя слядочкі на пяску
На Юр'я, у вясновую лагоду...
Мо Юрай сам хадзіў тут пры ляску,
Збуджаючы ад зімніх сноў прыроду?

Так хораша прайсціся басанож
Пясочкам, што ўжо сонейкам угрэты!
Сялянскасць кліча Юрай і з вяльмож:
Усе скідаюць боты й сандалеты.

І нават клейкаватыя лісткі
Вылузваюцца з зімніх апранахаў —
Бо Юрай ходзіць босым. І ляскі
Скідаюць немату зімовых страхаў.

Раззуцца... Спаласнуць расой душу...
Разнасцежыцца сонейку настрэчу...
Так спраўджвае вясновую імшу
Бог Юрай — у аблічча чалавечым.

*23.04.96, каля вёскі Альшэва Мядзельскага раёна.*

## РУЧАЙ

У вёсцы Міхалішкі, пад Астраўцом, у гутарцы з людзьмі сталага веку мы высветлілі рэч відавочную і ў той жа час глыбока сімвалічную. Аказваецца, узровень вады ў іх уласных калодзежах — заўсёды такі ж, як і ў тамтэйшай рацэ Віліі. І ў залежнасці ад пары года ёсць значныя хістанні гэтага ўзроўню: рэчка то падступае ўвесну да агародаў, то мялее ўлетку. Нібы дыхае. І крыніцы-ручаі, што сілкуюць рэчку — таксама. Жывыя!

І мы ж, людзі, гэтак моцна звязаны паміж сабой! Ёсць аўра роду, аўра народа. Гэта нам толькі падаецца, што ў кожнага аўтаномнае, адасобленае жыццё. Але, напрыклад, маральна-псіхалагічны клімат у сям'і, мясцовасці, раёне, увогуле ў грамадстве (своеасаблівы «ўзровень вады» ў рацэ-народзе) несумненна аказвае ўплыў на лад жыцця кожнага з нас. Гэта значыць: на глыбіню калодзежаў нашых душ. І на чысціню пачуццяў і думак, што ў нас выспяваюць і жывуць. І кожны з нас — як ручай энергіі адначасова: кожны нясе сваю кроплю жыццёвай спажывы, чыстай ці не надта, у раку народа, у акіян чалавецтва.

З такіх вобразных паралеляў і выростаў верш.

Дарэчы, неяк я даведаўся, што з-за меліярацыі, праведзенай у ваколіцах роднай маёй вёскі Яцкаўшчыны і асабліва суседніх Жарабковічах, на Ляхавіччыне, у Брэсцкай вобласці, перасохлі ўжо некаторыя лужкі ды сажалкі. Шкада: збяднела, «злысела» з гадамі і наваколле. Няма алешніку, няма і векавога дубняку пры старой Яцкаўшчыне (знішчылі летам 2004 года), і Чорнага ды Тофілевага лужкоў, ды і вадаёмы Пойла, Кругліца, мусіць, зараслі. Да таго ж мае землякі-вяскоўцы вымушаны былі паглыбляць і свае калодзежы (чаму быў нямала рады майстар-далакоп Уладзімір Гуліцкі). А ў некаторыя калодзежы вада, кажуць, і не вярнулася. Браць глыбей? Ды з артэзіянскіх свідравін цячэ вада ржавая — гідрагеолагі сцвярджаюць, што там зашмат жалеза.

Чым не яскравы прыклад таго, як парушэнне экалагічнай раўнавагі нават у адной мясцовасці негатыўна ўплывае на настроі, калектыўнае самаадчуванне людзей!

Страта звыклага асяроддзя, у якім мы існуём — векавых дрэў, урочышчаў, перасыханне ручаёў, рэчак, сажалак... — міжволі, хай сабе і падсвядома, успрымаецца намі як стрэс. Мы ў хвалях радасці купаемся, калі бачым прыгажосць навокал. А калі разлад у хаце, прыродзе ці гарадскім двары, то трапляем у плынь дэпрэсіі, і робяцца менш устойлівымі да хвароб і душа, і цела.

Ці думаюць пра гэтыя непазбежныя наступствы «добраўпарадкавальнікі» прыроды? Канешне, і рост ураджаяў патрэбен — ды не любой жа цаной...

Ручай шукае волі, дзе кусты,
Паміж пагоркаў ды гаёў шумлівых.
Багаславёны рух той — не пусты,
А споўнены жыццёвых пераліваў.

Ручай чытае шлях, якім лягчэй
Дабегчы да ракі — і не згубіцца.
...І мне так светла хочацца яшчэ
Па родным краі ручаінкай віцца.

Яшчэ ёсць сілы спавядаць шляхі:
Звінець, спяваць і агінаць пагоркі…
…Бяжыць ручай за дрогкі небасхіл,
І ўсё бліжэй — да пуцяводнай Зоркі.

*24.04.96, каля вёскі Міхалішкі*
*Астравецкага раёна.*

## ВЫРАСЦЕ ПРАЎДА

Прайшлі горад Астравец, зазірнулі ў мястэчка Солы з яго прыгожым касцёлам, пабывалі ў Кушлянах, Жупранах — мясцінах, дзе жыў калісьці Францішак Багушэвіч. Звярнулі ўвагу, як шмат людзей абрабляюць соткі, участкі зямлі пад райцэнтрам. З заробкамі, выплатай зарплаты ў той час былі яшчэ вялікія праблемы, і людзі шукалі хоць якую магчымасць выжыць, пракарміцца.

Як па сённяшнім часе, то я разумею, чаму ў народзе бытуе показка: праца на зямлі хутчэй зробіць гарбатым, чым багатым. Вядома ж, у так званым аграрным сектары эканомікі цяжка разбагацець. Тым больш ва ўмовах вялікага дыспарытэту цэн на прамысловыя і сельскагаспадарчыя тавары: мінералка каштуе як малако, а за трактар трэба аддаць сотню моцных быкоў. Гэта цяпер, атрымаўшы немалыя дзярждатацыі, набыўшы добрую тэхніку, шэраг гаспадарак выбраліся на бальшак. А ў 1996-м… Зрэшты, калі ставіць на мэце не багацце, а пракорм, выжыванне, «стаць на ногі», то зямля — надзейная стартавая пляцоўка. Хто добра засвоіць «урокі зямлі» — нідзе не прападзе, хай сабе і не стане багатым.

Мы гасцявалі ў сям'і паэта з Кушлянаў Алеся Жамойціна — высокаадукаванага чалавека, які сумяшчае заняткі навукай, гісторыяй, працу дырэктара ў музеі Багушэвіча з працай на зямлі. У яго на падвор'і былі, помніцца, конь, карова, шмат іншай жыўнасці. «Тупая» праца сапраўды робіць людзей маральна і фізічна гарбатымі. А сельскаму інтэлігенту Жамойціну і яго жонцы-настаўніцы, як нам падалося, удавалася неяк сумяшчаць свае пошукі ў сферах духоўных са спрадвечнамі сялянскімі клопатамі.

Затармазіўся тэхнічны прагрэс:
Ціш на заводах. Навука ў загоне...
Нас уратуюць зямліца і лес
У непрадбачаным сёння.

Як да матулі, з паклонам прыйшлі
Людзі вясною на соткі ды грады.
Добра зямлі: зноў у цела раллі
Сеецца зерне спрадвечнае праўды.

Праўда ж — у тым, што зямлі аддаваць
Кожны павінен сваё, як умее.
Будзе зямліца плады гадаваць:
Слаўны й разумны, хто вечнае сее!

Будзе і ў лесе выгушквацца рай,
Будзе і ў полі расці ратаванне:
Сілы — стварэнню, сяўбе аддавай,
Як заблудзіўся ў смузе і тумане.

Вырасце праўда! Адно не шкадуй
Сілы ў зямліцу ты ўкласці.
Пераживем з ёй любую бяду —
І зацвіце наша шчасце.

*27.04.96, дарога на Ашмяны.*

## САД НАШЫХ ДУШ

Вобраз саду нашых душ і Садоўніка-Усявышняга выспеў пад уражаннем размоў з Алесем Жамойціным. Ён, як і мы з Валянцінай, станоўча ўспрымае ідэю рэінкарнацыі. Паводле яе, чалавечая душа прыходзіць на зямлю неаднойчы, штораз назапашваючы новы жыццёвы досвед. Яшчэ Алесь

**У радасці — больш праўды, чым у вечных пакутах і «посных» тварах некаторых вернікаў. Няўжо яны думаюць, што Богу падабаюцца іх плачы і стогны?**

**А сапраўды ж, як хораша жыць «у веры» — ведаць і верыць, што добрая Нябачная Сіла заўсёды поруч з табой. Гэтаксама, як мамка ці татка побач, калі плюхае па пяску басанож тваё дзяцінства**

зрабіў выснову, што язычніцкая, ведычная вера беларусаў, гэта значыць першавера нашых продкаў, бярэ пачатак у рэлігіі зораастрыйцаў, мудрацоў старажытнасці.

Пасеянае — прарасце! Тым часам, пакуль мы вандравалі па Беларусі, зямля майго дзяцінства ў Яцкаўшчыне сапраўды гадавала пасеяныя год таму часночныя «дзеткі». Цэлую плантацыю часнаку мы потым мелі! Праўда, і з пустазеллем давялося павяявацць — але ж было за што змагацца!

Як пацягнуліся ўспаміны пра зямлю яцкаўскую — згадаўся і вялікі бацькоўскі сад, і ў дзённік легла ў агульных абрысах ідэя верша. Ды нам ужо час быў выбірацца ў дарогу, чарнавы накід застаўся ў дзённіку. Верш дарабляваўся ў Мінску: з пасеянага «зернейка» вырас! Цікава, што дапісваўся ён у верасні 2000 года. Гэта калі ў нашым яцкаўскім садзе ў чарговы раз выспелі і былі клапатліва сабраны чырванабокія штрыфелі, крамяныя антонаўкі, салодкія каштэлі...

А ўвогуле ў той стадыі «Хаджэння…» нашаю музаю была Вясна: усюды аралі, сеялі. Таму верш — і пра высокую таемнасць сяўбы, выспявання пладоў, збору ўраджаю, і вечны кругазварот гэтых дзеяў. Але таемства тое хацелася асэнсаваць не на ўзроўні зярнят пшаніцы, а душ чалавечых. Таямніц рэінкарнацыі. І яшчэ — акрэсліць найвышэйшы сэнс чалавечага жыцця.

У садзе яблыні калыша ціхі вецер  
І наваколле напаўняе пахам смачным.  
...А Той, з Каго і пачалося ўсё на свеце,  
З жыцця ў жыццё гадуе плод нябачны.

Мо — душы чалавечыя? Даспеюць  
Аднойчы — лепшыя! —  
у дабрыні і праўдзе —  
І прыйдзе Ён. І свет з ім прасвятлее.  
Ён сабярэ плады ў дзівосным садзе.

А потым той Садоўнік клапатлівы  
Пасее зерне з тых пладоў — у новым часе.  
...Мо выспеў той, хто ўмее быць шчаслівым?  
...Ці прарасту нарэшце ў новай іпастасі?

*27.04.96, дарога на Ашмяны.*

**ШАСНАЦЦАЦЬ**

Адзін раз мы начлежылі ў вёсцы Каменка, пры дарозе на Ашмяны, у гасціннай, хоць і небагатай, сям'і Марыі Місевіч, мясцовай бібліятэкаркі. Дом гаспадароў пры самай шашы справа стаіць, нам адвялі ў ім цэлы пакой-святліцу. Марыя, шануючы гасцей, заслала ложак чыстымі прасцінамі, паклала высокія падушкі... А мы, брудныя і здарожаныя, адчувалі сябе ніякавата, пасароміліся парушаць чысціню, і таму па вандроўнай звычцы ўладкаваліся на падлозе, на свае спальнікі. Чым не ілюстрацыя, скажыце, беларускай ментальнасці: як з боку гаспадароў, так і гасцей…

А ўранні была сонечная нядзеля, шчасце-купанне ў ванне (упершыню за амаль два тыдні штодзённай хады), смачныя бліны гаспадыні і — дзень нараджэння ў яе старэйшага сына Сашы. А паколькі дарыць нам хлопцу не было чаго, то напісаў яму верш, здаецца, на нашай вандроўнай паштоўцы-візітцы. Хацелася падбадзёрыць ціхмянага, добрага, працавітага падлетка, які, паводле слоў маці, быў на той час не надта ўпэўненым у сваіх сілах. Цікава, як склаўся лёс хлопца, кім ён стаў? Ці памятае нашу сустрэчу?

Пасля снедання жыхары Каменкі назіралі такую карціну: мажная спадарыня Марыя, «восседая» з лейцамі на возе, везла ў саломе нас, размораных купаннем і нязвыклым камфортам «сталічных журналістаў» — так нас прадстаўляла сустрэчным, на хутар да мясцовага знахара, Івана Казіміравіча. Ехалі мы «браць інтэрв'ю». Сустрэчы з лекарам хоць і не адбылося (бо гаспадара не заспелі дома), але ж былі мы ве-е-льмі задаволены такой вандроўкай! Асабліва гараджанка Валя, для якой паездка на вазку — экзотыка. Тым больш пасля двух тыдняў хады…

Тут варта заўважыць: ідэю **цалкам пешага хаджэння вакол Беларусі** той парадны выезд на возе ані не парушыў! Бо мы з'ездзілі «да Казіміравіча» і назад — хто жадае,

гляньце па карце! — ужо пройдзенай намі дарогай. Потым вярнуліся ў Каменку, сабралі-спакавалі сваю каляску-Лялечку, сфатаграфаваліся на памяць з Марыяй і дзецьмі ды рушылі па шашы далей, у напрамку Гальшанаў з іх знакамітым замкам.

***Сашу з вёскі Каменка ў дзень 16-годдзя***

Шаснаццаць! І вясновая пара...
Дарог яшчэ наперадзе так многа!
Няхай суменні ўсе твае згараць
У полымі чаканых перамогаў.

І спраўдзяцца ўсе мары! Толькі вер,
Што ўсё — у нас: і боль, і радасць наша.
Дык выбірай, і смела, шлях цяпер:
Усё-ўсё збудзецца, як будзеш моцным, Саша!

*28.04.96, у вёсцы Каменка Ашмянскага раёна.*

## СПАКОЙ І РУХ

Рухаемся ў бок Ашмянаў, Гальшанаў. Засталася за небасхілам гасцінная Каменка, і хвілін праз 45, як у нас было заведзена, робім невялічкі прыдарожны перадых. Мясцовасць тамтэйшая узгорыстая: найбольш узвышаныя мясціны ля Каменкі, казалі нам, называюць Каўказамі. Ад хады па такой дарозе, як па велізарных хвалях, ад пругкай радасці пераадолення сябе пасля разморанасці і ўзнік у душы адпаведны настрой.

Верш я прысвяціў Валянціне. І не дарма: яна годна і мужна пераносіла ў даволі няпростым 120-дзённым пешым падарожжы разам са мной усе выпрабаванні. Помніцца, як мяне ўшчуваў, ужо на Палессі, адзін сустрэчны: «Ну, з табой зразумела — захацеў, пайшоў. Ты моцны мужык! А навошта жанчыну мучыш?» Паклон табе і ўдзячнасць, мая спадарожніца!

Шукаючы ў «Хаджэнні…» сярод іншага і адказ на пытанне: «Што такое шчасце?», мы чулі розныя меркаванні на гэты конт. І ўрэшце, ужо асэнсоўваючы назбіраны вопыт, знайшлі такую яго формулу: шчасце і ў тым, каб у працы не таміцца — працай радавацца.

Вядома ж, гэта не азначае: гультаяваць альбо працаваць напаўсілы. Тут найперш важны аптымістычны настрой душы на працу. І душэўная настроенасць вылушчыць радасць ад зробленага. «Гэтая работа нас пазадушвае, працуем як рабы» — і такое мы чулі ад людзей, з якімі сустракаліся. І гэта, на жаль, зусім не працоўны настрой, а жыццё ў стрэсе, разбалансаванасць, а то і хвароба душы. З такім настроем і томішся хутка, і радасці ад працы не адчуваеш, і хваробы, сапраўды, побач ходзяць, каб «задушыць».

А сустракалі ж мы і аптымістаў, якія робяць свае справы ў светлым настроі: «Дзякуй Богу, што дае сілы працаваць, здабываць хлеб сабе і блізкім. Дзякуй Богу, што я магу навесці парадак у сваёй гаспадарцы, што будзе прыбытак у дом». Пагадзіцеся, гэта ўжо зусім іншая працоўная мелодыя! Калі напружваць свядомасць, трымаць такі настрой у душы, то, нават і моцна стаміўшыся, будзеш адчуваць радасць.

Не дарма хрысціяне просяць блаславення ва Усявышняга перад пачаткам любой справы. І дзякуюць Яму, што даў сілы на працу, пасля яе завяршэння. Настрой душы, мусіць, менавіта ён стамляе ці бадзёрыць нас у працы. А самы найлепшы, самы салодкі адпачынак — вядома ж, пасля моцнага напружання і зробленае справы. Радасць ад працы, радасць ад спакою і адпачынку — думаецца, менавіта так варта вучыцца жыць, каб не наракаць потым ні на лёс, ні на людзей, ні на Бога.

***Валянціне прысвячаю***

Пасля напружання — суцішанасці рай...
Пасля спакою — новая напруга...
Душа мая, у радасці збірай
Спакой і рух з дарог зямнога круга.

Без перамены руху — на спакой,
Без парывання разарваць сіло спакою —
Ты стомішся, душа, бы ў стайні конь,
Бо любяць лёт і адпачынак нават коні.

...Калышацца, душа, жыццё тваё
На хвалях пераменаў без спачыну:
То — зноў ідзе дарога на пад'ём,
То — кліча зноў прыветная лагчына.

Душа мая, ты мудрасць сабірай
Каля гасцінца ціхага, старога.
...Пасля хады — суцішанасці рай,
Пасля спакою — новая дарога...

*28.04.96, па дарозе на Гальшаны.*



Рубрыка кафедры
літаратурна-мастацкай крытыкі
Інстытута журналістыкі БДУ

Аксана БЯЗЛЕПКІНА,
Уладзімір КАПЦАЎ

# ФАБРЫКА ПІСЬМЕННІКАЎ

***Ці можна навучыць быць пісьменнікам? Адначасова і так, і не. Чаму? Таму што ёсць фактары пісьменніцкага лёсу, на якія можна паўплываць, і ёсць тыя, на якія — не.***

## ШТО АБ'ЯДНОЎВАЕ ЛІТАРАТАРАЎ І СЦІВА ДЖОБСА?

Замежныя даследчыкі, прааналізаваўшы біяграфіі вядомых людзей, прыйшлі да парадаксальнай высновы: жыццёвы поспех мала залежыць ад таленту ці IQ, ён залежыць ад часу нараджэння і асяродку.

Як дзейнічае гэты алгарытм? Нарадзіся пісьменнік на 5 гадоў раней ці пазней — і вось ужо ён не ўспрымае важныя падзеі ў станаўленні мастацкай думкі з прычыны аб'ектыўнай сфарміраванасці асобы ці не ўваходзіць ва ўплывовыя творчыя абоймы з прычыны залішняй маладосці. Гэта ў пэўнай ступені тлумачыць, напрыклад, літаратурны феномен «страчанага пакалення». Калі б Янку Купалу ў нашаніўскі перыяд было, напрыклад, 10 гадоў, то класікам мы называлі б некага іншага. А калі б Быкаў не быў на вайне… А калі б Сыс не быў у «Тутэйшых»…

Можна прывесці безліч прыкладаў, калі прыналежнасць да пэўнага пакалення вырашала лёс (так, амаль няма ў беларускай літаратуры выразнага пакалення 40—45-гадовых, чыё сталенне патрапіла на распад СССР). Такая сітуацыя залежнасці генія ад часу склалася не толькі ў літаратуры: ці пачулі б мы пра таленты Біла Гейтса і Сціва Джобса без тэхнічнага ўздыму, які прыйшоўся на гады іх маладосці?

І калі выбітны спартсмен вырасце там, дзе ёсць дадатковае футбольнае поле ці тэнісны корт, то і значны пісьменнік сфарміруецца там, дзе ёсць магчымасці для кшталтавання таленту.

Жыццёвы поспех мала залежыць ад таленту ці IQ, ён залежыць ад часу нараджэння і асяродку

## ЛЕГІТЫМІЗАЦЫЯ ТВОРЧАСЦІ

Ужо тры гады ў Інстытуце журналістыкі БДУ на кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі гартуецца новае пакаленне маладых беларускіх ***пісьменнікаў, крытыкаў і артжурналістаў***. Гісторыя ж самой кафедры налічвае 15 гадоў. І можна лёгка прасачыць, як паступова на журфаку БДУ збіраўся моцны мастацкі асяродак.

15 гадоў таму наяўнасць «мастацка-крытычнага крыла» на кафедры перыядычнага друку журфака стала вельмі заўважнай. Ядром гэтай супольнасці сталі тры чалавекі: кінакрытык ***Ефрасіння Бондарава*** (1922—2011), тэатральны крытык ***Таццяна Арлова*** і іх вучаніца, кінакрытык ***Людміла Саянкова***, якая і стала загадчыцай кафедры. У лёсе пачынальнікаў кафедры яе стварэнне — гэта плён адданай працы на факультэце журналістыкі і своеасаблівая ўзнагарода за творчую дзейнасць па-за межамі ўніверсітэта. Аўтарытэт гэтых людзей даказаў кіраўніцтву ўніверсітэта неабходнасць стварэння кафедры. Нават студэнты журфака 20—30 гадоў таму на сустрэчах з зоркамі савецкага кіно з задавальненнем назіралі, як уганараваныя акцёры і рэжысёры схіляліся перад меркаваннем Ефрасінні Бондаравай. Амаль усе тэатральныя і музычныя крытыкі прайшлі праз Таццяну Арлову.

**Калі б Янку Купалу ў нашаніўскі перыяд было, напрыклад, 10 гадоў, то класікам мы называлі б некага іншага. А калі б Быкаў не быў на вайне... А калі б Сыс не быў у «Тутэйшых»...**

Так нарэшце з’явілася на факультэце журналістыкі месца, дзе студэнтам-журфакаўцам можна было на законных падставах абмяркоўваць з выкладчыкамі літаратуру і кіно, тэатр і музыку, працягваць выдаваць альманах «Аўтограф» і ладзіць вечарыны. Не, вядома, гэта рабілася і раней, у межах творчай лабараторыі «Крытык» (кіраўніком у той час была Е. Бондарава, а цяпер — У. Капцаў), але наяўнасць кафедры, адміністрацыйнай адзінкі, дадаткова легітымізавала мастацкі дух на факультэце.

Сярод выпускнікоў, выгадаваных выкладчыкамі кафедры, ёсць кіраўнікі буйных рэспубліканскіх СМІ: П. Якубовіч, Р. Кісель; тэатральны крытык, прафесар Т. Арлова; кінарэжысёры: І. Дабралюбаў, В. Дашук, А. Алай; мультыплікатар А. Белавусаў; кінакрытыкі: Л. Саянкова, Л. Перагудава, В. Мядзведзева, І. Сукманаў, А. Сідарэнка; кіназнаўца: І. Аўдзееў; пісьменнікі: І. Пташнікаў, І. Чыгрынаў, А. Вярцінскі, В. Зуёнак, Г. Бураўкін, С. Алексіевіч; сцэнарыст Ю. Ляшко; пісьменніца, мастацтвазнаўца Г. Багданава; мастацтвазнаўца Н. Шаранговіч; крытыкі: Т. Мушынская, М. Аляшкевіч, А. Стрэльнікаў, В. Пепеляеў, А. Мальчэўская; паэты: А. Кавалеўскі і В. Чайкоўская; тэлежурналісты: У. Купрыенка, В. Дудко, А. Дамарацкі; журналісты: В. Папова, Г. Шадрына; радыёжурналіст М. Дуброўская.

У 2009 годзе, праз 12 гадоў пасля заснавання, на кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі склаўся ўнікальны калектыў, якому можна было даверыць адкрыццё новай спецыяльнасці — «Літаратурная работа (творчасць)».

Гэтая прыгожая гісторыя кафедры і новай спецыяльнасці не зусім сапраўдная. А дзе ж праўда? Праўда ў тым, што калі на дзяржаўным узроўні было прынята рашэнне пра неабходнасць пісьменніцкай адукацыі, калектыў менавіта гэтай кафедры аказаўся гатовым выканаць такую адказную місію.

### «СКУЛЬПТАР ІХ МАЛАДОСЦІ»

Усе выкладчыкі кафедры адзначаюць, што са студэнтамі спецыяльнасці «Літаратурная работа (творчасць)» працаваць цікавей, але цяжэй, чым з іншымі студэнтамі Інстытута журналістыкі. Калі будучаму ваеннаму журналісту ці эканамічнаму аглядальніку дастаткова разбірацца ў літаратуры ці мастацтве ў агульных рысах, то будучы пісьменнік ці крытык мае дадатковую матывацыю. З імі размаўляеш як з калегамі, дзелішся прафесійнымі сакрэтамі, а гэта зусім іншы ўзровень выкладання.

Унікальнасць спецыяльнасці «Літаратурная работа (творчасць)» заключаецца яшчэ і ў тым, што нашы студэнты — адзіныя ў Беларусі наогул і ў Інстытуце журналістыкі БДУ ў прыватнасці, хто вывучае наступны корпус дысцыплін:

- гісторыя сусветнага кіно;
- постмадэрнізм і літаратурная крытыка;
- менеджмент і маркетынг у сучаснай культуры;
- сучасны беларускі літаратурны працэс;
- сучасны рускі літаратурны працэс;
- аўтарскія стратэгіі ў празаічным творы;
- паэтыка мастацкай прозы;
- трансфармацыя жанраў у літаратуры і журналістыцы;
- псіхалогія літаратурна-мастацкай творчасці;
- асновы паэтычнага майстэрства;

**Можна было б спытаць, чаму літаратурны конкурс праводзіцца на журфаку? Таму што для яго арганізацыі патрабаваліся магчымасці, якія ёсць менавіта ў Інстытуце журналістыкі**



*Супрацоўнікі кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ.*
Фота Вікторыі Герасімавай.

- методыка аналізу паэтычнага тэксту;
- теорыя і практыка перакладу;
- сучаснае літаратуразнаўства і літаратурная крытыка;
- міф і культура.

Сёння на кафедры працуюць спецыялісты па кінематографе і культуралогіі (загадчыца кафедры, дацэнт Л. Саянкова, старшы выкладчык Д. Гіргель), тэатры (прафесар Т. Арлова, аспірант А. Мальчэўская), літаратуры (дацэнты Н. Кузьміч, У. Капцаў, С. Трунін, А. Бязлепкіна, Г. Паўлоўская, старшы выкладчык А. Кавалеўскі), выяўленчым мастацтве (дацэнт Г. Багданава, Н. Шаранговіч), фальклоры (дацэнт Т. Лук'янава, яна ж яшчэ спецыяліст па літаратуры і культуралогіі). Для прафесійнага ўключэння студэнтаў у арт-журналістыку і крытыку запрашаюцца да супрацоўніцтва кіраўнікі і журналісты са спецыялізаваных СМІ (Л. Перагудава («На экранах»), А. Карлюкевіч, Л. Цімошык («Звязда»), Н. Бунцэвіч («Культура») і праграмны дырэктар кінафестываля «Лістапад» І. Сукманаў), кафедра супарцоўнічае з часопісамі «Маладосць» і «Вясёлка», каардынатарам усіх адукацыйных і справаводчых працэсаў на кафедры з'яўляецца К. Сідо.

Не забываюць на кафедры і адну з пачынальніц кафедры — Е. Бондараву, якой прысвячаюцца рэгулярныя канферэнцыі, сімвалічным імем якой названы кінаклуб «Фруза».

Першы выпуск студэнтаў спецыяльнасці «Літаратурная работа (творчасць)» будзе толькі праз 2 гады, а пакуль што нашы студэнты пішуць, займаюць прызавыя месцы ў літаратурных конкурсах, аднавілі літаратурна-мастацкую газету «Перья», ля вытокаў стварэння якой сталі А. Сасноўская, І. Бажко, Ю. Папова і М. Аляшкевіч (у 2010—2012 гадах была аспіранткай і выкладчыцай кафедры).

## Чаму мы ладзім столькі мерапрыемстваў? Чаму лабарант Кацярына падкармлівае калег яблыкамі?

## АДУКАЦЫЯ ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

А што рабіць даросламу чалавеку, які адчуў, што жыцёвы досвед варты мастацкага афармлення, а за спінай, напрыклад, вышэйшая тэхнічная адукацыя? Ісці на двухгадовую вучобу на факультэт павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі Інстытута журналістыкі БДУ (дэкан — дацэнт Г. Басава), дзе ёсць спецыяльнасць «Літаратурна-мастацкая творчасць», якую таксама курыруе кафедра літаратурна-мастацкай крытыкі. Гэта своеасаблівы «літаратурны інстытут», адпаведнікаў якому ў Беларусі няма.

Ужо адбылося некалькі выпускаў і творы першых выпускнікоў з’явіліся на старонках літаратурна-мастацкіх часопісаў.

Што дае літаратурная адукацыя дарослаframу чалавеку? Хіба ён не можа сам пісаць творы? І хіба могуць навучыць сфарміраваную асобу?

Многія пішуць мастацкія творы і баяцца прыйсці ў рэдакцыю, не могуць ацаніць якасць уласных тэкстаў, не валодаюць часам элементарнай тэхнікай літаратурнага майстэрства.

На занятках выкладчыкі, сярод якіх ёсць і пісьменнікі, і крытыкі, аналізуюць творы навучэнцаў і паказваюць на памылкі, фарміруюць густ, вучаць ацэньваць і аналізаваць літаратурныя творы. Магчыма, праз 5—10 гадоў аўтар і сам бы зразумеў, што варта было б напісаць інакш, але пры такой канцэнтраванай увазе спецыялістаў вучнёўскі перыяд праходзіць значна інтэнсіўней і, можна сказаць, аўтар-пачатковец эканоміць сабе гады жыцця. На творчыя спецыяльнасці набіраюць маленькія групы па 7—8 чалавек, таму ў выкладчыкаў хапае часу на ўсіх.

Навучэнцаў уводзяць у курс апошніх беларускіх і замежных літаратурных навінак (так-так, прымушаюць чытаць). Вельмі добра, калі навучэнцы, выпускнікі беларускіх вышэйшых навучальных устаноў, ведаюць пра беларускіх класікаў (Я. Купалу, Я. Коласа, В. Быкава, У. Караткевіча, І. Шамякіна), але гэта не той кантэкст, у які яны будуць прафесійна ўваходзіць: беларуская літаратура за апошнія 10 гадоў значна змянілася. Неабавязкова потым пераймаць ці паўтараць сучасных беларускіх ці расійскіх пісьменнікаў, але трэба ведаць пра актуальныя тэндэнцыі ў літаратуры, мець магчымасць абмяркоўваць эстэтычныя пытанні і літаратурныя перспектывы.

Навучэнцы факультэта павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі Інстытута журналістыкі займеюць магчымасць пазнаёміцца і супрацоўнічаць з вядомымі пісьменнікамі і рэдактарамі беларускіх літаратурна-мастацкіх часопісаў.

У навучанні творчасці заўсёды ёсць элемент нечаканасці, станоўчай ці — што ўжо хаваць — адмоўнай: адна з навучэнак, выконваючы творчае заданне, раптам знайшла сваё пісьменніцкае пакліканне, іншая ж, наадварот, — усвядоміла марнасць сваіх літаратурных намаганняў. Гэта не закладзена ў вучэбны план, але можа здарыцца з кожным.

Акрамя творчых момантаў, звязаных з вучобай, могуць адкрывацца і кар’ерныя перспектывы, калі трэба кіраваць ці супрацоўнічаць з літаратурнымі СМІ, займацца менеджментам на літаратурным рынку (так, напрыклад, атрымала адпаведную кваліфікацыю намесніца галоўнага рэдактара часопіса «Вясёлка» А. Радзікевіч).

## «БРАМАМАР»: ПЕРШЫ КРОК ДА МАРЫ

Лепшым студэнцкім праектам года ў БДУ быў названы Рэспубліканскі конкурс творчасці студэнтаў «БрамаМар». Сёлета, у 2013 годзе, каманда студэнтаў і выкладчыкаў (ад пачатку куратарамі праекта ад кафедры былі У. Капцаў, М. Аляшкевіч і А. Бязлепкіна), запросіць да ўдзелу ў конкурсе і школьнікаў.

У 2010 годзе згуртавалася суполка студэнтаў (многія з якіх ўжо скончылі ўніверсітэт і перадалі эстафету маладзейшым кале

**Немагчыма замовіць пісьменніку твор, але часам на літаратурны працэс можна ўплываць апасродкавана, напрыклад, абвясціць конкурс — і натхніць на творчасць 300 чалавек**

**У навучанні творчасці заўсёды ёсць элемент нечаканасці, станоўчай ці — што ўжо хаваць — адмоўнай: адна з навучэнак, выконваючы творчае заданне, раптам знайшла сваё пісьменніцкае пакліканне, іншая ж, наадварот, — усвядоміла марнасць сваіх літаратурных намаганняў**

гам), кіраўніцтва Інстытута журналістыкі БДУ у асобе С. Дубовіка падтрымала ініцыятыву — і конкурс можна было пачынаць.

Можна было б спытаць, чаму літаратурны конкурс праводзіцца на журфаку? Таму што для яго арганізацыі патрабаваліся магчымасці, якія ёсць менавіта ў Інстытуце журналістыкі (фотастудыя журфака і некаторыя рэсурсы тэлецэнтра БДУ былі задзейнічаны для стварэння конкурсных фота- і відэаматэрыялаў). Мы скарысталіся спецыялізацыяй свайго інстытута — і трапілі на тэлебачанне, у тым ліку інтэрнэтнае. Уплывовыя электронныя СМІ падтрымалі арганізатараў конкурсу: выйшлі сюжэты на тэлеканале АНТ і на тэлеканале партала tut.by.

Наш літаратурны конкурс падтрымалі пісьменнікі, якія ўзначальваюць уплывовыя выданні: У. Ліпскі, галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка»; А. Карлюкевіч, дырэктар холдынга «Звязда». Членамі журы ў розныя гады былі кандыдат філалагічных навук, празаік, драматург П. Васючэнка; кінакрытык, загадчык кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Л. Саянкова; літаратурны крытык, кандыдат філалагічных навук І. Шаўлякова; празаік, мастацтвазнаўца Г. Багданава; літаратурны аглядальнік газеты «СБ. Беларусь сегодня», пісьменніца Л. Рублеўская; кандыдат філалагічных навук Г. Паўлоўская; перакладчыца, кандыдат філалагічных навук М. Казлоўская; крытыкі Л. Перагудава, М. Аляшкевіч, А. Мальчэўская; пісьменніца, загадчык рэдакцыі дзіцячай літаратуры выдавецтва «Мастацкая літаратура» А. Масла; літаратар, дырэктар выдавецтва «Галіяфы» З. Вішнёў: паэтка, галоўны рэдактар газеты «ЛіМ» Т. Сівец; пісьменнікі Р. Баравікова, Д. Строцаў, Віка Трэнас, Анка Упала, А. Кавалеўскі.

Немагчыма замовіць пісьменніку твор, але часам на літаратурны працэс можна ўплываць апасродкавана, напрыклад, абвясціць конкурс — і натхніць на творчасць 300 чалавек. А потым правесці адмысловы 2 тур, для якога 10-і фіналістам у кожнай намінацыі прапаноўваецца творчае заданне. Арганізатары конкурсу вырашылі, што варта выхоўваць густ канкурсантаў і заадно знаёміць іх з супрацоўнікамі буйнейшых беларускіх літаратурных выданняў, таму паміж двума турамі традыцыйна праводзіцца літаратурная вучоба для ўсіх ўдзельнікаў конкурсу, майстар-класы членаў журы, сустрэчы з пісьменнікамі, лекцыі па сучаснай літаратуры, разборы творчасці канкурсантаў. Творы фіналістаў былі надрукаваны, а Дзмітрый Баяровіч, адзін з пераможцаў «БрамыМар-2011» нават наважыўся на выданне ўласнай кнігі «Шалі» ў выдавецтве «Галіяфы».

**«КАФЕДРА, Я ЛЮБЛЮ ЦЯБЕ!»**

Часам мы пытаем самі сябе: Чаму мы ладзім столькі мерапрыемстваў? Чаму ў свой выходны нехта з калег можа прыйсці на кафедру проста так? Чаму мы абменьваемся фільмамі, кнігамі і абмяркоўваем іх? Чаму замежныя даследчыкі, прышоўшы па параду на кафедру, атрымліваюць кансультацыю не ад аднаго, а ад двух-трох выкладчыкаў?

Навошта на кафедры стаіць торбачка з паперкамі, на якіх надрукаваны натхняльныя афарызмы? Чаму лабарант Кацярына падкармлівае калег яблыкамі? Чаму мы ходзім са студэнтамі ў кіно і тэатр? Хто мы адно аднаму: калегі ці яшчэ і сябры?

Аднойчы пасля натхнёнага суботніка з перастаноўкай мэблі калега агледзела кабінет і сказала: «Кафедра, я люблю цябе!» І мы больш не задаём непатрэбных пытанняў.

***Карысныя спасылкі:***

*Сайт кафедры: http://litart.by*

*Суполка кафедры «УКантакце»: http://vk.com/kaflmk*

*Суполка конкурсу «БрамаМар» «У Кантакце»: http://vk.com/bramamar*














**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**





● **Нам цікава!**

# Чалавек і ўніверсітэт



***Чэрвеню — стаць малінамі ў ліпені. Шчасліваму чарвяку на асфальце — быць выратаваным. Ну, а школьніку — ператварыцца ў студэнта!***

***Звычайна школьнікі ператвараюцца ў студэнтаў, мараць стаць студэнтамі. Таму студэнты цікавыя школьнікам... Будзем даваць выказацца беларускім студэнтам на старонках падлеткавай «Бярозкі». Зазірайце ў чыйсьці жыццёвы досвед і знаходзьце там сябе!***

***Хлопцам і дзяўчатам з розных універсітэтаў задаваліся наступныя пытанні: «Ці ўсвядомлена ты выбраў ВНУ?», «Дзеля чаго ты вучышся?», «Што ты будзеш рабіць пасля вучобы?»***

**Андрэй Янкоўскі, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі:**

— Усё рабіў асэнсавана, таму што ведаў, што менавіта ў гэтым месцы рыхтуюць самых крутых праграмістаў. Пачынаў вучыцца дзеля таго, каб атрымаць свайго роду штуршок у патрэбным напрамку, атрымаць практычнае ўяўленне пра сваю прафесію. Я меў жаданне зразумець, што трэба рабіць, каб стаць прафесіяналам. Цяпер я працягваю навучанне, каб прабавіць час. Маладым я буду не заўсёды, навошта працаваць раней? Усё будзе ў свой час, а сёння трэба атрымаць тыя веды, якія дае ўніверсітэт. І пажадана не патрапіць у войска. А пасля ўніверсітэта — працаваць, бо мяне чакае размеркаванне. Потым, верагодна, працягну працаваць, але не абавязкова, што ў тым жа напрамку. А раптам мяне напрыканцы вучобы пацягне стаць кандыдатам навук, хто ведае?

**Аляксандра Піскун, Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт:**

— Прафесію медыка выбрала асэнсавана. Бацькі мяне ніколі не прымушалі ісці ў медыцыну, а наадварот, адгаворвалі. Але гэта прафесія, у якой я бачу сябе ў будучыні. І вучуся я цяпер дзеля таго, каб потым стаць добрым спецыя-



лістам. Яшчэ жадаю добра зарабляць сабе на жыццё, куды ж без гэтага? Як скончу, буду адпрацоўваць тры гады па размеркаванні. А потым ужо буду сыходзіць глыбей у маю спецыялізацыю, але ўжо, напэўна, на якой-небудзь іншай працы.



**Гражына Гузік, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт:**

— Я зрабіла асэнсаваны выбар прафесіі. Вырашыла стаць журналістам у сёмым класе, таму і паступіла на журфак, хоць мяне ўсе і адгаворвалі. Я вучуся дзеля таго, каб быць адукаванай. Я маю зносіны з людзьмі, якія вучацца і якія вырашылі не паступаць у ВНУ, бо «гэтая вышэйшая адукацыя нічога не дае». Дык вось, памыляецеся, дае! З адукаванымі людзьмі больш цікава!

**Яна Тарасевіч, Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт:**

— Мой выбар месца навучання быў асэнсаваным. Не адразу вызначылася, пыталася, раілася са знаёмымі. Вучуся дзеля таго, каб стаць прафесійным перакладчыкам. Але я не ўпэўнена, што ўніверсітэт здольны мне дапамагчы ў гэтым. Першыя два гады буду адпрацоўваць па размеркаванні, а потым планую працягваць працаваць па прафесіі. Мабыць, неабходна будзе прайсці перападрыхтоўку.

**Уладзімір Гашко, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт:**

— Паступаў абсалютна асэнсавана! Больш таго, я з восьмага класа меў мару паступіць на факультэт прыкладной матэматыкі і інфарматыкі. Вучуся дзеля таго, каб атрымаць веды. На нашым факультэце нават няма завочнага аддзялення, бо наўрад ці нехта змог бы вывучыць усе нашыя дысцыпліны самастойна. Пасля вучобы планую працаваць праграмістам, атрымліваць досвед. Ну, і далей заставацца ў IT-сферы, але ўжо на кіруючых пасадах.

**Кацярына Ярмак, Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт:**

— ВНУ я выбрала неасэнсавана. У той час асабліва не думала, куды паступаць, таму што яшчэ не ведала, кім жадаю быць. А яшчэ ў той год былі даволі высокія конкурсы... Вучуся толькі дзеля таго, каб мець магчымасць атрымліваць высокі заробак, а без вышэйшай адукацыі нікуды не ўладкуешся. Планую ісці вучыцца далей па спецыяльнасці, якая мне больш спадабаецца.

*Апытанне правёў*
***Дзяніс ВАЛЯНСКІ***

# Захапляльна дасціпныя сюжэты

Бывае так, што, калі чытаеш якуюсь кнігу, то радуешся і смуткуеш з галоўным героем. Але калі кніга скончылася, то прыгадаць няма чаго. Не, можна, вядома, узгадаць змест, герояў і падзеі, але чагосьці галоўнага пасля сябе кніга не пакінула. Душа кнігі не зачапіла цябе!

З усіх прачытаных мною кніг я хацеў бы вылучыць некалькі, якія пакінулі глыбокі след у памяці. Першая — гэта навелы О'Генры. Майстар кароткага аповеду, ён прымушаў мяне не адзін раз дзівіцца, захапляцца сваім бліскучым уменнем ствараць нечаканыя і яркія фіналы. Бо чытаеш часам кнігу, а чым скончыцца ведаеш ледзьве не з самага пачатку. У О'Генры такога няма. Героі яго апавяданняў, ад валацугі да банкіра, трапляючы ў штодзённыя сітуацыі, выходзілі з іх нечакана, парадаксальна, часам смешна, а бывала і трагічна. Узяць навелу «Апошні ліст». Маладая мастачка Джонс памірае ад запалення лёгкіх. Адзінае, што яна можа бачыць у акне, дык гэта плюшч з лістотай, якая ападае. І калі самы апошні ліст упадзе, Джонс памрэ. Але надышла ноч, пачалася навальніца, скуголіў моцны вецер, ліў дождж. Апошні лісточак, як ні дзіўна, усё трымаўся. Прайшло некалькі дзён, а ён усё яшчэ быў на месцы. І Джонс, вырашыўшы, што гэта нейкі знак, пачала папраўляцца. У канцы мы даведаемся, што гэты ліст быў намаляваны старым непаспяховым мастаком. Аднак усё жыццё гэты чалавек марыў напісаць свой шэдэўр. І вось ён выратаваў Джонс коштам свайго жыцця! Усю ноч, калі ішла навальніца, Берман — а менавіта так звалі мастака — маляваў лісток, але прастудзіўся і памёр ад запалення лёгкіх.

Або ўзяць яшчэ адну навелу — «Квадратура круга». У ёй распавядаецца пра двух заклятых ворагаў, якія, высочваючы адзін аднаго, трапляюць у вялізны горад. Здзіўленыя цалкам новымі для абодвух абставінамі, яны ў канцы апавядання, нарэшце ўбачыўшыся, ідуць насустрач, каб паціснуць адзін аднаму руку! Ды ўзрадвацца сустрэчы са знаёмым табе чалавекам. Нечакана, праўда? Здаецца, ніколі б не падумаў, што так можа адбыцца, а О'Генры прыдумаў такое.

Апавяданні «Дарогі, якія мы выбіраем», «Фараон і харал», «Персікі», «Правадыр чырванаскурых» таксама надзвычай цікавыя!

Другая мая улюбёная кніга «Запіскі пра Шэрлака Холмса» Артура Конан Дойля. Чытаючы, дзівішся здольнасцям бліскучага дэтэктыва спадара Холмса, ягонаму дасціпнаму дэдуктыўнаму метаду. І часам здаецца, што непараўнальны галоўны герой сапраўды існуе, стоячы на варце закона. А нечаканыя раз-



вязкі апавяданняў Дойля нагадваюць яркія фіналы навелаў О'Генры. Узяць, напрыклад, апавяданне «Саюз рудых». Ён пачынаецца, як звычайна, з прыходу да Шэрлака Холмса чалавека — уладальніка пазычальнай касы пад імем Джабез Уілсан. Заўважная асаблівасць містара Уілсана — ярка-рудыя валасы. І вось рудавалосы госць распавядае дзіўную гісторыю. Аднойчы падначалены містара Уілсана Вінсэнт Сполдзінг прынёс яму газету з аб'явай пра свабодную вакансію ў «Саюзе Рудых», у якім, калі чалавек туды ўступіць, будзе нядрэнны заробак. Містар Уілсан прыйшоў па аб'яве і быў прыняты ў гэты клуб, але з вельмі дзіўнымі ўмовамі: з дзесяці да двух гадзін дня ён павінен сядзець у пакоі і перапісваць «Брытанскую энцыклапедыю» у алфавітным парадку. І калі хоць раз выйдзе з дому, тут жа будзе выключаны. Ішоў час, містар Уілсан перапісваў «Брытанскую энцыклапедыю», атрымліваючы законны заробак. Але аднойчы ён прыйшоў: дом зачынены, а чалавек, які даў гэтую працу, знік! Больш таго, такога чалавека ў Лондане не існуе і наогул ніколі не існавала. Як вы разумееце, у гэты момант у аповедзе з'яўляецца Шэрлак Холмс, які, прыйшоўшы да дому, дзе жыў руды джэнтльмен, аглядае бліжэйшыя будынкі (сярод якіх быў банк) і сустракаецца з памочнікам містара Уілсана Вінсэнтам Сполдзінгам, каб зірнуць на яго калені. Так, Холмс правільна здагадваўся, каленкі запэцканыя. Я думаю, што вы пра ўсё ўжо здагадаліся: уся ідэя з клубам была прыдумана Сполдзінгам для таго, каб Уілсан адсутнічаў на працы ў пазычальнай касе і ягоны падначалены мог зрабіць падкоп ў банк, збоку гэтай самай пазычальнай касы. Калі спасцігаць з кніжкай у руках увесь працэс расследавання, якое здзяйсняе дасціпны Холмс, то шмат задавальнення атрымліваеш!

А яшчэ ў майго ўлюбёнага пісьменніка Артура Конан Дойля ёсць «Абрад дома Месгрейваў», «Апошняя справа Холмса», «Выпадак у інтэрнаце»... Гады ідуць, а ўсё новыя чытачы ўражаны цікавымі сюжэтамі і проста геніяльнымі рашэннямі Шэрлака Холмса!

***Андрэй ГОЛУБ, 17 гадоў, Мінск***

● **Дзённічак**

# Блаславёная зменлівасць Каці

Мае дзённікі — мой бескаштоўны скарб! Цэлы стос агульных сшыткаў, чыя папера ўвабрала **МЯНЕ**! Мяне, якая змянялася, сталела. Змяняўся почырк: такі неахайны, абы-які ў 11 і ахайны, прыгожанькі ў 16. Але, вядома, не адзін почырк змяніўся, усё змянілася!

Я цікавая сама сабе — з ашчаднасцю захоўваю гэтыя агульныя сшыткі. Вось кніжку вершаў Басё магла б падараваць каму-небудзь, а дзённікі свае, бясконца родныя, — не падарую!

Мой першы рэгулярны дзённік датуецца 1998 годам (мне адзінаццаць, хаджу ў пяты клас). Апошні — 2008-м (дваццаць, студэнтка). На гэтым Эпоха Сшытка і Таямніцы Почырка завяршылася: у мяне з'явіўся LiveJournal у сеціве.

Можа быць, я таксама цікавая вам? Я адзінаццацігадовая, я чатырнаццацігадовая...

## Пяцікласніца

Дзённік Каці-пяцікласніцы каляровы: разнастайная гама гелевых асадак і наклейкі чамусьці зусім не ў тэму. Перадаю, злёгку адрэдагаваўшы, але з рускай мовы на беларускую пераклаўшы.

«**5.11.1998**

Цяпер мне хочацца паразмаўляць пра мяне, "Нірвану" ды і ўвогуле пра жыццё. А ў дзённіку я магу размаўляць пра ўсё што заўгодна. Такім чынам, размова пойдзе, як я ужо казала, пра мяне, "Нірвану" і жыццё. Чым больш я чытаю кніг, ды і ўвогуле, чым больш знаходжу інфармацыі пра "Нірвану", дакладней пра Курта, тым большай становіцца мая любоў да яго. Не, гэта не такое каханне, якое ўзнікае паміж мужчынам і жанчынай, а тая любоў, якая існуе, напрыклад, паміж мной і мамай. Хаця... не ведаю. Можа быць, да Курта я адчуваю проста сімпатыю. Але не каханне, якое ўзнікае паміж мужчынам і жанчынай, гэта дакладна. Бо ў такіх дзяцей, як я, такой love яшчэ няма. Цяпер мая запаветная мара быць падобнай да Курта. Нават быць такой, як Курт. Магчыма, мне гэта проста здаецца, але яшчэ мая запаветная мара — каб Курт быў жывы. Мае мары ніколі не спраўдзяцца... Курт не можа ўваскрэснуць. А такой, як Курт, я не стану. Не змагу гэтак жа спяваць,

пісаць вершы. Такіх, як ён, мала. Што за лухту я сёння напісала? Ды зрэшты, як і ў астатнія дні...»

Самыя крутыя і прыцягальна няправільныя падлеткі 1990-х насілі чорныя байкі з вялікай выявай гурта альбо проста спевака: Ягор Летаў (часта гэтыя хлопчыкі і дзяўчынкі называліся панкамі), Курт Кабэйн (гранжы). А яшчэ былі металісты (гурт Metallica) і рэйверы (The Prodigy). Але ж байку насіць... Для гэтага трэба быць па-сапраўднаму крутым і смелым! Войны, ворагі, своечужыя — такое ёсць не толькі ў свеце дарослых. Свет падлеткаў — зусім не Nirvana, што значыць «рай на зямлі». Рай на зямлі?.. Цяпер, абцяжараная рэлігійным ведамі, я б растлумачыла слова «нірвана» крыху інакш. Але ж тады, у другой палове дзевяностых, мы завучвалі менавіта такое. А яшчэ завучвалі дзень і месца нараджэння Курта, дату смерці рок-зоркі, усе-усе альбомы. Каб быць сапраўдным гранжом. Вось калі маеш смеласць насіць байку Nirvana! Тады, цалкам верагодна, да цябе можа падыйсці панк у байцы «Гражданская оборона» і з безапеляцыйнай, пужаючай сур'ёзнасцю запытацца: «А які быў першы альбом гурта Nirvana?» І калі ты не ведаеш... О божухна!.. Калі ганаровая байка ведамі не апраўдана... Не пазайздросціш гэтаму гранжу хлусліваму (які і не гранж зусім, а так!) у гутарцы з панкам. Такія непрыемныя здарэнні называліся «на мяне наехалі».

Увогуле, музычны фанатызм падлеткаў 1990-х быў усюдыісны: гэтыя надпісы на платах і ў ліфтах. «Курт — жыў! Курт — жывы! Курт — будзе жыць!» І змаганне таксама было ўсюдыісным. О, гэтыя надпісы на платах і ў ліфтах! І мы з сяброўкай так самавыяўляліся. А потым мой тата здагадаўся, давялося выціраць уласную творчасць анучай...

Вельмі хачу распавесці пра сваю байку Nirvana: з любімым да немагчымасці тварам Курта Кабэйна — блакітнавокі, самы прыгожы ў свеце і чамусьці сумны... Я цаніла сваю байку, але яна так і праляжала, ахайна і з неймавернай любоўю складзеная, выключна ў шафе. Ніколі не думала, што грошы дарма страціліся, што мой балахон прападае: у маёй шафе пасяліўся Курт! Але я не была па-сапраўднаму крутой і смелай, таму і не змагла швэндацца з тварам спевака па вуліцах... Хаця кніжкі чытаць пра рок-зорку — свяшчэнны занятак. Чытала іх з інтарэсам. Тое, што яго ўлюбёная жывёлінка чарапашка — гэта важна, кожная драбяза — важна.

Дома ў нас заўжды былі нумары папулярнай у тыя часы «Музыкальной газеты», бо цёця мая ў выдавецтве працавала. Нязменна гартала кожны нумар, але ж з адзіным намерам: адшукаць штосьці звязанае з маім шчасцем — Nirvanaй. Выразаць і захаваць — любы фотаздымачак, любую дробязную навіну. З часам сфера майго інтарэса пашырылася: рок-зорка Кортні Лав, жонка самага прыгожа ў свеце Курта, таксама пасялілася ў маім сэрцы. Цяпер і гэтае спалучэнне літар у інфармацыйным моры «Музыкальнай газеты» станавілася радасцю. А надалей — выразаць! Захаваць каштоўнасць!

Калі знаходзіла ў шапіку блакноцік з родным тварам альбо каляндарык, якога ў мяне яшчэ нямашака, мной нязменна авалодвала радасць. І, вядома, як заўжды, жаданне прыдбаць каштоўнасць!

Але я сталела, змянялася. Усё і ўсе змяняюцца ў гэтым свеце! Мне — непазбежных чатырнаццаць. Фанатызм да Курта трансфармаваўся ў вывучэнне такога музычнага напрамку, як гранж. Але любоў да рок-зоркі — цяпер куды больш спакойная — па-ранейшаму цякла ў крыві. Пра яе сведчылі, напрыклад, клятчастыя кашулі, рваныя джынсы з каляровымі латкамі, кеды — так апранаўся ён! А доўгавалосыя мужчыны і сёння, калі я ўжо дарослая, — для мяне прыгожа.

## Васьмікласніца

Жыццё — жывое. А гэта значыць: нараджаецца чалавек і змяняецца, штоімгненна змяняецца — жадае таго ці не. Нават калі падаецца, што чалавек зусім не змяніўся, хлусня: чалавек змяніўся!

Жыццё — падарожжа. І краявіды тут заўжды розныя, нават калі ў адным месцы штодзень засынаеш і прачынаешся. І няма такой сілы, якая б спыніла, прыпыніла. Жыццё — гэта штосьць неверагоднае.

Мае чатырнаццаць — піва, цыгарэты, рок-канцэрты, валасы яркарыжыя. І вострая адзінота, якой не было дагэтуль. Распачаўся нейкі новы пераходны ўзрост, як заўжды, нечаканы, непрадказальны. Да чатырнаццаці мой свет быў куды больш утульны, але і па памерах меншы. Хапала ўсяго лепшай сяброўкі, раніцы з мульцікам: «Эй, Арнольд!», кавы, глазіраваных сыркоў і школкі. Ну, вядома, здараліся плямінкі ў жыцці. Але ж пасціраў, памыў, усё больш-менш камфортна! І не было ў маім свеце аніякай тужлівай абыякавасці восені ды непрытульнасці восеньскіх дажджоў. А ў чатырнаццаць — быццам абудзілася. Падзьмуў невядомы дагэтуль вецер неабдымнага жыцця: часам прахалодны, а часам сцюдзёны. Больш шэрані ў жыцці, больш допісаў у дзённіку. Я дазналася, што свет нашмат большы, чым сяброўка ды аднакласнікі. Ды і аднакласнікі зусім не цікавыя, глядзяць серыялы, апранаюцца банальна, а школка — бессэнсоўная нуда. Штосьці змянілася ўва мне, але і вонкавае школьнае жыццё непазбежна мянялася: з'явілася хімія, ускладнёная фізіка, інфарматыка і матэматыка ў пакутлівай колькасці (мой клас быў эканамічны). За нейкія тры летнія месяцы знік інтарэс быць добрай вучаніцай, я адставала ў вучобе, гарманічнае функцыянаванне ў школьнай сістэме завяршылася... Свет вакол (няхай я і не магу знайсці ў ім цёплае, прыемнае месца!) куды больш загадкавы, чым гульня ў ацэнкі і фізіка з матэматыкай, якія — непатрэбным цяжарам у заплечніку. Некаторыя настаўнікі таксама сталі варожымі: я ж больш не жадала прымаць удзел у іхніх гульнях.

— Так, у восьмым класе я стала горш вучыцца... Але што гэта, па сутнасці, змяніла? — разважала я перад выкладчыкам на «Чалавеку і грамадстве».

І яшчэ... Тэма «хлопчыкі» ў восьмым класе стала іншай. Была ў мяне закаханасць у 11—13 гадкоў: такія салодкія, прыгожа-паветраныя мроі пра аднаго разняволенага выдатніка з паралельнага класа. Але ж Антось быў надзвычай прыемным, недасягальным вобразам. Набраць яго нумар, памаўчаць




у слухаўку... Я проста піла сваю водарную самадастатковую закаханасць ды радасна ап’янялася.

Як высветлілася, чатырнаццаць гадоў — гэта зусім не трынаццаць і не дванаццаць. Зусім іншая Каця!

Сталела. Ды гэта чамусьці прыносіла душэўную няўтульнасць і новыя, вельмі сур’ёзныя дзіркі ў душы, залатаць якія ніяк не атрымлівалася. Халодныя, пранізліва халодныя скразнякі... Хлопчыкі — доўгавалосыя, часам яны гралі ў гуртах — абавязкова мусілі прысутнічаць у нашым з сяброўкай жыцці. Але ж яны не прысутнічалі! І гэта ўжо не ап’яняльная самадастатковая закаханасць, як у дванаццаць. Гэта — пакутлівая адзінота.

**«19.08.2001**

“Можна з вамі пазнаёміцца?” Як доўга я чакала гэтага пытання! І вось учора яно са мной здарылася, а я збегла ад яго, як апошняя ідыётка.

Ішлі з Жэняй па Парку Горкага. І тут бачу: перагароджваюць нам дарогу два хлопца, аднаго з іх я ўжо бачыла на рок-канцэрце. Глядзяць на мяне і ўсміхаюцца. Канешне, я ж у рваных джынсах была. Ну, я і думаю: альбо пазнаёміцца хочуць, альбо наехаць. Аказалася, што першае. Спачатку ўсё нармалёва...

— Каця.

— Жэня.

— Шут.

— Шурык.

Бухія, праўда, яны былі. Ледзь на нагах стаялі.

— Пойдземце пасядзім, — сказаў Шут. Але мы так і не пайшлі, бо Шурык гэты ўжо сядзеў на скамейцы і ванітаваў, а Жэня мяне ўзяла і адцягнула ад іх. А цяпер я шкадую. Шкада, вельмі шкада. Новыя знаёмыя не перашкодзяць ніколі. Тым больш, што яны цалкам нармалёвыя былі. Гадоў чатырнаццаць-пятнаццаць, адзін у “Кароль і шут”, а другі, Шурык, у “Metallica”.

**«5.11.2001**

Не буду пісаць пра сённяшні дзень. Хаця, у прынцыпе, ёсць пра што. Не буду, бо проста не магу. Няма ні жадання, ні моцы. Нічога няма! Ладна, гэта я, вядома, перабольшваю. Але моцы сапраўды больш няма! Няма моцы трываць усю гэтую бязглуздзіцу. Учора бачылі такога хлопца з дзеўкай, потым той валасаты чувак з курткай “Панк — маё жыццё”... І ўсё гэта замест радасці прынесла мне толькі адчай. Мы ні з кім не тусуемся, нікога не ведаем. Калі ж усё гэта скончыцца? Крыс — наш адзіны знаёмы, ды і той лічыць нейкімі гопнікамі і нават не вітаецца. Я больш не магу! І гэта ж трэба: адзін нейкі rock-канцэрт (першы ў маім жыцці!) усё так змяніў. Жыла я сабе ціхенька, слухала рок, а на панкаў усялякіх і не глядзела. Нават і не думала пра тусоўкі. А потым гэты rock-канцэрт, на які мы трапілі выпадкова, набыўшы перад самым мерапрыемствам “Музыкальную газету”.

З гэтага ўсё і пачалося... Дурацкае цікаванне за рознымі доўгавалосымі хлопцамі, панкамі і таму падобным народам ды пустыя мары. Хутка я пачала смаліць і бухаць, хаця раней нават на піва глядзець не магла. Змяніла свой імідж. То бок рваныя джынсы я насіла і да rock-канцэрта, але ж думала, што гэта ўсяго толькі на лета і з надыходам навучальнага года зноўку апрануся ў свае “ранейшыя” транты. Але выйшла інакш. Скончылася лета, а жаданне вяртацца да “гопства” ў мяне так і не ўзнікла.

Я ведаю, пройдуць гады і ўсе гэтыя праблемы будуць здавацца поўнай лухтой, але цяпер для мяне гэта сапраўды важна.

Вераніка Аляксееўна мела рацыю: “Назірайце ўлетку за сваімі дзецьмі, бо потым вы іх можаце проста не пазнаць”. Так адбылося і са мной. Кім я была напачатку канікулаў і кім стала напрыканцы? Руплівая, амаль выдатніца дзяўчынка, цяпер я палю, п’ю піва і бегаю за панкамі, сама ствараю сабе праблемы».

Цыгарэты, піва і рок-канцэрты — гэта таксама аказалася часовым. Атрыбут маіх чатырнаццаці, якія, вядома ж, скончыліся. Адзінота таксама растварылася. Марыла пра валасатых хлопчыкаў і мноства сяброў — яно прыйшло! Дарма толькі пакутавала. А потым пятнаццаць, шаснаццаць... Дваццаць... Колькі Каць, колькі гісторый, колькі жыцця!

Усё змяняецца — і гэта разумна, гэта цікава. Рада, што больш не п’ю піва і не лічу прэстыжным смаліць. Сышло, само па сабе, без удзелу і выхавання бацькоў.

Змены ў дарослыя гады не такія неверагодныя і рэзкія, як у падлеткавыя. Аднак і з дарослым чалавекам штоімгненне нешта адбываецца.

...Нават калі падаецца, што чалавек зусім не змяніўся, хлусня: чалавек змяніўся!

*Кацярына **БЕЗМАЦЕРНЫХ***

# Конкурс Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь

***Прадстаўляем сачыненні на тэму «Кніга — мой лепшы сябар» у двух узроставых катэгорыях***

## II месца

**Узроставая група 13—16 гадоў**

### «Калабок», Остэр, Чэхаў — неўміручыя хіты!

Я вельмі здзівілася, калі мне прапанавалі напісаць сачыненне на такую тэму. Дзіўная тэма і зусім не сучасная. Але ж я ўчытваюся: «Кніга — мой лепшы сябар». Здаецца, пачынаю адчуваць глыбокі сэнс, закладзены ў гэтыя словы. І вось я ўжо зацікаўлена і з радасцю распачынаю пісаць сваё сачыненне.

Кнігі заўжды былі са мной, з самага нараджэння. Матуля чытала мне казкі, калі я была яшчэ зусім маленькай. Гэта былі вялікія, маляўнічыя выданні з яркімі карцінкамі: «Калабок», «Чырвоны Каптурок», «Дзюймовачка», «Малы і Карлсан», «Казка пра цара Салтана», «Снягурка», «Аліса ў краіне цудаў»... Не ведаю нават, што мяне больш за ўсё зачароўвала: тэкст казак альбо малюнкі ды прыгожае афармленне. Але ж я кожны дзень прасіла маму ці тату, бабулю ці дзядулю пачытаць мне. Многія з тых дзіцячых кніг захаваліся, ляжаць і цяпер на кніжнай паліцы. Бывае, што я дастаю іх, разглядаю карцінкі. Адчуваючы пад пальцамі мяккі глянец старонак, быццам вяртаюся ў дзяцінства і зноў адчуваю сябе маленькай. Можа, калі-небудзь гэтыя самыя кнігі я буду чытаць сваім дзецям.

Адзін з запамінальных «кніжных» момантаў майго жыцця — гэта з'яўленне «Буквара». Першы клас — гэта залатая часіна, калі ў школе не задавалі хатніх заданняў і не ставілі адзнак. Часу вольнага — шмат! Чытаць я ўжо ўмела добра, гэта стала маім улюбёным заняткам. Буквар я прачытала хутка, дзіцячыя кніжкі мне сталі ўжо нецікавыя. Замест сваёй кніжнай паліцы я ўсё часцей стала зазіраць у бацькоўскую кніжную шафу. Кнігі там усе старыя, выдадзеныя дваццаць, сорак, шэсцьдзясят гадоў таму. Спачатку я не ўмела выбіраць кнігі, іх гэтак шмат. І я брала тыя, у якіх вокладка яркая. Але ж яны ў большасці выпадкаў аказваліся нудотнымі. Мама заўважыла, што я чытаю «дарослыя» кнігі — і сама стала раіць, якую кнігу ўзяць. Так, паступова, у маім жыцці з'явіліся Джані Радары і Вальтэр Скот, Жуль Верн і Станіслаў



Лем, Кір Булычоў і Юры Алёша, Даніэль Дэфо і Рэдзьяр Кіплінг, Янка Маўр і Леў Касіль.

Больш за ўсё мне падабаліся кароткія смешныя апавяданні Чэхава, Зошчанкі. Увогуле, літаратурныя творы, у якіх прысутнічае гумар, мне падабаюцца больш за ўсё. Толькі гумар мусіць быць добрым, не анекдоты якія-небудзь. Нядаўна я прачытала «Дванаццаць крэслаў» і «Залатое цялё» Ільфа і Пятрова. Вось гэта кніга! Столькі крылатых фраз, неверагодны гумар. Стала шукаць іншыя творы гэтых аўтараў, але, на жаль, нічога не знайшла. Няўжо гэта ўсё, што яны напісалі?

За гады вучобы ў школе мне шмат разоў даводзілася рыхтаваць рэфераты, даклады, паведамленні. А гэта значыць, што я чытала не толькі мастацкую літаратуру, але і навукова-пазнавальную. На маёй паліцы з'явіўся цэлы шэраг кніг серыі «Я спазнаю свет». Высветлілася, што чытаць іх падчас нават нашмат цікавей, чым прыгоды і фантастыку. Акрамя таго, у мяне ёсць «Школьная энцыклапедыя», якая часта дапамагае мне ў падрыхтоўцы хатніх заданняў, а таксама некалькі кніг серыі «Усё для дзяўчынак».

Асобна я хацела б паразмаўляць пра паэзію. Лічу, што вершы — гэта не проста літаратура, гэта нешта большае. Я чую ў іх музыку, бачу жывапіс, адчуваю неверагодную гармонію, дасканаласць, прыгажосць. Па сёння памятаю простыя радкі Сяргея Міхалкова, Самуіла Маршака, Агніі Барто. Яны так лёгка запамінаюцца! Настолькі дакладныя і лаканічныя, што, прачытаныя ў дзяцінстве, застаюцца ў памяці назаўжды. Ужо пісала, што люблю смешную літаратуру. Таму мае ўлюбёныя паэты Рыгор Остэр і Іван Крылоў. І, вядома ж, Пушкін — найвялікшы паэт усіх часоў і народаў. Я расла, развівалася сталела разам з ягонымі вершамі, ад «Казкі пра рыбака і рыбку» да «Яўгена Анегіна». Я, прызнацца, таксама спрабую пісаць вершы, але яны пакуль не вельмі добра ў мяне атрымліваюцца, таму я іх нікому не паказваю.

Мы жывём у часы буйнога развіцця навукі і тэхнікі, у нашае жыццё трывала ўвайшлі камп'ютары, мабільныя тэлефоны, сеціва. Існуе меркаванне, што

старыя добрыя кнігі сыходзяць у нябыт. Бесспрэчна, што людзі сталі меней чытаць. Ёсць нават такія, якія не чытаюць зусім. Мне шкада тых, у чыім жыцці няма кніжак. Бо такія людзі пазбаўляюць сябе вельмі захапляльнай і прыемнай часткі жыцця. Толькі ўявіце: доўгі зімовы вечар, за акном завіруха, а ў пакоі мяккае святло настольнай лямпы. Перад вамі кубак гарачай гарбаты з цытрынай і добрая, надзвычай цікавая кніга. Ні з чым непараўнальнае задавальненне! Дарэчы, сеціва, на мой погляд, неабходна сапраўдным аматарам чытання, бо з яго дапамогай нам становіцца даступна ўся сусветная літаратура!

Нечакана для сябе самой я так захапілася гэтым сачыненнем, што магла б пісаць яшчэ доўга. Але ж трэба завяршаць.

Чытаць, чытаць і яшчэ раз чытаць! Кнігі робяць наш свет больш займальным, больш каляровым...

*Таццяна САФРОНАВА, Магілёў*

# III месца

**Узроставая група 13—16 гадоў**

## Раней кнігі ўпрыгожвалі каштоўнымі камянямі...

Не верыцца, зусім не верыцца, што калісьці былі часы, калі я не ўмела чытаць. І кнігі мне чыталі бацькі. Асаблівую ўзрушанасць тады выклікалі кульмінацыйныя моманты. А самыя ўпадабаныя ўрыўкі я вучыла на памяць.

Непазбежна тое, што ў хуткім часе я і сама навучылася чытаць. І ўжо нішто і ніхто не маглі адарваць мяне ад Кнігі! Перачытваючы некаторыя творы наноў, я ўвесь час адкрывала нешта новае для сябе. І пачынала разумець, што насамрэч кніга — мой лепшы сябар!

Я сталела, змянялася і Кніга ў маім жыцці. Дзіцячыя казкі паступова змяняліся дэтэктывамі, раманамі, фантастыкай і школьнай праграмай. Разам з кнігай змяняўся мой светапогляд, змяняўся характар у лепшы бок. Ну, а калі з'явілася сеціва... Нават яно не засланіла Кнігу!

Не ведаю чаму, але мне ніколі не падабаліся кнігі ў электронным фармаце. Няма ў электроннай кнігі той магіі, якая ёсць ў сапраўднай, неэлектроннай. Чытаць кнігу, трымаць яе ў руках, мацаць пальцамі старонкі, удыхаючы іх пах. Хаця, канешне, электронныя кнігі не менш карысныя, чым традыцыйныя.



Цяпер мы сталі разбэшчанымі. Так шмат інфармацыі, так шмат уражанняў! А раней Кнігі паважалі. Яны былі цяжкімі, амаль непад'ёмнымі, упрыгожа-

ныя каштоўнымі камянямі. Людзі лічылі, што кнігі — вялікая каштоўнасць, якая хавае ў сабе ўсе таямніцы жыцця: любоў і мужнасць, мудрасць, радасць, адданасць... Вось пачытаеш і ведаеш, што ты не адзін у гэтым свеце. Што ёсць яшчэ і іншыя людзі, іх радасці і пакуты, чымсьці да тваіх падобныя.

Мала хто сёння захапляецца чытаннем. А шкада...

***Марына АСТРАВЕЦКАЯ, Магілёў***

**Узроставая група 10—12 гадоў**

Я з кнігай па жыцці іду ў нагу,
Я з ёй ніяк расстацца не магу.
Яна мой настаўнік і лепшы мой друг,
Яна пра жыццё мне раскажа наўкруг.

Гісторыю старую з ёй вучу,
З Гагарыным у космас палячу,
На дно якіяна спушчуся
І на Джамалунгму ўзбяруся.

Мне з кнігай любая краіна бліжэй:
Італія, Францыя і USA.
Я з ёю ўвесь свет і сем цудаў прайду,
Адказ на любое пытанне знайду.

І ў казачны свет, і ў прыгоды
Я зноў забрыду, як заўсёды.
Хто сябра, хто вораг дазнацца —
Патрапіць яна разабрацца.

Мне кніга патрэбна задачкі рашаць,
І грамату разам мы будзем вучыць,
Я з ёй што заўгодна магу змайстраваць,
Мне з ёю цікава і весела жыць.

І ў школе, і дома ўсё з ёю на «пяць»,
Лепшага сябра — яшчэ пашукаць.
Без кнігі на свеце, сябры, ну ніяк!
Чытайце — і марце, стварайце. Вось так!

***Мікіта СТЕШЫЦ, Мінск***

# Пра маё першае каханне



Першае каханне — самае запамінальнае. Я памятаю свае першыя пачуцці, быццам гэта было ўчора, хоць і мінула ўжо шмат часу.

Гэта адбылося ў дзіцячым садку, калі мне было ўсяго чатыры гадкі. Яго звалі Лёша, і ён быў крыху старэйшы за мяне. Мы адразу спадабаліся адно аднаму. Я была маленькай, жвавай, белавалосай дзяўчынкай і сярод хлопчыкаў карысталася ўвагай. Лёша — самым прыгожым у групе, і было прыемна, што ён аддаў сваё сэрца менавіта мне. Дзяўчынкі зайздросцілі і нават рабілі розныя непрыемнасці. Напрыклад, аднойчы, калі я спала, яны кінулі мне ў валасы жвачку, і маме давялося яе выстрыгаць.

Адносіны ў нас былі мілыя. Калі я прыходзіла, ён выбягаў, браў мяне за руку і вёў у групу. Памятаю, як аднойчы Лёша цмокнуў мяне ў шчаку і сказаў самыя дарагія на той момант словы: «Я цябе кахаю». Вядома ж, я адказала гэтак жа, дадаўшы, што, калі мы вырасцем і ён пойдзе служыць у войска, я буду чакаць яго.

Але казка хутка скончылася... Мы пайшлі ў першы клас і больш не сустракаліся. Спачатку я доўга плакала, але ў школе зноў закахалася, ды больш пра хлопчыка з садка не згадвала.

Парадокс у тым, што праз 10 гадоў мы сустрэліся з Лёшам і працягнулі адносіны. Мусіць, вы думаеце, што гэтым разам будзе шчаслівы канец, але ж — не. Людзі сталеюць і мяняюцца. Нас звязвалі толькі ўспаміны пра дзяцінства, пра тыя адносіны. Але мы абодва сталі іншымі, таму доўга разам быць не змаглі.

Дзіўная гэта рэч — каханне...

***Настасся СКРЫЦКАЯ,***
***школа журналістыкі «Маладзік», г. Маладзечна***

# Што там, за сімпатычнымі дзверцамі?



Усё часцей параўноўваеш людзей з дзвярыма. Знаёмішся і бачыш сімпатычныя дзверцы з медным нумарком ў завітушках. Штурхаеш, а за імі маленечкі пакойчык памерам тры метры на два. Пагутарыў і адчуваеш, як цесна ў кампаніі чалавека, як сумна сярод паліц з прыгожымі карцінамі і плюшавымі мядзведзямі. А бывае наадварот: адкрыеш абадраныя дзверы, а там — цэлы сусвет: каметы, планеты, Млечны Шлях... Але такіх, на жаль, мала. Звычайна за дзвярыма — нядужа цікавы пакойчык.

Рыбы маўчаць і начамі не спяць.
Адразу відаць, што жудасна пакутуюць,
бо ніхто не чуе ў пустэльным моры,
як сэрцы іх рыпяць і галосяць.
Што ж шукаюць яны ў халоднай плыні?
Думаю я, што шчаслівыя дні і простае забыццё.
Мне здаецца па вечарах, часам, што мяне зрабілі рыбай...

Вельмі шкада, што людзі губляюць людзей. Калі спачатку жартуюць разам, а потым нават не вітаюцца, калі стэлефаноўваюцца штодзень, а потым выдаляюць нумары, калі называюцца сябрамі, а потым аказваюцца нікім, — шкада. І нічога зрабіць тут не можаш: усё гэта крыўдна. Многія сцвярджаюць: «У мінулае не вяртайся», а часам так хочацца.

Для таго, каб змяніць сваё жыццё, не патрабуецца месяц, год ці дзесяцігоддзе — жыццё можа змяніцца ў адно імгненне. Гэта здараецца ў той момант, калі ты ў самай глыбіні сваёй душы прымаеш цвёрдае рашэнне больш не задавальняцца станам пасрэднасці і прысвяціць сябе таму, каб пражыць менавіта той лёс, які табе прызначаны.

Проста мы чужыя людзі, якія выпадкова прайшлі разам нейкі адрэзак шляху, так і не зразумеўшы адно аднаго. Напэўна, у кожнага ёсць такі чалавек, з якім усё планавалася, але не здарылася. З якім загадвалася, але не спраўдзілася.

***Таццяна КАРПЕКА, 16 гадоў, Барысаўскі раён***

● **Думкі ўголас**

# Пакуты вулічнага дварняка

Сёння я ішла па вуліцы і ўбачыла галоднага бяздомнага сабаку. Разумею, што гэта не адзіны такі сабака, але чамусьці менавіта ён закрануў маё сэрца. Хацелася б запытацца: чаму мы падчас выкідаем тых, каго ўжо забралі дадому? Бывае, што нехта бярэ жывёлу проста пагуляцца, а калі хатні гадаванец надакучвае ці вырастае, дык, не задумваючыся, жорстка выкідвае яго на вуліцу. Можа, таму, што ведае: яму за гэта нічога не будзе. Жылі б мы ў Амерыцы або Францыі, дык атрымалі б штраф. У нашай жа краіне пакаранняў за такі ўчынак няма.

А яшчэ ў Беларусі сумная сітуацыя з прытулкамі. У большасці гарадоў іх увогуле няма, хаця яны так патрэбны!

Мяркую, што любоў да жывёл мусіць закладвацца праз выхаванне. Калі дзіця бачыць, што бацькі дазваляюць сабе біць жывёлу, выкідаць на вуліцу або ўсім сваім выглядам і стаўленнем паказваюць, што яна быццам бы і не жывая істота, дзіця ў такім выпадку можа ўзяць прыклад з бацькоў.

Я знаёмая з людзьмі, якія дапамагаюць бяздомным жывёлам. Такія людзі вельмі добрыя, заўжды кормяць галодных котак і сабак на вуліцах. Часам забіраюць іх дахаты, лекуюць і аддаюць у добрыя рукі. На вялікі жаль, такім валанцёрам ніхто не вылучае грошай.

Неяк у Беларусь прыязджалі замежнікі. Яны былі здзіўлены нашай сітуацыяй, бо ў сваёй краіне ўжо забыліся, што такое жывёлы-валацугі. Многія з нас сцвярджаюць, што трэба мяняць наша заканадаўства. Згодна! Сапраўды варта ўнесці папраўкі ў законы пра абарону жывёл. І стварыць яшчэ некалькі прытулкаў на тэрыторыі рэспублікі.

Але, канешне ж, у першую чаргу трэба пачаць з сябе. Запомніць некалькі жыццёвых правіл: нельга выкідаць котак і сабак, пазбаўляць іх жыцця, здзекавацца. З дзяцінства выхоўваць у сабе адказнасць, уважлівасць. І вучыць дзяцей таму, што жывёлы — гэта такія ж істоты, як і мы, яны гэтак жа хочуць есці і піць, маюць патрэбу ў падтрымцы і клопаце. Калі кожны будзе прыгадваць пра гэта сваім дзецям і самому сабе, то свет зменіцца ў лепшы бок.

Шмат хто з нас купляе дарагіх жывёл. Напрыклад, шчанюкоў па 500 $. Але ж ці не высакародней вырataваць жыццё дварняку? Часта здараецца, што беспароднае стварэнне любіць вас значна мацней, чым пародзістыя, дарагі сабака.

Узяць жывёлінку ў сваю сям'ю, а потым перадумаць, найграцца, выкінуць... Гэта не па-чалавечы! Ніколі не рабіце так! Калі ласка...

*Вераніка ГАМЗЮКОВА, 16 гадоў, Гомель*

**● Дынамік**

# «Мумий Тролль» заспяваў па-беларуску

***«Будзьма! Тузін. Перазагрузка'2», Мн., 2012, ЗБС «Бацькаўшчына».***

Пра кампакт-дыск пад назвай «Перазагрузка'2» пагалоска на розных музычных імпрэзах распачалася задоўга перад ягоным выхадам у свет. Прычына зразумелая: хіба ж не цікава паслухаць спевы на роднай мове ад раскручаных зорак зарубежнага наваколля? Напрыклад, малдаўскі ZdobşiZdub ці расійскі «Мумий Тролль», украінскія Vоплі Vідоплясова ці нямецкі LeonGurvitchProject... Ёсць тут Алена Свірыдава і «Смысловые галлюцинации», лаўрэат «Еўрабачання» ад Нарвегіі Аляксандр Рыбак і былы вакаліст RoubleZone неабельгіец Алег Мінакоў. Ну хто ж іх не ведае ў нас?

Некалі ўсе мы чулі віртуозную музыку і бездакорнае беларускае вымаўленне ў спевах сучасных украінскіх рок-зорак «Тінь Сонця» і DeShifer ды нават класічнага ВІА «Кобза», расійскіх гуртоў Athruta і «Навий Сонм», але ж спісвалі ўдачу на банальнае падабенства славянскіх моў. А вось жа тут Vоплі Vідоплясова пераканалі, што не такія ўжо яны і падобныя, нашыя мовы, бо VV могуць канкурыраваць хіба з расійскім гуртом «Мумий Тролль» у сэнсе поўнай няздольнасці адчуць саму музыку нашай мовы (песні «Краіна мрой» і «Кантрабанды» з дыкцыяй кшталту «Чюў я — ці мне сьніця парой дзывосны гай чяроўнасцы», «прыняць унутр будзэ нэшта»). І я тут не навешваю ніякіх клішэ. Вось хіт расіянкі Алены Свірыдавай апынуўся не проста бездакорным узорам чужамоўнага выканання, але і самым узорным хітом праграмы: столькі ў ім сэнсавых і эмацыйных трамплінаў ды скрыжаванняў, столькі душэўнай цеплыні і свежасці:

Вось і ўсё, маё золатка, нам з табой было соладка,
Як гарэла да золку нам белай ночы святло.
Не вярнуць, што не вернецца, ты не Бог, я не верніца.
І цяпер цяжка верыцца, што каханне было.

Відаць, гады, пражытыя ў Беларусі карэннай керчанкай Свірыдавай, таксама пакінулі свой след. Нярэдка даводзіцца чуць горшае вымаўленне нават у гультаяватых аўтахтонаў, таму асабіста я тлумачу паспяховы хіт проста прыродным талентам Алены Свірыдавай, які раней захіляў папсовы імідж артысткі. Дзеля справядлівасці мушу засведчыць, што і Vоплі Vідоплясова здолелі здзівіць беларускім гукам прынамсі ўкраінцаў, якія адчуваюць, што спеў нядродны, і думаюць: вось гэтак і гучыць беларуская мова. Як і мы думаем, напрыклад, што шведскі Roxette надта ж радуе англічан, хоць тэкставік Пер Гэсле выказваў радасць у інтэрв'ю, што ягонае веданне english ацэньваюць пераважна не англічане.






Але ж шведы бываюць розныя. І ў праекце «Будзьма! Тузін. Перазагрузка’2» акурат шведскае sinthy-pop-трыа Dreamgale адмовілася ад паслуг такіх перакладчыкаў, як Андрэй Хадановіч, Сяргей Балахонаў, Уладзя Лянкевіч і нават Алесь Камоцкі ды Глеб Лабадзенка, стварыўшы паўнавартасны беларускі хіт «Апошняе сонца» цалкам самастойна. Як ім гэта ўдалося? Проста кампаньёнамі спявачкі Сафі Матсан сталі выхадцы з Беларусі Зміцер Палагін і Майк Сэндэр.

А вось гурт «#####» 100 % выхадцы з Беларусі (з Віцебску, яны ўдзельнічалі ў Супрановіцкім праекце «Hardcoreманія: чаду!» з уласнай беларускай песняй «Вочы адкрый», 2002). Але ў гэтым праекце без перакладчыка не абышліся (ну масквічы ж ужо), каб трансфармаваць сваю песню «Дождж». І з дыкцыяй, дарэчы, спевакі не расчаравалі! Праўда, слухач наўрад ці кантралюе дыкцыю, калі яму проста хочацца ўражанняў ды жывых эмоцый. Віртуозную лінгвістычную эквілібрыстыку на беларускай мове прадэманстраваў зорка расійскага r’n’b Макс Лорэнс («Зрывае дах», які ў рускай версіі скарыў радыёэфір нашых паўднёвых і ўсходніх суседзяў). Гомельскае дзяцінства Макса таксама пайшло на карысць, бо слухаецца арганічна.

Настальгічная чысціня беларускіх спеваў расійскай фотамадэлі Марыі Тарасевіч таксама выдае подых кінутай радзімы і талент ці не спадчынніцы музычнага генія Яна Тарасевіча, а вось калі беларускімі каранямі хваляцца зоркі галівудска-grammyеўскай тусоўкі (LeonGurvitchProject) або карэнныя заўральцы («Смысловые галлюцинации»), гэта асобая прыемнасць для шчырых патрыётаў. А звычайныя меламаны (беларускія, небеларускія, недабеларускія) проста ловяць кайф ад шматаблічнасці стыляў: поп-джаз Алега Jagger Мінакова, жывая цыганшчына ZdobşiZdub...

Калі банальнаму спажыўцу будзе мала 12 песень для калекцыйнай складанкі, мушу асобна засведчыць, што гэта паўнавартасная музычная праграма амаль на гадзіну (49’51”). Але вось сапраўды слушная заўвага слухачоў: «Не зразумела, пра што гэты альбом». Аднак наўрад ці складальнікамі ставілася пэўная канцэптуальная задача, калі проста ёсць патрэба ў — хай сабе і бязсэнсавай — музыцы для адпачынку. Гэта ўдалося амаль ідэальна. Тым больш, як і ў кожным альбоме, некалькі твораў надоўга трапяць у душу. Мяне, напрыклад, «Небасхіл Еўропы» Рыбака ўразіў беларускімі матывамі яшчэ ў англійскай версіі на «Еўрабачанні», а тут на роднай мове — тым больш. Дадам сюды Алену Свірыдаву і, бадай, Макса Лорэнса, хоць аматараў джаза ўразіць і LeonGurvitchProject з цудоўным жаночым вакалам.

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА, музычны крытык.***
***На здымку:*** удзельнікі праекта «Прэм’ер-тузін» і «Тузін-Перазагрузка» на сцэне сталічнага клуба «Loft».

# Шукаючы — знойдзеш![*]

## *Аповесць*

— Нічога не зробіш, Косця, — нібыта прачытаўшы ў чарговы раз яго думкі, прамовіў ксёндз. — Невядома, калі з'явіцца твой дуб.

Косця ўпарта маўчаў.

Аказалася, што ў сваім часе ён вучыўся ў больш новым будынку школы, пабудаваным у канцы саракавых. Цяпер жа яны стаялі перад доўгай, пачарнелай ад часу аднапавярховай хатай, з мноствам труб на даху. Над уваходам у будынак вісела сціплая шыльдачка «Школа». Яна стаяла трохі ўбаку ад таго месца, дзе ўзвялі новы будынак. І ўвогуле вёска Куль, яго родная вёска, выглядала нават у шэрую раніцу з размытай дарогі і снегам больш ветліва і жыва, чым напрыканцы XX стагоддзя.

Каля ўваходу стаяў нізенькі тоўсценькі мужчына ў паліто і званіў у званок, а заадно крычаў на дзяцей, якія са смехам забягалі ў шырокія, ветліва расчыненыя дзверы.

— Хутчэй, хутчэй, гарэзы, — падахвочваў ён, усміхаючыся.

— Дырэктар, — ціха сказаў Косціку святар, калі яны падыходзілі да дзвярэй.

— Ксёндз Павел! Мая пашана! Якімі шляхамі-дарогамі да нашай школы?

— Піцірым Уладзіслававіч, добрай раніцы! Зазірнуў да вас па вельмі важнай справе, — пачаў ксёндз Павел, працягваючы дырэктару правую руку.

Дырэктар адказаў поціскам, а потым сказаў:

— Што ж, праходзьце.

Ён першым прашмыгнуў у дзверы і хутка пакрочыў па калідоры. Ксёндз і хлопчык рушылі за ім. Пакуль ішлі, Косцік паспеў разгледзець архітэктуру школы. Доўгі калідор, па чатыры дзверы на кожным баку. У самым пачатку, як толькі ўваходзіш у школу, невялікі паварот направа, а там яшчэ дзверы, на якіх напісана «Настаўніцкая». На сценах вісяць газавыя лямпы. Электрычнасць сюды яшчэ не дайшла.

— Праходзьце, — тым часам запрасіў дырэктар.

Ён першым увайшоў у кабінет, зняў паліто і хутка сеў за стол, паказаўшы гасцям на два крэслы насупраць. — Я вас слухаю.

— Да Сквароўскіх прыехаў іх далёкі сваяк, які быў вымушаны пакінуць свае родныя мясціны. Пасяліўся ён у мяне. Раней хлопец вучыўся ў школе і хацеў бы працягнуць навучанне ў вашай. — Прамовіўшы ўсё гэта, ксёндз прымоўк і злучыў кончыкі пальцаў абедзвюх рук, быццам трымаў паміж далонямі шарык.

Дырэктар задумаўся. Гэта бачылася па ягоным твары. Бровы сышліся ў адну лінію, а пальцы правай рукі пачалі нервова грукаць па стале.

---

[*] Працяг. Пачатак у № 2, 3, 4, 5 за 2013 г.

— Чаму ж Сквароўскія самі не прыйшлі?

— Хлопчык жыве ў мяне, і я ўзяў на сябе абавязак сачыць за яго выхаваннем.

Косцік здзівіўся, калі ксёндз загаварыў другі раз. Тон яго голасу быў ледзяны. За два дні зносін ён яго яшчэ такім не бачыў.

— Што ж, якога ён года нараджэння?

— Тысяча дзевяцьсот шаснаццатага, — не раздымаючы кончыкаў пальцаў і ўпарта не адводзячы позірк ад дырэктара, адказаў святар.

Косцік выдаў незразумелы гук: ці то чыхнуў, ці падавіўся ад пачутага. Пасля гэтага ён прыкрыў рот рукой і сказаў:

— Прабачце.

Справа ў тым, што хлопчык ледзь не выдаў, што ён тысяча дзевяцьсот восемдзесят чацвёртага года нараджэння. Святар своечасова яго апярэдзіў.

— А якія ў яго ёсць дакументы? — Запытаў дырэктар.

— Ніякіх, — усміхнуўшыся, адказаў ксёндз Павел. — Яму дванаццаць гадоў. — У якім ты раней класе вучыўся, Косця?

— Яшчэ нядаўна, у верасні, у шостым. — Шчыра адказаў хлопчык.

— Добра, — прамовіў дырэктар і кіўнуў. — Ён прыняты ў шосты клас. У яго ёсць якія-небудзь прыналежнасці?

— Не, але ўсё, што трэба, мы набудзем.

— Пер'і, чарніліцу, пяць сшыткаў, аловак. А падручнікі я выдам.

— Вялікі дзякуй, — устаючы, адказаў ксёндз і працягнуў руку дырэктару.

Піцірым Уладзіслававіч таксама падняўся, адказаў на поціск рукі, а потым звярнуўся да Косціка, які таксама ўскочыў з крэсла:

— Чакаю вас заўтра, малады чалавек. Не спазняйцеся, калі ласка.

На вуліцы ксяндза і хлопчыка чакала хмурная раніца лістапада. Пад нагамі раставаў снег, лужыны зноў размоклі, і дарога ўяўляла сабой суцэльную кашу з зямлі. Да брамы ішлі моўчкі, калі ж выйшлі, ксёндз сказаў:

— Гэта вялікая ўдача, што ён пагадзіўся ўзяць цябе ў школу. Бо няма дакументаў. Нічога, нават пасведчання пра нараджэнне.

— Дзякуй.

«Дзякуй» было не зусім шчырым, бо Косцік не хацеў ісці ў гэтую школу. Але ён нічога не сказаў пра тое святару. Хлопчык здзівіўся, што, пакінуўшы школу, яны адправіліся не ў сваю вёску, а наадварот, углыб вёскі Куль. Там, аказваецца, знаходзілася крама, у якой можна набыць усё неабходнае. Месцілася яна таксама не на тым месцы, дзе ў дзевяностыя, а крыху правей. Крама ўяўляла сабой звычайны драўляны дом, толькі ў адрозненне ад школы пафарбавана бледна-блакітнай фарбай і ўсяго з адной трубой на даху. Па дарозе некалькі чалавек павіталіся з ксяндзом і з цікавасцю зірнулі на Косціка, які стараўся не заўважаць іх поглядаў і ўпарта глядзеў пад ногі — на размоклую зямлю.

Крама аказалася зачыненай, бо працавала толькі з дзесяці гадзін, а было яшчэ каля дзевяці. Марозіцца гадзіну на вуліцы не хацелася, таму ксёндз прапанаваў Косціку схадзіць у вёску, а потым вярнуцца ў Куль і зрабіць неабходныя пакупкі.

*Ганна СТАРЫКОВІЧ*
*Працяг у наступным нумары*



Часопіс «МАЛАДОСЦЬ»
лепш за ўсё набываць
праз падпіску —
гэта не толькі беражэ час,
але і эканоміць грошы.
Пасрэдніцтвам «Белпошты»
або пры дапамозе паслугі
«да запатрабавання»
ў крамах «Белсаюздрук»
можна падпісацца
нават на адзін нумар часопіса,
прычым, якой заўгодна колькасці
экзэмпляраў.

*Яшчэ сустрэнемся?!*



***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 36 000 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 15 900 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 45 600 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 11200 руб.***

Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп’ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 07.06.2013. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 14,87. Тыраж 2388 экз. Заказ 1806. Кошт нумара ў розніцу 13 800 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru** **http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**